# Колькі словаў замест уступу

Стваральнікі-бацькі «Нашай Нівы» пачыналі справу выданьня першае легальнае беларускае газэты ў неймаверна цяжкіх варунках. Тым ня менш, яны добра ўсьведамлялі, што без суаднясеньня адроджанага друкаванага беларускага слова з досьведам іншых культураў усе высілкі пойдуць намарна. Таму друкаваньне перакладаў на старонках наагул невялікага сваімі памерамі тыднёвіка паступова зрабілася добрай традыцыяй, дзякуючы якой яго чытачамі рабіліся шляхецкія й разначынныя інтэлектуалы. Вядома, з аб'ектыўных прычынаў перавага аддавалася публікацыі перакладаў з суседзкіх – польскай, украінскай, расейскай – літаратураў. Але мейсца знаходзілася й нават беларускім інтэрпрэтацыям твораў, што за старадаўніх часоў узьніклі ў Індыі альбо Кітаі.

Для цяперашняй НН геаграфічных ці моўных абмежаваньняў, можна сказаць, няма. Ёсьць толькі неабходнасьць улічваць густы й цягу ад самавыяўленьня сучасных перакладчыкаў, якія будуюць сваё «Каралеўства Беларусь» на трывалым падмурку сусьветнае традыцыі.

Дай Божа толькі маладзейшым ня збочыць з гэтага шляху. Бо перакладніцкі занятак вымагае ня толькі прыроднага таленту, але й надзвычайнай працавітасьці й самадысцыплінаванасьці, разуменьня, што мастацкі пераклад – гэта адно «пацалунак праз шыбу».

*Лявон Баршчэўскі*

*Эдгар Алан По*

# Авальны партрэт

Замак, у які мой слуга наважыўся праламіцца гвалтам, каб не дазволіць мне ў маім безнадзейна немачным стане прабавіць ноч пад голым небам, уяўляў сабою адну з тых напышлівых і панурых каменных крушняў, што здавён змрочна высіліся сярод апэнінскіх схілаў, нібы спароджаныя фантазіямі сп-ні Рэдкліф. Па ўсім было відаць, што ягоныя насельнікі часова і зусім нядаўна яго пакінулі. Мы разьмясьціліся ў адным з найменшых і найсьціплей абстаўленых пакояў, які ляжаў у невялічкай вежы наўскрай будынку. Ён быў багата аздоблены габэленамі і завешаны шматлікімі і разнастайнымі геральдычнымі шчытамі, разам зь незвычайна высокай колькасьцю вельмі жывых сучасных карцінаў у рамах з залачонымі арабэскамі. Гэтыя карціны, якія віселі ня толькі на самых сьценах, але ў шматлікіх угінах і сховах, якія непазьбежна ўтвараліся дзівоснаю архітэктураю замка, неяк дзіўна мяне зацікавілі, мабыць таму,

---

**Эдгар Алан По (1809–1849)**

амэрыканскі пісьменьнік, паэт, літаратурны крытык. У НН таксама друкаваліся пераклады навэляў «Маска чырвонае сьмерці» (пер. СС), «Сэрца падказвае» (пер. Юрася Бушлякова), вершы «Улялюм» і «Анабэль Лі» у перакладзе АМ.

што я ўжо пачынаў трызьніць; і я папрасіў Пэдро зачыніць цяжкія аканіцы — бо за вокнамі ўжо стаяла ноч, — запаліць сьвечкі ў высокім кандэлябры, што стаяў у галовах майго ложку, і адхінуць заслоны з чорнага аксаміту, якія закрывалі сам ложак. Усё гэта я загадаў зрабіць дзеля таго, каб аддацца калі ня сну, дык прынамсі папераменнаму сузіраньню гэтых карцінаў і гартаньню невялікай кнігі, якую я знайшоў каля падушкі і якая зьмяшчала іхны агляд і апісаньне.

Я доўга-доўга чытаў і пільна-пільна ўглядаўся. Гадзіны праляталі хутка і ўрачыста, пакуль не настала глыбокая поўнач. Мне не спадабалася, як стаіць кандэлябар, і, зь цяжкасьцю працягнуўшы руку, каб толькі не будзіць прыснулага слугу, я пераставіў яго так, каб полымя паўней асьвятляла кнігу.

Аднак гэтае дзеяньне мела зусім неспадзяваны вынік. Промні ад сьвечак (а іх было некалькі) цяпер асьвятлялі нішу, якая дагэтуль патанала ў глыбокай цемры каля адной з апораў ложку. І я пабачыў у зыркім сьвятле незаўважную дагэтуль карціну. Гэта быў партрэт дзяўчыны, у якой толькі пачала высьпяваць жаноцкасьць. Я пасьпешліва зірнуў на карціну і заплюшчыў вочы. Чаму я гэтак зрабіў — мне й самому адразу было незразумела. Але пакуль павекі заставаліся апушчаныя, я ў думках пашукаў прычыну — чаму я заплюшчыў вочы. Гэта быў міжвольны рух, каб заашчадзіць хвілінку на роздум — каб упэўніцца, што мой зрок мяне не падмануў — каб супакоіцца і падпарадкаваць уяўленьне цьвярозаму і пэўнаму роздуму. Праз некалькі імгненьняў я зноў пільна ўзіраўся ў карціну.



Што мне не прымроілася — у тым не было аніякага сумневу; бо першы водбліск полымя на палатне, як здалося, разьвеяў мройнае здранцьвеньне, якое апанавала мае пачуцьці, і ўмомант абудзіў мяне да жыцьця.

Гэта быў, як я ўжо казаў, партрэт дзяўчыны. Звычайны партрэт, калі ўжыць тэхнічны тэрмін, у манеры віньеткі; вельмі падобны стылем да партрэтаў Сюлі. Рукі, грудзі і нават кончыкі прамяністых валасоў незаўважна зьліваліся зь няясным і глыбокім ценем, які ўтвараў тло карціны. Рама была авальная, пакрытая багатым залачэньнем і маўрытанскімі філігранямі. Як твор мастацтва сама карціна была дасканалая. Аднак наўрад ці самое выкананьне ці несьмяротная прыгажосьць твару маглі так раптоўна і моцна мяне ўразіць. І ўжо зусім не магло быць, каб маё ўяўленьне, абуджанае ад паўсну, магло зблытаць партрэт з жывым абліччам. Я адразу пабачыў, што асаблівасьці ўзору, стылю і рамы мусілі б адразу разьвеяць гэткую думку — мусілі б ня даць ёй узьнікнуць нават на імгненьне. Паважна думаючы над гэтымі пытаньнямі, я нейкую гадзіну сядзеў у ложку, ня зводзячы вачэй з партрэта. Нарэшце, задаволены сапраўднай таямніцай ягонага ўзьдзеяньня, я зноў лёг. Чары карціны, на маю думку, палягалі ў абсалютнай жыцьцепадобнасьці выразу твару, які спачатку зьдзівіў, а пасьля зьбянтэжыў, скарыў і спалохаў мяне. З глыбокім і багавейным страхам я паставіў кандэлябар на старое месца. Калі прычына майго глыбокага хваляваньня схавалася ад вачэй, я пачаў прагна гартаць кнігу, дзе апісваліся карціны ды іхныя гісторыі. Знайшоўшы нумар, якім быў пазначаны авальны партрэт, я прачытаў так гэткія няясныя й дзівосныя словы:

«Яна была панна незраўнанае прыгажосьці, і весялосьць яе не саступала ейнай красе. І ў ліхую гадзіну пабачыла яна, пакахала і ўзяла шлюбам мастака. Ён быў апантаны, заўзяты, няшчадны і ўжо меў за нявесту саваё Мастацтва; яна ж была панна незраўнанае прыгажосьці, і весялосьць яе не саступала ейнае красе; яна зьзяла і ўсьміхалася і скакала, як маладая лань; любіла й песьціла ўсё, што бачыла навокал; ненавідзела толькі мастацтва — сваю злую суперніцу; баялася толькі палеты і пэндзляў ды іншых нясьцерпных снадзіваў, якія забіралі ў яе каханага. Таму страшна было пачуць гэтай паньне, што мастак жадае намаляваць партрэт сваёй нявесты. Аднак яна была пакорлівая й паслухмяная і аддана сядзела доўгімі тыднямі ў цьмяным пакоі ў вежы, дзе на бледнае палатно аднекуль высока згары падала рэдкае сьвятло. Аднак ён, мастак, упіваўся славаю ад свае працы, якая цягнулася гадзінамі, дзень пры дні. Гэта быў апантаны, дзікі й наравісты чалавек, які згубіўся ў сваіх мроях; так што ён і не заўважыў, як прывіднае сьвятло ў самотнай вежы пачало губіць здароўе і сілу ягонай нявесты, чыё павольнае зьвяданьне заўважалі ўсе, апрача яго. Але яна й надалей усьміхалася і не наракала, бо бачыла, што мастак (які меў немалую славу) адчуваў ад сваёй працы пякучую асалоду, ён працаваў дзень і ноч, каб намаляваць тую, што так яго кахала і што няможала й слабла з кожным днём. І сапраўды, усе, хто глядзеў на партрэт, шэптам гаварылі пра падабенства як пра вялікі цуд, як пра доказ ня толькі вялікага майстэрства мастака, але й яго бязьмежнага каханьня да той, каго ён так незраўнана апісаў на карціне. Аднак урэшце, калі праца ўжо набліжалася да завяршэньня, у вежу перасталі пускаць староньніх людзей; мастак зусім зьдзічэў у запале сваёй працы і рэдка зводзіў вочы ад палатна, нават каб паглядзець на жончын твар. Таму ён і не заўважаў, што адценьні, якія ён наносіў на палатно, браліся з шчокаў той, што сядзела побач зь ім. І калі мінула яшчэ некалькі тydняў і засталося зрабіць зусім мала, правесьці пэндзлем па вуснах і дадаць адценьня вачам, душа панны ўскалыхнулася, як полымя лямпы перад згасаньнем. І тады фарба легла на вусны і адценьне далося вачам; і мастак на хвіліну застыў, зачараваны сваім творам; аднак празь імгненьне, яшчэ не адвёўшы вачэй ад партрэта, ён задрыжаў і сьмяротна зьбялеў, і ў жаху закрычаўшы немым голасам: «Дык гэта ж самое жыцьцё!», павярнуўся да сваёй каханай: — Яна была нежывая!»

*Пераклад з ангельскай Сяргея Шупы*
*надрукаваны ў НН № 25 ў 1999 годзе*

*О.Генры*

# Калядны падарунак з дубнячку

Завязка гэтай гісторыі гадавалася дваццаць гадоў.

І, у рэшце рэшт, была гэтага вартая.

Каб ты жыў міляў за пяцьдзясят ад Заходняга Ранча, ты б чуў пра яе. У яе быў вадаспад чорных, як смоль, валасоў, пара дужа шчырых вачэй глыбокага карычневага колеру ды сьмех, што зьвінеў між прэрыяў, бы таемная ручаінка. Яе клікалі Разытай Макмалэн, і яна была дачкой старога Макмалэна з Заходняга Авечага Ранча.

Два залётнікі прыяжджалі туды на рудых дарашаватых конях, дакладней, на прыбраных ды пакусаных блыхамі каняках. Аднаго клікалі Мэдысан Лэйн, другога — Малы Фрыё, але тады яго так ня звалі, бо ён яшчэ не зарабіў быў славы пэўнага гатунку. Яго проста клікалі Джонам Макроем.

Ня варта лічыць, што колькасьць годных прыхільнікаў Разыты абмяжоўвалася гэтымі двума. З тузін канякаў грызьлі цуглі ля даўгое канавязі Заходняга Ранча. Авечкі, што не належалі да чарады Дэна Макмэлана, пасьвіліся ў гэтых сава-

---

**О.Генры**

Портэр Вільямс Сыдні (1862-1910) — амэрыканскі пісьменьнік. Аўтар апавяданьняў, раману ў навэлях «Каралі і капуста».



нах. На Разыту заглядаліся аўчары ды каўбоі. Але з усіх залётнікаў найболып прасунуліся Мэдысан Лэйн ды Джоні Макрой, вось чаму варта ўпісаць іх у гісторыю.

Мэдысан Лэйн, малады фэрмэр з-пад Нуэча, выйграў спаборніцтва. Ён і Разыта пабраліся на Каляды. Узброеныя, гарлапаністыя, літасьцівыя каўбоі ды аўчары забыліся на ўсе даўнія крыўды і аб'ядналі намаганьні, каб адзначыць падзею.

Заходняе Ранча скалаланалася ад рогату ды грукату стрэльбаў, бляску спражак ды вачэй, гучных каўбойскіх здравіцаў.

У самы разгар вясельля завітаў Джон Макрой, апантаны рэўнасьцю.

— Я прынёс каляднага падарунка! — загарлаў ён, раптоўна зьявіўшыся на парозе з кольтам сарак пятага калібру ў руцэ. Ужо тады Макрой меў рэпутацыю трапнага стралка.

Першая куля сьвіснула ля правага вуха Мэдысана Лэйна. Руля стрэльбы пасунулася на цалю, і куля пацэліла б у нявесту, каб не аўчар Карсан, у якога спуск у мазгах часам змазваўся ды рамантаваўся. Стрэльбы вясельнікаў боўталіся на цьвіках уздоўж сьцяны, як адзнака гжэчнасьці. Але Карсан зь вялікім спрытам схапіў сваю талерку зь мясам ды шпурнуў у Макроя. І сапсаваў стрэл: другая куля зрэзала белыя пялёсткі кветкі на два футы вышэй галавы Разыты.

Госьці абярнулі сталы і кінуліся да стрэльбаў. Забіваць жаніха й нявесту на вясельлі ўсё ж лічылася праявай кепскага тону. Праз шэсьць сэкундаў дваццаць куляў былі гатовыя вылецець у бок містэра Макроя. — Наступнага разу я стрэлю лепш! — крыкнуў Джоні. — А наступны раз настане! — і выскачыў з хаты.

Аўчар Карсан ірваўся працягнуць пачаты шпурляньнем талеркі подзьвіг. Куля Макроя зь цемры струпяніла яго.

Каўбоі кінуліся сьледам, гатовыя помсьціць. Забойствы аўчароў не заўжды папускаліся. Дый Карсан быў невінаваты. Ён ня браў удзелу ў падрыхтоўцы шлюбу і ніхто з прысутных ня чуў, каб ён гарлаў: «Калядны час у годзе раз».

Але адпомсьціць не ўдалося. Макрой скочыў на каня і з лаянкай зьнік у дубнячку.

Тае начы нарадзіўся Малы Фрыё. Ён стаў «кепскім хлопцам» гэтай часткі штату. Гарбуз ад місіс Макмалэн зрабіў яго небясьпечным чалавекам. Калі салдаты перасьледавалі Джоні за Карсана, ён забіў двух зь іх ды распачаў жыцьцё па-за законам. Малы Фрыё цудоўна страляў абедзьвюма рукамі. Зьяўляўся ў гарадах ды паселішчах, пачынаў сварку праз любую драбніцу, адстрэльваў свайго чалавека ды сьмяяўся з шэрыфаў. Ён быў такі халодны, такі жорсткі, такі шпаркі, такі не па-людзку крыважэрны, што лавілі яго вельмі млява. Калі яго ў рэшце рэшт застрэлiў ледзь жывы ад страху аднарукі бедачына Мэксыканец, на сумленьні Малога Фрыё было васямнаццаць жыцьцяў. Палову ён забіў падчас сумленных двубояў, дзе вынік залежаў ад хуткасьці.

Другую палову — жорстка й без нагоды.

Шмат казак баяць пра ягоную нахабную мужнасьць ды адвагу. Ён ня быў адным з тых дэспэрада, на якіх абрынаюцца пэрыяды велікадушнасьці й нават мяккасьці. Кажуць, ён ня ведаў літасьці да ахвяраў свайго шалу. Але часам на Каляды добра даравацъ адзін аднаму, калі магчыма, дзеля тае кропелькі дабрыні, што засталася. Калі Малы Фрыё і зьдзейсьніў добры ўчынак, калі яго сэрца і страпянулася ад спагады, дык адбылося гэта якраз на Каляды.

Той, хто спазнаў каханьне, ніколі не павінен дыхаць водарам квецені ратамы, бо яна абуджае памяць да небясьпечнае мяжы.

Аднаго сьнежаньскага дня — а зіма была цёплая, як веснавая пара, — Малы Фрыё із спадарожнікам і хаўрусьнікам Мэксыканцам Фрэнкам ехалі між квецені ратамы. Малы кіраваў сваім мустангам, наструнішыся ў сядле, задуменны й змрочны, вочы яго драпежна прымружваліся. Насычаны, салодкі пах дапяў кудысьці пад ягоныя лёд ды сталь.

— Дзе была мая галава, Мэкс, — сказаў ён, расьцягваючы словы, сваім звычайным мяккім голасам.

— Я ж зусім забыўся на свой калядны падарунак. Наступнае начы прыеду й застрэлю Мэдысана Лэйна ў яго на ранча. Ён зьвёў маю дзяўчыну. Разыта пабралася б са мной, каб Мэд ня ўткнуўся. Дзіўна, што я да гэтай пары ня згадваў пра сваё абяцаньне.

— Не кажы абы-чаго, Малы, — адгукнуўся Мэксыканец. — Ты сам ведаеш, што не падступішся й на мілю да ягонае хаты ў калядную ноч. Я заўчора бачыў Алэндэя, дык ён кажа, Мэд будзе пільнаваць ранча. Памятаеш, як ты пастраляў вясельнікаў, як пагражаў? Мяркуеш, Лэйн не цікуе пэўнага містэра М.? Задурыў ты мне галаву сваімі гутаркамі, Малы.

— Я зьбіраюся, — спакойна паўтарыў Малы Фрыё, — адведаць на Каляды Мэдысана Лэйна, і варта было гэта даўно зрабіць. Мэкс, уяві, толькі за два тыдні да тае страляніны на вясельлі я ма-

рыў, што Разыта пабярэцца са мной, а ня зь ім, і што мы зь ёй будзем жыць разам, і яна будзе мне ўсьміхацца, і... Мэд зьвёў яе, а я зьвяду са сьвету яго — і менавіта на Каляды, так, спадарства.

— Ёсьць безьліч іншых спосабаў накласьці на сябе рукі, — адзначыў Мэксыканец. — Чаму б табе, напрыклад, ня здацца шэрыфу?

— Я зьвяду Мэда са сьвету, — паўтарыў Малы.

Каляды мелі водар красавіка. Магчыма, паветра й было крыху марозным, але яно шчыкалася як газаваная вада, трохі араматызаваная позьнімі кветкамі ды травамі прэрыі.

Надыходзіў сьвяты вечар. Ранча Лэйнаў сьвяцілася ўсімі вокнамі — чакалі з тузін гасьцей з суседніх ранча. У адным з пакояў стаяла ялінка, бо ў Мэда і Разыты быў трохгадовы сын.

Як сьцямнела, Мэдысан Лэйн адвёў убок Джыма Бэлчэра й яшчэ трох каўбояў, што працавалі ў яго на ранча.

— Пільнуйце, хлопцы, — сказаў Лэйн. — Хадзіце вакол хаты ды сачыце за дарогай. Калі зьявіцца «Малы Фрыё», без пытаньняў адразу страляйце ў яго. Я яго не баюся, а вось Разыта калоціцца кожныя Каляды ад самага нашага вясельля.

Госьці зьяўляліся ў вазках, запрэжаных аленямі, ды на конях і прыемна бавілі час у хаце.

Усё ішло цудоўна. Госьці частаваліся ды хвалілі выдатную вячэру, згатаваную Разытай, потым мужчыны разьбіліся ў купкі па пакоях, на шырокай «галерэі», палілі ды гутарылі.

Елка, натуральна, вабіла самых маленькіх. Але найболыи яны ўзрадаваліся, калі зьявіўся сам Сьвяты Мікалай з цудоўнай белай барадой і ў футры ды пачаў раздаваць цацкі.



— Гэта мой тата, — абвясьціў шасьцігадовы Білі Сэмпсан. — Я яго такога раней бачыў.

Аўчар Бэрклі, стары Мэдаў сябра, паліў на галерэі, калі паўзь яе ішла Разыта.

— Міс Лэйн, спадзяюся, сёлета вы ўжо не баіцёся Малога Фрыё? — запытаў ён. — Ведаеце, мы з Мэдысанам гутарылі пра гэта.

— Амаль, — усьміхнулася Разыта. — Але часам я ўсё яшчэ нэрвуюся. Ніколі не забудуся на той жудасны дзень, калі Джоні ледзьве не пастраляў нас.

— Гэта самы крыважэрны бандыт у сьвеце, — пацьвердзіў Бэрклі.

— Гараджане павінны згуртавацца ды забіць яго, як ваўка.

— Яго злачынствы жахлівыя, — пагадзілася Разыта, — але... я... ня ведаю. Мне здаецца, у кожным ёсьць крыху дабрыні. Ён не заўжды быў кепскім — гэта я ведаю.

Яна пайшла далей калідорам між пакоямі. Насустрач трапіўся Сьвяты Мікалай з кашлатымі вусамі ды ў футры.

— Я якраз вымаў з кішэні калядны падарунак для містэра Мэдысана, калі пачуў праз вакно вашыя словы, міс Лэйн, — вымавіў ён. — І я пакінуў падарунак вам. Ён у пакоі справа.

— Дзякуй, добры Сьвяты Мікалай, — радасна адгукнулася Разыта.

Яна скіравалася ў пакой, а Сьвяты Мікалай ступіў у халаднаватае паветра двара.

У пакоі не было нікога, апрача Мэдысана.

— А дзе падарунак, які мне абяцаў Сьвяты Мікалай? — запытала яна.

— Ня бачыў я ніякага падарунка, — засьмяяўся муж. — Хіба што ён мяне меў на ўвазе.

Наступнага дня Гебрыэл Рад, найстарэйшы працаўнік з ранча, заскочыў на пошту ў Ломе.

— Нарэшце Малы Фрыё атрымаў сваю порцыю сьвінцу! — абвясьціў ён паштару.

— Праўда? Як гэта сталася?

— Стары пастух Санча Мэксыканца зрабіў гэта! Ты глядзі! Малога Фрыё забіў пастух! А дванаццатай ночы Грызэр заўважыў, як хтосьці едзе паўз яго ранча, і так зьлякаўся, што хапіў вінчэстэра ды стрэліў. Самае сьмешнае, што Малы быў апрануты як Сьвяты Мікалай — ну, там, белыя накладныя вусы ды ўсё астатняе. Уяўляеш Малога Фрыё ў ролі Сьвятога Мікалая?

*Пераклад з ангельскай Болачкі*
*надрукаваны ў НН № 48 у 2004 годзе*



*Яраслаў Гашак*

# Дваццаць гадоў таму

## 1

Як раз дваццаць гадоў таму прафэсар Момзан у «Neue freie Presse» у панадным артыкуле «An Deutchen in Oesterreich»[1] заклікаў немцаў, каб яны разбівалі крэпкія чэскія чарапы. Аўстрыйскі парлямент быў сьведкам шынкарскіх скандалаў. Падпіты дэпутат Шёрнэрэр пачаў крычаць, і нехта абліў яго са шклянкі вадой. У пятніцу 26 лістапада наймягчэйшай лаянкай, якой карысталіся нямецкія дэпутаты пры абмеркаваньні пытаньня аб роўнасьці моваў, было слова «быдла». Каля прызыдуюму распалілася сапраўдная бойка. Прэзыдэнту Абрагамавічу ледзь не разьбілі галаву цяжкой мэталёвай чарніліцай, што палічылі ўдалым жарцікам. Паліцыя вывела з парляменту дванаццаць дэпутатаў.

Калі імпэратар Францішак Язэп вяртаўся ў палац ад эрцгерцагіні Марыі Валерыі з Вальзэе па Марыягільфэрштрасэ, з публікі пачаўся сьвіст. Нямецкія газэты пісалі, што гэта сьвісьцелі чэскія рабочыя, і гэта было праўдай.

---

**Яраслаў Гашак (1883 – 1923)**

Чэскі пісьменнік, аўтар рамана «Прыгоды ўдалага ваякі Швэйка», апавяданняў, фельетонаў.

Імпэратар паклікаў да сябе барона Гаўчэ і сказаў яму, што граф Бадэні павінен падаць у адстаўку, бо ён славянін і спрыяе чэхам.

Так быў зьняты граф Бадэні. Немцы адразу наладзілі вялікія сьвяточныя шэсьці, папілі агнямёты і ўрэшце падпалілі дамы чэскіх хмельнікаў на Мастэцку і Духцаўску, чым паказалі свой надта высакародны характар.

На праскіх Пржыкопах гімназісты арганізавалі правакацыі, прайшоўшы калёнай ад Deutche Mensa Academica праз Вацлаўскі пляц са сьпевам «Wacht am Rhein»[2].

У Празе ўспыхнулі антынямецкія закалоты. Прага была імгненна ачышчана ад нямецкіх надпісаў.

1 сьнежня 1897 г. гарэла агароджа маёнтка немца Плешнэра ў Нусьлі, пачаліся сутычкі паміж народам, войскам і паліцыяй, паўсюль зрывалі арлоў і білі шыбы ў дзяржаўных установах.

2 сьнежня барон Гаўч абвясьціў у Празе надзвычайнае становішча, ахвярай якога стаў я. Гэта быў найпрыгажэйшы дзень у маім жыцці.

Мне было тады пятнаццаць гадоў...

**2**

Маладым гімназістам я вельмі імкнуўся да ведаў, што пазьней, на шчасьце, у мяне прайшло. У гімназіі на Жытняй вуліцы нас такіх якраз было двое: акрамя мяне з усяе гімназіі займаўся натуральнымі навукамі яшчэ прафэсар Гансгірг. Мы абодва захапіліся мінэраламі. Прафэсар Гансгірг быў адказны за мінэралягічную калекцыю нашай установы, я яму здабываў мінэралы, а ён на іх зь незвычайнай любоўю рабіў надрэзы.

31 лістапада ён паклікаў мяне ў свой кабінэт і сказаў:

«Я высьветліў, даражэнькі хлопча, што ў Вршовіцах на вуліцы Палацкага знаходзіцца новая крама «Прырода», якая належыць пану Гафнэру. Зайшоўшы да яго колькі дзён таму, я замовіў для нашага кабінэту калекцыю кварцаў, якую папярэдне аплаціў і ўзяў квітанцыю. Я табе даю гэтую квітанцыю і прашу, каб ты схадзіў да яго, узяў замоўленыя кварцы і даставіў іх мне. Зважай, бо на вуліцах беспарадкі.» Аб адзінаццатай гадзіне прыйшоў дырэктар і паведаміў, што вучні распускаюцца па хатах, а ў зьвязку з хуліганскімі дзеяньнямі пра аднаўленьне заняткаў будзе абвешчана ў газэтах.

І вось насталі дні, поўныя раскошы. Увечары 31 лістапада я біў шыбы ў Нямецкім тэатры і ў многіх іншых месцах. 1 сьнежня зноў пабіў шмат шыбаў і дапамагаў таксама падпальваць агароджу пана Плешнэра, за што ад яго яшчэ атрымаў пяцьсот кронаў, бо ён даў у газэту абвестку, што той, хто навядзе на сьлед злачынцы, атрымае гэтую прэмію. (Я, пане Плешнэр, насіў тудой пляшкі з газай, бо вашыя мокрыя дзьверы ўсё ніяк не падпальваліся.)

Гэта былі райскія часы. Пасьля Плешнэравай агароджы я далучыўся да натоўпу, які йшоў граміць паліцэйскі пастарунак у Нусьлі. Дагэтуль я чую, як нейкі пажылы пан у цыліндры кажа мне прыязна, падаючы цагліну: «Вазьмі, хлопчычак, ды шпурляні ў арольчыка».

У Нусьлі было, аднак, нудна, таму што не ўдалося нічога пабіць, бо там няма ніякіх немцаў.

---

[1] «Да немцаў у Аўстрыі» (ням.).

[2] «Варта на Рэйне» - нямецкі нацыяналістычны гімн.

Тады мы пасунуліся ў Міхлі, дзе немец займаў вялікі маёнтак; я спазьніўся на падпальваньне сьціртаў. Мяне апярэдзілі дарослыя, ад чаго мне крыўдна дагэтуль, але спадзяюся, што я некалі гэта ўсё ж нараўняю.

Потым уначы мы вярнуліся ў Прагу, і новы натоўп, да якога я зноў далучыўся, ня меў што рабіць. Мне не пашэнціла. Да біцьця ўжо не было нічога, усё, што хоць трохі мела агульнага зь дзяржаўнымі ўстановамі і немцамі, было разьбітае. Эрэнтальскі палац гасілі, і мы мусілі абмежавацца толькі перарэзваньнем пажарных шлангаў. Там я зламаў свой сьцізорык. У Сьмечках я ўзяў удзел у пагоні за адным гімназістам, які схаваўся ў краму, але пазьней яго лінчавалі. Але там была такая штурханіна, што я тудой не прабіўся, ад чаго мне дагэтуль крыўдна, але ўсё ж спадзяюся, што таксама й гэта я некалі нараўняю.

На Карлаўскім пляцы ў парку былі нацягнутыя драты, драгуны падалі з коней. Людзі спрытна шпурляліся каменьнем і, памятаю, што я патрапіў аднаму паручніку ў галаву, ён з каня ня ўпаў, але разьвярнуўся і паскакаў прэч.

Дадому я вярнуўся позна і сказаў, што паўтараў з аднаклясьнікам Балікам геамэтрыю і грэцкую, што на вуліцы была «зачыстка», так што я мусіў вярнуцца і пачакаць, пакуль усё сьцішыцца.

На наступны дзень, 2 сьнежня ў Празе было абвешчанне надзвычайнае становішча. Першую зьвестку пра гэта прынёс брамнік, толькі ён усё трохі паблытаў і сказаў, што ў Празе абвешчанае дзяржаўнае становішча. «Урэшце мы, АДНАК, нечага дамагліся», — казаў ён радасна. Наш брамнік быў непапраўны, чысты аптыміст.



Я успомніў, што маю й іншы абавязак па-за біцьцём шыбаў і шпурляньнем камянямі па драгунах, да чаго мяне, відавочна, давяла мая схільнасьць да мінэралёгіі.

Тады пасьля абеду я пайшоў у Вршовіцы да гандляра крамы «Прырода» пана Гафнэра, каб забраць купленую прафэсарам Гансгіргам калекцыю кварцаў і ў той жа час паглядзець, што робіцца на вуліцах, раптам давядзецца дзе-небудзь нейкаму немцу выбіць шыбу.

У гэтым сэнсе мне не пашэнціла. Абвешчанае брамнікам дзяржаўнае становішча аказалася паводле аб'яваў надзвычайным становішчам. Перад аб'явамі стаялі заўсёды дзьве асобы, таму што калі іх было тры, іх адразу разганяў паліцэйскі патруль, бо лацінскае прыслоўе кажа «Tres faciunt collegium[3]. У пана Гафнэра справіўся з заданьнем. Ён аддаў мне некалькі ўзораў кварцаў для школьнай мінэралягічнай калекцыі, якімі я напхаў поўныя кішэні і рушыў дадому.,

Ля Кліцпэравай муліцы на Вінаградах стаяў ланцуг семдзесят трэцяга палка, недалёка ад ланцуга, як выклік, сабралася малая купка людзей з Вршопіцаў.

Конная паліцэйская варта якраз праяжджала па пляцы Палацкага. З купкі вршоўцаў нехта ў гэты момант шпурлянуў камень у ланцуг жаўнераў. Клянуся, што гэта быў ня я.

Паліцыя наехала на нас, паўстаў вэрхал, і перш чым я зразумеў, што адбываецца, то апынуўся пасярод вуліцы сам, а навокал толькі конная паліцыя.

Да мяне падбег пешы паліцыянт і абмацаў мне кішэні. Перш чым я яму мог патлумачыць, што

[3] Трое - гэта хаўрус (лац).

справа тычыцца калекцыі мінэралаў, кола конных паліцыянтаў самкнулася вакол мяне. Дваццаць чатыры конныя паліцыянты вялі ў паліцэйскі пастарунак пятнаццацігадовага гімназіста.

Мая малая постаць гублялася сярод коннага эскорту. Я выглядаў, як кветка сярод крапівы.

Міма эскадрону бюракратычных руцінёраў і пасярод паліцэйскага эскадрону высакароднага выгляду юнак з цнатлівымі дзіцячымі вачыма, шчырым тварам і з кішэнямі паліто, абвіслымі ад усіх магчымых відаў мінэралаў.

Твары ўсіх дваццаці чатырох зьзялі ад задавальненьня.

На ходніку спыняліся людзі, глядзелі на прыгожую карцінку і нешта казалі. Чуў, як адзін немец, які ўжо набраўся сьмеласьці, прашыпеў: «Aufhängen!»[4], і як адна пані жаласна кінула другой: «Гэты ўжо ня убачыць Божага сьвятла, бо ж надзвычайнае становішча».

Я таксама даведаўся ад аднаго паштальёна, які стаяў ля вуліцы Спаленай, прыгожую дэталь пра сябе: «Гэта той, што страляў па вршовіцкіх жаўнерах».

І далей за намі паўсюль назіралі зь цікаўнасьцю. А эскадрон цягнуўся праз Фэрдынандаў пляц да паліцэйскага пастарунку. Дваццаць чатыры конныя паліцыянты захапілі пятнаццацігадовага гімназіста.

### 3

У паліцэйскім пастарунку мяне дапытваў пажылы дзядзька, які глядзеў строга і ўласнаручна выцягваў з маіх кішэняў мінэралы, пры чым ура-

[4] Павесіць! (ням.).



чыста раз-пораз пытаўся: «А гэта што, не камень, га?» Я адказваў: «Гэта крышталь, гэта марыён, гэта халцэдон, гэта чорны онікс, а гэта агат, косткавы халцэдон, а гэта карнэёл».

Строгі дзядзька выпрастаўся, пакруціў вусы і сказаў грозным голасам: «А на гэты крышталь, марыён, халцэдон, онікс, агат і карніёл, на ўсё гэта ёсьць надзвычайнае становішча, куля ды пятля; адвесьці яго, Хвалоўскі». Завялі мяне самотнага ў адзіночку з адным саламяным пюхцяром.

Празь некалькі гадзінаў расчыніліся дзьверы і ў іх зьявіўся паліцыянт, лагодны на выгляд, сьсівелы на дзяржаўнай службе.

«Паслухайце, — сказаў ён дрыготкім голасам, — заўтра вас расстраляюць. Гэта вырашыць ваенны трыбунал. Ці маеце бацькоў?»

Я яму сказаў, што хацеў бы нешта паведаміць, каб ён даў мне аловак і кавалак паперы.

Ён выцягнуў нататнік, куды я напісаў адрас сваіх бацькоў і гэтыя радкі: «Дарагая мамачка! Не варыце заўтра ежу для мяне і не чакайце ў абед, бо я буду расстраляны. Пану прафэсару Гансгіргу скажыце, што пан Гафнэр у Вршовіцах мае на продаж для школьнай калекцыі прыгожую амэтыставую друзу, а замоўленыя мінэралы ляжаць у паліцэйскім пастарунку. А калі прыйдзе мой прыяцель Войцішэк Гарнафу, дык вы яму скажыце, што мяне вялі дваццаць чатыры конных паліцыянты. Калі адбудзецца маё пахаваньне, пакуль невядома».

Калі ж гэта прачытаў лагодны, сьсівелы на дзяржаўнай службе паліцыянт, ён усхліпнуў, на вачах яго выступілі сьлёзы, і ён зьнік. Праз паўгадзіны мяне прывялі на допыт да паліцэйскага камісара Воліча.

На ягоным стале ляжаў мой ліст да бацькоў, і добра пан Воліч чулым голасам запытаў мяне: «Дык як усё было, малады чалавек?» Калі ж я яму ўсё патлумачыў, камісар Воліч, праглядаючы мінэралы, сказаў: «У мяне дома таксама ёсьць калекцыя мінэралаў. На мэтафіравым пласкагор'і ля Турнава і Ічына я знайшоў летась пад час адпачынку надзіва шмат агатавых і халцэдонавых пародаў. — Запхніце сабе гэтыя Вашыя кварцы ў кішэні і можаце ісьці дадому».

**4**

Нядаўна я прачытаў, што аднаго шаснаццацігадовага студэнціка засудзілі ў Пльзэні за нядаўнюю дэманстрацыю толькі на чатырнаццаць гадоў турмы.

Мяне хацелі дваццаць гадоў таму расстраляць як пятнаццацігадовага злачынцу.

«Багемія»[5] мае рацыю, калі скардзіцца, што цяперашні паліцэйскі рэжым у Чэхіі надта палагаднеў.

*Пераклад з чэскай Валерыя Буйвала*
*надрукаваны ў НН №21/22 у 1997 годзе.*

[5] Шавіністычная нямецкая арганізацыя ў тагачаснай Чэхіі.



*Луіджы Пірандэла*

# Пара жаўрукоў

Лука Пэлета не пазнаў бы на рымскім вакзале Санці Курао, калі б той ня кінуўся да яго з крыкамі:

— Дружа Пэлета! Дружа Пэлета!

Ачмурэлы ад падарожжа, пасярод сумятні і натоўпу пасажыраў, ад чаго круцілася галава, ён застыў і глядзеў на яго аслупянела:

— О, гэта ты, Санці? Як жа гэта? Вось так...

— Пра што гэта ты?

— Quantum mutatus ab illo![1]

— Што за abillo? Гады, дружа Пэлета!

— Гады, праўда, але ж... — Лука зірнуў на яго ў сьвятле электрычных сьвяцільнікаў. Гады? А гэтая вопратка? Вялікі маэстра-музыкант у гэтай кашулі, пінжаку, у гэтых портках і чаравіках? Значыць, жыве ў беднасьці? А гэтая недагледжаная барада, ужо амаль зусім сівая, што нарасла больш на шчаках, чым на падбародзьдзі? А гэты твар, бледны і тлусты? А гэтыя падпухлыя кругі

**Луіджы Пірандэла (1867-1936)**

Італьянскі пісьменьнік і драматург. Аўтар раманаў «Адзін, ніводзін і сто тысячаў», «Нябожчык Мацця Паскаль», п'есаў «Шэсьць Пэрсанажаў у пошуках Аўтара», «Сёньня ўвечары імправізуем», «Знайсьціся», шматлікіх навэлаў.

Luigi Pirandello. Un'altra allodola. — La giara. Milano, 1992.

вакол вадзяністых вачэй? Што здарылася? Ды й ростам ён стаў ніжэйшы?

Пад позіркам Лукі Пэлеты, поўным зьдзіўленьня, вусны Курао выцягнуліся ў нямой грымасе:

— Ты багаты, дружа Пэлета, і час цябе не руйнуе. Хадзем, хадзем! Але давай дамовімся: ні слова пра мізэрнае месца, дзе я і ты мелі няшчасьце нарадзіцца. Хто жывы, той жывы, хто мёртвы, той мёртвы: не хачу нічога пра гэта ведаць. Ня трэба браць экіпаж: я жыву тутака ў канцы алеі. Давай мне валізу або скрынку.

— Не, дзякуй, сам данясу, яны зусім ня цяжкія.

— А багаж ты пакінуў у захавальні на вакзале?

— Які там багаж? — гукнуў Лука Пэлета. — Са мной толькі гэтыя два клункі: кнігі й бялізна.

— Значыць, ты прабудзеш тут мала?

— Не, чаму ж? Магчыма, я прыехаў назаўсёды.

— Вось так, з пустымі рукамі?

Яны ішлі пэўны час у маўчаньні.

— А твая сыньёра? — рызыкнуў урэшце спытаць Лука.

Курао схіліў галаву і прамармытаў:

— Я сам.

— Яна зьехала з Рыму?

— Яна ў Рыме, дружа Пэлета. Раскажу дома. Цяпер пагаворым пра цябе. Але давай бяз хітрыкаў, вось як. Чаму ты прыехаў у Рым? Ну і чмо ж я. Забыўся, што ў цябе грошаў куры не дзяўбуць.

— Памыляесься... — паправіў яго Пэлета з дабрадушнай усьмешачкай. — Сапраўды, штосьці маю, мне хапае, але й трэба мне мала. Няма што дзяўбсьці. А вось, што праўда, дык я цяпер урэшце сам сабе гаспадар. Ледзь-ледзь усё ня ляснула, ведаеш? На дзіва, беднасьць не пастукалася ў нашыя дзьверы. Але ўрэшце паўтараю, я цяпер вольны і гаспадар...

— ... сам сабе. Добра. Але, калі ты не такі ўжо багаты, то чаму прыехаў у Рым?

— Бачыш! — уздыхнуў Лука, зноў таямніча прыплюшчваючы вочы. — Гэта мой горад. Я заўсёды яго сьніў.

— Дружа Пэлета, я нешта падазраю, — паўтарыў Санці Курао. —Клянуся: ты хлусіш. Скажы праўду, ты бяднейшы за мяне?

— Не, чаму ж? — інстынктыўна выгукнуў Лука, і адразу спахапіўся — Магчыма, не...

— Гэтае ТВАЁ, хаця б намякні, на колькі пацягне?

— Прыбытачак сьціплы, але надзейны: пяць лiраў на дзень. Мне хапае.

Санці Курао зарагатаў, матаючы галовой.

— Сто пяцьдзесят ліраў на месяц? І што ты зь імі робіш?

Яны дайшлі да канца алеі, Курао зазірнуў у браму дому і перш, чым увайсьці, сказаў Луку:

— Прашу размаўляць у паўголас.

Пакойчык мізэрны, брудны, у беспарадку, з ложкам у кутку, не перасьцеленым даўным-даўно; просты столік без абрусу, побач з адзіным вакном, вешалка на сьцяне, плеценыя крэслы, умывальнік.

Санці Курао запаліў сьвятло на століку і запрасіў сябра сесьці.

— Калі хочаш памыцца, усё, што трэба, тут.

— А... люстра ў цябе няма? — здушана спытаў Лука, разгублены ад такой бядоты, разглядаючы навокал пыльныя сьцены.

[1] Колькі ўсяго зьмянілася з тае пары (лацінск.).

— Плачу дванаццаць ліраў на месяц, дружа Пэлета, і мяне не паважаюць. Час ад часу даю ўрокі музыкі, і мне ня плоцяць; надыходзіць канец месяца, і я не плачу; а чым больш не плачу, тым менш мяне паважаюць. Тамака, каля ручніка, было люстра, калі не памыляюся. Яго зьнесьлі.

— Дык як жа ты глядзісься? — спытаў уражана Лука.

— Ды я пра гэта й ня думаю!

— Гэта кепска, Санці! Таму што фізычны бок...

— Сапраўдны фізычны бок — гэта хлеб, дружа Пэлета! — рэзка падвёў рысу Курао.

— Э-э, дык жа не, не... — гукнуў Лука. — Non solo pane vivit homo...[2]

— А ўсё ж, — заключыў Санці, — ў першую чаргу нам трэба хлеба. Не кажы больш глупстваў ды яшчэ на лаціне.

Яны надоўга паглыбіліся ў пакутлівае маўчаньне. Санці Курао сядзеў ля століка, схіліўшы галаву і ўтаропіўшыся ў падлогу. Лука Пэлета, выпрастаны, як заўсёды ў жыцьці, насупіўшыся, уважліва разглядаў яго.

— Ну дык... твая сыньёра?

Курао падняў галаву і пэўны час глядзеў у вочы сябру.

— Тутака вось мая сыньёра! — ён урачыста зьняў з галавы капялюш, некалькі разоў пастукаў сябе па шырокім ілбу, асьветленаму лямпай:

— Бачыш? Алень! — крыкнуў ён, і тоўстыя бледныя вусны, выцягнуўшыся ў страшнай грымасе, адкрылі сьціснутыя зубы, жоўтыя ад доўгага галадаваньня.

---

[2] Ня хлебам адзіным жыве чалавек (лацінск.).



Лука Пэлета глядзеў на яго, зьбіты з панталыку, няўпэўнена вывучаючы выраз твару Курао, каб зразумець — ці трэба сьмяяцца, ці не.

— Алень! Алень! — паўтараў Санці і не пераставаў ківаць галавой ў пацьверджаньне гэтага. — І гэта ня я вытурыў яе, ведаеш! Яна сама сышла, сама. Я вось такі, — дадаў ён, ухапіўшыся абедзьвюма рукамі за шчаціньне, што нарасло на шчаках, — але мая жонка прыгожая і вельмі паважаная сыньёра! Галота, дружа Пэлета. Ня будзь галоты, яна, магчыма, і не зрабіла б так. Яна ж у прынцыпе была нікчэмная. Папраўдзе для яе я быў толькі ўзорны муж: прыносіў ёй усё, што зарбляў... па-за нейкім грошам, каб зьвесьці канцы з канцамі. Але ж на самой справе мужык, якой бы сьвіньнёй ён ня быў, заўсёды варты ў тысячу разоў болей за любую жанчыну. Ты скажаш, што не, дружа Пэлета? Хаця, хто ведае? Магчыма, гэта й ня так. Цяжка сказаць. Галота, разумееш? Што робіцца з жалезьзем у вагні? Яно выкрыўляецца. Дык вось, і ты, муж, таксама даходзіш да таго, што кажаш сваёй жонцы: «Ты наставіла мне рогі? Здабыла на хлеб? Так? Ну дык і добра зарабіла! Дай жа кавалачак і мне!»

Ён падняўся і пачаў крочыць па пакоі, апусьціўшы галаву на грудзі і з рукамі за сьпінаю.

— А цяпер... што яна робіць? — нясьмела спытаў Лука.

Курао працягваў крочыць, нібыта не пачуў пытаньня.

— Ты ня ведаеш, дзе яна?

Курао спыніўся перад лямпай:

— Пайшла ў прастытуткі! — сказаў ён. — Ня будзем марнаваць дарма газу! Памыйся, калі

лічыш гэта сапраўды неабходным. І пойдзем у горад. Ня хочаш павячэраць?

— Не.. — адказаў Лука. — Я павячэраў у Нэапалі дастаткова добра.

— Я табе ня веру.

— Слова гонару. Скажы ў двух словах, як я табе?

— Шкода цябе, дружа Пэлета!

— Не кажы! Табе здаецца, што я кепска выглыдаю з твару?

— Не, яшчэ не здаецца, — гукнуў Санці.

— М-да, — пагадзіўся Лука, — на самой справе, мне вельмі пасуе есьці няшмат. Але можа я трошкі бледны сёньня, не?

— Ты бледны, таму што бедны! — выбухнуў Курао. — Давай, хадзем! Ты, пэўна, хацеў бы паглядзець на Калізэй у месяцовым сьвятле.

Лука з энтузіязмам прыняў прапанову, і яны рушылі моўчкі.

Перад парогам дому Пэлета прытрымаў за руку сябра, потым ляпнуў яму далоняй па сьпіне і сказаў, заплюшчыўшы вочы:

— Санці, мы не здамося! Паспадзявайся на мяне!

— Ды супакойся ты... — прабурчэў Курао.

І абодва растварыліся ў цемры.

*Пераклад з італьянскай Валер'я Буйвала*
*надрукаваны ў НН №32 у 1997 годзе*



*Бруна Шульц*

# Птушкі

Надышлі жоўтыя, поўныя нудоты зімовыя дні. Парудзелую зямлю пакрываў дзіравы, працёрты, закароткі абрус сьнегу. На многія дахі яго не хапіла, і яны стаялі чорныя або ржавыя, гонтавыя стрэхі й выгбы, што хавалі ў сабе закопчаныя прасторы гарышчаў — чорныя, абвугленыя пралёты, што наставілі рэбры крокваў і бэлек — цёмныя лёгкія зімовых вятроў. Кожны сьвітанак адкрываў новыя коміны й дымнікі, што вырасьлі ўначы, выдзьмутыя начной віхурай праз чорныя трубкі д'ябальскіх арганаў. Камінары не маглі адмахацца ад крумкачоў, якія, нібы чорнае жывое лісьце, абсядалі ўвечары галіны дрэваў пад касьцёлам, зноўку адрываліся, трапечучы, каб урэшце прыліпнуць кожны да свайго месца на сваёй галіне, а на золку зьляталі вялікімі чародамі — туманы сажы, хлапякі сопату, трывожныя і фантастычныя, што плямілі міргатлівым карканьнем каламутныя пасы сьвітанку. Дні счарсьцьвелі ад холаду й нуды, як пазалеташні бохан хлеба. Прыступалі да іх з тупымі нажамі, без апэтыту, зь лянівай соннасьцю.

---

**Бруна Шульц (1892-1942)**

Польскі пісьменьнік, аўтар раманаў «Цынамонавыя лаўкі», «Санаторыя пад Кляпсыдрай»

Бацька ўжо не выходзіў з хаты. Ён паліў у печах, вывучаў глыбінную існасьць агню, вычуваў салёны, мэталічны прысмак і вэнджаны пах зімовага полымя, халодную пяшчоту саламандраў, што лізалі бліскучую сажу ў гарлавіне коміна. Гэтымі днямі ён з замілаваньнем рамантаваў верхнюю частку пакою. У любую пару дня яго можна было бачыць, калі, прытуліўшыся на самым версе драбінаў, ён майстраваў штосьці каля столі, каля гзымсаў высокіх вокнаў, ля шароў і ланцугоў падвешаных лямпаў. Малярскім звычаем, ён карыстаўся драбінамі як аграмаднымі хадулямі, і пачуваўся добра ў той птушынай пэрспэктыве, побач з маляваным небам, арабескамі і птушкамі на столі. Ад рэальнага жыцьця ён аддаляўся ўсё болей. Калі маці, заклапочаная й засмучоная ягоным станам, спрабавала ўцягнуць яго ў размову пра сямейныя справы, пра плацёж найбліжэйшага «ultimo», ён слухаў яе з раздражненьнем, поўны неспакою, з дрыжыкамі на адсутным твары. І бывала, што перапыняў яе раптам заклінальным жэстам рукі, каб пабегчы ў кут пакою, прыльнуць вухам да шчыліны ў падлозе і з паднятымі указальнымі пальцамі абедзьвюх рук, якія выражалі найвышэйшую важнасьць досьледу, слухаць. Тады мы яшчэ не разумелі сумнага сэнсу тых экстравагантных выбрыкаў, прыкрага комплексу, які дасьпяваў углыбіні.

Маці ня мела на яго ніякага ўплыву, затое вялікую пашану і ўвагу дарыў ён Адэлі. Прыборка ў пакоі была для яго вялікай і важнай цырымоніяй, якую ён ніколі не прапускаў, са сполахам і ўзбуджэньнем назіраючы за Адэлінымі маніпуляцыямі. Усім ейным дзеяньням ён прыпісваў глыбокае сымбалічнае значэньне. Калі дзяўчына маладымі й сьмелымі рухамі совала шчотку на доўгім дзержаку па падлозе, гэта было вышэй за ягоныя сілы. Зь ягоных вачэй ліліся сьлёзы, твар крывіўся ад ціхага сьмеху, а цела страсаў доўгі спазм аргазму. Яго ўражлівасьць ад казыту даходзіла да вар'яцтва. Дастаткова было, каб Адэля скіравала на яго палец, рухам, які азначаў казытаньне, і ён у дзікім спалоху ўцякаў праз усе пакоі, захлопваючы за сабою дзьверы, каб нарэшце ў апошнім упасьці жыватом на ложак і зьвівацца ў канвульсіях сьмеху пад уражаньнем самой уяўнай карціны, зь якой ня мог даць сабе рады. Дзякуючы гэтаму Адэля мела над бацькам амаль неабмежаваную ўладу.

У той самы час мы ўпершыню заўважылі ў бацькі зацікаўленьне да жывёлаў. Напачатку гэта была цікавасьць паляўнічага й мастака разам. Магчыма, была таксама глыбейшая, заалягічная сымпатыя бязвольнага да адзінакроўных і такіх адметных формаў жыцьця, экспэрымэнт зь нявыпрабаванымі сфэрамі быцьця. Толькі ў пазьнейшай фазе гэтая справа атрымала той несамавіты, блытаны, глыбока грэшны й супраціўны прыродзе выгляд, які лепей не выцягваць на сьвет Божы.

Пачалося ўсё з выседжваньня птушыных яек.

Коштам вялікіх высілкаў і грошай бацька выпісваў з Гамбургу, з Галяндыі, з афрыканскіх заалягічных станцыяў апладнёныя птушыныя яйкі, якія даваў для выседжваньня аграмадным бэльгійскім курам. Гэтая працэдура была займальная і для мяне — тое праклёўваньне пісклянятаў, сапраўдных дзіватвораў з выгляду й афарбоўкі. Немагчыма было ўгадаць у тых пачварах з аграмаднымі, фантастычнымі дзюбамі, якія адразу ж пасьля нараджэньня разяваліся шырока, сычэлі прагнавітымі прорвамі глотак, у тых яшчарах з

хілымі голымі целамі гарбуноў — будучых паваў, фазанаў, глухароў ды кондараў. Зьмешчанае ў кошыках, у ваце, гэтае цмачынае адродзьдзе ўздымала на цяжкіх шыях сьляпыя, зарослыя белаю плеўкаю галовы, безгалоса каркала нямымі горламі. Бацька хадзіў уздоўж паліцаў у зялёным хвартуху, як садоўнік уздоўж парнікоў з кактусамі, і вываблівау зь нікчэмнасьці тыя сьляпыя пульхіры, пульсуючыя жыцьцём, тыя нязграбныя брухі, што прыймаюць навакольны сьвет у форме ежы, тыя наросты жыцьця, што навобмацак пнуцца да сьвятла. Праз пару тыдняў, калі тыя сьляпыя пупыры жыцьця лопаліся да сьвятла, пакоі поўніліся каляровым шумам, мігатлівым шорганам сваіх новых жыхароў. Яны абсядалі карнізы фіранак, гзымсы шафаў, гнездаваліся ў гушчары мэталічных разьвілак і завітушак жырандоляў.

Калі бацька вывучаў арніталягічныя атлясы і гартаў каляровыя табліцы, здавалася, што зь іх вылятаюць тыя пярнатыя прывіды, і напаўняюць пакой каляровым трапятаньнем, лахманамі пурпуру, паскамі лазуру, мядзянае зеляніны ды срэбра. Пад час кармленьня яны ўтваралі на падлозе стракатыя, рухомыя градкі, жывы дыван, які, варта было каму-небудзь непрыкметна ўвайсьці, распадаўся, разьлятаўся на асобныя кветкі, якія трапяталі ў паветры і ўрэшце асядалі ў верхняй частцы пакою. Асабліва мне запомніўся адзін кондар, аграмадны птах з голай шыяй, з маршчыністым, у шчодрых наростах, тварам. Гэта быў худы аскет, будыскі лама, поўны непахіснай годнасьці ва ўсіх сваіх паводзінах, што кіраваўся жалезнымі правіламі свайго вялікага роду. Калі ён сядзеў насупраць бацькі, нерухомы ў сваёй манумэнтальнай пазыцыі векавечных эгіпэцкіх боstваў, з вокам, зацягнутым белаватым бяльмом, якое ён насоўваў на зрэнку збоку, каб цалкам замкнуцца ў сузіраньні сваёй годнай самоты, дык выглядаў са сваім каменным профілем на старэйшага брата майго бацькі. Тая самая матэрыя цела, сухажыльляў і зморшчанай цьвёрдай скуры, той самы твар, высахлы й касьцісты, тыя самыя арагавелыя, глыбокія вачніцы. Нават моцныя рукі ў вузлах, доўгія, худыя бацькавы далоні з выпуклымі пазногцямі мелі свой аналяг у кагцістай лапе кондара. Калі я глядзеў на яго заснулага, ня мог пазбавіцца ад ўражаньня, што перада мною мумія — высахлая, а таму й зьменшаная мумія майго бацькі. Мяркую, што й ад матчынай увагі не схавалася гэтае дзіўнае падабенства, хоць мы ніколі не кранаілі гэтае тэмы. Характэрна, што кондар карыстаўся тым самым, што й бацька, начным гаршком.

Не спыніўшыся на выседжваньні ўсё новых экзэмпляраў, бацька ладзіў на гарышчы птушыныя вясельлі, высылаў сватоў, прывязваў у празорах страхі спакусьлівых, ссумаваных нарачоных і дасягнуў нарэшце таго, што дах нашай хаты, аграмадны, двухскатны гонтавы дах, стаў сапраўднай птушынай гасподай, Ноевым каўчэгам, да якога зьляталіся летуны ўсякага роду і з усіх бакоў. Нават праз доўгі час пасьля таго, як птушынае гаспадарства было зьліквідаванае, у птушыным сьвеце ўтрымвалася тая традыцыя нашага дому, і падчас веснавых пералётаў на наш дах ня раз сядалі цэлыя хмары жураваў, пэліканаў, паваў ды іншага птаства.

Забава тая, аднак, неўзабаве пасьля кароткага буяньня набыла сумны выгляд. Даволі хутка бацьку давялося перасяліць на падстрэшша, у два пакоі, што служылі нам кладоўкамі для рызьзя. Ад-

туль ўжо на золку даносілася зьмяшанае курлыканьне птушыных галасоў. Драўляныя скрыні ў пакоях падстрэшша, узмоцненыя рэзанансам гарышча, літаральна зьвінелі ад шуму, трэпету, сьпеваў, такаваньня й булькатаньня. На некалькі тыдняў мы страцілі бацьку зь відавоку. Толькі зрэдку ён спускаўся дахаты, і тады мы маглі заўважыць, што ён нібыта зьменшыўся, схуднеў і скурчыўся. За сталом ён, забыўшыся, зрываўся з крэсла, і, ляскаючы рукамі, як крыламі, выдаваў працяглы сьпеў, а вочы яму зацягвала каламуць бяльма. Потым, прысаромлены, ён сьмяяўся разам з намі й імкнуўся абярнуць гэты інцыдэнт у жарт.

Аднаго разу падчас генэральных прыборак нечакана ў птушынай дзяржаве бацькі заявілася Адэля. Спыніўшыся ў дзьвярах, яна заламала рукі ад смуроду, што насіўся ў паветры, а таксама над грудамі калу, што заваліў падлогу, сталы й мэблю. Бяз доўгіх разважаньняў яна расчыніла вакно, пасьля доўгай шчоткай ператварыла ўсю птушыную масу ў вір. Узьбіўся пякельны туман пер'я, крылаў і крыку, у якім Адэля, падобная да ашалелай Мэнады, абароненай сваім тырсам, танчыла танец зьнішчэньня. Разам з птушынай грамадой бацька трапятаў рукамі і, уражаны, спрабаваў узьняцца ў паветра. Паволі разьвеяўся крылаты туман, ажно ўрэшце на полі бою Адэля засталася адна, вычарпаная, задыханая, і бацька з сумным і прысаромленым выразам твару, гатовы да любой капітуляцыі.

Праз хвіліну бацька спускаўся па прыступках свайго даміёну зламаным чалавекам, як кароль-выгнаньнік, які страціў трон і каралеўства.

*Пераклад з польскай пад псэўданімам АА.*
*надрукаваны ў НН № 13 у 1998 годзе*



*Іўлін Ўо*

# Маленькая пагулянка містэра Лаўдэя

**1.**

— Ты ўбачыш, што бацька амаль не зьмяніўся, — сказала лэдзі Моўпінг, калі машына заехала ў браму павятовай вар'ятні.

— Ён носіць форму? — спытала Анджэла.

— Не, дарагая, вядома ж не. Зь ім тут вельмі добра абыходзяцца.

Анджэла ўпершыню адведвала бацьку — яна сама захацела гэта зрабіць.

Дзесяць гадоў прайшло з таго непагоднага летняга дня, калі забралі лорда Моўпінга, дня, ад якога у яе засталіся цьмяныя, але горкія ўспаміны. Вось як усё адбылося. У той дзень лэдзі Моўпінг мелася ладзіць штогадовы прыём на вольным паветры. Надвор'е было цудоўнае, але з прыездам першых гасьцей неба зацягнулі хмары і ўзьняўся шквальны вецер. Госьці кінуліся ў дом. Абваліўся шацёр. Абрус узьвіўся ўгару й павіснуў на гольлі араўкарыі. Усчалася мітусьня зь пераносам падушак і крэслаў. Празь нейкі час зноў засьвяціла сонца, і госьці пачалі асьцярожна выходзіць на мокры лужок. Але зноў наляцеў

---

**Іўлін Ўо (1903–1966)**

Ангельскі пісьменьнік, аўтар раманаў «Упадак і разбурэньне», «Адзіная», «Выпрабаваньне Гілбэрта Пінфальда», зборнікаў апавяданьняў.

шквал, пасьля чаго дваццаць хвілін зьзяла сонца. І так паўтаралася шмат разоў. А шостай гадзіне лорд Моўпінг паспрабаваў скончыць жыцьдё самагубствам. Гэта была кульмінацыя таго жахлівага дня.

Лорд Моўпінг штогод пагражаў самагубствам апярэдадні традыцыйнага прыёму, але ў той дзень ён зьдзейсьніў сваю пагрозу. Ён павесіўся ў аранжэрэі на сваіх шлейках. Суседзі, што хаваліся там ад дажджу, знайшлі яго счарнелага, паставілі на ногі, і праз гадаіну па яго прыехаў фургон. З тае пары лэдзі Моўпінг зрэдку наведвала свайго мужа. Звычайна доўга яна там не заседжвалася, вяралася якраз да гарбаты, нічога не распавядаючы.

Шмат хто з суседзяў быў схільны крытыкаваць прытулак лорда Моўпінга. Аднак лорд ня быў звычайны хворы. Ён жыў у асобным крыле вар'ятні, спэцыяльна прызначаным для багатых хворых. Яны мелі права на ўцеху пэўных сваіх прыхамацяў. Напрыклад, ім дазвалялі выбіраць вопратку (некаторыя ў гэтым давалі волю сваім дзівацтвам), курыць найдаражэйшыя цыгары й ладзіць вечарыны для сваіх прыяцеляў-вар'ятаў на ўгодкі прызнаньня іх хворымі.

Але гэта была далёка ня самая дарагая ўстанова. Бескампрамісны адрас «Шпіталь для псыхічна хворых», прастаўлены на паштовай паперы й нават вышыты на ўніформе пэрсаналу, не выклікаў радасных пачуцьцяў. Калі-нікалі сяброўкі далікатна нагадвалі лэдзі Моўпінг пра йснаваньне прыватных лякарняў на беразе мора, пра «дасьведчаных лекараў з усімі неабходнымі ўмовамі для лекаваньня нэрваў і больш цяжкіх выпадкаў». Але яна не надавала вялікай увагі гэтым парадам. Яна адказвала сваім сяброўкам, што калі яе сын стане паўналетнім, то ён зможа зрабіць усё, што палічыць патрэбным, але пакуль што яна ня мае вялікага жаданьня мяняць свой рэжым эканоміі. Яна лічыла, што муж здрадзіў ёй якраз у той момант, калі яна чакала ад яго аддадзенай падтрымкі і што жывецца яму ў вар'ятні лепей, чым ён заслужыў.

Некалькі самотных постацяў у шэрым сноўдалі па парку.

— Гэга хворыя найніжэйшае клясы, — заўважыла лэдзі Моўпінг. — Для людзей накшталт твайго бацькі ёсьць някепскі ўтульны садок. Летась я дастала для яго колькі саджанцаў.

Машына праехала ўздоўж суцэльнага фасаду з жоўтае цэглы і спынілася каля прыватнага ўваходу. Доктар прыняў іх у пакоі для наведнікаў, прызначаным якраз для гэткіх сустрэчаў. Адзінае акно было надзейна абароненае мэталёвымі прутамі й аплеценае дротам. Каміна там не было, і калі Анджэла паспрабавала перасунуць свае крэсла далей ад радыятара, дык адчула, што яно прымацаванае да падлогі.

— Лорд Моўпінг гатовы з вамі сустрэцца, — сказаў доктар.

— Як ён чуецца?

— О, вельмі добра. Я б нават сказаў цудоўна. Пару дзён таму ён быў прастудзіўся, але цяпер ён у выдатнай форме. Ён шмат піша.

У гэты момант яны пачулі шорганьне нечых ног па калідоры. Высокі бурклівы голас, што, як здагадалася Анджэла, належаў яе бацьку, сказаў; «Я ня маю часу. Скажыце ім, каб прыйшлі пазьней». Другі, лагаднейшы голас зь лёгкім вясковым акцэнтам адказаў: «Хадземце. Гэга чыста

афіцыйная аўдыенцыя. Вы можаце заставацца там столькі, колькі захочаце».

Потым дзьверы расчыніліся (на іх не было ні замка, ні засаўкі), і лорд Моўпінг увайшоў у пакой. Усьлед за ім зьявіўся старэнькі сівы дзядок, твар якога сьвяціўся дабрынёй.

— Гэта містэр Лавдэй, памочнік лорда Моўпінга.

— Сакратар, — запярэчыў лорд. Ён падыйшоў, падскокваючы, да жонкі й пацісьнуў ёй руку.

— Гэта Анджэла. Ты памятаеш Анджэлу?

— Не, я б не сказаў. Чаго яна хоча?

— Мы проста прыйшлі цябе адведаць.

— Вы для гэтага выбралі надзвычай непрыдатны час. Я вельмі заняты. Вы ўжо надрукавалі той ліст да Папы, Лавдэй?

— Не, ваша сьветласьць. Калі вы памятаеце, вы прасілі мяне знайсьці спачатку лічбы наконт рыбнага промыслу на Ньюфаўндлэндзе.

— Сапраўды. Тым лепей, бо я думаю, што трэба будзе перарабіць увесь ліст. Надта шмат новай інфармацыі прыйшло пасьля абеду. Надта шмат... Ты бачыш, дарагая, я страшэнна заняты. Ён перавёў свой мітусьлівы, хітраваты позірк на Анджэлу. — Я мяркую, вы да мяне завіталі наконт Дуная. Баюся, вам давядзецца падыйсьці да мяне трохі пазьней. Скажыце ім, што ўсё будзе у парадку, у поўным парадку, але ў мяне не было часу, каб сур'ёзна заняцца гэтай справай. Перадайце ім гэта.

— Добра, тата.

— Дый наогул, — капрызьліва дадаў лорд Моўпінг, — гэта другарадная справа. Перадусім трэба разабрацца з Эльбаю, Амазонкай і Тыграм. Праўда, Лавдэй?... Ох, ужо мне гэты Дунай. Мярзотная рачулка. Ну, мушу бегчы. Дзякуй, што зайшлі. Я б вам дапамог, але самі бачыце, колькі ў мяне праблем. Напішыце мне пра гэта. Вось.



Сказаўшы гэта, ён выйшаў з пакою.

— Бачыце, — сказаў доктар, — ён у цудоўнай форме: набірае вагу, выдатна есьць і сьпіць. Фактычна яго здароўе ў норме.

Дзьверы зноў прычыніліся: вярнуўся містэр Лавдэй.

— Прабачце, што перапыняю, сэр, але я баяўся, што маладая лэдзі будзе засмучаная тым, што яго сьветласьць не пазнаў яе. Вы не павінны наракаць на яго, міс. Наступным разам ён будзе вельмі рады вас убачыць. Сёньня ён не ў гуморы, бо завалены працай. Ведаеце, сэр, увесь гэты тыдзень я дапамагаў у бібліятэцы і ня змог надрукаваць усе дакумэнты яго сьветласьці. Ен заблытаўся ў картатэцы. Вось і ўсё. Ён не хацеў вас пакрыўдзіць.

— Які добры чалавек, — сказала Анджэла, калі містэр Лавдэй вярнуўся да свайго падапечнага.

— Так. Ня ведаю, што б мы рабілі безь яго. Усе яго любяць: і пэрсанал, і пацыенты.

— Я добра яго памятаю. Дзе вы толькі бераце такіх добрых санітараў? — сказала лэдзі Моўпінг. — Недасьведчаныя людзі гавораць столькі глупстваў пра вар'ятні.

— Але містэр Лавдэй не санітар, — сказаў доктар.

— Вы хочаце сказаць, што ён таксама касамозгі? — запыталася Анджэла.

— Ён пацыент, — паправіў яе доктар. — Даволі цікавы выпадак. Жыве тут ужо трыццаць пяць гадоў.

— Але ж ён зусім нармальны, — сказала Анджэла.

— Так, выглядае на тое, — пагадзіўся доктар, — і апошнія дваццаць гадоў мы ставімся да яго як да нармальнага. Немагчыма ўявіць шпіталь безь яго. Вядома, ён не належыць да групы прыватных пацыентаў, але мы дазваляем яму свабодна зь імі кантактаваць. Ён цудоўна гуляе ў більярд, паказвае на канцэртах розныя штукарствы, напраўляе іхныя грамафоны, прыслужвае ім, дапамагае разьвязваць крыжаванкі й займацца ўсялякімі... э-э... хобі. Мы дазваляем ім даваць містэру Лавдэю трошкі грошай за паслугі, і ён, мабыць, за ўсе гэтыя гады ашчадзіў кругленькую суму. Ён знаходзіць агульную мову нават з самымі неспакойнымі зь іх. Ён проста бясцэнны чалавек для нашай установы.

— Добра, але чаму ён трапіў да вас?

— Ну, гэта вельмі сумная гісторыя. Калі ён быў яшчэ малады, ён забіў незнаемую маладзіцу — зваліў яе з ровара й прыдушыў. Пасьля гэтага ён адразу ж здаўся, і з таго часу ён у нас.

— Але ж цяпер ён, відаць, ужо бясьпечны. Чаму яго не выпускаюць?

— Ведаеце, калі б нехта быў у гэтым зацікаўлены, ён бы даўно быў на свабодзе. Але ў яго няма іншых крэўных апрача зводнай сястры, што жыве ў Плімуце. Даўней яна наведвала яго, але вось ужо некалькі гадоў яна не прыяжджае. Ён цалкам задаволены сваім жыцьцём тут, і можаце быць пэўныя, што мы ня маем намеру рабіць заходы дзеля яго вызваленьня. Ён занадта карысны для нас.

— Але гэга несправядліва, — сказала Анджэла.

— Зірніце на свайго бацьку, — не згадзіўся доктар. — Што б ён рабіў без Лавдэя?

— Усё адно гэга несправядліва.



**2.**

Пасьля наведваньня шпіталя Анджэла адчувала сябе прыгнечана.

— Страшна падумаць, што нехта можа правесьці ў вар'ятні ўсё свае жыцьцё.

— Ён спрабаваў павесіцца ў аранжэрэі, — стрымана запярэчыла лэдзі Моўпінг, — перад носам у Чэстэр-Марцінаў.

— Я ня маю на ўвазе тату. Я пра містэра Лавдэя.

— А хто гэта? Я яго ня ведаю.

— Ведаеш. Ну, той псых, якога прыставілі да таты.

— А, сакратар твайго бацькі. Вельмі прыстойны чалавек. Ён цудоўна выконвае сваю працу.

Анджэла часова адклала абмеркаваньне гэтае тэмы й вярнулася да яе на другі дзень падчас абеду.

— Мам, а што трэба зрабіць, каб вызваліць чалавека з псыхушкі?

— З псыхушкі? Божа мой, я спадзяюся, ты не зьбіраесься паскорыць вяртаньне свайго бацькі *сюды*!

— Не, не. Я пра містэра Лавдэя.

— Анджэла, цяпер я бачу, што няможна было ўчора браць цябе з сабой. Ты занадта ўражлівая.

Адразу пасьля абеду дзяўчына схавалася ў бібліятэцы, дзе ўзялася старанна вывучаць законы аб вар'яцтве.

Пэўны час Анджэла не размаўляла з маці наконт гэтае праблемы. Але - праз два тыдні трэба было адвезьці ў шпіталь колькі фазанаў: бацька ладзіў вечарыну, прысьвечаную адзінаццатым угодкам прызнаньня яго вар'ятам. Анджэла зь незразумелай настойлівасьцю папрасіла маці дазволіць ёй завезьці прадукты. Лэдзі Моўпінг

была занятая іншымі справамі й ня ўгледзела ў гэтым нічога падазронага.

Анджэла прыехала ў шпіталь на сваім невялікім аўтамабілі і, пасьля разгрузкі дзічыны, папрасіла паклікаць містэра Лавдэя. У гэты момант стары якраз рабіў карону для аднаго са сваіх прыяцеляў, які меўся быць памазаны на імпэратара Бразіліі, але, тым ня менш, ён ласкава згадзіўся пагаварыць зь ею. Яны пагаманілі трохі пра здароўе й настрой лорда Моўпінга, а потым Анджэла мімаходзь запыталася:

— Вам ніколі не хацелася выбрацца адсюль?

Містэр Лавдэй паглядзеў на яе сваімі пяшчотнымі блакітна-шэрымі вачыма й сказаў:

— Я прывык да такога жыцьця, міс. Я адчуваю сымпатыю да гэтых нябогаў і думаю, што некаторыя зь іх адчуваюць прыхільнасьць да мяне. Прынамсі, хто-ніхто засумаваў бы, калі б я зьехаў адсюль.

— Але ці марыце вы калі-небудзь пра тое, каб зноў апынуцца на волі?

— Вядома, міс, я пра гэта мару... мару ці ня ўвесь час.

— Што б вы зрабілі, калі б вам удалося выбрацца са шпіталя? Мусіць, ёсьць нешта такое, што вам вельмі хацелася б зрабіць.

Стары неспакойна заварушыўся.

— Ведаеце, міс. Мабыць, гэта прагучыць няўдзячна, але мне б вельмі хацелася схадзіць на кароткую пагулянку, адзін разочак, пакуль я не зрабіўся зусім стары. Я мяркую, у нас ва ўсіх ёсьць свае таемныя жаданьні. Вось і я таксама хацеў бы зрабіць адну рэч. Не пытайцеся якую... Гэта не забярэ шмат часу. Але я адчуваю, што зрабіўшы гэта, я мог бы зь лёгкім сэрцам сысьці на вечны спакой.



Мая душа была б задаволеная, і я б прысьвяціў рэшту свайго жыцьця гэтым бедным хворым людзям.

Калі Анджэла вярталася дамоў, у яе ўваччу былі сьлёзы. «Ён пойдзе на сваю маленькую пагулянку», — думала яна.

**3.**

З гэтага дня ў жыцьці Анджэлы зьявілася новая мэта. Дзяўчына выконвала свае хатнія абавязкі зь нейкім летуценным выглядам, зь незнаёмай, стрыманай далікатнасьцю, што вельмі бянтэжыла лэдзі Моўпінг.

— Дзіця, відаць, закахалася. Не давядзі Бог, каб у таго нехлямяжага хлопца Эгбэртсонаў.

Анджэла цэлымі днямі сядзела у бібліятэцы, дапякала пытаньнямі кожнага госьця, які меў хоць нейкае дачыненьне да мэдыцыны або юрыспрудэнцыі, дэманстравала сваю прыхільнасьць старому сэру Родэрыку Лэйн-Фоскоўту, што быў сябрам парляманту ад іх акругі. Словы «псыхіятар», «адвакат», «дзяржаўны чыноўнік» вабілі цяпер яе так, як некалі імёны кінаактораў і прафэсійных барцоў. Яна ўпарта змагалася за дасягненьне сваей мэты і, пад канец паляўнічага сэзону, дамаглася свайго. Містэр Лавдэй атрымаў свабоду.

Хоць доктар і ня меў вялікае ахвоты выпускаць старога, але ж і не працівіўся. Сэр Родэрык напісаў у Міністэрства ўнутраных спраў. Былі падпісаныя неабходныя паперы, і, нарэшце, надыйшоў дзень, калі містэр Лавдэй разьвітаўся з домам, у якім правёў столькі доўгіх і карысных гадоў.

З гэтай урачыстай нагоды была арганізаваная невялікая цырымонія. Анджэла й сэр Родэрык сядзелі поруч зь лекарамі на сцэне, абсталява-

най у спортзале. Перад сцэнай былі сабраныя ўсе, каго лічылі дастатковa ўстойлівымі, каб вытрымаць гэткае ўзрушэньне.

Лорд Моўпінг сказаў колькі добрых слоў пра містэра Лавдэя й падараваў яму ад імя багатых вар'ятаў залаты партабак. Тыя, што ўважалі сябе за імпэратараў, засыпалі яго ардэнамі й ганаровымі тытуламі. Санітары адшкадавалі яму срэбны гадзіньнік. Шмат хто зь бедных пацыентаў, назіраючы цырымонію, ціха плакаў.

Доктар выступіў з прамовай.

— Дарагі Лавдэй, — сказаў ён, — памятайце, што мы зычым вам толькі дабра. Нітка, што нас зьвязвае, ніколі не абарвецца. Мы вашыя даўжнікі, і час толькі абвострыць гэтае пачуцьцё. Калі вы раптам адчуеце стому ад жыцьця там, на свабодзе, мы заўсёды будзем рады прыняць вас назад. Вашая пасада застанецца вакантная.

Тузін ці болей расчуленых псыхаў подскакам праводзілі яго да выхаду. Жалезная брама адчынілася — і містэр Лавдэй апынуўся на свабодзе. Ягоную маленькую пакоўню ўжо адправілі на вакзал, бо ён вырашыў прайсьціся пешшу. Стары нікому не сказаў пра свае пляны, але грошай у яго было нямала, і ўсе думалі, што перад тым, як наведаць сваю зводную сястру ў Плімуце, ён паедзе павесяліцца ў Лёндан. Усе былі страшэнна зьдзіўленыя, калі праз дзьве гадзіны пасьля разьвітаньня ён вярнуўся. Яго твар асьвятляла загадкавая, ласкавая ўсьмешка, нібы ён згадваў нешта прыемнае.

— Я вярнуўся, — паведаміў ён доктару. — Думаю, што цяпер назаўсёды.

— Але чаму такі кароткі адпачынак, Лавдэй? Вы ж, пэўна, не пасьпелі й павесяліцца!



— О не, сэр. Дзякую вам, сэр. Я *выдатна* павесяліўся. Усе гэтыя гады я абяцаў сабе адно маленькае задавальненьне. Яно было вельмі кароткае, сэр, але *надзвычай* прыемнае. Цяпер я без усялякага шкадаваньня вазьмуся за сваю працу.

Трохі пазьней за паўмілі ад брамы вар'ятні, на дарозе быў знойдзены стары жаночы ровар. Паблізу, у канаве, ляжала цела задушанай маладзіцы. Напэўна, едучы дадому на гарбату, яна мела няшчасьце напаткаць містэра Лавдэя, які гуляў па дарозе, думаючы, што рабіць са свабодай.

*Пераклад з ангельскай Віктара Лук'янава*
*надрукаваны ў НН № 3 у 1994 годзе*

*Альбер Камю*

# Камень, які расьце

Машына цяжка крутанулася й вывернула на гразкую ад дажджу лятэрытавую дарогу. На ўзбочыне фары раптам выхапілі са змроку — спачатку з аднаго, потым з другога боку дарогі — дзьве драўляныя хаты, крытыя бляхай. Побач з другою, справа, скрозь рэдкі туман угадвалася збудаваная з грубых бэлек вежа. Зь яе вяршыні йшоў мэталічны трос. Нябачны ў месцы злучэньня, ён пачынаў зіхацець, трапляючы ў сьвятло фараў і зноў зьнікау за адхонам, які перарэзваў шіях. Машына тармазнула й спынілася за некалькі мэтраў ад хат.

Чалавек, які ўзьнік справа ад шафёра, зь відочным высілкам праціснуўся ў дзьверцы й, устаўшы на ногі, крыху захістаўся ўсім сваім магутным целам асілка. Нібы адчуваючы свой цяжар, ён стомлена стаяў у змроку побач з машынай і, здавалася, прыслухоўваўся да халастога вуркатаньня рухавіка. Потым рушыў да адхону і ўвайшоў у акрэсьлены фарамі сьветлы трохкутнік. Ён спыніўся на вяршыні схілу, і яго шырачэзная сьпіна адбілася на фоне ночы. Праз хвіліну ён

---

**Альбер Камю (1913—1960)**

Францускі пісьменьнік і філёзаф. Ляўрэят Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1957 года. Аўтар раманаў «Чужынец», «Чума».



азтрнуўся. Над прыборным шчытком яму ўсьміхаўся падсьвечаны зьнізу чорны шафёраў твар. Чалавек падаў знак, і шафёр заглушыў матор. Адразу па-над дарогай і лесам апусьцілася вялікая, сьвежая цішыня. І скрозь гэтую цішыню пачаў далятаць шолах вады. Мужчына глядзеў на раку пад адхонам, пазначаную толькі шырокім рухам чорнае цемры, пасыпанай бліскучай луской. Яшчэ болей густы й застылы змрок удалечыні, напэўна, быў другім берагам. Добра прыгледзеўшыся, там, праўда, можна было заўважыць кволы жоўты агеньчык, як ад далёкай газьніцы.

Мужчына павярнууся да машыны й трасянуў галавой. Шафёр пагасіў фары, зноў запаліў і пачаў імі міргаць праз аднолькавыя інтэрвалы. Чалавек на адхоне зьнікаў і зьяўляўся зноў, здаючыся ўсё болей магутным і болей высокім пры кожным новым уваскрашэньні. Раптам ліхтар на тым беразе, узьняты нечай нябачнай рукой, некалькі разоў узьляцеў у паветра. Па апошнім знаку ліхтаршчыка шафёр канчаткова патушыў фары, і ноч адразу праглынула машыну й чалавека. Калі фары згасьлі, рака зрабілася амаль бачная, цяпер раз-пораз можна было заўважыць яе доўгія вадзяныя мускулы, што перакочваліся адзін за адным. Абапал дарогі чарнеў змрочны лясны гушчар, які ўздымаўся ў самае неба й, здавалася, падступаў зусім блізка. Дробная імжа, што гадзінай раней прамачыла дарогу, яшчэ вісела ў паветры, робячы яшчэцяжэйшымі цішыню й нерухомасьць, якія панавалі над гэтым вялікім прагалам сярод некранутага лесу. У чорным небе мутна дрыжалі зоркі. Але вось з таго берагу даляцела бразгатаньне ланцугоў і ледзьве чутны плёхкат. Трос над хатаю праваруч ад

чалавека напяўся, па ім з глухім скрогатам пабегла дрыготка, і ў тую ж хвіліну па-над ракою разьліўся шырокі й прыцішаны шум патрывожанае вады. Скрогат паступова зрабіўся раўнейшы, шум вады памацнеў, пачуўся выразьней, і ліхтар паволі пачаў расьці. Цяпер вакол яго можна было заўважыць цьмянае жоўтае кола. Яно патроху шырэла, потым пачало меншаць зноў, а ліхтар усё блішчаў скрозь смугу, высьвечваючы ўжо над сабой і з бакоў нешта накшталт павеці з сухога пальмавага лісьця, якую з чатырох бакоў падпіралі тоўстыя бамбукавыя жардзіны. Гэтае грубае збудаваньне, зь нейкімі няпэўнымі ценямі, што рухаліся вакол, паволі набліжалася да берагу. Калі яно было ўжо амаль на сярэдзіне ракі, у жаўцявым сьвятле выразна акрэсьліліся тры невысокія, амаль чорныя, голыя да пояса чалавечыя постаці ў вострaверхіх капелюшах. Людзі стаялі нерухома, ледзь расставіўшы ногі й крыху нахіліўшыся, ураўнаважваючы магутнае цячэньне ракі, што напінала сваімі нябачнымі водамі бок вялікаму нязграбнаму плыту, які нарэшце таксама, апошні, вынырнуў зь цемры й водаў. Калі паром падыйшоў бліжэй, мужчына, што стаяў на беразе, заўважыў на дальнім яго канцы, за павецьцю, яшчэ двух высокіх нэграў, якія таксама былі ў шырокіх саламяных капелюшах і ў штанах зь цёмна-шэрага палатна. Стоячы амаль плячо ў плячо, нэгры ўсімі мускуламі налягалі на шасты, якія паволі заглыбляліся ў раку за плытом, а яны, гэткім жа роўным, запаволеным рухам, нахіляліся над вадой, колькі ставала раўнавагі. Тры мулаты наперадзе нерухома й моўчкі глядзелі, як да іх набліжаецца бераг, ні разу не падняўшы вачэй на таго, хто іх там чакаў.



Раптам паром уцяўся аб край прычала, што выдаваўся ў раку й толькі цяпер трапіў у сьвятло ліхтара, які загойдаўся ад удару. Магутныя нэгры зьнерухомелі, задраўшы ўгору рукі і ўчапіўшыся ў шасты, якія толькі трошкі ўвайшлі ў валу. Па іх напружаных мускулах прабягала дрыготка, якая нібыта йшла ад самой ракі й яе важкога напору. Тры іншыя перавозчыкі накінулі на слупкі на прычале доўгія ланцугі, саскочылі з парому й насунулі на яго нешта накшталт груба скалочанага апускнога моста, які пакрыў плыт сьпераду роўным пахілым шчытом.

Пакуль шафёр запускаў рухавік, мужчына вярнуўся да машыны й сеў. Машына паволі рушыла да адхону, задралася капотам у неба, потым нырнула ўніз і пачала спускацца. Пацiху пасоўваючыся на тармазах, яна крыху коўзалася па гразі, спынялася, кратала зноў і нарэшце, пад перастук хісткіх дошак, узьехала на прычал. Падруліўшы да краю, на якім, па-ранейшаму моўчкі, з абодвух бакоў выстраіліся мулаты, яна мякка накацiла на плыт. Як толькі пярэднія колы дакрануліся да яго, плыт нырнуў носам у валу, але амаль адразу ўсплыў зноў, прымаючы ўвесь цяжар аўтамабіля. Тады шафёр адагнаў машыну на карму й паставіў каля квадратнай павеці, пад якою сьвяціў ліхтар. Мулаты адразу адкінулі памост на прычал і, спрытна пераскочыўшы на паром, тым жа рухам адштурхнулі яго ад багністага берага. Рака ўздыбілася пад плытом, узьняла яго на сваіх водах і паволі панесла на доўгім повадзе, змацаваным з жалезнаю штангай, якая таксама цяпер паплыла ў небе ўздоўж мэталічнага троса. Два чорныя асілкі нарэшце паслабілі напружанасьць у руках і падабралі шасты. Муж-

чына з шафёрам выйшлі з машыны й нерухома сталі на краю плыта тварам супраць цячэньня. Пакуль ішла пасадка, ніхто не прамовіў ні слова, і цяпер усе па-ранейшаму нерухома й моўчкі яшчэ заставаліся на сваіх месцах, апроч аднаго высокага нэгра, які скручваў сабе цыгарку з грубай паперы. Чалавек глядзеў на прагал вялікага бразыльскага лесу, зь якога ўзнікала й каціла да іх рака. У гэтым месцы яна была шырынёю ў некалькі соцень мэтраў, яе каламутныя, цьмяныя воды напіналі на бок парому й, вызваліўшыся з двух канцоў, зноў расьцякаліся магутнаю роўнаю плынньню, якая ймкнула скрозь змрочны лес насустрач мору й ночы. Затхлы водар вады й набрынялага вільгацьцю неба лунаў у паветры. Пад паромам цяжка плёхкалася вада, і раз-пораз зь берагоў даляталі гучныя поклічы рагатых рапух і крыкі невядомых птушак. Асілак падыйшоў і спыніўся каля шафёра. Худы й маленькі, той стаяў, абапершыся аб бамбукавую жардзіну і ўсунуўшы кулакі ў кішэні свайго некалі сіняга камбінэзону, зацярушанага цяпер шчыльным рудым пылам, які ім давялося глытаць увесь дзень. З усьмешкаю, застылай на маршчакаватым, хоць яшчэ й маладым твары, ён глядзеў невідушчым позіркам на палінялыя зоркі, якія плавалі ў адсырэлым небе.

Птушыныя крыкі пачуліся нарэшце выразьней, да іх прымяшалася нейкае дзіўнае сакатаньне, і, амаль у тую ж хвіліну, трос зарыпеў. Два высокія нэгры занурылі ў раку шасты й сьляпымі рухамі пачалі намацваць дно. Чалавек азірнуўся на бераг, які яны нядаўна пакінулі. Цяпер ён ужо схаваўся за цемрай і водамі, бязьмежны й дзікі, як цэлы кантынэнт вялікага дрэўнага царства, што шырылася на тысячы кілямэтраў вакол. Паміж зусім недалёкім адсюль акіянам і гэтым морам расьлін невялікая жменька людзей на плыце пасярод дзікай ракі здавалася зусім згубленаю. І калі паром ударыўся аб прычал на другім беразе, было такое ўражаньне, нібыта яны, пасьля доўгіх дзён трывожнага плаваньня, раптам, на поўных ветразях, наляцелі на невядомы, прыхаваны моракам востраў.

Калі яны ступілі на цьвёрды грунт, нарэшце пачуліся чалавечыя галасы. Шафёр ужо разьлічыўся, і людзі, зь нечакана вясёлымі у гэтай цяжкай начы галасамі, разьвітваліся па-партугальску з машынай, у якой ужо быў запушчаны рухавік.

— Яны казалі, да Ігуапы шэсьцьдзесят кілямэтраў. Тры гадзіны едзеш, і ўсё Сакрат рады, — паведаміў шафёр.

Чалавек шчыра засьмяяўся густым і цёплым сьмехам, які стасаваўся зь ягонай камплекцыяй.

— І я, Сакраце, я таксама рады. Дарога вельмі цяжкая.

— Вельмі цяжкая, пане д’Ара. І ты вельмі цяжкі, — і шафёр таксама засьмяяўся нястрымным сьмехам.

Машына пакрысе набрала хуткасьці й каціла паміж дзьвюма высокімі сьценамі дрэваў, шчыльна аплеценых разбуялай расьліннасьцю, ахутаная волкім, саладжавым паветрам. Лясны змрок безупынна расьсякалі сьвятлівыя мушкі, і раз-пораз у ветравую шыбу ўразаліся нейкія дзіўныя птушкі з чырвонымі вачыма. Часам з начной глыбіні далятаў гучны незнаёмы рык, і шафёр, зірнуўшы на свайго суседа, камічна закочваў вочы.

Дарога круціла ўлева і управа, перасякала рачулкі па хісткіх дашчаных мастках. Праз гадзіну

туман пачаў прыкметна гусьцець. Зацерушыла дробная імжа, расьсейваючы сьвятло фараў. Д’Ара, нягледзячы на траску на выбоінах, драмаў. Ён быў ужо ня ў гэтым вільготным лесе, а зноў каціў па дарогах Сэры, на якіх яны правялі ўвесь дзень ад самага ранку, калі выехалі з Сан-Паўла. Над грунтовымі дарогамі безупынку падымаліся шары рудога пылу, смак якога й цяпер яшчэ адчуваўся ў роце; пыл асядаў на зямлю, пакрываючы зьлева й справа, колькі хапала вачэй, усю рэдкую стэпавую расьліннасьць. Цяжкае сонца, палінялыя, парэзаныя ярамі горы й, уздоўж дарог, згаладалыя зэбу зь нязьменнымі сваймі спадарожнікамі, змардаванымі ад пералётаў грыфамі-урубу: доўгае-доўгае плаваньне па чырвонай пустэльні... Ён уздрыгнуў. Машына стаяла. Яны апынуліся ў Японіі: абапал дарогі стаялі хаткі, аздобленыя тонкай разьбой, і за іх вокнамі мільгалі постаці ў кімано. Шафёр гаманіў зь японцам у брудным камбінэзоне й саламяным бразыльскім капелюшы. Неўзабаве машына рушыла далей.

— Ён кажа, усяго кілямэтраў сорак.

— Дзе гэта мы былі? У Токіё?

— Не, у Рэгістра. У нас усе японцы прыязджаюць сюды.

— Чаму?

— Хто іх ведае. Яны ж жоўтыя, ведаеш, д’Ара.

Лес крыху пасьвятлеў, і дарога пайшла лягчэй, хоць была яшчэ сьлізкая. Машыну заносіла на пяску. Праз вакенцы ўлятаў волкі, цёплы і трошкі гаркавы ветрык.

— Адчуваеш? — задаволена прамовіў шафёр. — Гэга мора. Хутка Ігуана.

— Калі хопіць бэнзыну, — азваўся д’Ара. І зноў ціхамірна заснуў.



На сьвітанку д’Ара, седзячы ў ложку, зьдзіўлена аглядаў залу, у якой толькі што прачнуўся. Яе высокія сьцены да сярэдзіны былі нядаўна вымазаныя бураю глінкай. Вышэй, белая фарба, пакладзеная ў вельмі аддаленыя часы, зьвісала жоўтымі лахманамі да самае столі. Адзін насупраць аднаго тут стаялі два шэрагі па шэсьць ложкаў. І толькі на адным, у самым канцы ягонага шэрагу, пасьцель таксама была разабраная, але нікога ў ім не было. Рангам зьлева пачуўся шум, і, азірнуўшыся да дзьвярэй, д’Ара ўбачыў Сакрата, які, сьмеючыся, стаяў, трымаючы ў кожнай руцэ па бутэльцы зь мінэральнай вадой.

— Шчасьлівы ўспамін! — сказаў ён.

Д’Ара схамянуўся, вяртаючыся да рэальнасьці. Сапраўды, шпіталь, у якім іх прытуліў на ноч мэр, называўся «Шчасьлівы ўспамін».

— Пэўна, ўспамін,— пацьвердзіў Сакрат.— Яны казалі мне: спачатку будаваць шпіталь, потым будаваць вадаправод. А пакуль, шчасьлівы ўспамін. На вось — калючай вады табе памыцца.

Сьмеючыся й нешта напяваючы, ён пайшоў прэч, з выгляду зусім ня стомлены тым жудасным чханьнем, што скаланала яго ўсю ноч і не давала д’Ара зьмежыць вачэй.

Д’Ара ўжо канчаткова прачнуўся. Ён глядзеў на невялічкі двор за кратаванымі вокнамі. Чырвоная глеба была ўся прамоклая ад дажджу, што й цяпер яшчэ церушыў, паліваючы высокія кусты альясу. Праз двор прайшла нейкая кабета, кончыкамі пальцаў трымаючы над галавой жоўтую хустку. Д’Ара хацеў быў прылегчы зноў, але тут жа падняўся й спусьціў ногі з ложка, які прагнуўся й зарыпеў пад яго цяжарам. У тую ж хвіліну вярнуўся Сакрат.

— Там па цябе, пане д’Ара, — сказаў ён. — Мэр чакае на двары.

І ўбачыўшы ўражаньне, якое зрабілі на д’Ара ягоныя словы, дадаў:

— Не хвалюйся, гэты ніколі не сьпяшаецца.

Пагаліўшыся зь мінэральнай вадой, д’Ара выйшаў на ганак, дзе пад невялічкім дашкам яго чакаў мэр. Ростам і выглядам, што давалі яму акуляры ў залатой аправе, мэр нагадваў паслужлівую ласку. Здавалася, ён быў цапкам засяроджаны змрочным сузіраньнем дажджу, але, як толькі ўбачыў д’Ара, увесь засьвяціўся прыязнай усьмешкай. Напружыўшыся ўсім целам, ён пасьпешліва ступіў насустрач і пастараўся абхапіць сваімі маленькімі ручкамі магутны торс «пана інжэнэра». Якраз у гэты момант, насупраць, за невысокай агароджай, якою быў абнесены двор, прытармазіў і, праехаўшы па раскіслай гліне, неяк наўскасяк спыніўся аўтамабіль.

— Судзьдзя! — паведаміў мэр.

Як і мэр, судзьдзя быў апрануты ў гарнітур цёмна-сіняга колеру, але быў ці, прынамсі, здаваўся нашмат маладзейшым, дзякуючы зграбнай фігуры й сьвежаму твару зьдзіўленага падлетка. Элегантна абмінаючы лужыны, ён ужо шыбаваў праз двор і, яшчэ за некалькі крокаў ад д’Ара выкінуўшы наперад руку, пачаў прывітаць інжэнэра. Ён быў рады прымаць спадара інжэнэра, які сваім прыездам робіць вялікі гонар яго беднаму гораду; ён вельмі ўсьцешаны той неацэннай паслугай, якую пан інжэнэр зробіць Ігуапе, пабудаваўшы невялікую дамбу, якая аберажэ ніжнія кварталы ад пэрыядычных навадненьняў. Загадваць водамі, утаймоўваць рэкі! Ах, якое вялікае рамяство! І безумоўна, бедныя жыхары Ігуапы назаўжды захаваюць у памяці імя пана інжэнэра і яшчэ доўгія гады будуць прамаўляць яго ў сваіх малітвах. Пераможаны такім красамоўствам, д’Ара падзякаваў судзьдзі й не адважыўся папытацца, якое, уласна, ён як судзьдзя можа мець дачыненьне да дамбы. Зрэшты, трэба было сьпяшацца ў клюб, дзе, паводле мэравых словаў, раней, чым выправіцца на агляд ніжніх кварталаў, знакамітыя людзі горада меліся даць у гонар пана інжэнэра ўрачысты прыём. Якія знакамітыя людзі?

— Ну, — сказаў мэр, — я, як мэр горада, спадар Кавалья, што перад вамі, потым — капітан порту, ну, і яшчэ некалькі, меней важных. Зрэшты, вам ня трэба будзе выдаткоўваць на іх шмат увагі: яны не гавораць па-француску.

Д’Ара паклікаў Сакрата й папярэдзіў, што вернецца каля паўдня.

— Добра, — сказаў Сакрат. — Я пайду ў Сквэр з фантанам.

— У Сквэр?

— Так, тут усе ведаюць. Ня трэба баяцца, пане д’Ара.

Шпіталь, як, выходзячы, заўважыў д’Ара, стаяў на самым ускрайку лесу, цяжкія шаты якога навісалі над дахамі. На ўсю гэтую масу расьлін безупынку ападала суцэльнае імжыстае покрыва, якое раскошысты лес бясшумна ўбіраў у сябе, як велічэзная губка. Горад — каля сотні дамоў, крытых палінялай дахоўкай,— туліўся паміж лесам і ракою, далёкі подых якой далятаў да шпіталя. Машына рушыла па раскіслых вуліцах і неўзабаве выехала на даволі шырокі чатырохкутны пляц, заліты вялікімі й маленькімі лужынамі, паміж якімі, у чырвонай глеістай глебе, віднеліся адбіткі аўтамабільных шын, жалезных абадоў і

капытоў. Па пэрымэтры пляц абступалі нізенькія рознакаляровыя домікі з тынкаванымі сьценамі, а за імі высіліся дзьве круглыя блакітнабелыя вежы касьцёла ў каляніяльным стылю. Панад усім гэтым голым убранствам лунаў водар солі, што далятаў ад вусьця. На сярэдзіне пляцу тапталіся некалькі наскрозь прамоклых постацяў, а ўздоўж дамоў, млява жэстыкулюючы, тоўкся пярэсты натоўп гаўчо, японцаў, мяшаных індэйцаў і зграбна апранутых «знакамітых людзей», чорныя гарнітуры якіх выглядалі тут экзатычна. Прапускаючы аўтамабіль, натоўп нетаропка расступіўся ўбакі й правёў яго позіркам. А калі машына перад адным дамком нарэшце спынілася, вакол яе адразу вырасла маўклівая сьцяна мокрых гаўчо.

Клюб месьціўся на другім паверсе і ўяўляў сабою нешта накшталт невялічкага бара з бамбукавым прылаўкам і круглымі аднаногімі столікамі з бляшанымі стальніцамі. «Знакамітых людзей» было шмат. Мэр, узьняўшы шклянку з трысьняговай гарэлкай, прамовіў тост за прыезд пана інжэнэра й шчасьце ва ўсім сьвеце, і ўсе выпілі ў гонар д’Ара. Але калі д’Ара, папіваючы, прымасьціўся каля вакна, да яго раптам падыйшоў здаравушчы бамбіза ў кароткіх наезьніцкіх нагавіцах і скураных гамашах і, крыху пагойдваючыся, залапатаў нешта не зусім зразумелае, з чаго інжэнэр улавіў толькі адно слова: «пашпарт». Без асаблівай упэўненасьці ён дастаў дакумэнт, і бамбіза, схапіўшы яго зь вялікаю прагнасьцю, пачаў гартаць, усім выглядам паказваючы сваю яўную незадаволенасьць. Потым ён нешта залапатаў зноў, трасучы кніжачкай перад носам у інжэнэра, але той глядзеў на свайго гнеў-



нага суразмоўніка абсалютна спакойна. У гэтую хвіліну да іх падыйшоў судзьдзя й, ветліва ўсьміхаючыся, запытаўся, пра што йдзе гаворка. П’янюга пэўную хвіліну аглядаў крохкую фігуру таго, хто асьмеліўся яго перапыніць, і потым, пахіснуўшыся яшчэ небясьпечней, затрос пашпартам перад вачыма ужо новага суразмоўніка. Д’Ара тым часам мірна прысеў каля століка й пачаў чакаць, чым усё скончыцца.

Дыялёг пераходзіў на даволі павышаны тон, і раптам судзьдзя выбухнуў такім аглушальным голасам, якога ад яго абсалютна немагчыма было чакаць. Бамбіза адразу змоўк і адступіў з выглядам дзіцяці, якое засьпелі на дрэнным учынку. Пасьля грымотнай судзьдзёвай тырады ён бокам-бокам, як пакараны свавольнік, скіраваў да дзьвярэй і зьнік за парогам.

Судзьдзя, голасам, да якога зноў вярнулася мілагучнасьць, пачаў тлумачыць д’Ара, што тэты грубіян — а гэта, як высьветлілася, быў начальнік паліцыі — меў нахабства сьцьвярджаць, нібыта ў пашпарце нечага не хапае, але за сваю выхадку ён будзе пакараны. Потым Кавалья павярнуўся да «знакамітых», што ўжо абступілі яго з усіх бакоў, і, здаецца, пра нешта пачаў зь імі раіцца. Пасьля кароткай размовы судзьдзя ўрачыстым тонам папрасіў у д’Ара прабачэньня, запэўніў, што, безумоўна, нічым, апроч ап’яненьня, нельга растлумачыць такое поўнае забыцьцё пачуцьцяў удзячнасьці й павагі, якія мусяць адчуваць да яго ўсе жыхары Ігуапы, і ўрэшце прапанаваў пану інжэнэру зрабіць ім вялікую ласку й самастойна абраць пакараньне, якое варта было б прызначыць гэтаму гора-паліцыянту. Д’Ара запэўніў, што ня хоча ніякага пакараньня, і ўвогу-

ле — гэта зусім ня варты ўвагі выпадак, а лепей было б хутчэй пайсьці да ракі. Тады слова ўзяў мэр, ён зь вельмі кранальнаю дабрынёю пачаў тлумачыць, што пакараньне ўсё-такі абсалютна неабходнае й вінаваты ўжо зараз будзе адпраўлены над арышт, а яны ўсе тым часам пакорліва будуцьчакаць, калі іх высокі госьцьласкава захоча вырашыць яго лёс. Ніякія пярэчаньні ня здолелі зламаць яго расквечанай усьмешкаю строгасьці, і д'Ара вымушаны быў паабяцаць, што падумае. З тым усе й выправіліся ў ніжнія кварталы.

Рака ўжо шырока разьліла свае воды па нізкіх, сьлізкіх берагах. Яны пакінулі ззаду апошнія дамы Ігуапы й былі цяпер паміж ракою й высокім стромым адхонам, да якога туліліся хаціны з саману й гальля. Перад імі ад самага краю насыпной гаці зноў рэзка паўставаў густы лес, такі самы як на другім беразе. Але водны прагал паміж дрэвамі хутка пашыраўся, ператвараючыся ў адну суцэльную, ня вельмі выразную лінію, дзе жаўцізна трошкі шарэла: там пачыналася мора. Д'Ара моўчкі рушыў да адхона, на якім паводкамі рознае вышыні былі пакінуты яшчэ сьвежыя сьляды. Гразкая сьцежка вяла ўгару — да хацін, перад якімі, маўкліва пазіраючы на прыйшлых, маўкліва стаялі нэгры. Некаторыя адасобіліся парачкамі й трымалі адно аднаго за рукі, а на самым краю гаці, перад дарослымі, шырока вылупіўшы вочкі, выстраіліся шнурочкам зусім кволыя нэгрыцянята з разьдзьмутымі жыватамі й танюткімі ножкамі.

Дайшоўшы да хацін, д'Ара жэстам паклікаў начальніка порту. Гэта быў тоўсты ўсьмешлівы нэгар у беласьнежнай уніформе. Д'Ара папытаўся ў яго па-гішпанску, ці можна зайсьці ў якуюнебудзь хаціну. Начальнік быў у гэтым абсалютна ўпэўнены й лічыў нават, што гэта цудоўная думка: пан інжэнэр пабачыць там нямала цікавага. Ён павярнуўся да нэграў і доўга нешта ім гаварыў, то на д'Ара, то на раку. Тыя слухалі моўчкі. Але калі начальнік змоўк, ніхто не варухнуўся. Ён загаварыў ужо болей нецярплівым голасам, і ўрэшце зьвярнуўся асабіста да аднаго мужчыны, які ў адказ закруціў галавой. Тады начальнік прамовіў колькі кароткіх словаў загадным тонам. Мужчына адыйшоў ад сваёй групкі, павярнуўся тварам да д'Ара й жэстам паказаў, кудою йсьці. Гэта быў чалавек даволі сталага веку, яго кароткія кудзеры былі ўжо кранутыя сівізной, ён меў тонкі, змораны твар, але яшчэ маладое цела з дужымі плячыма й мускуламі, якія ўгадваліся пад палатнянымі нагавіцамі й падранай кашуляй. Яны пайшлі па новым, болей адложыстым адхоне, і сьледам за імі пацягнуліся начальнік порту і ўвесь нэгрыцянскі натоўп. Гліняныя, бляшаныя, трысьняговыя хаты, што стаялі вакол, так слаба трымаліся за зямлю, што ўнізе з усіх бакоў іх давялося абкласьці камянямі. Насустрач ім трапілася жанчына, якая, сьлізгаючы босымі нагамі па гразкай сьцяжыне, несла ўніз поўны бляшаны бідон, трымаючы яго на галаве. Потым яны апынуліся на невялічкай пляцоўцы, абгароджанай з трох бакоў хацінамі. Мужчына ступіў да адной, штурхануў бамбукавыя дзьверы, што трымаліся на прывязках, зробленых з тонкіх ліянаў, і, прапускаючы інжэнэра, моўчкі адышоў убок, пазіраючы на яго абсалютна халоднымі вачыма. У хаце д'Ара спачатку ня ўбачыў нічога апроч кволага вогнішча, расклад-

зенага на зямлі якраз пасярэдзіне пакоя. Потым у дальнім куце, углыбіні, ён разгледзеў мядзяны ложак з голай правіслю сеткай, а ў другім — столік з нагрувашчаным на ім гліняным посудам, а паміж імі — нешта накшталт козлаў зь вялікаю храмаграфіяй, зь якой глядзела выява сьв.Юр'і. Болей тут не было нічога, апроч кучы ануч, справа каля ўваходу, і некалькіх рознакаляровых набедраных павязак, што сушыліся над агнём пад стольлю. Д'Ара стаяў, удыхаючы пахі вогнішча й галечы, што падымаліся ад зямлі й даўка падступалі пад горла. Раптам начальнік порту пляснуў у яго за сьпінай у далоні, і, азірнуўшыся, інжэнэр убачыў, як у дзьвярной пройме супраць сьвятла ўзьнікла зграбная постаць маладой нэгрыцянкі, якая нешта яму працягнула. Ён узяў шклянку й рэзкім глытком выпіў густую трысьняговую гарэлку, што ў ёй аказалася. Дзяўчына зноў працягнула паднос, прыняла пустую шклянку й адным рухам зьнікла за дзьвярыма. Гэты рух быў такі мяккі й цёплы, што ў д'Ара раптам узьнікла жаданьне яе затрымаць.

Але выйшаўшы сьледам, ён ня здолеў яе пазнаць у натоўпе нэграў і «знакамітых людзей», што абступалі хаціну. Тады ён падзякаваў старому, які адно моўчкі нахіліў галаву, і ўсе рушылі. Начальнік порту ішоў усьлед за інжэнэрам і зноў нешта тлумачыў яму, пытаючыся, калі Француская кампанія ў Рыё магла б распачаць работы й ці можна паставіць дамбу да пачатку вялікіх дажджоў. Д'Ара гэтага ня ведаў, але, па шчырасьці, ня думаў, каб гэта было магчыма. Пад неадчувальным дажджом яны спускаліся да ракі, ад якой патыхала сьвежасьцю. Д'Ара прыслухоўваўся да прасторнага, шырокага пошуму, які безупынна



акружаў яго з той самай хвіліны, як ён прыехаў сюды, і ня мог зразумець, ці гэта шолах вады ці дрэваў. Апынуўшыся зноўку на беразе, ён паглядзеў удалечыню, на пярэстую лінію мора, тысячы кілямэтраў самотных водаў, за якімі ляжала Афрыка, а яшчэ трошкі далей — Эўропа, зь якой ён прыехаў.

— Капітан, — спытаў ён у начальніка порту, — чым жывуць гэтыя людзі, у якіх мы былі?

— Працуюць, калі бываюць патрэбныя, — сказаў капітан. — Мы тут бедныя.

— А гэтыя, відаць, найбяднейшыя?

— Гэтыя — найбяднейшыя.

Судзьдзя, які якраз падыйшоў да іх, крыху сьлізгаючы па гразі ў сваіх тонкіх чаравіках, паведаміў, што ўсе гэтыя людзі ўжо вельмі палюбілі пана інжэнэра за тое, што ён дасьць ім працу.

— А ўвогуле, — сказаў ён, — ведаеце, яны цэлымі днямі сьпяваюць ды танчаць.

І тут жа, безь ніякага пераходу, ён спытаў у д'Ара, ці падумаў ён пра пакараньне.

— Якое пакараньне?

— Ну, нашаму начальніку паліцыі.

— Трэба яго адпусьціць.

Судзьдзя сказаў, што гэта немагчыма і што пакараньне павінна быць. Але д'Ара ўжо йшоў да горада.

Упрыгожаны гронкамі незнаёмых кветак, што зьбягалі ўздоўж ліянаў паміж бананавымі дрэвамі й пандусамі, невялікі Сквэр з фантанам, насычаны цёплай імжой, здаваўся казачным і ласкавым. Сьцяжынкі на скрыжаваньнях былі пазначаныя вільготнымі крушнямі, і ў гэты час тут гуляў вялікі пярэсты натоўп. Мэтысы, мулаты, гаўчо, ціха перагаворваючыся, нетаропкай

ступою хадзілі па бамбукавых прысадах, якія вялі туды, дзе кусты й зарасьнік паступова гусьцелі,ператвараючыся ў суцэльную непралазную нетру. Там, адразу, безь ніякага пераходу, пачынаўся лес.

Д'Ара шукаў у натоўпе Сакрата, але той зьнянацку наляцеў на яго ззаду.

— Сьвята, — сьмеючыся крыкнуў Сакрат і, абапёршыся на высокія інжэнэравы плечы, падскочыў на месцы.

— Якое сьвята?

— Хэ! — зьдзівіўся Сакрат, ужо стаўшы да д'Ара тварам.— Ты ня ведаеш? Сьвята пана Ісуса. Кожны год усе з малатком ідуць да пячоры.

І Сакрат паказаў не на пячору, а на купку людзей, якія, нібыта нечага чакаючы, стаялі ў закутку Сквзра.

— Разумееш! Аднойчы была статуя пана Ісуса, яна прыплыла з мора, уверх па рацэ. Яе знайшлі рыбакі. Такая прыгожая! Такая прыгожая! Тады яны яе тут памылі, у пячоры. А цяпер у пячоры пачаў расьці камень. І кожны год — сьвята. З малатком адбіваеш, адбіваеш кавалачкі — асьвянцоныя, на шчасьце. А потым ён — вось, заўсёды расьце, а ты заўсёды адбіваеш. Гэта такі цуд.

Яны падыйшлі да пячоры, нізкі ўваход у якую ўгадваўся над галовамі людзей, якія нечага чакалі. Усярэдзіне, у прыцемку, пранізаным дрыготкімі агеньчыкамі сьвечак, на кукішках, стукаючы малатком, сядзеў нейкі сылюэт. Нарэшце чалавек устаў і, выставіўшы ўсім на паказ разгорнутую далонь, выйшаў: гэта быў худы гаўчо з доўгімі вусамі; ён нёс маленькі кавалачак мокрага сланцу, але тут жа асьцярожна схаваў яго ў кулаку й



рушыў прэч. Тады, нахіліўшыся, у пячору ўвайшоў другі чалавек.

Д'Ара азірнуўся. Вакол, не зьвяртаючы на яго ўвагі й не адчуваючы ймжыстай смугі, што апускалася з дрэваў, чакалі паломнікі. І ён таксама — чакаў, стоячы тут, перад гэтай пячорай, у гэтым самым вільготным тумане,— чакаў, сам ня ведаючы чаго. Але ён чакаў сапраўды, чакаў увесь час, ужо цэлы месяц, з таго самага дня, як прыехаў у гзтую краіну. Ён чакаў у чырвонай сьпёцы вільготных дзён і ў дрыготкім сьвятле дробных зор уначы, нягледзячы на свае абавязкі й пастаўленыя задачы, дамбы, якія трэба было збудаваць, і дарогі, што трэба пракласьці,— нібыта праца, дзеля якой ён прыехаў сюды, была толькі падставай, прычынай, што дазволіць здарыцца чамусь неспадзяванаму, якой-небудзь сустрэчы, пра якую нават ня думаў, але ўвесь час чакаў — тут, на краі сьвету. Ен схамянуўся й, прайшоўшы скрозь невялікі натоўп, у якім ніхто так і не зьвярнуў на яго ніякай увагі, рушыў да выхаду. Трэба было вяртацца да ракі й працаваць.

Але каля брамы ён зноў натрапіў на Сакрата, які самазабыўна й шматслоўна гутарыў зь невысокім каржакаватым таўстуном. З выгляду гэта быў нэгар, але скура ў яго была хутчэй жоўтая. Цалкам аголены чэрап яшчэ больш павялічваў яго прыгожы магутны лоб, а яго твар аздабляла пастрыжаная квадратам густая чорная барада.

— Во, гэта — чэмпіён! — сказаў Сакрат, як бы знаёмячы д'Ара з суразмоўнікам.

— Заўтра ён павядзе працэсію.

Чалавек, апрануты ў марацкі гарнітур з грубае саржы й паласаты бела-сіні нацельнік, што выглядаў з-пад матроскае блузы, уважліва раз-

глядаў д'Ара спакойнымі вачыма. А яго поўныя бліскучыя вусны шчыра ўсьміхаліся інжэнэру, паказваючы на зайздрасьць белыя зубы.

— Ён размаўляе па-гішпанску, — сказаў Сакрат і павярнуўся да незнаёмца. — Вось, раскажы пану д'Ара. І з гэтымі словам ён рушыў да іншай групы. Незнаёмец перастаў усьміхацца й са шчырай цікаўнасьцю зірнуў на д'Ара.

— Цябе гэта цікавіць, капітане?

— Я не капітан, — сказаў д'Ара.

— Ну, ня ведаю. Ты — сэньёр. Мне і так сказаў Сакрат.

— Я — не. Гэта мой дзед быў. І яго бацька таксама. Ну, і ўсе, хто быў да яго бацькі. А цяпер сэньёраў у нашых краінах няма.

— Ага! — сказаў нэгар, засьмяяўшыся. — Ясна, цяпер усе сэньёры.

— Не, усё ня так. Цяпер няма ні сэньёраў, ні прасталюдзінаў.

Той задумаўся і ўрэшце рашыўся:

— Што, ніхто не працуе, ніхто не пакутуе?

— Ды не, такіх мільёны.

— Значыць, яны прасталюдзіны.

— Ну, калі так, дык сапраўды, ёсьць і прасталюдзіны. Але за гаспадароў у іх — паліцыянты ці гандляры.

Дабразычлівы твар у мулата спахмурнеў. Потым ён буркнуў:

— Ух-ф! Купі-прадай, га! Паскудства! А ў паліцыі — адны сабакі загадваюць.

І раптам, безь ніякага пераходу, ён зарагатаў.

— А ты — ты хоць не гандлюеш?

— Амаль не, Я раблю маеты, дарогі.

— О, гэта добра! А я — за кока на караблі. Калі хочаш, зраблю табе нашую страву з чорнай фасолі.



— Хачу.

Кок ступіў бліжэй да д'Ара і ўзяў яго за руку.

— Слухай, мне падабаецца, як ты гаворыш. І я табе таксама скажу. Можа, і табе спадабаецца.

І ён пацягнуў яго да мокрай драўлянай лавы, што стаяла каля ўваходу пад кустом бамбуку.

— Я быў у моры, непадалёк ад Ігуапы, мы плылі на вялікім нафтаналіўным судне, што ходзіць уздоўж берагу й развозіць паліва ў суседнія порты. І тут у нас пачаўся пажар. Не па маёй віне! Гэ, я ведаю сваю справу! Не! Няшчасны выпадак! Нам удалося слусьціць шлюпкі на ваду. А ўначы пачало штарміць, наш човен накрыла, і я пайшоў на дно. А калі вынырнуў, даўся аб човен галавой. І мяне панесла. А ноч была чорная, хвалі высокія, а я кепска плаваю; і мне было страшна. І тут я раптам убачыў удалечыні агеньчык і зразумеў, што гзта званіца на касьцёле Сьв.Ісуса ў Ігуапе. Тады я сказаў Ісусу, што, калі ён мяне ўратуе, дык я на працэсіі пранясу на галаве камень вагой 50 кіляў. Ты не паверыш, але мора суцішылася, і мая душа — таксама. Я спакойна паплыў і вельмі радаваўся, і потым дабраўся да берагу. А заўтра я выканаю свае абяцаньне.

І ён зірнуў на д'Ара раптам падазроным позіркам.

— Ты ж ня будзеш сьмяяцца?

— Не. Калі што паабяцаў — трэба выконваць.

Той пляснуў яго па плячы.

— А цяпер, хадзем да мяне, гэта каля ракі. Я прыгатую табе фасолю.

— Не, — сказаў д'Ара, — я заняты. Калі хочаш, — увечары.

— Добра. Але сёньня ў вялікай хаце ўсю ноч танчаць і моляцца. Фэст Сьв.Юр'і.

Д’Ара спытаў, ці пойдзе ён танчыць таксама. Твар у кока раптам спахмурнеў, і вочы, упершыню, забегалі.

— Не, не, я танчыць ня буду. Заутра трэба несьці камень. А ён цяжкі. Я толькі увечары схаджу ўшанаваць сьвятога, а потым хутка вярнуся.

— А звычайна гэта бывае доўга?

— Усю ноч, ды яшчэ трошкі й раніцай.

Ён зірнуў на д’Ара, быццам яму было крыху сорамна.

— Прыходзь на танцы. Потым мяне адтуль забярэш. А так я яшчэ застануся, пачну танчыць — я, напэўна, ня здолею ўтрымацца.

— Ты любіш танчыць?

Вочы ў кока заблішчалі, нібы ён пачуў пра нешта вельмі прынаднае.

— Го! Ды ўжо ж люблю! Там цыгары, сьвятыя, ну, і яшчэ — кабеты. Пра ўсё забываеш, і нішто ўжо ня стрымлівае.

— Там бываюць кабеты? Усе кабеты з гораду?

— Не, з гораду — не, з баракаў.

Да кока вярнулася ўсьмешка.

— Прыходзь. Пры капітане я здолею ўтрымацца. І ты дапаможаш мне выканаць заўтрашняе абяцаньне.

Д’Ара адчуў невялікую прыкрасьць. Ці яму было да гэтага бязглуздага абяцаньня? Але зірнуўшы на кока, ён убачыў яго шчыры, усьмешлівы й даверлівы твар, смуглявая скура на якім прамянілася жыццём і здароўем.

— Я прыйду, — прамовіў д’Ара. — Цяпер хадзем, я цябе крыху праведу.

І невядома чаму, у тую ж хвіліну яму зноў убачылася тая дзяўчына, што ў знак гасьціннасьці падавала гарэлку.



Яны выйшлі са Сквэру й рушылі па гразкіх вуліцах. Неўзабаве яны былі ўжо на заежджаным коламі пляцы, зь невысокімі домікамі, дзякуючы якім пляц здаваўся яшчэ болей шырокім. Тынкаваныя сьцены ўжо сачыліся вільгацьцю, хоць дождж не мацнеў. У набрынялым вадою паветры глуха чуўся пошум ракі й дрэваў. Яны йшлі роўнай хадою — болей важкою ў д’Ара, болей мускулістай — ў кока. Час ад часу мулат падымаў галаву й ўсьміхаўся свайму спадарожніку. Яны павярнулі да касьцёла, які ўздымаўся над невысокімі дахамі, і, перасекшы пляц, зноў паглыбіліся ў прыземістыя кварталы з раскіслымі вуліцамі, у якіх цяпер луналі вострыя пахі кухні. З-за дзьвярэй часам высоўваўся цікаўны жаночы твар: трымаючы ў руках талерку ці якую іншую кухонную прыладу, жанчына праводзіла іх вачыма й тут жа зьнікала. Мінуўшы касьцёл, яны рушылі праз стары квартал, забудаваны такімі самымі нізкімі домікамі, і раптам трапілі ў магутны шум нябачнай адсюль ракі, апынуўшыся за барачным кварталам, які д’Ара адразу ж пазнаў:

— Ну, добра,— сказаў ён коку. — Я з табою разьвітваюся. Да вечара!

— Ну. Значыць, перад касьцёлам.

Але кок не выпускаў інжэнэравай рукі. Ён хацеў нешта сказаць і не насьмеліваўся. Але нарэшце рашыўся:

— А табе ніколі не даводзілася клікаць Бога? Даваць яму абяцаньне?

— Даводзілася. Аднойчы, здаецца.

— Калі твой карабель тануў?

— Можна сказаць і так.

Д’Ара рэзка вызваліў руку. Ён ужо хацеў быў павярнуцца й рушыць прэч, калі сустрэўся вачы-

ма з кокам. Кокаў позірк яго трошкі зьбянтэжыў, але, усьміхнуўшыся, ён сказаў:

— Цяпер гэта ўжо ня мае значэньня, але, калі хочаш, магу сказаць. Адзін чалавек паміраў па маёй віне. Вось тады я, здаецца, і паклікаў.

— І даў абяцаньне?

— Не, але хацеў бы.

— Гэта было даўно?

— Незадоўга да прыезду сюды.

Кок запусьціў у бараду абедзьве рукі. Вочы яго блішчалі.

— Ты капітан, - нарэшце прамовіў ён. Мой дом — твой дом. Заўтра ты дапаможаш мне выканаць маё абяцаньне, а гэта ўсё роўна, каб ты яго выканаў сам. Яно дапаможа й табе таксама.

Д’Ара усьміхнуўся:

— Ня думаю.

— А ты ганарысты, капітане.

— Я быў ганарысты. Цяпер я самотны, але ты мне вось што скажы — ці твой Ісус заўсёды табе адказваў, калі ты яго клікаў?

— Заўсёды? О, не, капітане.

— Ну дык?

Кок засьмяяўся сьвежым дзіцячым сьмехам.

— Дык што, — сказаў ён, — ён жа вольны, праўда?

У клюбе, дзе д’Ара абедаў у кампаніі знакамітасьцяў, мэр паведаміў, што яму абавязкова трэба расьпісацца ў залатой муніцыпальнай кнізе, каб пакінуць сьведчаньне пра тую вялікую падзею, якою ёсьць яго прыезд у Ігуапу. Судзьдзя, у сваю чаргу, разрадзіўся яшчэ дзьвюма-трыма новымі тырадамі, у якіх адзначыў, апроч разматых вартасьцяў і талентаў госьця, яшчэ й тую незвычайную простасьць, зь якою ён прадстаўляе перад імі вялікую дзяржаву, да якой мае гонар



належаць. На гэта д’Ара адказаў, што гонар, вядома, гонарам, але ж ёсьць і безумоўная выгада, якую мае яго кампанія, атрымаўшы кантракт на такія буйныя работы. Судзьдзя зноў зачараванапрыхіліўся перад такою інжэнэравай сьціпласьцю й тут жа дадаў:

— Дарэчы, ці не падумалі вы, што нам рабіць з начальнікам паліцыі?

Д’Ара зірнуў на яго з усьмешкай.

— Падумаў.

Ён палічыў бы за знак асабістай да яго прыхільнасьці й выключнае ласкі, калі б ад яго ймя гэтаму гора-паліцыянту было дараванае прабачэньне й ягонае, д’Ара, пражываньне ў такім, як ён мае шчасьце заўважыць, чароўным горадзе, як Ігуапа, з такімі велікадушнымі жыхарамі, магло пачацца ў клімаце згоды й дружбы. Судзьдзя слухаў з уважлівай усьмешкаю й пахітваў галавой. Пэўны час ён з выглядам знаўцы абдумваў інжэнэраву тыраду, потым растлумачыў яе сэнс прысутным, прымусіўшы іх зачаравацца высакароднасьцю традыцыяў вялікай францускай нацыі, і, павярнуўшыся зноў да д’Ара, абвясьціў, што такое рашэньне яго задавальняе.

— І калі ўжо яно так, — падсумаваў ён, — дык мы ўжо сёньня, бадай, запросім начальніка паліцыі на нашую агульную вячэру.

Але д’Ара паведаміў, што ўвечары ён ужо запрошаны сябрамі ў бараку на сьвяточную цырымонію з танцамі.

— Ага! — прамовіў судзьдзя. — Вось і добра! Я нават рады, што вы туды сходзіце. Самі пераканаецеся, што не любіць наш народ проста немагчыма.

Увечары д'Ара з кокам і ягоным братам сядзелі каля згаслага вогнішча ў той самай хаціне, якую ён ужо наведваў гэтаю раніцай. Кокаў брат, здаецца, зусім не зьдзівіўся, убачыўшы інжэнэра зноў. Ён амаль не гаварыў па-гішпанску й збольшага абмяжоўваўся толькі пахітваньнем галавы. Кок папытаўся ў д'Ара, якія ў Францыі саборы, а потым выдаў доўгую прамову пра суп з чорнай фасолі. Сьвятло ўжо амаль згасла, і хоць д'Ара яшчэ добра бачыў кока й ягонага брата, але ўжо ледзьве ўгадваў згорбленыя ў глыбіні хаты постаці старой кабеты й дзяўчыны, якая гэты раз зноў паднесла яму пачастунак. З-пад адхону чуўся манатонны плёхкат ракі.

Нарэшце кок устаў і прамовіў: «Пара». Яны з гаспадаром таксама ўсталі, але жанчыны не зварухнуліся. Мужчыны выйшлі адны. Д'Ара нерашуча затрымаўся на парозе, потым дагнаў братоў. Ужо цалкам сьцямнела, дождж перастаў. Бледна-чорнае неба здавалася вадкім. І ў гэтай цёмнай, празрыстай вадзяной смузе, што згушчалася па-над даляглядам, пачалі запальвацца зоркі. Амаль адразу яны згасалі й па адной ападалі ў раку, нібыта неба сьцякала кроплямі астатняга свайго сьвятла. Густое паветра пахла вадою й дымам. Зусім блізка чуўся пошум бязьмежнага нерухомага лесу. І рангам здалёк даляцелі гукі бубнаў і сьпевы, спачатку прыглушана, потым усё тучней, яны набліжаліся — і гэтаксама раптоўна аціхлі. Неўзабаве наперадзе ўзьнікла купка маладых нэгрыцянак у белых спадніцах з грубага ядвабу зь нізка апушчанымі таліямі. Зь імі йшоў высачэзны нэгар у шчыгульным чырвоным жакеце й зь нізкаю рознакаляровых іклоў на шыі, а за ім гурбаю, як папала валіў натоўп мужчын у белых піжамах і музыкі з трохкутнікамі й шырокімі й кароткімі бубнамі. Кок сказаў, што трэба йсьці за імі.

Хаціна, да якой яны дабрылі берагам, стаяла за некалькі соцень мэтраў ад барачнага квартала; яна была вялікая, пустая, але адносна ўтульная, сьцены ўсярэдзіне былі тынкаваныя. Дол быў земляны, крытую саломаю й трысьнягом страху па цэнтры падтрымліваў тоўсты слуп, на сьценах не было ніякага ўбраньня. Углыбіні, на невысокім, усланым пальмавым лісьцем алтары, утырканым сьвечкамі, якія ледзьве асьвятлялі палову залы, стаяла цудоўная храмаграфія, на якой сьв. Юрый, прыняўшы спакусьлівую паставу, браў зьверхнасьць над вусатым цмокам. Пад алтаром, у нішы, выкладзенай адмысловай пузырчатаю — у выглядзе каменьчыкаў — паперай, паміж сьвечкаю й місай з вадой, месьцілася фарбаваная гліняная фігурка нейкага рагатага бога са злосным тварам і занесенаю рукой, якая сьціскала несувымерна вялікі нож зь серабрыстае фольгі.

Кок адвёў д'Ара ў кут, і яны сталі там, прыхінуўшыся да сьцяны, непадалёк ад уваходу, «Адсюль можна будзе непрыкметна сысьці, нікога не патурбаваўшы», — шапнуў яму кок. У хату сапраўды ўжо набілася поўна народу, мужчын і кабет, якія стаялі, шчыльна прыціснўшыся адно да аднаго. Рабілася горача. Да алтара падыйшлі й з абодвух бакоў яго сталі музыкі. Танцоры й танцоркі падзяліліся на два канцэнтрычныя колы, мужчыны — ўсярэдзіне. На цэнтар выйшаў нэгар-правадыр у чырвоным жакеце. Д'Ара абаперся сьпінаю аб сьцяну й скрыжаваў на грудзях рукі.

Але раптам, расьсекшы падвойны танок, нэгар-правадыр падыйшоў да іх і з сур'ёзным выглядам прамовіў некалькі словаў коку. «Не скрыжоўвай рук, капітане, — сказаў кок. — Ты заціскаеш сябе й не даеш духу сьвятога спусьціцца». Д'Ара паслухмяна апусьціў рукі.

Ён стаяў, ца-ранейшаму прыхінуўшыся сьпінаю да сьцяны, і яму чамусьці здавалася, што яго доўгія, цяжкія рукі й ногі, яго бліскучы ад поту твар надаюць і яму таксама выгляд нейкага небясьпечнага дзікунскага бога. Высокі нэгар паглядзеў на яго й, задаволіўшыся, вярнуўся на месца. Зычным голасам ён тут жа засьпяваў першыя ноты з мэлёдыі, якую ўсе адразу падхапілі пад акампанэмэнт бубнаў. У тую ж хвіліну колы зрушылі зь месца й пачалі кружыцца ў розных напрамках у своеасаблівым грузным, з прытопванем, танцы, які болей нагадваў звычайнае таптаньне, толькі крыху падкрэсьленае лёгкім пагойдваньнем клубоў.

Сьпёка павялічвалася. Але паўзы пакрысе меншалі, перапынкі рабіліся ўсё радзей, і танец паскараўся. Не запавольваючы агульнага рытму й не перастаючы танцаваць, высокі нэгар ізноў расьсек колы й падыйшоў да алтара. Узяўшы шклянку з вадой і запаленую сьвечку, ён вярнуўся на цэнтар і паставіў сьвечку пасярэдзіне хаты. Потым двума канцэнтрычнымі коламі наліў валу вакол сьвечкі й, выпрастаўшыся, узьняў да столі шалёныя вочы. Напружыўшыся усім целам, ён нерухома чакаў. «Зараз прыйдзе сьв. Юрый. Глядзі, глядзі», — выдыхнуў кок, таропячы вочы.

І праўда, танцоры былі цяпер як у трансе. Але на адных нібыта напала здранцьвеньне, іх сьпіны й ногі напружыліся, вочы зьнерухомелі й невыразна ўтаропіліся ў адну кропку. Другія наадварот паскорылі рытм і, выгінаючыся як у курчы, пачалі выкрыкваць нешта незразумелае. Крыкі паступова мацнелі, і, калі зьліліся ў суцэльны агульны вой, правадыр, па-ранейшаму гледзячы ўгору, таксама выпусьціў доўгі лямант, які напрыканцы выдыху завяршыўся нейкай ледзь з'артыкуляванаю фразай, дзе паўтараліся адны й тыя ж словы. «Чуеш,— шапнуў кок,— ён кажа, што ў ім — поле бітвы, якую вядзе бог». Д'Ара быў уражаны пераменай ягонага голасу, ён зірнуў на кока і ўбачыў, што той, нахіліўшыся ўсім целам наперад і сьціснуўшы кулакі, нерухома глядзіць у прастору й, не сыходзячы зь месца, перабірае нагамі, паўтараючы рухі астатніх. Тады ён заўважыў, што й сам пэўны час ужо танчыць усёй сваей масай, праўда, не перастаўляючы ног.

Але раптам бубны як ашалелі, і велічэзны чырвоны нэгар-д'ябал нібыта зьляцеў з ланцуга. З агнём у вачах, ён разьятрана закруціў рукамі й нагамі, і згінаючыся ў каленях, падскокваў і ападаў па чарзе на кожную нагу, увесь час паскараючы тэмп — да таго, што, здавалася, зараз рассыплецца на кавалкі. Але нечаспадзявана, у самым разгары танцу, пасярод грукату бубнаў, ён зьнерухомеў і з гордым, страшным выглядам агледзеў прысутных. У тое ж імгненьне зь цёмнага кута выбег танцор і стаў перад ім на калені, падаючы кароткую шаблю. Чорны асілак схапіў шаблю й, ня зводзячы вачэй з тых, хто танчыў вакол, шалёна закруціў ёю над галавой. І тут д'Ара ўбачыў, што кок ужо танчыць у агульным натоўпе. Калі ён там апынуўся, інжэнэр не заўважыў.

У няпэўным чарнаватым сьвятле з долу падымаўся задушлівы пыл, ён яшчэ болей згушчаў паветра, якое ліпла да скуры. Д'Ара адчуваў, як пакрысе на яго навальваецца стома; дыхаць было ўсё цяжэй. Ён нават не заўважыў, адкуль у танцораў узьніклі вялізныя цыгары, якія цяпер усе курылі, не перапыняючы танцу, хаціну напаўняў дзіўны, крыху п'янлівы водар. Ён убачыў, як міма ў танцы праплывае Кок, таксама зацягваючыся цыгарай. «Не куры»,— крыкнуў яму д'Ара. Кок нешта буркнуў і, па-ранейшаму рытмічна пераступаючы, паплыў далей. Няцямнымі, як у баксёра ў накдаўне, вачыма ён глядзеў на слуп пасярэдзіне хаты, і па яго патыліцы прабягала дробная, нястрымная дрыготка. А побач, круцячы ўлева і управа жывёльным тварам, безупынку гаўкала дзябёлая мурынка. Але ў самым жудасным трансе былі маладыя нэгрыцянкі: яны стаялі, нібыта ўросшы нагамі ў зямлю, і ўсё іх цела, ад галавы да пят, скаланалася ва ўсё болей жудасных курчах, якія мацнелі, падымаючыся да плячэй. Тады іх галовы трэсьліся, ападаючы назад і наперад, літаральна як адарваныя ад абезгалоўленага цела. І ў гэтую ж хвіліну ўсе завылі бясколерным калектыўным крыкам, на адной ноце, нямаведама калі пасьпяваючы ўдыхаць, нібыта іх целы ператварыліся ў суцэльны клубок мышцаў і нэрваў, нібыта гэты доўгі зьнясільвальны выдых абудзіў у кожным голас нейкай істоты, якая раней увесь час спала. І хоць крык яшчэ не аціх, кабеты, адна за адной, пачалі падаць долу. Чорны правадыр укленчваў перад кожнай і хуткім канвульсійным рухам вялікіх чорных мускулістых рук сьціскаў ім скроні. Тады яны ўставалі й, пагойдваючыся, зноў далучаліся



да агульнага танцу, пачынаючы зноў крычаць, спачатку ціха, потым усё гучней і хутчэй, Пакульня падалі зноў, і потым ізноў падымаліся, каб гэта паўтаралася яшчэ й яшчэ — пакуль усеагульны крык не пачаў слабець, перайначвацца, і нарэшце распаўся на нешта падобнае да хрыплага клекатаньня, якое скаланала іх, як жахлівая ікаўка. Д'Ара быў ушчэнт зьнясілены, яго мышцы здранцьвелі ад доўгага нерухомага танцу, ён задыхаўся ад уласнай немасьці й раптам адчуў, што пачынае хістацца. Праз сьлякоту, пыл, цыгарны куродым і пах чалавечых целаў дыхаць было зусім немагчыма. Ён пашукаў вачыма кока, але той некуды зьнік. Тады д'Ара сасьлізнуў сьпінаю ўздоўж сьцяны й прысеў на кукішкі, ледзь стрымліваючыся, каб не званітаваць.

Калі ён расплюшчыў вочы, паветра было яшчэ такое ж задушлівае, але шум перастаў. Толькі бубны грымелі несупынным рытмаваным басам, пад які ва ўсіх кутах хаты таўкліся групкі ў белых строях. А ў цэнтры, адкуль ужо зьніклі шклянка й сьвечка, паволі, нібыта ў гіпнозе, танцавалі некалькі маладых нэгрыцянак; яны рухаліся марудна — так, што ўвесь час здавалася, вось-вось адстануць ад такту. З заплюшчанымі вачыма, але выпрастаўшы плечы й галаву, яны легка пагойдваліся на дыбачках, узад і ўперад, амаль на адным месцы. У дзьвюх кабет, зь дзябёлымі формамі, твары былі схаваныя пад полагай з пальмавага пакульля. Паміж імі была яшчэ адна — высокая зграбная нэгрыцянка, якую д'Ара раптам пазнаў: гэта была дачка гаспадара той хаты, у якой ён нядаўна быў госьцем. На дзяўчыне быў адмысловы гарнітур: зялёная сукенка й аздоблены мушкецёрскімі пёрамі, з загнутым сьпераду бры-

лём капялюшык паляўнічай Дыяны з празрыстай блакітнай тканіны; у руцэ яна трымала жоўта-зялёны лук са стралой, на якую была нанізаная маленькая рознакаляровая птушка. Прыгожая, крыху закінутая назад галоўка дзяўчыны плаўна пагойдвалася над яе далікатным целам, і яе твар прамяніўся роўнаю, бясклапотнаю мэлянхоліяй. У тыя ймгненьні, калі музыка заціхала, яна раптам пахіствалася ў сьне, і толькі адноўлены дробат бубнаў падтрымліваў яе сваёю нябачнай рукою; тады яна зноў пачынала выпісваць арабэскі, але музыка спынялася зноў, і яна зноў пачынала хістацца, ледзь утрымліваючы раўнавагу, і тады зь яе грудзей вырываўся дзіўны, пранізьлівы й адначасна напеўны птушыны крык.

Зачараваны гэтым запаволеным танцам, д’Ара ня зводзіў з чорнай Дыяны вачэй, але раптам перад ім аднекуль выплыў кок. Гладкія рысы ягонага твару ўжо цалкам перакрываліся. Лагоднасьць зьнікла зь яго вачэй, і цяпер у іх сьвяцілася толькі нейкая невядомая прагнасьць.

Без былое прыязнасьці, нібыта зьвяртаючыся да незнаёмца, ён сказаў:

— Ужо позна, капітане. Яны будуць танцаваць усю ноч, але яны ня хочуць, каб ты яшчэ заставаўся.

Зь цяжкаю галавой, д’Ара ўстаў і рушыў за кокам, які ўздоўж сьцяны скіраваў да выхаду. На парозе кок адступіў і, прытрымліваючы бамбукавыя дзьверы, прапусьціў інжэнэра наперад. Выйшаўшы, той азірнуўся, але кок застаўся на месцы.

— Хадзем. Табе ўжо хутка трэ будзе несьці камень.

— Я застаюся,— упарта прамовіў кок.

— А як жа тваё абяцаньне?



Не адказаўшы, кок пачаў паволі зачыняць дзьверы, але д’Ара прытрымаў іх рукой. Пэўны момант яны змагаліся так, але потым д’Ара паціснуў плячыма й саступіў. Павярнуўшыся, ён рушыў прэч.

Ноч поўнілі сьвежыя, духмяныя пахі. Па-над лесам у паўднёвым небе слаба паблісквалі прыглушаныя нябачнай смугою зоркі. Паветра было сырое й цяжкае. Але пасьля атмасфэры ў хаце й яно здавалася незвычайна сьвежым. Спатыкаючыся, як п’яны на калдобістай дарозе, д’Ара пачаў падымацца па коўзкім адхоне да першых хат. Зусім блізка ціха шапацеў лес. Пошум ракі мацнеў, увесь кантынэнт раптам ажываў уначы, і д’Ара разьбірала млосьць. Яму быццам хацелася вывярнуць зь сябе ўсю гэтую краіну, разам з журбою яе неабсяжных прастораў, цьмяным сьвятлом лясоў і начным плёхкатам вялікіх бязьлюдных рэк. Гэга быў занадта вялікі край, у ім зьмяшаліся розная кроў і розныя поры года, сам час абарочваўся тут у вадкую кашу. Жыць тут было магчыма толькі ля самай зямлі, і каб да такога жыцьця далучыцца, трэба было легчы й гадамі, доўгімі гадамі, спаць, у гэтай глеістай гразі ці перасохлым пыле. Там у Эўропе, былі сорам і злосьць. Тут — выгнаньне або самота ў атачэньні млявых, дрыгатлівых шаленцаў, што танцавалі, каб урэшце памерці. Але праз насычаную расьлінными пахамі сырасьць ночы яму ўсё яшчэ чуўся дзіўны крык параненай птушкі, што зьлятаў з вуснаў заснулае прыгажуні.

Калі д’Ара, з галавою, распалавіненай страшным болем, расплюшчыў вочы пасьля кепскага сну, сырая сьпёка ўжо душыла горад і нерухомы лес. Чагосьці чакаючы, ён пастаяў на крытым ган-

ку шпіталя й пазіраючы на гадзіньнік, які спыніўся, пастараўся ўразумець, які цяпер час. Яго зьдзіўлялі яркі дзень на двары й гэтая цішыня, што ахутвала горад. Амаль чыстае блакітнае неба навісла над цьмянымі дахамі бліжэйшых дамкоў. На доме насупраць, скаваныя сьпёкай спалі некалькі тутэйшых, брудна-жоўтых грыфаў. Раптам адзін схамянуўся, разявіў дзюбу, усім выглядам паказваючы, што зьбіраецца ўзьляцець, двойчы ляпнуў пыльнымі крыламі па целе, падняўся на некалькі сантымэтраў над дахам і, зноў апаўшы, амаль адразу заснуў.

Інжэнэр рушыў у горад. На цэнтральным пляцы, як і на вуліцах, па якіх ён прайшоў, было бязьлюдна. Удалечыні й па берагах ракі над лесам плыў нізкі туман. Сьпёка ціснула ў самую макаўку і д’Ара пачаў шукаць зацемку, дзе можна было б схавацца. Тады пад стрэшкай аднаго дому ён заўважыў невысокага чалавечка, які рабіў яму знакі. Падыйшоўшы бліжэй, ён пазнаў Сакрата.

— Што, пане д’Ара, спадабалася цырымонія?

Д’Ара адказаў, што ў хаце было надта горача, і яму больш дадушы былі ноч і вольнае неба.

— Праўда, — сказаў Сакрат, - у цябе там толькі імша. Ніхто не танцуе.

Ён паціраў рукі, скакаў на адной назе й круціўся ваўчком, задыхаючыся ад сьмеху.

— Немагчымыя, яны ўсе немагчымыя.

Потым ён зноў зь цікаўнасьцю зірнуў на д’Ара:

— А ты йдзеш на імшу?

— Не.

— Тады куды?

— Нікуды. Ня ведаю.

Сакрат зноў засьмяяўся.

— Немагчыма! Пан — без царквы, безь нічога.



Д’Ара засьмяяўся таксама.

— Гэта праўда. Сам бачыш, не знайшоў я сабе месца. Таму й зьехаў.

— Заставайся ў нас, пане д’Ара, ты мне падабаесься.

— Я можа й хацеў бы, Сакраце, але ж ня ўмею танцаваць.

Іхні сьмех зьвінеў у цішыні бязьлюднага гораду.

— А! — раптам сказаў Сакрат. — Забыў. Цябе хоча бачыць мэр. Ён сьнедае ў клюбе.

І безь ніякага папярэджаньня ён рушыў па вуліцы, што вяла да шпіталя.

— Ты куды?— крыкнуў яму д’Ара.

Сакрат гучна храпануў:

— Спаць. Хутка шэсьце.

І пахропваючы, амаль подбегам рушыў далей.

Мэр проста хацеў абвясьціць інжэнэру пра выдзеленае яму ганаровае месца для прагляду працэсіі. Менавіта гэта ён і тлумачыў яму за сьнеданьнем, прапанаваўшы падзяліць выдатную страву зь мяса і рысу, якая здольная была б цудадзейным чынам прымусіць рухацца й паралітыка. Спачатку, як меркавалася, усе зьбяруцца на бальконе ў доме судзьдзі — гэта насупраць касьцёла — і адтуль будуць назіраць за выхадам шэсьця. Потым трэба перайсьці ў мэрыю, на галоўную вуліцу, што вядзе да касьцельнае плошчы, бо менавіта па ёй пакаяльнікі будуць вяртацца. Кампанію д’Ара складуць судзьдзя й начальнік паліцыі, бо сам мэр мусіць прысутнічаць на цырымоніі. Начальнік паліцыі, дарэчы, ужо быў у клюбе й зь нястомнай усьмешкаю ўвесь час круціўся вакол д’Ара, засыпаючы яго яўна прыязнымі тырадамі, у якіх інжэнэр, праўду кажучы, не разумеў ні слова. Калі ж д’Ара нарэшце скіраваў да выхаду, начальнік па-

ліцыі кінуўся наперад, адчыніў перад ім дзьверы й трымаў іх, пакуль той ня выйшаў на вуліцу.

Пад жорсткім сонцам яны ўдвух рушылі да дому судзьдзі па ўсё яшчэ пустым горадзе. Навакольную цішыню будзіў толькі гук іхніх крокаў. Але раптам на суседняй вуліцы выбухнула пэтарда, і адразу над усімі дахамі, як цяжкае леташняе лісьце, узьвіліся грыфы з абскубенымі шыямі. У тое ж імгненьне з усіх бакоў заляскалі яшчэ дзясяткі пэтардаў, дзьверы адчыніліся, і з дамоў паваліў народ, запаўняючы вузкія вуліцы.

Судзьдзя, упусьціўшы гасьцей, адразу заявіў, што для яго вялікі гонар прымаць д'Ара ў сваім нікчэмным доме, і павёў іх на другі паверх па прыгожай барочнай лесьвіцы, фарбаванай блакітнаю глінкаю. Калі яны падняліся на верхнюю пляцоўку, некалькі дзьвярэй адчынілася, з-за іх высунуліся смуглявыя дзіцячыя галоўкі, якія адразу схаваліся, і з-за дзьвярэй пачуўся прыглушаны сьмех. Прыгожая ў архітэктурным пляне ганаровая зала была абстаўленая толькі рэдкаю плеценай мэбляй і вялікімі птушынымі клеткамі, зь якіх ляцеў аглушальны пошчак. Балькон, на якім яны ўладкаваліся, выходзіў на невялікую касьцельную плошчу, якую пачынаў ужо запаўняць натоўп. Людзі стаялі нерухома й на дзіва ціха пад пякельнаю сьпёкай, якая амаль бачнымі струмянямі сьцякала зь неба.

Вакол насіліся толькі дзеці, раз-пораз спыняючыся й запальваючы пэтарды, якія грукаталі ўжо адна за адной. З балькону касьцёл з тынкаванымі сьценамі, невялікім, фарбаваным блакітнаю фарбай парталам на тузін прыступак і дзьвюма блакітна-залачонымі вежкамі падаваўся меншым.



Раптам недзе ў сярэдзіне касьцёла магутна зароў арган. Увесь натоўп адразу павярнуўся да парталу тварам і расступіўся да краёў плошчы. Мужчыны паздымалі шапкі, кабеты ўкленчылі, а далёкі арган яшчэ доўга выводзіў мэлёдыі, падобныя нечым да маршаў. Потым з-над лесу пачуўся нейкі дзіўны гуд вялікага насякомага, і з-за дрэваў вынырнуў маленечкі самалёцік з празрыстымі крылцамі й крохкім фюзэляжыкам. Ён зусім не стасаваўся з навакольным сьветам, узрост якога вызначыць было немагчыма. Трошкі зьнізіўшыся, самалёт скіраваў да плошчы, зь ляскатам вялікай бразготкі праляцеў над задранымі да яго галовамі й потым, павярнуўшы, пачаў аддаляцца да вусьця.

Тым часам у цені каля касьцёла пачалася нейкая валтузьня, якая перацягнула ўвагу. Арган ужо змоўк, і цяпер яго замянілі трубы й бубны, схаваныя недзе пад дашкам парталу. Адзін за адным з касьцёла пачалі выходзіць пакаяльнікі ў чорных стыхарах, яны ставалі шэрагамі на цьвінтары і потым разам рушылі ўніз па прыступках. За імі ўзьніклі пакаяльнікі ў белым з чырвона-блакітнымі пратэсамі, потым — невялічкая група пераапранутых анёлкамі хлопчыкаў з брацтва дзяцей сьв. Марыі — з сур'ёзнымі смуглявымі тварыкамі, — і нарэшце над галовамі натоўпу, які запаўняў цьвінтарныя сходы, пагойдваючыся, зь цярновым вянком на скрываўленай галаве й трысьняговай галінкай у руках, паплыла фігурка Хрыста, якую на рознакаляровых насілах несьлі потныя знакамітасьці гораду, апранутыя ў строгія цёмныя гарнітуры.

Калі насілы спусьціліся зь цьвінтара, рух трошкі застапарыўся й пакаяльнікі пастараліся

навесьці ў сваіх шэрагах хоць нейкае падабенства парадку. У гэтую хвіліну д'Ара ўбачыў кока: той якраз толькі што ўзьнік на цьвінтары. Кок быў голы да пояса, і на яго барадатай галаве, проста на голым чэрапе, абароненым толькі коркаваю пракладкай, ляжала вялізная прастакутная глыбіна. Цьвёрдай хадой ён спусьціўся па касьцельных сходах, утрымліваючы камень у дакладнай раўнавазе абручом сваіх кароткіх мускулістых рук. Калі ён параўняўся з насіламі, працэсія скаланулася й рушыла. І тады з-пад дашка над парталам ўзьніклі музыкі ў яркіх жакетах, якія, высільваючыся, на ўсе шчокі дзьмулі ў свае абвітыя рознакаляровымі стужкамі трубы. Пад паскораны тупат ног пакаяльнікі пайшлі хутчэй, і іх шэрагі пацяклі па адной з вуліц, што выходзілі на касьцельную плошчу. Неўзабаве за імі зьніклі й насілы, і цяпер відаць было толькі кока й апошніх музыкаў. Нарэшце, пад грукат пэтардаў натоўп таксама скрануўся зь месца, і калі яго апошнія групкі пакідалі ўжо плошчу, над ёй са страшным шумам прапэлераў зноў узьнік самалёцік. Д'Ара глядзеў толькі на кока, які паволі аддаляўся па вуліцы, і раптам яму здалося, што плечы ў яго пачынаюць угінацца. Але добра разгледзець з такой адлегласьці было немагчыма.

Па пустэльных вуліцах з зачыненымі крамамі й глуха пазамыканымі дзьвярмі д'Ара, судзьдзя й начальнік паліцыі йшлі да мэрыі. Фанфарныя гукі й ляскат пэтардаў пакрысе аддаляліся, і горадам зноў завалодвала цішыня, а разам зь ёю на свае заўсёдныя месца на дахах вярталіся грыфы. Мэрыя стаяла на вузкай, але доўгай вуліцы, якая зьвязвала ўскраінныя кварталы з касьцельнаю плошчай. Цяпер на ёй было абсалютна пуста. З



балькону мэрыі, улева і управа, колькі хапала вачэй, віднеўся толькі голы асфальт з рэдкімі лужынамі, пакінутымі нядаўнім дажджом. Сонца ўжо крыху апусьцілася й цяпер расьпякала сьляпыя фасады дамоў на другім баку вуліцы.

Яны чакалі доўга, так доўга, што д'Ара, ад бясконцага глядзеньня на сонечныя водбліскі на працілеглым муры, пачаў адчуваць, як да яго зноў вяртаюцца галавакружэньне й стома. Бязьлюдная вуліца з пустымі дамамі аднолькава й вабіла, і выклікала ў яго млосьць. Яму зноў хацелася ўцячы з гэтай краіны, але ў тую ж хвіліну перад яго вачыма ўзьнікла тая вялізная глыбіна, і яму вельмі хацелася, каб гэтаму выпрабаваньню нарэшце настаў канец. Ён хацеў быў ужо прапанаваць спусьціцца на вуліцу й пайсьці ў каго-небудзь спытаць, што, можа, здарылася, але ў гэтую хвіліну над касьцёлам на ўсю моц зазванілі званы. Аднолькава зьлева, на дальнім канцы вуліцы, усчаўся беспарадкавы шум, і прастору паміж дамамі захлынуў бурлівы натоўп. Здалёк было відаць, як пакаяльнікі й паломнікі, зьбіўшыся ў адну кучу й абляпіўшы з усіх бакоў насілы, з радасным віскам і безупынным ляскатаньнем пэтардаў, набліжаюцца па вузкай вуліцы. У некалькі сэкундаў яны запоўнілі яе да краёў і хваляю пакацілі да мэрыі ў неапісальным вэрхале, у якім перамяшаліся самыя розныя ўзросты й размаітыя колеры скуры й адзеньня, што ўтваралі цяпер адну стракатую масу, ашчэраную безьліччу разяўленых у крыку ратоў, шырока расплюшчаных і вырачаных вачэй і дзідамі сьвечак, чыё полымя раставала ў пякучым мроіве дня. Але калі яны параўняліся з мэрыяй і натоўп пад бальконам згусьціўся настоль-

кі, што, здавалася, пачаў ужо лезьці на сьцены, д'Ара ўбачыў, што кока ў ім няма.

У адзіным парываньні, нічога не патлумачыўшы й не перапрасіўшы, ён кінуўся праз залу, зьляцеў па прыступках і апынуўся на вуліцы ў грукаце званоў і пэтардаў. Тут ён адразу быў вымушаны ўступіць у барацьбу зь вясёлым, бурлівым натоўпам, у якім пераблыталіся паломнікі са сьвечкамі ў руках і зацюканыя, заштурханыя з усіх бакоў пакаяльнікі. Тым ня менш ён неадольна й з такім напорам, усёй сваёю вагой пракладаў сабе шлях у гэтым людзкім прыліве, што калі раптам, на канцы вуліцы, апынуўся на волі, ззаду натоўпу, дык ажно захістаўся й ледзь ня ўпаў. Прытуліўшыся да пякучай сьцяны, ён крыху пачакаў, каб перавесьці дыханьне. І ў гэтую ж хвіліну на вуліцу выверну гурт мужчын. Першыя йшлі, павярнуўшыся задам, і д'Ара ўбачыў, што ўсе яны абступаюць кока.

Выгляд у таго быў яўна зморany. Ён спыняўся, потым, згорбіўшыся пад цяжарам вялізнага каменя, дробным трушком недалужнага грузчыка або рыкшы, пляскаючы па зямлі ступаком, трошкі прабягаў наперад, і калі прыпыняўся зноў, пакаяльнікі ў запэцканых пылам і расплаўленым воскам стыхарах пачыналі яго падбадзёрваць. Зьлева ад кока моўчкі то бег, то йшоў яго брат. Д'Ара аддзяляла ад іх зусім малая адлегласьць, але яму падалося, што яны, каб прайсьці яе, патрацілі цэлую вечнасьць. Нарэшце, амаль параўняўшыся зь ім, кок зноўку спыніўся й абвёў вакол згаслым позіркам. Ён ўбачыў д'Ара і, хоць, здаецца, яго не пазнаў, раптам увесь зьнерухомеў, павярнуўшыся да яго тварам. Яго пашарэлае аблічча заліваў ліпкі й брудны пот, у барадзе віселі пацёкі сьліны, і. вусны склейвала бурая, ссохлая пена. Ён пастараўся ўсьміхнуцца. Але ўсё яго цела дрыжала, прыдушанае пакутлівай ношай, і толькі ў плячах мускулы, нібы ў курчы, зьвіліся ў нерухомы клубок. Брат, пазнаўшы д'Ара, сказаў: «Ен ужо аднойчы падаў». І ў гэтую хвіліну нямаведама адкуль узяўся Сакрат, які зашаптаў інжэнэру на вуха: «Надта танцаваў, пане д'Ара, усю ноч. Вельмі стомлены».

Няроўным трушком кок зрабіў яшчэ адну кароткую перабежку, але не як той, хто хоча прасунуцца трошкі наперад, а нібыта ўцякаючы ад цяжару, які душыў яго, нібыта спадзеючыся ў руху знайсьці палёгку. Сам ня ведаючы як, д'Ара апынуўся справа ад кока. Ён паклаў яму на сьпіну руку, якая зрабілася раптам бязважкай, і пайшоў побач, дробна й хутка перастаўляючы свае цяжкія ногі. На другім канцы вуліцы насілы з Хрыстом ужо зьніклі, і натоўп, які запоўніў, відаць, усю касьцельную плошчу, здаецца, болей не рухаўся. Кок, якога зьлева й справа супраўджалі брат і д'Ара, яшчэ некалькі сэкунд трухаў наперад. Неўзабаве яго аддзяляла ўсяго пара дзясяткаў мэтраў ад мэрыі, каля якой, чакаючы, калі ён пройдзе, стаяла купка цікаўных. Але не дайшоўшы, ён зноў спыніўся. Рука ў д'Ара пацяжэла. «Давай, кок, — сказаў ён, — яшчэ зусім трошкі». Але цела ў кока дрыжала, з рота зноў пацякла сьліна, і з усіх пораў струмянямі ліў пот. Ён уцягнуў паветра, жадаючы ўздыхнуць як мага глыбей, і спыніўся на месцы. Потым рушыў ізноў, ступіў крокі тры, захістаўся. І раптам камень сасьлізнуў яму на плячо, садраў скуру й паляцеў долу, наперад, а кок, страціўшы раўнавагу, паваліўся набок. Тыя, што йшлі сьпераду, падбадзёр-

ваючы яго, з крыкам адскочылі, і адзін тут жа, хуценька, падняў коркавую пракладку, а астатнія кінуліся да каменя, каб ізноў ускласьці яго на кока.

Схіліўшыся да яго, д'Ара рукою абцер яму запэцканае ў крыві й пыле плячо, але небарака ляжаў нерухома, уторкнуўшыся тварам у зямлю, і задыхаўся. Ён ужо нічога ня чуў, не варушыўся. І толькі прагна разяўляў рот пры кожным уздыху, нібыта гэты ўздых быў апошні. Тады д'Ара абхапіў яго рукамі за торс і адным рыўком, легка, падняў, быццам гэга было дзіцё. Ён прыціснуў яго да сябе, не даючы зноў упасьці, і, схіліўшыся з вышыні свайго немалога росту, нешта казаў яму ў твар, нібыта жадаючы ўдыхнуць у яго сілу. І нарэшце кок, сьцякаючы крывёй, перапэцканы гразьзю, адарваўся ад інжэнэра й разгублена пачаў азірацца. Хістаючыся, ён ізноў рушыў да каменя, які астатнія ўжо крыху прыўзьнялі. Але раптам спыніўся; ён глядзеў на камень пустымі вачыма й трос галавой. Потым бязвольна апусьціў уздоўж цела рукі й зірнуў на д'Ара. Па яго змардаваным твары ціха цяклі вялікія сьлёзы. Ён нешта хацеў сказаць, ён казаў, але ў яго вуснах ледзьве складаліся рэдкія словы. «Я паабяцаў»,— сказаў ён. І потым зноўку прамовіў: «Ах, капітан! Ах! Капітан!» Ягоны голас патануў у сьлязах. Тады з-за сьпіны ў яго ўзьнік брат, ён моцна абняў кока, і той, плачучы, пераможаны, прытуліўся да брата, закінуўшы галаў.

Д'Ара глядзеў на яго й не знаходзіў патрэбных словаў. Але раптам ён зірнуў на натоўп, які зноўку азваўся крыкам на другім канцы вуліцы. Тады, нечакана, ён вырваў коркавую пракладку з рук, якія яе трымалі, падышоў да каменя й, знакам паказаўшы астатнім яго прыўзьняць, амаль без намаганьня ўсклаў глыбіну на сваю галаву. Крыху згорбіўшыся пад яе цяжарам, угнуўшы плечы й крыху сапучы, ён стаяў, пазіраючы сабе пад ногі й чуючы кокавы ўсхліпы. Потым ён зрушыў зь месца, неаслабнай, магутнай ступою прайшоў усю адлегласьць, што адзьдзяляла яго ад натоўпу, і рашуча ўрэзаўся ў яго заднія шэрагі, якія адразу расступіліся перад ім. Пад шалёны грукат званоў іляскат пэтардаў ён выйшаў на плошчу паміж двух жываплотаў людзей, якія нечакана аціхлі й глядзелі на яго са зьдзіўленьнем. Але ён не замаруджваў хады, упарта пасоўваючыся наперад, і натоўп разыходзіўся, адкрываючы яму шлях да касьцёла. Цяжкая ноша пачынала ўжо раструшчваць яму карак і галаву, але ён глядзеў увесь час на касьцёл і насілы зь фігурай Хрыста, які нібыта чакаў яго на цьвінтары. З кожным крокам ён набліжаўся да гэтай фігуры і ўжо мінуў сярэдзіну плошчы, калі раптам рэзка, сам ня ведаючы чаму, павярнуў ўлева й, пакінуўшы касьцёл убаку, рушыў у іншым напрамку, прымушаючы паломнікаў, штурхаючыся, зноў расступацца. Ён чуў як ззаду нехта бяжыць, бачыў, як наперадзе разяўляюцца ў крыку раты. Але ён не разумеў, што ўсе яны крычалі. І толькі адно партугальскае слова, якое паўтаралася з усіх бакоў, здалося яму вельмі знаёмым. У гэтую хвіліну перад ім раптам узьнік Сакрат, які спалохана закаціў вочы й, нешта хутка залапатаўшы, пачаў паказваць назад, на касьцёл, што застаўся ў яго за сьпінай. «Да касьцёла! Да касьцёла!» — менавіта гэга крычаў Сакрат разам з усім натоўпам. Але д'Ара не спыняў імклівай

хады. Урэшце Сакрат адступіў, камічна ускінуўшы рукі да неба, і натоуп паступова аціх. Калі неўзабаве д'Ара апынуўся на вуліцы, па якой аднойчы праходзіў з кокам і якая, як ён цяпер ведаў, вяла да барачных кварталаў, з плошчы да яго далятала толькі цьмянае водгульле.

Ён адчуваў цяпер, як ад пакутлівай каменнай ношы ў яго расколваецца чэрап, і яму даводзілася прыкладаць усю сілу сваіх вялікіх рук, каб хоць трошкі яе палегчыць. Але калі ён уступіў на першыя вуліцы, якія на сьлізкім адхоне спускаліся да ракі, яго плечы ўжо цалкам здранцьвелі. Ен спыніўся й прыслухаўся. Ён быў адзін. Тады, паправіўшы камень на коркавай пракладцы, ён асьцярожнай, але яшчэ цьвёрдай ступою рушыў далей да баракаў. Калі ён да іх дайшоў, дыханьне ў яго пачало ўжо рабіцца няроўным, рукі, падтрымліваючы камень, дрыжалі. Ён паскорыў хаду, дайшоў нарэшце да невялічкага пляцу, на якім стаяла кокава хата, пабег да яе, ударам нагі адчыніў дзьверы й адным рухам скінуў камень на сярэдзіну пакоя, дзе яшчэ чырванела цяпельца. І тады, разам выпрастаўшыся на увесь свой нечакана вялізны рост і поўнымі глыткамі ўдыхаючы гэты знаёмы яму беспрасьветны водар галечы й попелу, ён адчуў, як у ім падымаецца хваля цьмянай і задушлівай радасьці, якой ён не знаходзіў імя.

Калі ў барак вярнуліся яго жыхары, яны ўбачылі, што д'Ара, заплюшчыўшы вочы, стаіць у глыбіні пакоя, абапершыся сьпінаю аб сьцяну. Па цэнтры, там, дзе звычайна гарэў агонь, цяпер ляжаў камень, напалову прысыпаны попелам і зямлёю. Усе скупіліся на парозе, не ўваходзячы ўсярэдзіну, і моўчкі глядзелі на інжэнэра, нібыта чакаючы адказу на зададзенае імі пытаньне. Але ён маўчаў. Тады старэйшы брат падвёў кока да каменя, і той сеў на зямлю. Брат таксама сеў побач і знакам паклікаў астатніх. Спачатку да іх далучылася старая кабета, а потым і маладая — тая, якую ён бачыў на танцах апошняю ноччу. Але цяпер ніхто не глядзеў на д'Ара. Усе моўчкі сядзелі на кукішках вакол каменя. Скрозь цяжкое паветра да іх далятаў толькі пошум ракі. Стоячы ў прыцемку, д'Ара слухаў, заплюшчыўшы вочы, і водгульле вод напаўняла яго няўцямным шчасьцем. Ён стаяў, не расплюшчваючы павек, і радаваўся сваёй сіле. Ён ізноў радаваўся жыцьцю, якое брало новы пачатак. Старэйшы брат адсунуўся трошкі ад кока, крыху павярнуў да д'Ара галаву й, ня гледзячы на яго, паказаў на вольнае месца: «Сядай побач з намі».

*Пераклад з французкай Зьмітра Коласа*
*надрукаваны ў НН № 2 у 1994 годзе*

*Ойвін Бальстад*

## Наймацнейшы

Мінаў першы тыдзень пасьля дня «Д»*. Па ўсёй Нарвэгіі немцы разгарнулі стратэгічную папераджальную акцыю з узброенымі да зубоў патрулямі, ператрусамі ў аўтобусах і цягніках, начнымі аблавамі ў раёнах, дзе на іхную думку трэба было зрабіць калі не рашучы ўдар, то прынамсі надзвычайныя заходы.

Сярод ночы зазьвінеў тэлефон у Асб'ёрна Колінга. Ён саскочыў з ложка і рвануў слухаўку. «Да!» — гаркнуў ён злосна. У слухаўцы доўга маўчалі. А потым загучаў шэпт, хуткі й надтрэснуты: «Яны едуць да Крысьціяна. Бяжы да яго. Хутчэй! У цябе на гэта некалькі хвілінаў, я стаю ля шапіка на вакзале!»

Заспаны Асб'ёрн адказаў: «Што за жарты? Хто едзе і...?!» І тут ён раптам апрытомнеў і аслупянеў.

— Яны едуць, ты павінен..! Хто гэта? Гэта ты, Рольф? Рольф? Адкажы, я рызыкую галавой, стоячы тут.

— Гэта ня Рольф, — рэзка адказаў Асб'ёрн. — Вы памыліліся!

---

**Ойвін Бальстад (1905–1979)**

нарвэскі пісьменьнік і драматург. Аўтар раманаў «Залатыя ланцугі», «Чырвоная бэгонія», «Танго сьмерці», п'есаў «Патрыёты», «Тэстамэнт старога Вінцэла».



— Э, д'ябал, — прагучала горка й адчайна, а потым напорыста й энэргічна. — Калі Вы ведаеце Крысьціяна Дагэстада, то падскочце да яго і скажыце яму тое, што я сказаў, сьпяшайцеся, я тут стаю і не магу...»

Голас зьнік. Магчыма навальніца, што была за вокнамі, абарвала сувязь, а можа хто перапыніў яго. Асб'ёрн адчуваў: у дзьверы ўвайшоў нехта, хто не павінен быў пачуць размову. Ён, Асб'ёрн, атрымаў зьвестку і мусіў перадаць яе. Але той, хто тэлефанаваў, ня ведаў яго.

— Я ўсё чула, — прашаптала Элна.

Яна стаяла ля яго, спалатнелая, але з бляскам увачччу. Вочы зьзялі так дзіўна на невыразным, застылым твары. Зь немым страхам, але цьвёрда й рашуча, як падалося Асб'ёрну. На двары слаба шамацелі дрэвы. У Асб'ёрнавых вушах чуўся гул, які, здавалася, сыходзіў адусюль манатонным, магутным сьпевам, што мацнеў і мацнеў. Яго нібыта шпурлянула ў вір, які ўсё круціў і круціў яго, як цыклён, што налятае раптам на спакойны, мірны, зацішны куток і заграбае ўсё ў свае забойчыя абдымкі. І гэтае шамаценьне, сьпеў і гул віравалі ў ім, пакуль ён зрываў зь сябе піжаму, кідаў яе прэч і схапіўся за кашулю. Пальцы працавалі ліхаманкава й няспрытна. Ён выставіў правую нагу, і Элна насунула яму бот. Потым левую. ён ірвануў на сябе вопратку, якую яна трымала ў руках. Усё адбылося ў некалькі сэкундаў, пакуль цыклён віраваў у ім, і раптам ён здрыгануўся са страху. Ён ведаў толькі: Я мушу плысьці на той бераг затокі! Ведаў адно, а жаласны голас усярэдзіне ўсе шаптаў: «Калі цябе схопяць, то будуць катаваць адмыслова доўга, таму што ты напалоханы, перапуджаны, баязьлівы

мужык. Якраз ты адчуеш усё гэта, таму што тым людзям падабаецца такі матэрыял, як ты». — «Табе ня трэба плысьці», — крычаў у ім другі голас. — «Недарэка, — гукаў яшчэ адзін. — Ты не пасьпееш!» На ягоных вачах выступілі сьлёзы, ён шалеў. Элна стаяла й глядзела на гадзіньнік. Яна кінулася да дзьвярэй і закрычала: «Ты нікуды ня пойдзеш, Асб»ёрн, тудой ад горада дзесяць хвілін бягом, а ты ўжо змарнаваў шэсьць. Ужо позна! Я так не магу. Спачатку бацька, потым Райдар, а цяпер і ты!»

Ён ведаў гэта,але ўсё адно мусіў зрабіць нешта. Ён ударыў яе , і яна паляцела на падлогу, а ён ірвануўся ўніз па лесьвіцы, тузануў парадныя дзьверы і выляцеў на двор. Тады зноў вярнуўся голас: «Ты ўдарыў Элну, і ты ўклаў ва ўдар усю сілу? Чаму? Таму што ты шалееш, баязьлівец, а яна павінна пакутаваць!» Голас перасьледаваў яго. Асб'ёрн пераскочыў цераз сьцежку. Як Элна ўпала на лесьвіцу і ўдарылася галавой аб парог — гэта зусім ясна ўстала перад ім, калі ён улазіў у човен і выцягваў вёслы. Біў-біў-біў, — казалі ўключыны, пакуль ён веславаў, як утрапёны. Куды б ён ні зірнуў, паўсюль сустракаў вочы Элны. Бераг раптам вырас перад ім у цемры, як счарнелы начны цень. Не зважаючы ні на што, ён скіраваў човен на прыпаромак, і той наўскось урэзаўся ў пясок. Ён выскачыў з чоўна і сігануў уверх па адхоне, пачаў караскацца на ўзгорак. Потым бег па прыступках. Пераскочыў цераз плот і ўпаў тварам проста ў размоклае балота на сьцежцы. Сэрца грукала пад самым горлам, рот хапаў паветра. Густы салодкі прысмак крыві зьмяшаўся са сьлінай, што душыла яго. Ён спатыкнуўся, паляцеў кулём, папоўз на карачках і



так пераадолеў апошнія ўступы скалы. Дом стаяў перад ім. Дарога рэзка ішла ўніз на другім баку скалістага адхону да самага берагу і ўпіралася ў драўляны прыпаромак. Ён пераскочыў цераз агароджу і ў гэтае ж імгненьне пачуўся грукат машыны, якая ўзьяжджала ў садовую браму. На хвіліну ён здранцьвеў, потым ўголас прашаптаў сам сабе: «Элна!» Нахіліўся, схапіў камень з агароджы і шпурлянуў з усяе сілы ў вакно. Бразгат разьбітай шыбы яшчэ гучаў у ягонай галаве, а ён, замест таго, каб лезьці ўніз па скале, скочыў наперад, пасьлізнуўся, шпарка прабег наўскось праз мурог і пашыбаваў па сьлізкай дарозе. Крыкі за сьпінай зьліліся ў дзікі вой і ён з захапленьнем адчуваў, як кулі падалі пад ягонымі нагамі, утрапена сьмяяўся, а сьлёзы цяклі па ягоных шчаках. Ён ускочыў у калдобіну, пачуў хрыпаты аўтаматны трэск з дарогі і бзычэньне сотняў пчолаў перад самым тварам. Але кулі трапілі ў жвір. Ён выпрастаўся зноў. Шырокая пасма сьвятла дрыганулася ў паветры і сьлізнула па дарозе. Ён ясна бачыў перад сабой кожнае залітае сьвятлом дрэва. Цёмныя выявы мільгацелі перад вачыма, а дождж куляў глуха ляпаў па ствалах. Ён зноў выскачыў з калдобіны, пабег праз поле. Урэшце дасягнуў берага. Кожны крок даваўся цяжка, ногі наліліся сьвінцом. Усяго некалькі мэтраў засталося да прыпаромку! Але ён трапіў у сьвятло. Яму падалося, што ён зьнерухомеў, што час спыніўся. Ён ня чуў аўтаматных чэргаў, калі скочыў праз акрайчык прыпаромку і даў нырца з такім пляскам, што тыя наверсе зразумелі, у які бок ён падаўся...

Крысьціян Дагэстад пачуў, як бразнула й разьляцелася шыба. Ён скаціўся з канапы, пады-

шоў да вакна, адчыніў яго, вылез і аўтаматычна зачыніў вакно за сабою, прабег скачкамі па жвіры, пралез да жываплоту, ускараскаўся на агароджу ўпаў наўсплась жыватом, сьцішыўся іazьдзіўлена ўслухоўваўся ў страляніну ды ўглядаўся ў немцаў, што беглі па дарозе на прыпаромак. Тады ён падняўся і кінуўся праз агароджы і палі, перасек гасьцінец і ўскочыў у лес. Ногі ледзь дакраналіся да зямлі. Яго, здавалася, перапаўняла неверагодная сіла. Але далей на парослым узгорку ён паваліўся нібы ад удару ў сьпіну. Так, яго захапіла паніка. Лепш паляжаць, аддыхацца і падумаць. Праз дзьве гадзіны ён пралез у спальню. «Ня ведаю, — уявіць не магу, хто гэта мог быць. Пэўна ня Рольф, але той чалавек выратаваў мне жыцьцё!..Выратаваў, можа, ня толькі мяне, можа, усю нашую групу!»

Крысьціян задумаўся і раптам гукнуў: «Яны ледзь не паспелі! ! пачуў бразгат, а ён кінуўся наўцёкі. Ледзь не пасьпелі! Не! Ён ня вырвецца. Яны ж літаральна віселі на ім!»

А Асб’ёрн даў нырца і хутка вынырнуў сярод залітай сьвятлом затокі. Ён пачуў, як яны корпаюцца ў чоўне Крысьціяна Дагэстада, але ня могуць адчапіць яго, настолькі добра ён быў умацаваны. Ён нырaў і плыў, нырaў і плыў. Кулі далятaлі на долю сэкунды пазьней. Ён нырнуў каля каменнага абрыву і паплыў пад вадой... Човен быў лёгкі, як пёрка, калі ён цягнуў яго да вады. Шырокімі ўскідамі ён веславаў каля берага, што затуліў яго, а потым плынь панесла яго далей у затоку. Схаваны цемрай, ён перасеў у самы малы прышвартаваны човен, не забыўся забраць з сабой вёслы і засунуў іх у будыніну для чоўнаў. Ён заўважыў, што ўсе астатнія чоўны былі зь вёсламі. «Хутчэй», — прашаптала яна. Ён кінуўся за ёю. Вада плюхала ў ботах. Як у сьне ён шыбаваў усьлед за ёй празь лясок, каля маёнтка, — увесь час наўпрасткі. На тым беразе затокі цяжкая машына прадзёрлася па бездарожжу, і над воднай паверхняй, як ветрык, раптам пранёсься шырокі вахляр сьвятла, соваючыся ў кожную ўпадзіну, цiснуўшы кожны прыпаромак, прачэсваючы кожную пяду мора.

Яны ўсталі перад дзьвярмі поруба, потым улезьлі туды. — «Здымай вопратку! Хутчэй!» — сказала яна дрыготка. Ён сарваў зь сябе адзежу, тросься і шоргаў цела. «Хутчэй! — рэзка зашаптала яна, — уставай і апранай піжаму. На стале бэнзыфінiл. Вазьмі тры пігулкі і трасца зь імі!»

Ён выбраўся з поруба, а яна скруціла вопратку разам з ботамі. У спальні ён устаў і тупа ўтаропіўся перад сабой. Раптам апрытомнеў. Накінуў на сябе піжаму, схапіў пляшку зь лекамі са стала, узяў тры пігулкі, праглынуў і пачаў чакаць, што скажа голас, ці дасьць яму загад, што цяпер рабіць. Не, больш не пачулася нічога. Ён палез пад коўдру. Элна? У яго стукаталі зубы. Што здарылася? Ён ударыў яе? Пане Божа, як цяпер яму глядзець ёй у вочы? Як растлумачыць, што ўсё было са страху, зь перапуду.

Сэрца пачало працаваць больш напружана. Маленькі камяк засеў пад коўцікам, ён глынуў. Ледзь адчувальная, слабая дрыжака ахапіла цела. Лекі пачалі дзейнічаць. Толькі б яны адразу не прысунуліся ў ягоны дом. Яму трэба хаця б чвэрць гадзіны, каб гэтая заказа прыбадзёрыла яго. Увайшла Элна. Ён пачуў яе праз расчыненыя дзьверы, яна трымала пачатую пляшку «Боргера» і поўны ахапак адзежы, дала выпіць яму,

сама глынула трохі і званітавала. «Чаму ты не зачыніла дзьверы?» — спытаўся ён хрыпата. Яна не адказала, сьцягнула зь сябе піжаму і, стоячы перад ім голая, пачала раскідваць порткі, куртку і сподні па падлозе. Ён аўтаматычна паўтараў усё за Элнай. Яна залезла пад коўдру і абхапіла яго рукамі, каб сагрэць. Ён прыгарнуў яе немцы, гестапа, Крысьціян, затока, вада, човен, уцёкі адступілі ад яго. Вусны Элны прыціснуліся да ягоных, ён адчуў скурай, як трамцяць ейныя грудзі і яе нага сьлізнула па ім. Ён адключыўся. Усё было забытае. Вакол нібыта гойдаліся і закалыхвалі блокі, а сонца праціналa іх і сагравала, пякло да самых касьцей. Ён і не пачуў, як высадзілі дзьверы. Разгубленасьць і раздражненьне былі такімі натуральнымі, што тройка немцаў дружна зарагатала. Адзін зь іх з уедлівым сьмехам наблізіўся і адным махам сарваў зь іх коўдру. Элна закрычала, спрабую-чы затуліцца. Асб'ёрн брыдка вылаяўся. Лейтэнант шпарка ўвайшоў з рэвальвэрам напагатове. Ён зразумеў сытуацыю і даў высьпятка цікаўнаму, разьвярнуўся і, кідаючы прабачэньне, вывеў жаўнераў. Яны ляжалі і чулі, як тыя тупаюць па лесьвіцы, выходзяць з грукатам празь дзьверы. Потым аддаленыя крокі па жвіры. І далёка гучныя камандныя крыкі. Як стукаюць у зачыненыя брамы. Усё далей і далей.

Прытомнасьць паволі вярталася да іх. Асб'ёрн рэзка таргануўся празь яе і, выхінуўшыся з ложка, званітаваў на падлогу.

Яны амаль канчалі, калі ўварвалася тройка немцаў.

Яны не спрабавалі нараўняць згубленае. Яна прытулілася да ягонага пляча з закрытымі вачыма. Аголеныя целы ляжалі шчыльна самкнёныя.



Паступова супакоіліся сэрцы.

За сьнеданьнем яны, нібыта спахапіўшыся, узьнялі галовы і паглядзелі адзін на аднаго. Пранікліва. «Хто ты такі?» — пыталіся іхнія вочы. — Ці я сапраўды ведаю цябе?»

Потым яны прымірэнча ўсьміхнуліся. Да іх вярнуліся сілы. І раптам, задраўшы галовы, яны зарагаталі. Але здаровым, добрым сьмехам.

— Не, не, — казала яна, калі ён нёс яе наверх, — ты спозьнісься ў кантору.

— Гары яна ясным агнём, — сказаў ён задорыста, — ня можам мы з-за align лухты абрываць песеньку. Пачнем з прыпеву.

*Пераклад з нарвэскай Валер'я Буйвала*
*надрукаваны ў НН № 17/18 у 1997 годзе*

*Хорхэ Люіс Борхэс*

# Бабілёнская бібліятэка

By this art you may contemplate
the variation of the 23 letters...*
*The Anatomy of Melancholy,*
*part. 2,sect. II, mem. IV*

Сусьвет (які іншыя называюць Бібліятэкаю) складаецца зь неабмежаванае, а магчыма бязьмежнае, колькасьці шасьцікутных галерэяў з шырокімі вэнтыляцыйнымі шахтамі пасярэдзіне, абгароджанымі нізенькімі парэнчамі. Ад кожнага шасьцікутніка ўгору й надол адыходзяць незьлічоныя паверхі. Пабудова галерэяў нязьменная. Дваццаць даўгіх паліцаў, па пяць на кожнай сьцяне, запаўняюць усе сьцены апроч дзьвюх; вышыня галерэі, роўная вышыні паверху, крыху большая за рост звычайнага бібліятэкара. У вадной зь незанятых сьценаў ёсьць выхад у вузенькі калідорчык, што вядзе ў другую галерэю, ідэнтычную першай і ўсім астатнім. Зьлева й справа ад калідора ёсьць два маленечкія пакоі. У вадным можна стоячы спаць, у другім спраўляць фэкальныя патрэбы. Тут жа віюцца кручаныя сходы, якія ўздымаюцца ў вышыні й апускаюцца ў прорву да несканчонасьці. У калідорчыку вісіць люстэрка, якое паслухмяна падвойвае від. Гэтае люстэрка звычайна прыводзіць людзей да высновы, што Бібліятэка не бясконцая (калі б яна сапраўды была бясконцая, нашто б тады было такое ўяўнае падваеньне?); я ж схіляюся да думкі, што гэтыя шліфаваныя паверхні адбіваюць і абяцаюць бясконцае... Сьвятло паходзіць зь некалькіх сфэрычных пладоў, называных лямпамі. Іх дзьве ў кожным шасьцікутніку: з бакоў. Сьвятло, што зь іх ліецца, прыцьмёнае, няспыннае.

Як усе людзі Бібліятэкі, я падарожнічаў у маладосьці; я вандраваў у пошуках аднае кнігі, каталёга ўсіх каталёгаў; цяпер жа, калі вочы мае амаль ня здольныя разгледзець тое, што я пішу, я рыхтуюся памерці за колькі міляў ад шасьцікутніка, у якім я нарадзіўся. Калі я памру, знойдуцца літасьцівыя рукі, што перакінуць мяне праз парэнчы; магілаю мне будзе бяздоннае паветра; маё цела абрынецца павольна й распадзецца й распусьціцца ў ветры, што ўзьнікне ад майго бясконцага падзеньня. *Я* сьцьвярджаю, што Бібліятэка бязьмежная. Ідэалісты даводзяць, што шасьцікутныя залі — неабходная форма абсалютнае прасторы, або, прынамсі, нашага ўспрыманьня прасторы. Яны мяркуюць, што немагчыма сабе ўявіць трохкутную або пяцікутнуюзалю. (Містыкі сьцьвярджаюць, што ў экстазе ім уяўляецца круглы пакой і ў ім вялікая круглая кніга з суцэльным карэньчыкам, які ідзе кругам уздоўж сьцяны; але іхнае сьведчаньне ненадзейнае, а словы іх цьмяныя. Гэтаю цыклічнаю кнігаю ёсьць

---

**Хорхэ Люіс Борхес (1899 — 1986)**

аргентынскі паэт, пісьменьнік, літартурны крытык, філёзаф. У НН таксама друкаваліся творы «Дзевяць дантаўскіх эсэ» (пер. СС), «Таемны цуд» (пер. Х.Зар), «Ірляндыя» (пер. КЗ), «Ружа Парацэльса» (пер. SS), «There are more things» (пер. Сяргея Шупы).

* Гэткім чынам ты можаш сузіраць спалучэньні 23-х літараў...

Бог.) Пакуль жа мне дастаткова падаць клясычнае вызначэньне: *Бібліятэка — гэта сфэра, дакладны цэнтар якое знаходзіцца ў любым шасьцікутніку і паверхня якое недася-гальная.*

На кожнай сьцяне кожнага шасьцікутніка разьмешчана пяць паліцаў; кожная паліца зьмяшчае трыццаць дзьве кнігі аднолькавага фармату; у кожнай кнізе чатырыста дзесяць старонак; на кожнай старонцы сорак радкоў; у кожным радку па восемдзесят літараў чорнага колеру. Ёсьць літары таксама і на сьпінцы кожнае кнігі; гэтыя літары азначаюць і не прадказваюць таго, пра што гаворыцца на старонках. Ведаю, гэтая неадпаведнасьць часам здавалася загадкаваю. Перш чым выснаваць разгадку (адкрыцьцё якой, нягледзячы на яе трагічныя праекцыі, станецца, мабыць, найважнейшым фактам гісторыі) хачу прыгадаць некаторыя аксыёмы

Першая: Бібліятэка існуе *ab aeterno**. У гэтай ісьціне, непасрэднаю высновай якое ёсьць будучая вечнасьць сьвету, ніводзін здаровы розум ня можа сумнявацца. Чалавек, недасканалы бібліятэкар, можа быць творам выпадку або зламысных дэміургаў; толькі сусьвет, з прыгожа дастасаванымі паліцамі, таямнічымі тамамі, нястомнымі лесьвіцамі для падарожніка і прыбіральняю для ціхмянага бібліятэкара, можа быць творам нейкага бога. Каб адчуць адлегласьць паміж боскім і чалавечым, дастаткова параўнаць гэтыя нязграбныя дрыготкія знакі, якія мая няпэўная рука грымзоліць на вокладцы кнігі, з суладнымі літарамі ўсярэдзіне яе: дакладнымі, тонкімі, незвычайна чорнымі, непаўторна сымэтрычнымі.

* Вечна



Другая: *Колькасьць знакаў складае дваццаць пяць.*[1] Гэтае цьверджаньне дазволіла трыста гадоў таму сфармуляваць агульную тэорыю Бібліятэкі і знайсьці прыймальнае рашэньне праблемы, якую ня вырашыла б і найлепшая гіпотэза: бясформнай і бязладнай прыроды амаль усіх кніг. Адна, якую мой бацька бачыў у шасьцікутніку аддзелу 15-94, складалася зь літараў MCV, якія паўтараліся ў розным парадку ад першага да апошняга радка. Другая (вельмі часта чытаная ў гэтай зоне) уяўляе сабою проста лябірынт зь літараў, але на перадапошняй старонцы сказана *О час, твае піраміды*. Ведама, што на адзін разумны радок або адно слушнае паведамленьне прыпадаюць цэлыя мілі бязглуздае какафоніі, слоўнага сьмецьця й няскладнасьці. (Я ведаю зьдзічэлыя мясьціны, дзе бібліятэкары адкінулі прымхлівую й пустую звычку шукаць у кнігах сэнс, параўнаўшы яе з шуканьнем сэнсу ў снах або ў бязладных рысках на далоні... Яны пагаджаюцца, што вынаходнікі пісьма перанялі дваццаць пяць прыродных знакаў, але сьцьвярджаюць, што гэтыя знакі ўжываюцца выпадкова і што кнігі самі па сабе нічога ня значаць. Гэтае цьверджаньне, як пабачым, не пазбаўленае слушнасьці.) Доўгія часы лічылася, што гэтыя неспасьціжныя кнігі напісаныя нейкімі далёкімі зьніклымі мовамі. Гэта праўда, што даўнейшыя людзі, першыя бібліятэкары, карысталіся моваю даволі адрознай ад той, якою мы гаворым сёнь-

[1] У варыгінальным рукапісе няма ні лічбаў, ні вялікіх літараў. Пунктуацыя была абмежаваная да коскі й кропкі. Гэтыя два знакі, прагал паміж словамі й дваццаць дзьве літары альфабэту складаюць дваццаць пяць знакаў, пра якія згадвае невядомы. *(Заўвага рэд.)*

ня; праўда, што за колькі міляў справа адсюль гавораць іншым дыялектам, а за дзевяноста паверхаў угары мова зусім незразумелая. Усё гэта, паўтараю, праўда, але чатырыста дзесяць старонак нязьменнага MCV ня могуць адпавядаць ніякай мове, якая б дыялектная або нязразьвітая яна ні была. Некаторыя меркавалі, што кожная літара можа ўплываць на наступную і што значэньне MCV у трэйцім радку старонкі 71 не супадае з тым, якое магло б мець тое самае спалучэньне ў іншым мейсцы на іншай старонцы, але гэтае адвольнае цьверджаньне посьпеху ня мела. Іншыя думалі пра тайнапіс; агульна гэтае меркаваньне было прынятае, хоць і ня ў тым сэньсе, у якім яго сфармулявалі ягоныя аўтары.

Пяцьсот гадоў таму начальнік аднаго зь верхніх шасьцікутнікаў[2] знайшоў кнігу, незразумелую, як і ўсе астатнія, у якой было аднак амаль два аркушы аднолькавых радкоў. Ён паказаў сваю знаходку вандроўнаму расшыфравальніку, які сказаў яму, што радкі напісаныя па-партугальску; іншыя сказалі яму, што на ідыш. Не мінула стагодзьдзя, як мова была вызначаная: самаеда-літоўскі дыялект мовы гуарані з канчаткамі клясычнае арабскае. Быў расчытаны і зьмест: асновы камбінаторнага аналізу, ілюстраваныя прыкладамі варыяцыяў зь неабмежаваным паўтарэньнем. Гэтыя прыклады дазволілі аднаму геніяльнаму бібліятэкару адкрыць фундаментальны закон Бібліятэкі. Гэты мысьляр заўважыў, што ўсе кнігі, якія б розныя яны ні былі, складаюцца з тых самых элемэнтаў: прагалу, кропкі, коскі, дваццаці дзьвюх літараў альфабэту. Ён таксама падаў адзін факт, які пацьвярджаюць усе падарожнікі: *Ва ўсёй вялікай Бібліятэцы няма дзьвюх аднолькавых кніг.* З гэтых неаспрэчных пасылак я зрабіў выснову, што Бібліятэка ўсеабдымная і што яе паліцы зьмяшчаюць усе магчымыя спалучэньні дваццацёх зь лішкам знакаў (колькасьць, хоць і неверагодна вялікая, але не бязьмежная), або ўсё тое, што можа быць выказанае: на ўсіх мовах. Усё: пад-рабязная гісторыя будучыні, аўтабіяграфіі арханёлаў, праўдзівы каталёг Бібліятэкі, тысячы й тысячы фальшывых каталёгаў, доказы фальшывасьці гэтых каталёгаў, доказы фальшывасьці праўдзівага каталёгу, гнастычнае эвангельле Васіліда, камэнтар да гэтага эвангельля, камэнтар да камэнтара да гэтага эвангельля, праўдзівае паведамленьне пра тваю сьмерць, пераклад кожнае кнігі на ўсе мовы, інтэрпаляцыі з кожнае кнігі ва ўсе кнігі, трактат, які Бэда мог напісаць (але не напісаў) пра міталёгію саксаў, згубленыя кнігі Тацыта.

Калі было абвешчана, што Бібліятэка зьмяшчае ў сабе ўсе кнігі, першым уражаньнем была дзівосная шчаснасьць. Усе людзі адчулі сябе гаспадарамі нейкага некранутага патаемнага скарбу. Не было ніводнае асабістае або сусьветнае праблемы, вычарпальнае вырашэньне якой не было б схаванае ў вадным з шасьцікутнікаў. Сусьвет меў абгрунтаваньне, сусьвет раптоўна запоўніў бязьмежныя абсягі надзеі. У той час шмат гаварылася пра Апраўданьні: кнігі ўсхваленьняў і прароцтваў, якія назаўсёды апраўдвалі ўчынкі кожнага чалавека ў сусьвеце й абяцалі яму ў будучыні дзівосныя таямніцы. Тысячы

[2] Раней на кожныя тры шасьцікутнікі быў адзін чалавек. Самагубствы й хваробы лёгкіх парушылі гэтую прапорцыю. Успамін, поўны невыказнага смутку: часам я доўгімі начамі вандраваў па пустых калідорах і сходах, не спаткаючы ніводнага бібліятэкара.

прагных пакінулі мілыя сэрцу родныя шасьцікутнікі й пусьціліся ўгору па сходах, гнаныя марнай задумаю знайсьці свае Апраўданьне. Гэтыя паломнікі сварыліся ў вузкіх калідорах, вымаўлялі змрочныя праклёны, душылі адзін аднаго на боскіх лесьвіцах, шпурлялі зманныя кнігі ў прадоньні тунэляў, гінулі, скінутыя ў прорву людзьмі з далёкіх краінаў. Іншыя вар'яцелі... Апраўданьні існуюць (я бачыў два, што датычаць асобаў з будучыні, магчыма, рэальных), але шукальнікі ня памяталі, што магчымасьць таго, каб нехта знайшоў сваё Апраўданьне або хоць нейкую недакладную яго копію, роўная нулю.

У тыя часы верылася таксама ў раскрыцьцё галоўных таямніц чалавецтва: паходжаньня Бібліятэкі й часу. Верагодна, што гэтыя важныя таямніцы могуць быць вытлумачаныя у словах: калі будзе недастаткова мовы філёзафаў, шматаблічная Бібліятэка спародзіць неабходную дзеля гэтага нечуваную дагэтуль мову, а таксама слоўнікі й граматыкі гэтае мовы. Ужо чатыры стагодзьдзі людзі бадзяюцца па шасьцікутніках... Ёсьць афіцыйныя шукальнікі, *інквізытары*. Я бачыў іх падчас выкананьня імі сваіх абавязкаў: яны прыходзяць заўсёды вельмі пачцівыя; гавораць пра лесьвіцы бяз прыступак, дзе яны ледзь не забіліся; размаўляюць зь бібліятэкарам пра галерэі ды сходы; часам бяруць у рукі нейкую кнігу й гартаюць яе, шукаючы ганебныя словы. Відавочна, ніхто нічога не спадзяецца знайсьці.

На зьмену залішняй надзеі прыйшла, як звычайна бывае, безаглядная роспач. Было амаль невыносна ведаць, што на нейкай паліцы ў нейкім шасьцікутніку стаяць найкаштоўнейшыя кнігі й што кнігі гэтыя недасягальныя. Адна блюзьнерская сэкта прапанавала ўсім людзям спыніць пошукі ды перамяшаць знакі й літары, пакуль зь іх не складуцца, праз неверагодны шчасьлівы выпадак, тыя кананічныя кнігі. Улады былі вымушаныя абвясьціць суровыя загады. Сэкта зьнікла, але калі я быў маленькі, я бачыў старых людзей з мэталічнымі дыскамі й забароненай шклянкай з косткамі, якія надоўга зачыняліся ў прыбіральні ды няўмела спрабавалі імітаваць боскі беспарадак.

Іншыя, наадварот, лічылі, што найперш трэба зьнішчыць непатрэбныя кнігі. Яны ўрываліся ў шасьцікутнікі, паказвалі дакуманты, не заўсёды фальшывыя, гарталі з агідаю які-небудзь том ды асуджалі на сьмерць цэлыя паліцы: іх гігіенічна-аскетычнае шаленства сталася прычынаю недарэчнае загубы мільёнаў кніг. Іх імёны былі праклятыя, аднак тыя, хто аплаквае «скарбы», зьнішчаныя іх вар'яцкім шалам, ня ўлічваюць двух відавочных фактаў. Першы: Бібліятэка настолькі велізарная, што любая шкода, учыненая чалавекам, выглядае бясконца малою. Другі: кожны асобны экзэмпляр незаменны, але (бо Бібліятэка ўсеабдымная) заўсёды знойдзецца колькі сотняў тысяч недасканалых копіяў: кніг, якія розьняцца ад арыгіналу толькі адною літарай або адною коскай. Насуперак агульнаму меркаваньню, я наважваюся лічыць, што наступствы зруйнаваньняў, учыненых Ачышчальнікамі, былі перабольшаныя дзеля страху, што сеялі гэтыя фанатыкі. Яны былі гнаныя маніяй захапіць кнігі Чырвонага Шасьцікутніка: кнігі меншага за звычайны фармату, усемагутныя, ілюстраваныя й магічныя.

Мы ведаем таксама й пра другую забабонную ідэю тых часоў: Чалавека Кнігі. На нейкай паліцы

ў нейкім шасьцікутніку (як лічылі людзі) мусіць існаваць кніга, якая ўяўляе сабою абагульненьне й дасканалы кароткі выклад усіх астатніх: адзін бібліятэкар яе прачытаў і стаўся падобны да бога. У мове тае зоны яшчэ захаваліся адгалоскі культу гэтага старавечнага службоўца. Шмат людзей падарожнічала ў пошуках Яго. Цэлае стагодзьдзе яны марна туляліся ў самых розных кірунках. Як вызначыць, дзе знаходзіцца той запаветны шасьцікутнік, дзе Ён знайшоў сабе прытулак? Нехта прапанаваў зваротны мэтад. Каб знайсьці кнігу А, трэба папярэдне прагледзець кнігу В, дзе паведамляецца пра мейсца захаваньня кнігі А; каб знайсьці кнігу В, прагледзець папярэдне кнігу С, і гэтак бясконца... У гэткіх прыгодах я змарнаваў і пражыў і мае гады. Мне не здаецца неверагодным, і каб на нейкай паліцы сусьвету не стаяла ўсеабдымная кніга[3]; я малю невядомых багоў, каб хто-небудзь зь людзей — хоць бы толькі адзін за цэлыя тысячагодзьдзі — знайшоў яе ды прачытаў. Калі гэткі гонар, мудрасьць і шчасьце наканаваныя ня мне, хай яны дастануцца іншым. Хай існуе рай, хоць бы маё мейсца было і ў пекле. Хай я буду зганьбаваны й зьнішчаны, але хай хоць на імгненьне, хоць у вадной істоце твая велічная Бібліятэка будзе апраўданая.

Бязбожнікі сьцьвярджаюць, што бяссэнсіца — нармальны стан Бібліятэкі, а разумнасьць (і

[3] Паўтараю: каб кніга існавала, дастаткова, каб яна была магчымая. Выключана можа быць толькі існаваньне немагчымага. Напрыклад: ніводная кніга ня можа адначасова быць лесьвіцай, хоць без сумлеву ёсьць кнігі, якія аспрэчваюць, адмаўляюць або пацьвярджаюць гэткую магчымасьць, а таксама іншыя, чыя структура адпавядае будове лесьвіцы.



нават простая й элемэнтарная складанасьць) — гэта амаль неверагоднае выключэньне. Гавораць (я гэта ведаю) пра «хворую Бібліятэку, чые шалёныя тамы, як у няспынным калейдаскопе, абарочваюцца ў іншыя, адмаўляючы й пераблытваючы ўсё, што яны сьцьвярджаюць, як нейкае звар'яцелае боства». Гэтыя словы, якія ня толькі выяўляюць беспарадак, але й пацьвярджаюць яго прыкладамі, яскрава паказваюць іх вельмі дрэнны густ і безнадзейнае невуцтва. Сапраўды, бібліятэка зьмяшчае ўсе вэрбальныя структуры, усе спалучэньні, дазволеныя дваццацьцю пяцьцю знакамі, але ніводнае абсалютнае бяссэньсіцы. Няма патрэбы казаць, што найлепшая кніга з шматлікіх падпарадкаваных мне шасьцікутнікаў называецца *Прычасаны гром,* яшчэ адна — *Гіпсавая сутарга,* а яшчэ адна — *Аксаксаксас млё*. Гэтыя словазлучэньні, на першы погляд няскладныя, без сумлеву маюць свае крыптаграфічнае або алегарычнае тлумачэньне; тлумачэньне гэтае можа быць выказанае словамі і, *ex hypothesi,* ужо захоўваецца ў Бібліятэцы. Якія б знакі я ні склаў разам, напрыклад, dhcmrlchtdj, яны ўжо будуць прадбачаныя ў боскай Бібліятэцы, а на адной зь яе таемных моваў яны заключаюць у сабе пагрозьлівы сэнс. Нельга вымавіць ніводнага складу, які ня быў бы поўны пяшчоты й страху, які б ня значыў на адной з гэтых моваў магутнае ймя нейкага бога. Гаварыць — значыць ужываць таўталёгіі. Гэтае непатрэбнае й шматслоўнае пасланьне ўжо існуе ў вадным з трыццацёх тамоў аднае зь пяці паліцаў аднаго зь незьлічоных шасьцікутнікаў – а таксама ягонае абвяржэньне. Колькасьць n магчымых моваў ужывае той самы слоўнік; у некаторых паняцьце бібліятэка мае

дакладную дэфініцыю *усюдыісная й вечнатрывалая сыстэма шасьцікутных галерэяў,* але пры гэтым *бібліятэка* азначае *хлеб* або *піраміду* або нешта іншае, а шэсьць словаў, што яе вызначаюць, маюць іншы сэнс. Ты, што мяне чытаеш, ці ўпэўнены ты, што разумееш маю мову?)

Мэтадычнае пісаньне адцягвае мяне ад рэальнага жыцьця. Веданьне таго, што ўсё ўжо напісанае, зьнішчае нас або ператварае ў прывіды. Я ведаю мясьціны, дзе маладыя людзі падаюць ніцма перад кнігамі і, як дзікуны, цалуюць старонкі, ня ўмеючы расчытаць ніводнае літары. Эпідэміі, гэрэтычныя закалоты, паломніцтвы, што непазьбежна ператвараюцца ў бандыцкія выправы, зьменшылі насельніцтва. Здаецца, я ўжо згадваў пра самагубствы, штораз часьцейшыя з кожным годам. Можа, старасьць і страх уводзяць мяне у аблуду, але я прадчуваю, што чалавечы род — адзіны — засуджаны на згасаньне і што Бібліятэка будзе йснаваць вечна: асьветленая, пустынная, бясконцая, дасканала нерухомая, застаўленая каштоўнымі тамамі, непатрэбная, незьнішчальная, неразгаданая.

Толькі што я напісаў бясконцая. Я ўжыў гэты прыметнік не дзеля рытарычнае звычкі; няма нічога нелягічнага ў думцы, што сьвет бясконцы. Тыя, хто лічыць яго абмежаваным, дапускаюць, што ў нейкіх вельмі далёкіх мясьцінах калідоры, сходы й шасьцікутнікі могуць неверагодным чынам скончыцца — што само па сабе абсурдна. Тыя, хто ўяўляе яго бязь межаў, забываюцца, што магчымая колькасьць кніг абмежаваная. Я ж наважуся прапанаваць гэткае вырашэньне адвечнае загадкі: *Бібліятэка неабмежаваная й пэрыядычная.* Калі б нейкі вечны падарожнік прайшоў яе ў якім-небудзь кірунку, ён бы пацьвердзіў праз стагодзьдзі, што тыя самыя кнігі паўтараюцца ў тым самым беспарадку (які, будучы паўтораны, і быў бы парадкам: Парадкам). У сваей адзіноце я суцяшаюся гэтым прыгожым спадзяваньнем[4].

*1941, Мар дэль Плята.*

*Пераклад Х.Зар.*
*надрукаваны ў НН № 2 у 1991 годзе*

[4] Летысія Альварэс дэ Толедо заўважыла, што велізарная Бібліятэка непатрэбная; папраўдзе, дастаткова было б *толькі адной кнігі* звычайнага фармату, надрукаванай дзевятым або дзесятым кеглем, якая складалася б зь бясконцае колькасьці бясконца тонкіх старонак. (Кавальеры на пачатку XVII статодзьдзя сказаў, што любое цьвёрдае цела складаецца зь бясконцае колькасьці роўнядзяў.) Ужываць гэткі шаўкавісты vademecum было б нязручна: кожная ўяўная старонка дзялілася б на дзьве падобныя да яе; немагчымая цэнтральная старонка ня мела б зваротнага боку.

*Барыс Віян*

# Сюрпрыз — вечарынка ў Леабіля

Павекі Фалюбэра Сансанэта, у якія напрасткі біў зыботкі сонечны прамень, што ўварваўся праз шчыліну у ваканіцах, мелі знутры прыгожы чырвона-аранжавы колер, і Фалюбэр усьміхаўся праз сон. Ен ішоў павольным крокам па сьветлым, мяккім і цёплым жвіры ў садзе Геспэрыдаў, і ласкавыя шаўкавістыя жывёлы лізалі яму пальцы на назе. У гэты момант ён прачнуўся; зь вялікага пальца на назе ён асьцярожна зьняў Фрэдэрыка, свойскага сьлімака, і наставіў яго на наступную раніцу. Фрэдэрык чмыхнуў, але нічога не сказаў.

Фалюбэр сеў на ложку. Ён вырашыў пасядзець і падумаць, з самое раніцы, на цэлы дзень наперад, гэтак забясьпечыўшы сябе ад шматлікіх непрыемнасьцяў, якія выпадаюць на долю тых няпэўных і неспакойных, далёкіх ад парадку істотаў, якім найменшы іх рух здаецца зачэпкай для пустадумства (прабачце мне даўжыню гэтага сказу) без канца й бяз тэмы, бо яны пра яе забываюць.

Яму трэба было падумаць:

1. Пра тое, як ён будзе прыбірацца;
2. Пра тое, як ён будзе харчавацца;
3. Пра тое, як ён будзе забаўляцца.

---

**Барыс Віян (1920—1959)**

францускі пісьменьнік. Аўтар рамана «Пена дзён».



І ўсё, бо якраз была нядзеля, а значыць здабыцьцё грошай было ўжо вырашанай праблемай.

І так Фалюбэр разважаў, у парадку чароднасьці, над гэтымі трыма пытаньнямі.

Ён старанна ўмыўся, бадзёра вычысьціў зубы й высмаркаўся ў пальцы; пасьля прыбраўся. Як і заўсёды ў нядзелю, ён пачаў з гальштука й кончыў чаравікамі, гэта было цудоўнае практыкаваньне. Ён узяў з шуфляды пару модных шкарпэтак з палоскамі: адна сіняя, тады няма палоскі, зноў сіняя, зноў няма, і гэтак далей. Гэтая новая мадэль шкарпэтак дазваляла маляваць ногі ў любы колер, які б займаў пусткі паміж сінімі палоскамі. Ён пачуваўся нясьмела й таму выбраў бляшанку зь сьветла-зялёнаю фарбаю.

Што да астатняга, дык ён надзеў свае штодзённае ўбраньне, сінюю кашулю й чыстую бялізну, бо ён думаў пра па-трэцяе. Ён пасьнедаў забітым селядцом у салодкім алеі з кавалкам хлеба і запіў гарбатай з кубачка, поўнага як вока, і як вока, аздобленага даўгімі ружовымі вейкамі.

Нарэшце ён мог падумаць пра сваю нядзелю.

Сёньня быў дзень нараджэньня ў ягонага сябра Леабіля, і ў гонар Леабіля ладзілася цудоўная сюрпрыз-вечарынка.

Згадаўшы пра сюрпрыз-вечарынкі, Фалюбэр аддаўся доўгім летуценьням. Сказаўшы праўду, яго мучыў комплекс нясьмеласьці, і ён пакрыёма зайздросьціў адвазе дзённых практыкантаў: ён хацеў бы быць спрытны як Грузніе, запальчывы як Додзі, чароўна-элегантны як Рэманфоль, прывабна-суворы як шэф Абадзібаба, або па-пірацку бліскучы як любы зь сяброў Паўдзённа-Брэтонскага клюбу.

Сам жа Фалюбэр меў прыгожыя каштанавыя вочы, крыху расплывістыя валасы й мілую ўсьмешку, з дапамогай якое ён здабываў усе сэрцы, сам пра тое не здагадваючыся. Але ён ніколі не наважваўся скарыстаць сваю прывабную зьнешнасьць і заўсёды заставаўся адзін, калі ягоныя сябры элегантна танчылі свінг, джытэрбаг і гальскія падскокі з прыгожымі дзяўчатамі.

Гэта часта навявала яму мэлянхолію, аднак уночы сны прыносілі яму суцяшэньне. Там ён раптам рабіўся адважным, яго абступалі дзяўчаты й прасілі, каб ён зрабіў ім ласку й запрасіў на танец.

Фалюбэр прыгадаў сон, які сасьніў гэтай ноччу. У імі была вельмі прыгожая асоба ў сукенцы з мохавага крэпу колеру сіняй лаванды, сьветлыя валасы спадалі ёй на плечы. На нагах у яе былі маленькія туфлікі зь сіняе зьмяі, а на руцэ дзівосная бранзалетка, якую ён ня мог дакладна апісаць. У сьне яна вельмі яго кахала, і ўрэшце яны разам некуды пайшлі.

Напэўна ён яе цалаваў, і можа нават яна згадзілася надарыць яго нейкімі дадатковымі пяшчотамі.

Фалюбэр пачырванеў. Яму хопіць часу падумаць пра гэта, ідучы да Леабіля. Ён памацаў у кішэні, праверыў, што там дастаткова грошай, і выйшаў купіць бутэльку атрутнага апэрытыву найтаньнейшае маркі, бо сам ён ніколі ня піў.

У тую хвіліну, калі Фалюбэр прачнуўся, Маёр, патурбаваны ў сьне сіплым голасам свайго неспакойнага сумленьня, прызямліўся на ліпучы паркет у сваім пакоі з прысьмердам паскуднага таннага віна ў роце.



Яго шкляное вока злавесна блішчала ў паўзмроку, асьвятляючы гнюсным водблiскам шыйную хустку, якую ён якраз пачаў размалёўваць; малюнак, які напачатку ўяўляў сабою зачэпку, што пасьвілася сярод братоў зялёных-лугоў, набыў цяпер выгляд мёртвай галавы вэнэцыянскага маўра, і Маёр зразумеў, што сёньня яму выпадала ўчыніць зладзейства.

Ён згадаў пра сюрпрыз-вечарынку ў Леабіля й дзіка ўхмыльнуўся у рэ-дыезе, з адной фальшывай нотаю, што красамоўна сьведчыла пра яго незайздросны стан. Угледзеўшы вялікую бутэльку чырвонага, ён прыкончыў адным глытком цёплую муць, што прыкрывала дно, і адчуў сябе лепей. Пасьля, устаўшы перад люстэркам, паспрабаваў зрабіцца падобным да Сяргея Андрэева Папаніна ў Іване Грозным. Нічога ня выйшла, бо яму не ставала барады. Тым ня менш, вынік быў даволі добры.

Маёр зноў ухмыльнуўся й адыйшоў у свой працоўны кабінэт, каб падрыхтаваць шкодзтва для сюрпрыз-вечарынкі ў Леабіля, якому ён марыў адпомсьціць. І сапраўды, Леабіль ужо колькі тыдняў распускаў пра Маёра самыя непрыстойныя чуткі, аж да таго, што пачаў сьцьвярджаць, нібыта ён, Маёр, стаўся сумленным чалавекам.

За гэта варта было пакараць як сьлед.

Маёр вельмі добра ўмеў прымусіць маліцца аб літасьці ўсіх ворагаў, якіх яму даводзілася сустракаць на сваёй дарозе — з аднаго боку дзякуючы даволі дрэннаму выхаваньню, з другога боку дзеля яго натуральных крывадушных схільнасьцяў і надпрыроднае хітрасьці.

(Нельга абмінуць і ягоныя гідкія вусы, якія ён распусна гадаваў пад носам, баронячыся ад

нападаў інсэктаў і закрываючы іх удзень сетачкай, каб да іх не дакраналіся птушкі.)

Фалюбэр Сансанэт спыніўся ў хваляваньні перад Леабілевымі дзьвярыма і сунуў указальны палец правай рукі ў норку званка, які ляжаў скруціўшыся клубком і спаў.

Фалюбэраў рух абудзіў яго, ён падскочыў, павярнуўся й балюча ўкусіў Фалюбэра за палец, так што той загаласіў на высокіх танох.

Зараз жа Леабілева сястра, што чуйнавала ў калідоры, адчыніла, і Фалюбэр увайшоў. Па дарозе Леабілева сястра заклеіла яму рану кавалкам плястыру й вызваліла яго ад бутэлькі.

Акорды прайгравальніка вясёла грымелі пад стольлю кватэры й агортвалі мэблю лёгкім слоем музыкі, які рабіў яе сьвятлейшаю й ахоўваў ад шкоды.

Леабіль стаяў перад камінам і гаварыў зь дзьвюма дзяўчынамі. Пабачыўшы другую, Фалюбэр захваляваўся і, пакуль Леабіль ішоў яму насустрач з выцягнутай рукою, мусіў хаваць сваю зьбянтэжанасьць.

— Добры дзень, — сказаў Леабіль.

— Добры дзень, — адказаў Фалюбэр.

— Пазнаёмся, — сказаў Леабіль, — Азіма (гэта была першая дзяўчына), гэта Фалюбэр, а гэта Джэніфэр.

Фалюбэр пакланіўся Азіме й апусьціў вочы, падаючы руку Джэніфэр. На ёй была сукенка з мохавага крэпу чырвона-сіняга колеру, туфлікі з чырвонае зьмяі і вельмі незвычайная бранзалетка, якую ён адразу пазнаў. Рыжыя валасы спадалі ей на плечы, і яна ва ўсім была падобная на дзяўчыну зь ягонага сну; натуральна, цяпер колеры былі ярчэйшыя, але гэта нармальна, бо ж сны сьняцца ўночы.



Леабіль, як выглядала, быў вельмі заняты Дзімай, і таму Фалюбэр не адкладаючы запрасіў Джэніфэр. Ён усё яшчэ ня мог падняць вачэй, бо якраз перад ім два надзвычай цікавыя аб'екты вабілі позірк з-пад квадратнага дэкальтэ, якое дазваляла ім вольна дыхаць.

— Вы адзін з старых сяброў Леабіля? — спыталася Джэніфэр.

— Я знаёмы зь ім тры гады, — удакладніў Фалюбэр.

— Мы пазнаёміліся на дзюдо.

— Вы займаецеся дзюдо? Ці вам ужо даводзілася біцца каб абараніць свае жыцьцё?

— Ээ... — сказаў зьбянтэжана Фалюбэр. — Я ня меў нагоды... Я б'юся вельмі рэдка.

— Вы баіцёся? — іранічна пацікавілася Джэніфэр.

Фалюбэру вельмі не падабаўся кірунак размовы. Ён паспрабаваў вярнуць сабе сваю начную адвагу.

— Я вас сьніў... — сказаў ён наўдачу.

— Я ня сьню ніколі, — сказала Джэніфэр. — Мне гэта здаецца малаверагодным. Напэўна, вы нешта паблыталі.

— Вы былі сьветлавалосая... — сказаў Фалюбэр на мяжы адчаю.

Яна была вельмі зграбная, і яе вочы сьмяяліся, зусім побач.

— Бачыце, — сказала Джэніфэр, — гэта была ня я... я рыжая...

— Гэта вы... — прашаптаў Фалюбэр.

— Ня думаю, — адказала Джэніфэр. — Я не люблю сны. Я больш люблю яву.

Яна паглядзела яму ў твар, і ён зноў мімаволі апусьціў вочы. Ён не прыціскаў яе да сябе, бо інакш яму нічога не было б відаць.

Джэніфэр паціснула плячыма. Яна любіла спорт і дужых адважных хлопцаў.

—Я люблю спорт, — сказала яна, — і я люблю дужых адважных хлопцаў. Я не люблю сны, я жыву ў яве.

Яна адыйшла, бо кружэлка спынілася з жахлівым скрыгатам тармазоў, бо Леабіль не папярэдзіўшы зачыніў шлагбаум. Фалюбэр падзякаваў. Ён хацеў затрымаць яе ўмелай чароўнай размовай, аднак у той самы момант, як ён зьбіраўся знайсьці які-небудзь сапраўды чароўны выраз, нейкі вялізны й жахлівы бамбіза прасунуўся перад ім і схапіў Джэніфэр у свае грубыя абдымкі.

Фалюбэр у жаху адступіўся на крок, але Джэніфэр усьміхалася, і ён, зможаны, абрынуўся ў глыбокі фатэль з бурдзюковае скуры.

Ён зажурыўся, зразумеўшы, што й гэтая сюрпрыз-вечарынка будзе як і ўсе іншыя, цудоўная й поўная дзяўчат... але не для яго.

Леабілева сястра зьбіралася адчыніць дзьверы, але спынілася, агаломшаная, пачуўшы выбух. Яна стрымвала адной рукою біцьцё свайго сэрца, і брама паддалася пад ударам няшчаднай Маёравай нагі.Той трымаў у руцэ пісталет, зь якога яшчэ віўся дымок, бо ён толькі што застрэліў званка. Ягоныя гарчычныя шкарпэткі абражалі ўсіх прысутных.

— Я убил эту гадасьць, — сказаў ён. — Выкиньце труп.

— Але ж, — сказала Леабілева сястра.

І горка заплакала, бо званок жыў у іх так даўно, што быў ужо адным зь сям'і. Яна ў сьлязах пабегла у пакой, а Маёр у захапленьні выканаў скок-у-змрок і паклаў пісталет у кішэню.



Насустрач выйшаў Леабіль. Поўны нявіннасьці, ён падаў руку Маёру.

Маёр паклаў у яе вялізнае сьвінства, якое падабраў перад уваходам у дом.

— Атайдзи, ты, — сказаў ён Леабілю нэрвовым голасам.

— Скажы... Толькі не пабі нічога...

—Я сичас всё паб'ю, — сказаў халодна Маёр, выскаліўшы зубы.

Ён падыйшоў да Леабіля й прасьвідраваў яму вачніцы нязносным позіркам свайго шклянога вока.

Дак гавариш, што я работаю, ты? — сказаў ён. — Гавариш, што я станавлюсь чесны? Што ты сибе пазваляиш?

Ён глыбока ўздыхнуў і пачырванеў.

—Ты, твая вичиринка, можиш щитаць, што ана будзит чюць чюць ниабычная!..

Леабіль зьбялеў. Ён усё яшчэ трымаў у руцэ тое, што даў яму Маёр, і баяўся варухнуцца.

— Я... Я не хацеў цябе абразіць...сказаў ён.

— Заткнись, ты, — сказаў Маёр. — За каждае лишнее слова будзет надбавка. Тады ён прасунуў сваю правую ступню за Леабілевы ногі, моцна яго штурхануў, і Леабіль паваліўся надол.

Госьці нічога асаблівага не заўважалі. Яны танчылі, пілі й гаманілі, яны зьнікалі парамі у вольных пакоях, як і на любой удалай сюрпрыз-вечарынцы.

Маёр пасунуўся да буфэту. Недалёка адтуль усе яшчэ прыгнечаны роспаччу Фалюбэр маркоціўся у фатэлі. Праходзячы міма, Маёр надняў яго за каўнер пінжака й паставіў на ногі.

— Пайдзём выпьем, — сказаў ён яму, — я никагда ни пью адзин.

— Але... Я зусім ня п'ю...— адказаў Фалюбэр. Ён крыху ведаў Маёра і не наважваўся пярэчыць.

— Ну, — сказаў Маёр, — канчяй базар!

Фалюбэр паглядзеў на Джэніфэр. На шчасьце, яна павярнулася зусім у іншы бок і захоплена размаўляла. На няшчасьце, што праўда, вакол яе стаялі трое хлопцаў, а яшчэ двое сядзелі каля яе ног, тым часам як шосты разглядаў яе забраўшыся на шафу.

Леабіль незаўважна падняўся і зьбіраўся цішком вышмыгнуць з пакою каб паклікаць сілу-захавальніцу-парадку, аднак ён разважыў, што калі згаданая сіла задала б сабе клопату зірнуць па пакоях, дык ён, Леабіль, мог бы прабавіць ноч у пастарунку.

Да таго ж, ён ведаў Маёра й ня думаў, што той даў бы яму выйсьці.

І сапраўды, Маёр назіраў за Леабілем і спыніў яго страшным позіркам.

Пасьля, усё яшчэ трымаючы Фалюбэра за каўнер, ён дастаў пісталет і, ня цэлячы, адстрэліў рыльца адной з бутэлек. Усе госьці спалохана азірнуліся.

— Валице атсюда, — сказаў Маёр. — Ану, мужики, валице; бабы могут астацца.

Ён падаў Фалюбэру шклянку.

—Ну, выпили!

Хлопцы пакінулі дзяўчат і пачалі разыходзіцца. Маёру не пярэчылі.

— Я не хачу піць, — сказаў Фалюбэр. Ён паглядзеў на Маёраў твар і пасьпешліва выпіў.

— Тваё здаровье, мужык, — сказаў Маёр.

Фалюбэраў позірк раптам упаў на твар Джэніфэр. Яна стаяла зь іншымі дзяўчатамі ў кутку



й глядзела на яго з пагардай. Фалюбэр адчуў, як пад ім слабеюць ногі.

Маёр выпіў шклянку адным глытком.

Амаль усе хлопцы цяпер ужо выйшлі з пакою. Апошні (ён зваўся Жан Бердэндэн  і быў не з баязьліўцаў) схапіў цяжкую папяльнічку й шпурнуў Маёру у галаву. Маёр злавіў снарад зь лёту й за два скокі ужо трымаў Бэрдэндэна.

— Ты... Ану, идзи сюда, — сказаў ён.

Ён выцягнуў яго на сярэдзіну пакою.

— Так. Вазьмёш адну с эцих баб, какую захочиш, и раздзениш (дзяўчаты пачырванелі ад жаху).

— Я адмаўляюся, — сказаў Бердэндэн.

— Ну, ты, спакойна, — сказаў Маёр.

— Толькі ня гэта, — сказаў Бердэндэн.

Фалюбэр, перапалоханы, машынальна наліў сабе другую шклянку й выпіў залпам.

Маёр нічога не сказаў. Ён падыйшоў да Бердэндэна і ўзяў яго за руку. Пасьля ён рэзка яго крутануў, і Бэрдэндэн паляцеў у паветра. Маёр, скарыстаўшы гэткае становішча, пакуль той падаў, пасьпеў сьцягнуць зь яго нагавіцы.

— Так. Ты, — сказаў ён, — гатовься. Ён паглядзеў на дзяўчат.

— Дабравольцы будут? — спытаўся ён з ухмылкай.

— Досыць, — сказаў Бердэндэн, які, хістаючыся, спрабаваў учапіцца у Маёра. Гэта не прайшло яму дарма. Маёр падняў яго й кінуў аб дол. Бердэндэн сказаў: «плюх!» і застаўся ляжаць, мацаючы бокі.

— Рыжая, — сказаў Маёр. — Идзи сюда.

— Ня рушце мяне, — сказала Джэніфэр зьбялеўшы.

Фалюбэр дапіваў чацьвертую шклянку, калі пачуў голас Джэніфэр, што ўзьдзеяла на яго як маланка. Ён павольна павярнуўся на абцасах і паглядзеў на яе.

Маёр падыйшоў да яе й рэзкім рухам абарваў плячук яе сіне-чырвонае сукенкі. (Дзеля справядлівасьці мушу сказаць, што гэтак адкрылася вельмі прыемнае відовішча.)

— Ня рушце мяне, — паўтарыла Джэніфэр. Фалюбэр прыкрыў вочы рукою.

— Я сьню, — прамармытаў ён, цяжка варочаючы языком.

— Идзи сюда, — сказаў яму Маёр. — Будзиш иё дзиржаць пака этат иё абработайт.

—Не! — завыў Бердэндэн. — Я не хачу!.. Толькі ня гэта... Толькі не з жанчынай!

—Харашо, — сказаў Маёр, — я добры Маёр.

Ён павярнуўся да Фалюбэра, не адпускаючы Джэніфэр.

— Раздзивайся, — сказаў ён, — и займись эцим. А я разбирусь с этай.

— Я адмаўляюся, —сказаў Фалюбэр.— І ўвогуле можаш валіць адсюль. Абрыд ужо.

Маёр адпусьціў Джэніфэр. Ён глынуў паболей паветра, ад чаго ягоныя грудзі разьдзьмуліся сама меней на мэтар дваццаць пяць. Джэніфэр зь зьдзіўленьнем глядзела на Фалюбэра й ня ведала, падняць ёй адарваны верх сукенкі, ці было б больш разумным дазволіць Фалюбэру набрацца сілы, сузіраючы павабнае відовішча. Яна выбрала другое.

Фалюбэр паглядзеў на Джэніфэр і заіржаў. Ён застрашальна затупаў на месцы й абрынуўся на Маёра. Той, не пасьпеўшы да канца пашырыць грудзі, атрымаў удар пад дых і склаўся напалам з страшным хрыпам.



Ён амаль адразу выпрастаўся, і Фалюбэр скарыстаў гэта, каб ужыць абсалютна клясычны прыём дзюдо: нацягнуў вушы супраціўніка яму на вочы й дзьмухнуў яму што было сілы ў дзіркі ад носа.

Маёр сьсінеў і задыхаўся. У гэты момант Фалюбэр, якому каханьне й апэрытыў шматкрот памножылі сілу, прасунуў галаву паміж Маёравых ног, падняў яго й зрынуў на вуліцу праз вакно гасьцёўні, перакінуўшы праз багата накрыты стол.

У Леабілевай гасьцёўні, дзе зноў запанаваў спакой, стаяла ціша, і Джэніфэр, не папраўляючы сукенкі, упала ў абдымкі Фалюбэру, заваліўшы яго, бо важыла каля шасьцідзесяці кілаграмаў. На шчасьце за ім стаяў фатэль з бурдзюковае скуры.

Што да Маёра, дык яго цела завіравала ў паветры, але дзякуючы некалькім спрытным круткам яму ўдалося вярнуць раўнавагу; аднак, на няшчасьце, ён упаў у чырвона-чорную таксоўку з адкрытым верхам, якая павезла яго далека стуль, перш чым ён пасьпеў зразумець, што да чаго.

Калі ж ён зразумеў, ён выгнаў з машыны таксіста, пагразіўшы яму найстрашнейшым ліхам, і скіраваў таксоўку да свайго дома, маёнтку Львінае Сэрца.

Пасьля, на вуліцы, ня хочучы прызнаваць сябе пераможаным, ён пераехаў насьмерць старога вулічнага гандляра, усё адно махляра.

Тым часам увесь астатні вечар Фалюбэр і Джэніфэр займаліся зашываньнем сукенкі. Яна яе зьняла, каб было зручней, і ўдзячны Леабіль саступіў ім дзеля нагоды свой пакой і пазычыў электрычны прас зь кітайскай інкрустацыяй, які

ён атрымаў у спадчыну ад маці, а тая — ад бабулі, і гэтак ён перадаваўся ў гэтай сям’і з пакаленьня ў пакаленьне ад часоў Першага Крыжовага Паходу.

*Пераклад з францускай пад псэўданімам SS надрукаваны ў НН № 16 у 1993 годзе*



Герман Гесэ

## На лёдзе

У тыя часы ўсё бачылася мне іншым. Мне было дванаццаць з паловай гадоў, і я быў пад уладай стракатага і разнастайнага сьвету хлапечых радасьцяў і мараў. І вось тады ў першы раз маёй зьдзіўленай душы адкрыліся затуманеныя далягляды запаветнага і недасяжнага пакуль юнацтва.

Стаяла такая доўгая і халодная зіма, што нават у нашым Шварцвальдзе рэкі на доўгія тыдні ўкрыліся лёдам. Я не магу забыць таго дзіўнага пачуцьця страху і захапленьня, зь якім я ступіў на раку першай марознай раніцай. Рака была вельмі глыбокая, а лёд — такі празрысты, што пад нагамі былі відаць зеленаватая вада, заплеценыя ў фантастычны малюнак водарасьці, а часам трапляліся і цёмныя цені рыбаў.

Большую частку дня я бавіў на лёдзе са сваімі сябрамі. Нашы шчокі заўсёды палалі, а рукі сінелі ад холаду; нашы сэрцы поўніліся цудоўнай і бяздумнай прагай асалодаў і ўцех дзяцінства ды сілкаваліся энэргіяй моцнага і рытмічнага руху канькоў. Мы бегалі навыперадк і, скакалі, гулялі ў даганялк і, і тыя з нас, хто яшчэ насіў старамод-

---

**Герман Гесэ (1877—1962)**

нямецка-швайцарскі пісьменьнік, Нобэлеўскі ляўрэат (1946). Найславуцейшы яго раман «Гульня шкляных пэрлаў» на беларускую пераклаў Васіль Сёмуха.

ныя касьцяныя канькі, якія прывязваліся да ботаў шпагатам, былі далёка ня самымі горшымі канькабежцам і. Але ў аднаго, фабрыкантавага сына, была пара «Галіфаксаў», якія мацаваліся не вяроўкай, а рамянямі, і іх можна было абуць і зьняць за дзьве сэкунды. З той пары і на доўгія гады слова «Галіфакс» стаяла першым у маім сьпісе жаданых падарункаў на Каляды, але мне так і не пашэнціла іх атрымаць. А калі праз дванаццаць год я аднойчы захацеў купіць пару сапраўды якасных і добрых канькоў, у краме маё жаданьне набыць менавіта «Галіфаксы» сустрэлі з усьмешкай і сказалі, што гэта ўстарэлая мадэль і ўжо даўно адна зь ня самых лепшых. У той момант я з болем страціў яшчэ адзін кавалачак веры ў свае дзіцячыя ідэалы.

Больш за ўсё мне падабалася катацца аднаму, часта я не здымаў канькоў, аж пакуль не станавілася зусім цёмна. Я лётаў па лёдзе туды-сюды, мог раптам спыніцца дзе заўгодна або павярнуць на поўнай хуткасьці, а мае віражы зрабілі б гонар любому асу авіяцыі. Многія з маіх сяброў выкарыстоўвалі час на коўзанцы, каб заляцацца да дзяўчат. У мяне дзяўчынкі не было, і пакуль астатнія імкнуліся выглядаць рыцарамі ў вачах дзяўчат, баязьліва і з надзеяй зав іхаліся ля іх або сьмела каталіся парамі, я атрымліваў асалоду ад канькоў, лёду і пачуцьця свабоды ў адзіноце. Для «кавалера ў» у мяне было толькі спачуваньне і зьдзек. А па словах некаторых са сваіх сяброў я меркава ў аб тым, якія ж, па сутнасьц і, сумнеўныя былі іх посьпехі.

І вось ужо пры канцы зімы я пачуў школьную навіну, што няда ўна наш «паўночны жыхар» пацалаваў на катку Эму Маер. У мяне кроў прыліла да галавы ад пачутага. Пацалаваў! Гэта і сапра ўды было нешта зусім іншае, чым пустыя размовы і нясьмелыя дотыкі, якія дагэтуль лічыліся найвышэйшай узнагародай «кавалерам». Пацалаваў! Гэта быў водгук іншага недасяжнага сьвету, падобнага да паху забароненых пладоў, і пра яго пакуль толькі нясьмела марылі; нешта таямнічае, паэтычнае і няпэўнае, яно належала цемнавата-саладкаватаму і прывабнаму сьвету, і ніхто з нас не заводзіў размовы аб гэтым, але ўсе здагадваліся аб яго існаваньні — ён быў урыўкамі асьветлены казачнымі гісторыямі каханьня герояў мінулых часоў, пра якіх нам задавал і чытаць у школе. «Паўночны жыхар» быў чатырнаццацігадовы школьнік з Гамбургу, невядома якім ветрам занесены ў нашы мясьціны; ён быў для мяне ідэалам, а яго слава далёка за сьценамі школы не давала мне спакойна спаць. А Эма Маер была, безумоўна, самай прыгожай школьніцай Гербэрза ў — сьветлавалосая, рухомая, ганарлівая і мая аднагодка.

З таго дня я песьціў новыя пляны. Пацалаваць дзяўчыну — гэта пераўзыходзіла ўсе мае былыя мары: і само па сабе, і таму, што гэта, пэўна ж, было строга забаронена школьнымі правіламі. І я хутка зразумеў, што пачэснае рыцарства на коўзанцы — мая адзіная рэальная магчымасьць. Спачатку, наколькі гэта было магчыма, я спрабаваў зрабіць больш прывабным свой выгляд. Я пачаў старанна сачыць за сваёй прычоскай, чысьцінёй адзеньня, насоўваў шапку на лоб. Акрамя гэтага, на катку я пачаў вітацца зь дзяўчынкамі, і мне здавалася, што яны заўважалі нязвыклую зьмену ў маіх паводзінах са зьдзіўленьнем, але не без сымпаты і.

Намнога складаней аказалася вымавіць першыя словы, бо дагэтуль мне яшчэ не прыходзілася «ангажаваць» дзяўчынак. Я спрабаваў падслухаць, як гэта робяць мае сябры. Некаторыя адвешвалі паклон і працягвалі руку, іншыя нешта няўцямна мармыталі, але большасьць карысталася галянтнай фразай: «Ці маю я гонар?..» Такая фармул ёўка мне вельмі імпанавала, і я развучваў яе дома, зьвяртаючыся з урачыстымі словамі да печы ў сваім пакоі.

Надышоў дзень нялёгкага першага кроку. Я зьбіраўся запрас іць дзяўчынку яшчэ ўчора, але маладушна вярнуўся дадому, ні разу нават не паспрабава ўшы. Сёньня я цьвёрда вырашы ў абавязкова зрабіць тое, чаго так баяўся і так жадаў. Я ішоў на каток, а сэрца маё калац ілася, як у злачынца. Мне падалося, што і рукі мае дрыжэлі, калі я абуваў канькі. Потым я рвануўся ў натоўп на коўзанцы і пачаў выпісваць шырокія кругі, спрабуючы захаваць на твары рэшткі звыклай упэўненасьц і і спакою. Два разы я хутка праехаўся па доўгім катку, халодны вецер і рух былі мне на карысьць.

І раптам пад мостам на поўнай хуткасьці я на некага наляце ў, і мяне адкінула ўбок. А на лёдзе сядзела прыгажуня Эма, відавочна, ледзь стрымліваючы крык болю, і з дакорам глядзела на мяне. Сьвет закружыўся перад маімі вачыма.

«Дапамажыце мне падняцца », — гукнула яна сяброўкам. Але я, пачырванеўшы, як бурак, зьняў шапку, стаў перад ёй на калені і дапамог ёй падняцца.

Мы стаялі адно насупраць аднаго напужаныя і ня ў сілах вымав іць што-небудзь. Футра, твар і валасы прыгожай дзяўчынкі паралізавалі мяне



сваёй блізкасьцю. Я беспасьпяхова прыдумваў прабачэньні, усё яшчэ трымаючы ў руках шапку. Раптам, пакуль мае вочы былі быццам затуманеныя, я мэханічна нізка пакланіўся і зьбянтэжана вымавіў: «Ці маю я гонар?.. »

Яна нічога не адказала і ўзяла маю руку сваімі тонкімі пальчыкамі, цяпло якіх я адчуваў нават праз пальчаткі, і мы паехалі. Мне здавалася, што я трапіў у мару. Ад пачуцьця шчасьця, сарамлівасьці, цеплын і, жаданьня і хваляваньня я ледзьве мог дыхаць. Мы каталіся разам амаль 15 хвілін. Потым яна вызваліла свае маленьк ія ручкі, падзякавала мне і зьнікла яшчэ да таго, як я са спазьненьнем сьцягнуў шапку з галавы і потым доўга стаяў на адным месцы. І толькі пазьней я ўспомніў, што за ўвесь час яна не сказала ні слова.

Лёд растаў, і я ня змог паўтарыць сваю спробу. Гэта было маё першае каханьне. І прайшлі гады, перш чым мая мара зьдзейсьнілася і я пацалаваў дзяўчыну.

*Пераклад з нямецкае Лізаветы Космач*
*надрукаваны ў НН № 3 у 2005 годзе*

*Марыя Жудзітэ дэ Карвальё*

# Жыццё і мара

Ён мог стаць камiваяжорам, машынiстам цягнiка або мараком. Аднак ён ня стаў нiчым з гэтага, таму што ня мы робiм сябе, нас будуюць умовы. Бацька, зразумела, у вынiку многiх просьбаў, дамогся, што ўжо ў трынаццаць гадоў яго прынялi ў важны банк, дзе яму далi шэрую форму i месца на будучыню. «Хлопча, дзе ж гэты чэк?», «Хлопча, аднясi гэты лiст сыньёру Сiльву», «Дзе ты, хлопча?», «Хло-о-пча!» Ён увiльхаўся вельмi старана, такi сур'ёзны, прыкладаў усе намаганнi, каб выканаць загад, не разумеючы яшчэ, што ягоныя дбайнасьць i стараннасьць паступова ўблытвалi яго цалкам у галаваломку, зь якой яму ўжо нiколi не ўдасца вызвалiцца. Уначы дома ён праглынаў кнiгi Эмiлiя Сальгары, якiя пазычыў яму багацейшы за яго калега. Iншым разам ён гартаў стары атляс, ушчэнт парэпаны i зашмальцяваны, якi бацька некалi купiў у букiнiста. Але што Адэрыту лiнii межаў? Яму хапала неабсяжных блакiтных прастораў, гэтых гарадоў з экзатычнымi iмёнамi, якiя ён прачытаў (кепска) уголас амаль з асалодай, каб пачуць iхняе гучанне.

---

**Марыя Жудзітэ дэ Карвальё (нар. 1938)**

партугальская пiсьменьнiца. Аўтар раманаў «Краявiд без караблёў», «Пустыя шафы», «Кветкi па тэлефоне», многiх навэляў.



Потым мiналi гады, а ён амаль не заўважыў, як яны мiнулi, поўныя доўгiх, зусiм аднолькавых, нецiкавых дзён. Ён ужо стаяў за банкаўскiм дыскам, меў уласную сакратарку з папкай i губкай (пэрспэктыўная пасада), зьведаў жанчын, — нямногiх — ажанiўся. Цяпер ён ужо гукаў: «Хлопча! Хлопча!» i пры гэтым адчуваў як бы сутаргу ў горле, гэткi сорам, якi й сам ня мог растлумачыць, а таксама вiну перад гэтымi сур'ёзнымi, актыўнымi, вельмi стараннымi хлапчукамi.

Задумваўся ён рэдка (навошта пранiкаць у сутнасьць рэчаў), але iншым разам рашаўся сказаць сябе, што народжаны не дзеля гэтага i ўрэшце надышоў час уцячы. Але ўцячы ад чаго? Куды? Яго задавальняла праца. Сапраўды задавальняла? Насамрэч ён ня ўмеў рабiць iншай. Лiчбы, лiчбы, днi, месяцы, гады лiчбаў, абстрактныя гады для яго i канкрэтныя, гэта вiдавочна, для iншых асобаў. Ён народжаны не дзеля гэтага, можа быць. Але ж хто i радзi чаго нараджаецца? — разважаў ён у жаданнi супакоiцца. Ён быў чалавек спакойны, прызвычаены зносiць цяжкасьцi жыцьця. Чалавек, дзеля якога задавальненьнi не былi надта моцнымi ды й расчараваньнi ня надта нясьцерпнымi. Чалавек мэтадычны, зь не магчымымi марамi, але безь нiякiх амбiцыяў.

Штонядзелю ён апранаў свой лепшы блакiтны строй, завязваў з году ў год гальштук i iшоў на футбол. Жонка таксама зьбiралася i iшла да сваёй мацi. Часам яны выходзiлi разам, разьвiталiся ўжо ў канцы вулiцы, цалавалiся проста так. Гэта была старая завядзёнка, якую як адзiн, так i другая лiчылi натуральнай, калi разьвiталiся ў нядзелю да вечара. Настолькi ж натуральная i нязьменная, як i наведваньне ў вечары кiнатэатру ў iхным квар-

тале, каб паглядзець якую-небудзь стужку, што круцілі суботнім вечарам, як наведваньне нядзельнай імшы аб адзінаццатай у царкве Сао-Дамінгуш.

Часам пры сустрэчы жонка пыталася:

— Ня ладзілася гульня?

Адэрыту адказваў: так сабе, або нат не лічыў патрэбным даваць адказ. Ён заўсёды лёгка чырванеў, таму што быў чалавекам, які гідзіўся любой хлусьнёй. Калі ён хлусіў, то адно з-за таго, што адчуваў: ягоная жонка лягчэй разумела расказаную ім хлусьню, чым праўду, якую ён мог расказаць ёй. Ён ня мог уявіць сабе, — і часта думаў пра гэта, — якой была б ейная рэакцыя, калі б ён расказаў, дзе бавіў час ужо столькі гадоў нядзельнымі вечарамі. Штовечар. І ў дождж, і пад сонцам. Яна не паверыць, жанчыны заўсёды цяжка даюць веры простым, ясным рэчам. Так, яна ніколі не паверыць, што ён ходзіць на прыстань, каб паглядзець, як адплываюць караблі, або у аэрапорт, каб зірнуць на самалёты, што пакідаюць зямлю. Аднойчы ён расказаў Кошту, свайму калегу па банку, пра сваё захапленьне, і ў Кошты зьявілася зьедлівая ўсьмешачка. Калі Кошта не зразумеў яго, як магла зразумець жонка, бедная, пустая кабета... Кошта нат спытаўся:

— І што ты знаходзіш у гэтых людзях, што ад'яжджаюць на самалёце або караблі?

Якраз гэта і было дзіўна. Адэрйту ішоў у аэрапорт або на прыстань ня дзеля таго, каб паглядзець на людзей, якія ад'яжджаюць. І не за тым, каб паглядзець на карабель або самалёт. Усё было больш складана. Ён і сам ня ведаў, — быў ён чалавек просты, — што перажываў у тыя моманты, без сумневаў найшчасьлівейшыя, найярчэйшыя, найдасканалейшыя ў ягоным безжыцьцёвым існаваньні. Гэта было ўсё і адначасова нішто. Моцны, трошкі тхлявы пах вады, блізкай, цёмнай, зусім загадкавай, салёнае паветра б'ецца аб скуру, нэрвовыя галасы, беганіна, крыкі, там-сям сьлёзы, словы спакойнай, арганізаванай прыроды запаўнялі ўсё навокал. Паехаць бы ў Карачы... або ў Бразылію... або ў Нью-Ёрк... Потым, і гэта было самае надзвычайнае, вялікая птушка раве, цягнецца па зямлі, расьсякае прастору, або вось агромністы карабель плыве спакойна, як час, па лёгкіх хвалях ракі, нібыта ў акіяне.

Часам ён стаяў там, пакуль карабель не зьнікаў. Ён перажываў свайго роду горыч, нібыта нехта вельмі дарагі ад'ехаў назаўсёды. Але не зусім так. Тое, што ён адчуваў, было болем за тую асобу, сябе самога, што заставаўся на беразе.

Тады ён пачынаў ісьці ўздоўж прыстані і сустракаў людзей, вельмі брудных або проста загарэлых на сонцы — ён ня ведаў. Яны цягнулі або перакатвалі цюкі ў транспартныя караблі, што прысталі або меліся адплысьці. Людзі з прыгодніцкімі тварамі. Людзі. Часам ён кідаў позірк на іншыя плаўні, малыя і старыя з выгляду, што падгнілі ў вадзе, былі заўсёды ў руху і заўсёды на месцы, прывязаныя тоўстымі дратамі да жалезных слупоў. Прывязаныя, як ён. Вяртаўся ён дадому заўсёды сумны. Бачыў стол, накрыты для вячэры, пунсовую засьню, статуэтку хлапца, які есьць вішні (вішні гайдаліся, калі ён уваходзіў), уласную жонку, ужо тоўстую й друзлую ад узросту, бачыў іншымі вачыма, новымі вачыма, як той, хто вяртаецца здалёк і трапляе раптам, без падрыхтоўкі У штодзённае жыцьцё, у старое жыцьцё, у жыцьцё, якое чакала ЯГО, урэшце ў СВАЕ жыцьцё.

Жонка спытала, калі падавала суп:

— Ня ладзілася гульня? Ён пачырванеў.

— Так сабе. А твая маці, як яна маецца?

Часам увечары падаў дождж. Кроплі моцна стукалі ў шыбы, вецер падмятаў вуліцу. Яна кідала вязаньне, шчыльней атулялася ў хустку, таму што была мярзьлячкай.

— Прыемна быць у хаце, — казала яна. — Ведаеш, дзе б я была шчасьлівая? У Афрыцы...

Ён лёгка усьміхаўся, ішоў да кніжнай шафы, адкрываў «Рнбінэона Круза» або якую-небудзь з кніг Жуля Вэрна, прачытаную столькі разоў, што ўжо напамяць ведаў цэлыя ўрыўкі.

Наступнай раніцай ён вяртаўся ў банк і складаў, памнажаў, дзяліў. «Хлопча!», «Дзе ты, хлопча?» Але ў яго быў вінаваты выгляд, і дзятва яго не паважала. Яго заўсёды абслугоўвалі апошнім.

Аднойчы адзін з дырэктараў выклікаў яго, прапанаваў сесьці ў адно з тых крэслаў зялёнае скуры, якія ён ведаў дагэтуль толькі з выгляду. То быў чалавек тоўсты, вельмі вохны, усьмешлівы, з дыямэнтамі на пальцах. Ён засяроджана паглядзеў на Адэрыту, нібыта хацеў прачытаць ягоныя думкі.

— Ведаеце, чаму я вас выклікаў?

Але Адэрыту ня ведаў. Не ўяўляў нават. Ён сядзеў на акрайчыку крэсла і трымаў рукі на сьціснутых каленях, пачціва сьціснутых.

Дырэктар пачаў казаць. Што дырэкцыя прызнае ягоныя добрыя якасьці, ягоную адданасць сям'і, любоў да працы. Як ён, мабыць чуў, банк мае філію ў Ларэнсу-Маркешы*. Справа ў тым, што дырэкцыя думае, каб яго, Адзрыту, паслаць туды, ну, каб кіраваць. Заробак будзе, зразумела, падвышаны. Можна нат заверыць, што падвышэньне будзе значнае... Значнае... Дык вось, сытуацыя вельмі-вельмі выйгрышная. Ня кажучы ўжо пра прэстыж. Ну, але падумайце, падумайце, потым скажаце, згаджаецеся ці не.

Адэрыту ня думаў або, лепш сказаць, думаў вельмі мала. І жонцы не сказаў нічога пра гэта, таму што яна няздольная была зразумець ягонае рашэньне ў справе, прапанаванай дырэктарам. Яна заўсёды марыла быць сыньёрай, бедалага. Мець шмат капелюшоў, шмат вопраткі і кучу грошай, каб прымаць візыты. Жанчына эліты каляніяльнага гораду... Яна ніколі ня выбачыла б яму адмовы, гэта зразумела. Ён казаў дырэктару пра здароўе жонкі, пра сваю пячонку — вельмі прачула. Усё хлусьня, натуральна. Але чаму ж, чаму? Ён і сам ня ведаў. І рабіў гэта, можа быць, зь лепшымі намерамі. Можа таму, што ёсьць асобы, якія мараць і жывуць аднachасна: чорныя людзі на караблях, акторы і акторкі, якіх ён бачыў суботнімі вечарамі ў кінатэатры ў сваім квартале, І ён прызвычаіўся марыць і жыць. Магчыма, таму. Ужо позна, надта позна. Ён ужо ня зможа пражыць сваю мару. Ён пачуваўся старым, страшэнна старым і стомленым, вельмі, вельмі стомленым.

І вось паехаў Кошта, адплыў на прыгожым параплаве. На прыстані стаяў Адэрыту з шырока расплюшчанамі вачыма і адчуваў вялікі, неабсяжны сум. Ён глядзеў на карабель, пакуль той не растварыўся ў густым тумане, які пакрываў той раніцай Тэжу. А потым пайшоў у аэрапорт паглядзець, як стартуюць самалёты.

*Пераклад з партугальскае Валер'я Буйвала*
*надрукаваны ў НН №33 у 1997 годзе*

* Цяпер Мапуту сталіца Мазамбіку

*Уільям Трэвар*

# Каляды ў Лёндане

«Чамусьці заўсёды, — падумала яна, — заўсёды прыгадваюцца папярэднія гады, старыя калядныя паштоўкі, яшчэ непадрослыя дзеці». Быў год, калі Патрык моцна расплакаўся, бо не ўпадабаў астралісту, якім яна ўпрыгожвала гасьцёўню. А неяк на Куцьцю Брыджыт у вока трапіла драбінка коксу, і малечу сярод ночы павезьлі ў Гамэрсьміфскую больніцу. Першы год шлюбу яны з Дэрматам яшчэ жылі ва Ўотэрфордзе. А калі перабраліся ў Лёндан, дык сьвяткавалі Каляды разам зь містэрам Джойсам, у якога здымалі дом. У іх на вачох старасьць усё болей і болей адольвала гэтага чалавека.

Сама Нора — цяпер жанчына сярэдняга веку, крыху распаўнелая, з паскамі сівізны ў густых чорных валасах, была лагоднаю ды жыцьцярадаснаю. Муж — супрацьлегласьць: хударлявы, аскетычны з выгляду, ён нагадваў сьвятара і ўвасабляў саму добрапрыстойнасьць. «Давай пажэнімся, Нора», — прапанаваў ён увечары 6 лістапада 1949 году ў танцзалі «Тара» ва Ўотэрфордзе. Просьба зьдзівіла яе. Чакалася, што ягоны брат Нэд, нехлямяжы, здаравенны — ня роўня Дэрмату, — папросіць ейнае рукі.

Дэрмат цярпліва прытрымліваў крэсла, на якім Нора стаяла, нацягваючы праз пакой папяровыя гірлянды — ад аднае карцiннае рамкі да іншае. Ён не адпускаў крэсла, пакуль жонка аздабляла карціны галінкамі астралісту. Надзвычай абачлівы ад прыроды, Дэрмат хваляваўся дзеля дробязяў і асабліва непакоіўся, што Нора можа зваліцца. Сам ён аніколі не ўзьбіраўся на крэслы ды не разьвешваў упрыгожаньні ці штокольвек яшчэ. Паводле яго меркаваньня, ён не падыходзіў для гэткае справы. Увогуле, ён аніколі нічога ня ўмеў рабіць па гаспадарцы, але тое й неістотна, бо калі падрасьлі хлопцы, яны самі маглі паклапаціцца пра ўсё, чаму яна не давала рады. І чаго цяпер на тое зважаць. Ён быў такім, якім быў: стрыманым, разважлівым, нясхільным да выпіўкі, кемлівым, моцна прывязаным да сям'і й да самой Норы.

— Дзіўна, Нора, як хутка бягуць дні, — заўважыў Дэрмат, па-ранейшаму моцна сьціскаючы абедзьвюма рукамі сьпінку крэсла. — Быццам толькі ўчора былі Каляды.

Быццам учора.

Але ж за гэты час так шмат адбылося.

Надзвычай шмат.

Дзьве з карцінаў, што аздабляла Нора, былі краявідамі Ўотэрфорду. Іх калісьці падаравала ёй маці, зьняўшы са сьцяны ў гасьцёўні фэрмэрскага дому. На першай — марское ўзьбярэжжа, на другой — будынак Ірляндзкага банку, уздоўж якога пастух гоніць авечы статак. У пазалочанай раме вісела выява Маці Божай зь Дзіцем; былі й іншыя, меншыя карціны. Апошнюю галінку астра-

**Уільям Трэвар (нар. у 1928)**

ірляндзка-ангельскі празаік, найбуйнейшы з ангельскамоўных аўтараў, што працуюць сёньня ў жанры апавяданьня.

лісту — зь ягадамі — Нора прымацавала над німбам Марыі.

— Я згатую гарбаты, — з усьмешкаю прапанавала яна, калі зьлезла з крэсла.

— Гэта было б проста цудоўна, Нора.

У гасьцёўні стаялі сэрвант з тэлевізарам, тры карычневыя фатэлі, чырвонага дрэва стол ды некалькі крэслаў з высокімі сьпінкамі. І без таго загрувашчаны мэбляю, невялікі пакой зрабіўся яшчэ меншым, калі дадаліся ўпрыгожаньні. На газавым каміне былі роўненька расстаўленыя калядныя паштоўкі, а ў цэнтры — зялёны гадзіньнік у стылі трыццатых гадоў.

Іхны дамок стаяў ушчыльную з гэткімі ж стандартнымі хаткамі на адной з вуліцаў Фулгема. Вялікай сям'і ў ім заўсёды было цеснавата, але цяпер, калі Патрык і Брэндан не жылі тут, зрабілася вальней. Паўгоду таму, якраз скончыўшы падрыхтоўку ў Мідлэнд-Банку, Патрык ажаніўся зь дзяўчынаю на імя Пэрл. Брэндан практыкаваўся ў Ліверпулі, у фірме па вытворчасьці кампутараў. Астатнія трое дзяцей яшчэ вучыліся ў школе: Брыджыт — пры кляштары, што месьціўся недалёка, Кейтал ды Том — у пачаткоўцы пры царкве Сэрца Хрыстовага. Калі Патрык і Брэндан зьехалі, іх пакой аддалі Брыджыт, якая да таго спала ў бацькоўскім. На Каляды яна зноў перабярэцца назад, бо Брэндан на тры дні прыедзе дахаты. Патрык і Пэрл наведаюцца толькі на самое Раство. Яны будуць сьпяшацца ў Кройдан, да сваякоў Пэрл, каб адзначыць там Дзень дарункаў, або, як заўсёды па ірляндзкай завядзёнцы казалі Нора і Дэрмат, — дзень Сьвятога Стафана.

— Як добра будзе сабрацца разам, Нора, — зазначыў Дэрмат. — Зноў усёю сям'ёю.



— І Пэрл.

— Але, Нора. Яна цяпер частачка нас.

— Падаць табе печыва да гарбаты? У мяне ёсьць пачак «Найо.

Ён з удзячнасьцю пагадзіўся. Мінула ўжо дваццаць пяць гадоў, як яны пераехалі, і ўвесь гэты час ён працаваў інспэктарам у«Норт-Тэмз Газ» — здымаў паказаньні лічыльнікаў. Ва Ўотэрфордзе ён быў клеркам на мытні, зарабляў ня надта дый не любіў задушлівага, поўнага цыгарэтнага дыму пакою, дзе акрамя яго сядзела яшчэ з паўтузіна такіх самых клеркаў. Ён пераехаў у Ангельшчыну, бо так заманулася Норы: ёй заўсёды хацелася працаваць у лёнданскай краме. Яна атрымала месца ва ўнівэрмагу «Дыкенс-энд-Джонс», у аддзеле тканінаў, а ён зрабіўся інспэктарам па газе: дзень пры дні езьдзіў ад дзьвярэй да дзьвярэй, ведаў на памяць, дзе ў кожным з дамоў вісіць газавы лічыльнік, дый не даваў гаспадарам нагоды наракаць на сябе. Праца адразу прыйшлася яму даспадобы. Час, які адымала дарога, ён мог прысьвячаць сваім развагам, асабліва развагам пра веру.

У невялічкай кухні Нора зрабіла гарбаты й на падносе прынесла кубкі ў гасьцёўню. У гэтым годзе яна запазьнілася з аздабленьнем хаты. Звычайна ўпрыгожаньні разьвешапіся за тыдзень да сьвята, бо тады адчуваўся нейкі душэўны ўздым і ўсе сустракалі Каляды з адпаведным настроем. Яна была занятая зборам рэчаў для каляднага распродажу, на які запрасіў яе прыехаць айцец Мэйлі. Ён казаў пра шапік моднага адзеньня, але, дакладна ня ведаючы, што мелася на ўвазе, яна прасіла ў людзей старыя апранахі — выйшла звычайная мешаніна. Часу спатрэбілася

шмат, і хвілінка, каб прыбраць хату, знайшлася толькі сёньня, за два дні да Сьвятога Вечару. Але, відаць, гэтак яно й да лепшага. Брыджыт, Кейтал ды Том выправіліся ў Гамэрсьміф — паглядзець кіно. У панядзелак Дэрмат пасьля абеду не працуе, і якраз зручна будзе, пакуль яны удваіх, паразмаўляць пра містэра Джойса. Ня тое каб яна хацела ўздымаць гэтую тэму, але й адкладаць ніяк не выпадала.

— Кубачак гарбаты падбадзёрвае,* — сказаў ён, разломваючы печыва напалам. Яна наўмысна адцягвала непрыемную размову й назірала, як ён надкусіў печыва, пасьля насыпаў сабе ў кубак тры паўнюткія лыжкі цукру ды разьмяшаў. Ён любіў гарбату. Першы раз, калі ён запрасіў яе ў «Савой» ва Ўотэрфордзе, яны пілі гарбату ў кавярні кінатэатру, абмяркоўваючы прагледжаны фільм ды ўзгадваючы супольных знаёмых. Ён прыехаў ва Ўотэрфорд зь вёскі, з фэрмы, якая дасталася ў спадчыну ягонаму брату й месьцілася недалёка ад фэрмы яе бацькі. Тым вечарам ён казаў ёй, што ўжо атайбаваўся і ўсё вырашана: Уотэрфорд, вядома, ня самае выдатнае месца, але шмат у чым яму падыходзіць. Калі б яны не пажаніліся, ён і цяпер жыў бы там, працуючы па восем гадзінаў на мытні і зусім ня маючы да яе цікавасьці. Вытрымаць гэткае становішча яму дапамагла б вера.

— Паштоўка ад айца Джэка ўжо прыйшла? — запытаўся ён, маючы на ўвазе іх далёкага сваяка, сьвятара з Чыкага.

— Пакуль што не. Але ж ты ведаеш, яна заўсёды спазыняецца. Летась віншаваньні прыйшлі толькі ў лютым.

Нора сядзела ў фатэлі з другога боку ад агню й дробнымі глыткамі піла гарбату. Так прыемна



было застацца зь ім удваіх у гэтым сьвяточным пакоі: на каміне стаялі калядныя паштоўкі, цікаў зялёны гадзіньнік, за вокнамі зьбіраўся змрок. Пакуль Дэрмат запальваў цыгарэту, яна, пасьміхаючыся, узяла сабе яшчэ адно печыва й запыталася:

— Цудоўна, праўда? Ты і я, і такі спакой... Ён урачыста кіўнуў.

— Спакой прыходзіць нясьпешным крокам, — сказаў ён, і яна ведала, што гэта цытата зь нейкае кнігі. Досыць часта ягоныя словы заставаліся незразумелымі для яе. — Спакой і ласка Божая, — працягнуў ён, і яна зразумела.

Ён зьбіў з цыгарэты попел: адмыслова для гэтага побач з камінам стаяла попельніца. Усе ягоныя рухі былі павольныя. Ён быў разумным чалавекам, але думаў марудна. Рашэньне прымаў толькі пасьля доўгіх і грунтоўных развагаў, калі ўсё было прадумана да дробязяў. «Мне трэба паразважаць пра гэта, Нора», — адказаў ён дваццаць пяць гадоў таму, пачуўшы яе прапанову пераехаць у Ангельшчыну. Праз тыдзень ён сказаў, што згодны, калі яна сапраўды таго жадае.

Яны паразмаўлялі пра Брыджыт, Кейтала й Тома. Вярнуўшыся з кіно, дзеці хуценька пераапрануцца ды адразу ж выправяцца на калядную вечарыну ў кляштарную школу, дзе вучыцца Брыджыт.

— Для іх гэта значны дзень, Нора. Дазволь ім заўтра даўжэй паспаць.

— Ды ім абы спаць, — сказала яна сьмеючыся, каб зкгладзіць магчымую рэзкаватасьць сваіх словаў. — Калі столькі перадсьвяточнай беганіны, чым меней малыя нагадваюць пра сябе, тым лепш, — дадала янагэтаксама вясёла.

— Ты набыла для Кейтала прылады, якія ён прасіў?

— Так, набор хімічных рэчываў у каробцы.

— Як выдатна ты ўсё пасьпяваеш, Нора. Яна не пагадзілася. Зноў наліла сабе й яму гарбаты. Пасьля, як мага няўзнак, заўважыла:

— Містэр Джойс ня прыйдзе. Я ня буду пакідаць для яго месца за калядным сталом.

— Быць ня можа, каб ён забыўся пра нас, Нора.

— У гэтым годзе ён ня прыйдзе, — горка пасьміхнулася яна. — Мне здаецца, лепш папярэдзіць дзяцей.

— Куды ж ён пойдзе, як не да нас? Дзе ён папалудне?

— «Лаянз» звычайна адчынены.

— Не, ён ніколі ня пойдзе туды.

— У кавярні «Балруш» прапануюць на абед індыка. Сёныня шмат хто карыстаецца такімі паслугамі. Калі, напрыклад, маці ў цябе працуе ды ня мае часу гатаваць, можна пайсьці ў гатэль або кавярню — выходзіць тры-чатыры фунты на чалавека...

— Містэр Джойс ня пойдзе ў кавярню. На Раство аніхто ня можа пайсьці ў кавярню адзін.

— Але й сюды ён ня прыйдзе, мілы. Прагучала тое, што павінна было прагучаць: няма болей ніякага сэнсу й ніякіх падставаў падманвацца ды пакідаць для старога месца за сталом. Містэр Джойс ня прыйдзе. У жніўні ён перастаў да іх наведвацца. Раней прыходзіў штопятніцы — пагутарыць, папіць гарбаты, паглядзець а дзявятай навіны. Штогод на Каляды ён рупліва выбіраў для дзяцей цацкі, прыносіў шакаляд, арэхі, цыгарэты, на вясельле падараваў Патрыку й Пэрл радыёпрыймач.



— Я думаю, Нора, нягледзячы ні на што, ён прыйдзе. Магчыма, проста крыху занядужаў: хай памагае яму Бог — ён у такіх паважных гадах.

— Не, Дэрмат, ён не хварэў. Штопятніцы містэр Джойс — з акуратнымі сівымі вусамі, высакаваты, цяпер, праўда, згорблены, лядашчы ды кашчавы, — сядзеў тут, утрэцім карычневым фатэлі, і, гледзячы тэлевізар, нахіляў лысую галаву так, каб здаровае вуха было бліжэй да экрану. У свой час ён працаваў будаўніком, што й дазволіла яму прыдбаць маёмасьць у Фулгеме. Ён усяго дасягнуў сам, але так і не ажаніўся. Той жнівеньскі вечар праходзіў як звычайна. Выпраўляючыся спаць, Брыджыт пацалавала старога: колькі дзяўчынка сябе памятала, яна заўсёды рабіла гэта, калі містэр Джойс быў у іх. Ён распытаўся ў Кейтала, як той даў рады сёньняшняй пісьмовай працы.

Ніякіх спрэчак адносна хаты ніколі не ўзьнікала. Дэрмат і Нора лічылі, што містэр Джойс ставіцца да іх справядліва, і былі для яго ня толькі кватэранаймальнікамі, але й сябрамі. Калі ў Бірмінгеме й Плдфордзе ў выніку тэрактаў ІРА загінулі ангельцы, ён усё роўна наведваўся да іх у пятніцы ды на Раство. Пасьля навінаў яны абмяркоўвалі тэракты: выбух у Таўэры, выбух у аўтобусе й усе іншыя. «Вар'яты», — зазначыў містэр Джойс, і ніхто яму не запярэчыў.

— Быць ня можа, каб ён забыўся пра дзяцей, Нора. Цяпер жа Каляды.

Дэрматаў голас зьвяртаўся да яе зь ценю. Яна адчувала на твары цеплыню камiннага агню й ведала, што калі зараз зірне ў люстэрка, дык пабачыць, як разружавелася. Дэрмат не чырванеў ніколі. Нават нэрвуючыся, ён не выдаваў сваіх

эмоцыяў. У любой сытуацыі ягоны твар заставаўся бледным і ў вачах не было ані знаку хваляваньня. Пра такога мужа можна было толькі марыць. Але ў выпадку зь містэрам Джойсам ён настолькі памыляўся, што проста пужаў яе.

— Мне зайсьці заўтра па індыка? — запытаўся ён.

Яна кіўнула, спадзеючыся, што ён удакладніць, у чым справа, бо звычайна яна ніколі не адказвала на пытаньне толькі кіўком. Аднак Дэрмат маўчаў. Ён згасіў сваю цыгарэту. Пасьля запытаўся, ці ёсьць кіпень, каб выпіць яшчэ па кубачку гарбаты.

— Дэрмат, ці не перадаў бы ты сёе-тое містэру Джойсу?

— Нейкую цыдулку, так?

— Не, я падрыхтавала для яго шалік у кратkі.

— Дык хіба нельга, Нора, падараваць яго акурат на Раство, як ты заўсёды рабіла? — ён казаў мякка, але настойліва. Яна пахітала галавою.

Усё гэта было яе віною. Калі б не яе прапанова перабрацца ў Ангельшчыну, калі б ня ейнае жаданьне працаваць у лёнданскай краме, яны б ня трапілі ў пастку, якую самі ж сабе й падрыхтавалі. У іхных дзяцей лёнданскае вымаўленьне. Патрык і Брэндан працуюць у ангельскіх фірмах і жыць будуць у Ангельшчыне. Патрык ажаніўся з ангелькаю. Яны вызнаюць каталіцтва і носяць ірляндзкія імёны, але дом для іх — ужо ня Ўотэрфорд.

— Калі ласка, Дэрмат, замірыся зь містэрам Джойсам. Заедзь да яго, перадай шалік і папрасі выбачэньня.

— Выбачэньня?

— Ты ведаеш, пра што я, — насуперак яе жаданьню, у голасе пачуліся ноткі раздражнёнасьці ды неўласьцівай ёй разззлаванасьці. Яна ніколі не размаўляла так з Дэрматам. Здаралася, гэткім чынам яна зьвярталася да дзяцей.

— За што мне выбачацца, Нора?

— За тое, што сказаў тады ўвечары, — яна ўсьміхнулася, каб суняць хваляваньне. Ён запаліў яшчэ адну цыгарэту, полымя запальнічкі на імгненьне асьвятліла ягоны твар. На ім не зьмянілася ніводнай рыскі. Дэрмат прамовіў:

— Мне падаецца, Нора, паміж мною і містэрам Джойсам не было аніякай сваркі.

— Я ведаю, Дэрмат. Ты нічога такога не хацеў...

— Сваркі не было, любая.

Так, не было. Але ў той жнівеньскі вечар адбылося нешта іншае. А дзявятай у выпуску навінаў перадалі пра чарговы тэракт, і, калі Дэрмат выключыў тэлевізар, яны, як заўсёды, пачалі абмяркоўваць падзею. Містэр Джойс ізноў зазначыў, што не разумее людзей, якія могуць забіць першага-лепшага, беспрычынна. Дэрмат пакруціў галавою, сама яна назвала такія дзеяньні барбарствам. Пасьля Дэрмат дадаў, што, безумоўна, неабходна памятаць пра прыніжэньні, перажытыя каталікамі ў Паўночнай Ірляндыі. Выбухі — злачынства, але гэта не падстава, каб забыцца, што злачынства не адбылося б, калі б на Поўначы да некалькіх пакаленьняў каталікоў ня ставіліся як да быдла. Навісла ціша, невыносная ціша, якую яна сама й перарвала. «Усё гэта — у мінулым, — пасьпешліва, з напружаньнем вымавіла яна. — Аніщто ў мінулым або ў сучаснасьці, увогуле аніщто ня можа апраўдаць забойства бязьвінных людзей». «Нават калі й так, — дадаў Дэрмат, — гэта не падстава, каб замоўчваць праўду». Містэр Джойс маўчаў.

— Я кажу, Нора, ня трэба адвозіць яму шалік. Ён сам пастараецца прыйсьці да нас на Раство.

— Не, вядома ж, сам ён ня прыйдзе, — яна павысіла голас, у ім гучала цяпер ня проста раздражнёнасьць. Але яна кантралявала сваю злосьць. — Няма сумневу, ён ня прыйдзе.

— Цяпер самы час, Нора. Яшчэ адное Раство — напамін нам...

Ён гаварыў павольна. Зь ягонага цьвёрдага тону яна здагадалася, што гэта былі словы Божыя, пачутыя ў адказ на малітву.

Сама не жадаючы, яна з горыччу выгукнула:

— Гэта ня проста новае Раство. Гэта нейкае жудаснае Раство, Раство, за якое павінна быць сорамна. І ты, Дэрмат, робіш яго яшчэ горшым!

Яе вусны непрыгожа ўздрыгвалі. Калі б цяпер яна паспрабавала супакоіцца, дык толькі б яшчэ болей разнэрвавалася і, магчыма, расплакалася б.

— Містэр Джойс паводзіў сябе высакародна і тактоўна, — голасна вымавіла яна. — Ён не зважаў на тое, што мы ірляндцы, што нашыя дзеці ходзяць у школу разам зь дзецьмі ўдзельнікаў IPA. І вось ягоную высакароднасьць і тактоўнасьць шпурнулі яму ў твар. Кожнаму вядома, што на Поўначы каталікоў прыніжалі, штодоўгія гады несправядлівасьці абярнуліся ў непрымірымасьць. Аднак нельга казаць так старому, які за сваё жыцьцё наўрад ці быў дзе-небудзь па-за межамі Фулгему. Нельга так гаварыць, бо з тваіх вуснаў гэта гучыць нібыта апраўданьне забойцаў.

— Трэба прызнаць праўду. Я мусіў гэта выказаць.

— Мне няма ніякай справы да жыхароў Паўночнай Ірляндыі — каталікоў ці пратэстантаў. Няхай яны змагаюцца між сабою, але не чапаюць нас.

— Ня варта казаць так, Нора.

— Вось табе твая праўда!

Ён не адказаў. На хвіліну, калі ён схіліўся над цыгарэтаю, ягоны твар успыхнуў. За ўсё іхнае сямейнае жыцьцё яны ані разу сур'ёзна не пасварыліся, і вось цяпер яна адчувала, што справа зайшла вельмі далёка. Яна распавяла яму, што малілася пасьля кожнага новага выбуху, каб гэта аказалася справа рук «Энгры Брыгейд» альбо любой іншай неірляндзкай групоўкі. Яна казала, што ў крамах ёй рабілася сорамна за сваё ўотэрфордзкае вымаўленьне. Ён адказваў, што яна павінна быць мужнаю. І цяпер яна зразумела: ён і ад сябе патрабаваў мужнасьці, калі запярэчыў містэру Джойсу. Ён, відавочна, перад тым маліўся й разважаў, ды ўрэшце палічыў такі ўчынак абавязкам каталіка.

— Ён вырашыў, што ты не асуджаеш забойства людзей, — яна гаварыла ціха, хаця ўнутры яе ўсё кіпела. Яна адчувала, што цяпер мусіць быць на вуліцы і крычаць, крычаць на сваёй ўотэрфордзкай гаворцы, апантана сьцьвярджаючы, што кожны ўздых тэрарыстаў толькі ўзмацняе пагарду да іх і адзінае, чаго яны заслугоўваюць, — гэта нянавісьць ды сьмерць. Яна ўяўляла, як на Фулгем-брод-вэй зьвяртаецца з палымянаю прамоваю да мінакоў: яе кранутыя сівізною валасы разьвявае вецер, голас гучыць як ніколі палка. Але яна не змагла б зрабіць анічога падобнага, бо гэта было не для яе. Ёй бы не хапіла мужнасьці, гэтаксама як ёй не хапіла мужнасьці выбухнуць гневам тут, ва ўласнай гасьцёўні. За ўсе гады замужжа ў яе ніколі не ўзьнікала патрэбы

сапраўды быць мужнаю. Яна разумела гэта, аднак палёгкі ня мела.

— Мне здаецца, цяпер ён ужо зразумеў, як адно прывяло да другога, — вымавіў Дэрмат.

Ягоныя словы абразілі яе. Яна паспрабавала сабраць усю сваю моц, каб закрычаць, каб выплюхнуць на яго злосьць. Але моцы не было. Падняўшыся, яна ў паўзмроку спатыкнулася й адчула пад падэшваю галінку астралісту. Запаліла сьвятло.

— Я буду маліцца, каб містэр Джойс прыйшоў, — сказаў ён.

Нора зірнула яму ў твар, бледны й худы твар сьвятара. Упершыню з таго часу, як Дэрмат папрасіў яе рукі ў танцзале «Тара», яна не адчувала да яго прыязнасьці. Ён разумнейшы за яе, дык, можа, ён асьлепнуў? Ён добры, але ж у ягонай дабрыні ёсьць нешта цяжкое, нібыта безь яе лепш. Падман будзе жыць да самай апошняй хвіліны Сьвятога вечару: а раптам гаспадар дому прыйдзе, а раптам Бог адкажа на малітвы, — бо тут шануюць Ягоную праўду. Для Норы гэта было крывадушнасьцю, і яна нічога не магла з сабою парабіць.

Ён нешта казаў, але яна ня слухала. Ён разважаў пра адданасьць сваёй веры, пра тое, што трэба заставацца каталікамі.

— Злачынства спараджае злачынства, — прамаўляў ён. — Бог жадае, каб мы ведалі, што адное зло абавязкова вядзе да іншага.

Яна ўсё глядзела на яго, пакуль ён гаварыў, рабіла выгляд, што слухае, а насамрэч думала, ці будзе ён праз дванаццаць месяцаў, калі прыйдуць наступныя Каляды, гэтаксама езьдзіць ад хаты да хаты ды здымаць паказаньні газавых лічыльнікаў. Ці, можа, людзі адчуюць да яго непрыязнасьць і запатрабуюць іншага інспэктара — не ірляндца? Непрыхільнае стаўленьне да чалавека з ірляндзкім вымаўленьнем — гэта прыземлена й будзённа. Гэта не адносіцца да такіх высокіх матэрыяў, як праўда й сумленьне, як спараджэньне злачынства злачынствам або імкненьне Бога нешта нам давесьці. У сёньняшніх абставінах непрыязнасьць была б цалкам зразумелаю й справядліваю. І, здаецца, зусім слушна, што так і будзе, бо цяперашнія хваляваньні абудзілі ў гэтым чалавеку з ірляндзкім вымаўленьнем самае горшае, і ён вінаваты ў жорсткасьці, на якую, як падавалася, ня быў нават і здатны. А іхны стары, ані ў чым не вінаваты дамаўласьнік, магчыма, за гэтыя дванаццаць месяцаў памрэ. І сяброўства, якое ён так цаніў, не адновіцца. Апошнія свае Каляды ён сустрэне на самоце. Тое, што можна было прыняць за веліч, аказалася насамрэч нікчэмнасьцю.

Некалі, дзяўчынаю, Нора абавязкова б расплакалася, але ўдалае замужжа адвучыла яе ад сьлёзаў. Прыбіраючы кубкі й імбрычак, яна разважала пра тое, што тэрарысты былі б надзвычай задаволеныя, пабачыўшы перамогу, якую атрымалі ў адной з гасьцёўняў Фулгему. І на Каляды, калі сям'я зьбярэцца за традыцыйнай вячэрай, іх перамога будзе куды больш значнаю. Тады будуць хлапушкі, вясёлая гамонка, узрушэньне, каралева ды Папа прачытаюць свае прамовы. Дэрмат будзе абмяркоўваць калядныя пасланьні з Патрыкам і Брэнданам, як некалі абмяркоўваў зь містэрам Джойсам. Ён будзе такі ж добры, як заўсёды. Ён будзе суцяшаць Брыд-

жыт, Кейтала ды Тома, што містэр Джойс ня змог прыехаць праз слабое здароўе. І кожны раз, зірнуўшы на Дэрмата, яна ўзгадае Каляды папярэдніх гадоў. І ёй будзе сорамна за яго. І за сябе.

*Пераклад з ангельскай Тацьцяны Вабішчэвіч*
*надрукаваны ў НН № 48 у 2003 годзе*



*Макс Фрыш*

## Гісторыя пра Ізідора

Я раскажу вам невялічкую гісторыю пра Ізідора. Праўдзівую гісторыю! Ізідор быў аптэкарам, а гэта значыць, дабрасумленным чалавекам, які прытым няблага зарабляў; ён быў бацькам некалькіх дзяцей і мужам у найлепшым узросьце мужчыны, і няма патрэбы падкрэсьліваць, што Ізідор быў верным мужам. Нягледзячы на гэта, ён не выносіў пастаянных роспытаў пра тое, дзе ён быў. У выніку ён мог стаць разьюшаны, унутрана разьюшаны, зьнешне нічога нельга было заўважыць. Бо ў прынцыпе, як ужо сказана, гэта было шчасьлівае сямейнае жыцьцё. Аднойчы цудоўным летам яны, як гэта тады было ў модзе, выправіліся ў падарожжа на Маёрку, і, нягледзячы на яе пастаянныя роспыты, якія крыху злавалі яго, усё йшло як найлепей. Пекны Авіньён зачараваў іх абодвух, яны хадзілі пад руку. Ізідор і ягоная жонка, якую трэба ўяўляць сабе надзвычай сымпатычнай жанчынай, былі мужам і жонкай ўжо дзевяць гадоў, калі яны прыехалі ў Марсэль. Міжземнае мора блішчэла, як на плякаце. На злосьць сваей палавіне, якая ўжо стаяла на

---

**Макс Фрыш (1911—1991)**

швайцарскі пісьменьнік, драматург. Аўтар раманаў «Штылер», «Homo Faber», «Назаву сябе Гантэнбайн», п’есы «Дон Хуан, ці Любоў да геаметрыі».

параходзе, што адплываў на Маёрку, Ізідор у апошні момант павінен быў купіць нейкую газэту. Магчыма, ён рабіў гэта з чыстай упартасьці ў адказ на яе пытаньні, куды гэта ён ідзе. Бог сьведка, ён ня ведаў; ён вырашыў крыху прайсьціся, як гэта робяць усе мужчыны, пакуль іх параход яшчэ не адчальвае. З чыстай упартасьці, як ужо сказана, ён паглыбіўся ў францускую газэту, і ў той час, калі ягоная жонка сапраўды плыла на маляўнічую Маёрку, Ізідор, пачуўшы грозныя гудкі й адарваўшы нарэшце вочы ад газэты, апынуўся не каля жонкі, а на даволі брудным грузавым судне, якое, перапоўненае гаманлівымі мужчынамі ў жоўтай форме, таксама было пад парай. Якраз адвязвалі тоўстыя канаты. Ізідор убачыў толькі, як аддаляецца пірс. Ці то неймаверная сьпякота, ці то удар у сківіцу францускага сяржанта адабраў у яго памяць, — я не магу сказаць; аднак магу сьцьвердзіць, што Ізідор, аптэкар, меў у Замежным Легіёне нашмат больш цяжкае жыцьцё, чым дагэтуль. Пра ўцёкі не было што й думаць. Жоўты форт, дзе Ізідор быў выхаваны на мужчыну, адзінока стаяў у пустэльні, у якой Ізідор навучыўся цаніць захад сонца. Безумоўна, ён думаў часам пра сваю жонку, калі ня быў вельмі стомлены, і пэўна, напісаў бы ёй, аднак пісаць было забаронена. Францыя ўсё яшчэ змагалася, каб утрымаць свае калёніі; такім чынам, Ізідор шмат павандраваў па сьвеце, аб чым ніколі раней ня мог і падумаць. Ён забыў сваю аптэку, гэта ясна, як іншыя забываюць свае крымінальнае мінулае. З часам Ізідор нават не адчуваў тугі па краіне, якая была яго айчынай. Прамінула шмат гадоў, і вось аднойчы пекнай раніцай Ізідор увайшоў праз садовыя весьнічкі,



барадаты, худы — такі ён цяпер быў, трапічны шалом пад пахаю — каб суседзі яго ўласнага дому, якія ўжо даўно залічылі аптэкара да мёртвых, не спалохаліся ягонага незвычайнага убранства; безумоўна, меў ён і дзягу з пісталетам. Быў нядзельны ранак, дзень нараджэньня ягонае жонкі, якую ён, як ужо сказана, кахаў, хоць за ўсе гэтыя гады ніколі не напісаў нават паштоўкі. На нейкі момант — перад вачыма той самы ягоны дом, рука яшчэ на садовых весьнічках, якія былі не змазаныя й рыпелі, як і калісьці — ён завагаўся. Пяцёра дзяцей, усе не без падабенства да яго й як адзін падрослыя на сем гадоў, крычалі ўжо здалёк: татка. Назад дарогі не было. І Ізідор памаршаваў далей, як мужчына, якім ён стаў у жорсткіх баях, і з надзеяй, што ягоная каханая жонка, калі яна дома, не паставіць яго перад неабходнасьцю гаварыць. Ён прайшоў па траўніку, нібы вяртаўся, як звычайна, са сваей аптэкі, а не з Афрыкі й Індакітаю. Жонка сядзела анямеўшы, пад новым сонечным парасонам. Цудоўнага пэнюару, які быў на ей, Ізідор ніколі ня бачыў. Служанка таксама новая — адразу прынесла яшчэ адну філіжанку для барадатага пана, якога яна без сумненьня й без недаверу палічыла за новага сябра дому. Халаднавата тут, падумаў Ізідор, адкасваючы рукавы. Дзеці ўпіваліся радасьцю, атрымаўшы дазвол пагуляць з трапічным шаломам, што, вядома, не адбывалася бяз сваркі; а калі падалі каву, наступіла поўная ідылія: нядзельны ранак са званамі й торт з нагоды дня нараджэньня. Што яшчэ трэба было Ізідору! Не зьвяртаючы ўвагі на новую служанку, якая паклала яшчэ адзін прыбор, Ізідор пацягнуўся да жонкі. «Ізідор!» — сказала яна й не змагла

наліць каву, таму гэта мусіў зрабіць сам барадаты госьць. «Што?» — спытаў ён пяшчотна, напаўняючы ейную філіжанку. «Ізідор!» — сказала яна ледзь ня плачучы. Ён абняў яе. «Ізідор, — спытала яна, — дзе ты быў так доўга?» Муж, як аглушаны, паставіў сваю філіжанку; ён ужо адвык быць жанатым, ён стаў перад кустом ружы, засунуўшы рукі ў кішэні порткаў. «Чаму ты ніколі не напісаў хаця б паштоўку?» — спытала яна. Ён моўчкі забраў у зьбянтэжаных дзяцей трапічны шалом, кароткім прывычным рухам надзеў яго на галаву, што павінна было запомніцца дзецям на ўсё іхнае жыцьцё: татка з трапічным шаломам і кабурой з пісталетам; усё ня толькі сапраўднае, але й крыху паношанае ад ужытку, і калі жонка сказала: «Ведаеш што, Ізідор, табе сапраўды нельга было так рабіць!», Ізідору ўжо было дастаткова цёплага вяртаньня дамоў, ён выцягнуў (зноў, я думаю, кароткім прывычным рухам) з кабуры пісталет і тры разы стрэліў у сярэдзіну мяккага, упрыгожанага ўзьбітай цукровай пенай тарта, што, як можна сабе ўявіць, было значным сьвінствам. «Ах, Ізідор!» — крыкнула жонка, бо яе пэнюар быў увесь заплюханы, і калі б нявінныя дзеці не былі сьведкамі, яна палічыла б гэты візыт, які, зрэшты, наўрад ці працягваўся больш за дзесяць хвілінаў, галюцынацыяй. Абкружаная сваімі пяцьцю дзяцьмі, падобная да Ніёбы, яна яшчэ заўважыла, як Ізідор, чалавек безадказны, спакойным крокам пайшоў праз садовыя весьнічкі, зь недарэчным трапічным шаломам на галаве. Пасьля таго шоку яна ніколі не магла глядзець на торт, ня згадваючы пра Ізідора, што рабіла яе вартай спагады; яна мела пару вачэй, а дакладней, каля трыццаці шасьці вачэй за сьведкаў, і ей параілі падаць на развод. Але мужная жанчына ўсё яшчэ спадзявалася. Ёй было абсалютна ясна, хто вінаваты, і яна спадзявалася на раскаяньне, яна жыла цалкам дзеля сваіх пецярых дзяцей, якія паходзілі ад Ізідора, і яна яшчэ на год, як тая Пэнэлопа, выгнала маладога адваката, які наведваўся да яе не без асабістай зацікаўленасьці й падштурхоўваў яе да разводу. І сапраўды, калі праз год зноў быў дзень нараджэньня, Ізідор вярнуўся, сеў, прывітаўшыся, як заўсёды, адкасаў рукавы й дазволіў дзецям зноў пагуляцца з трапічным шаломам, аднак гэтым разам іх радасьць ад прыходу таткі не працягвалася й тры хвіліны. «Ізідор, — сказала жонка, — дзе ты зноў быў?». Ён устаў, не страляючы, дзякуй богу, і не вырываючы ў нявінных дзяцей трапічны шалом, не, Ізідор толькі падняўся, зноў закасаў рукавы й пайшоў праз садовыя весьнічкі, каб ніколі не вярнуцца. Іск аб разводзе бедная жонка падпісала не бязь сьлёз; паколькі Ізідор не зьявіўся ў акрэсьлены законам час, аптэка ягоная была прададзеная, другі шлюб быў крыху скрытны, пацьверджаны пасьля заканчэньня часу, акрэсьленага законам, загсам, карацей, усё пацякло згодна з парадкам, што было вельмі важна для дзяцей. Адказу, дзе татка праводзіць рэшту свайго жыцьця, ніколі не было. Не было й ніводнай паштоўкі. Маці не хацела, каб дзеці пра гэта пыталіся; ей жа ніколі нельга было пытацца пра гэта ў таткі.

*Пераклад з нямецкай Уладзіслава Струмілы*
*надрукаваны ў НН № 7 у 1994 годзе*

*Зыгфрыд Ленц*

# Прыхільнік ураду

Аднойчы пры канцы тыдня яны запрасілі журналістаў, каб паказаць ім на месцы, колькі ўрад мае прыхільнікаў. Яны хацелі давесьці нам, быццам усё тое, што пісалі пра неспакойны раён, не адпавядае рэчаіснасьці: ні катаваньняў, ні галечы, ні, галоўнае, шалёнага прагненьня незалежнасьці. Дык вось, яны вельмі ветліва запрасілі нас, і вельмі ветлівы, беззаганна апрануты чыноўнік сустрэў нас за опэрай і правёў да ўрадавага аўтобуса. Аўтобус быў навюткі: пах лякі й скуры плыў над намі, з радыё гучала ціхая музыка. Аўтобус паехаў, і чыноўнік выцягнуў мікрафон, драпнуў па ягонай сетачцы-накрыўцы і яшчэ раз лагодна павітаў нас. Ён сьціпла прадставіўся: «Мяне завуць Гарэк», — пасьля паказаў нам гарадзкія памяткі, распавёў, як называюцца паркі й колькі іх, растлумачыў, як пабудавалася ўзорнае паселішча на вапняковай гары, сьляпучай у ранішнім зьзяньні.

Па-за сталіцай дарога разыходзілася на дзьве: мора засталося далёка, мы вырваліся за горад, міналі засеяныя каменьням палі, бурыя адхоны; зьехалі ў лагчыну і па ёй — да моста, перакінутага цераз высахлае рэчышча. На мосьце стаяў малады жаўнер і трымаў зь нейкай лянотнай пяшчотай аўтамат; ён весела памахаў аўтобуса. У высахлым рэчышчы паміж вымытымі да белі галышамі стаялі яшчэ два жаўнеры-юнакі, і Гарэк сказаў, што мы мінаем месца, дзе надта любяць праводзіць вучэньні. Па сэрпантыне ўгару, па-над гарачай раўнінай, і праз адчыненыя шыбы ў аўтобус пранікаў, пёк вочы тонкі вапняковы пыл; прысмак вапняку закрасіў вусны. Мы пазьнімалі пінжакі. Толькі Гарэк застаўся ў пінжаку, ён усё яшчэ трымаў мікрафон і лагодным голасам тлумачыў урадавыя пляны ўвядзеньня гэтай мёртвай зямлі ў сельскагаспадарчую вытворчасьць. Я ўбачыў, што мой сусед заплюшчыў вочы, адкінуў назад галаў; вапна высушыла й пабяліла ягоныя вусны, на руках, што ляжалі на нікеляванай мэталічнай парэнчы, блакітам выбіваліся праз скуру жылы. Я хацеў штурхануць яго ў бок, бо зь люстэрка задняга віду на нас час ад часу пазіраў, мэлянхалічна пазіраў Гарэк, але пакуль я разважаў, Гарэк усхапіўся, з усьмешкаю прайшоў у зад аўтобуса і раздаў саломінкі й ледзяныя напоі ў кубках з васкаванага кардону.

Апалудні мы праяжджалі праз вёску; вокны былі пазабіваныя дошкамі ад скрыняў, убогія платы з сухога гальля стаялі дзіравыя, расхістаныя раўнінным ветрам. На пляскатых дахах не сушылася бялізна. Студня стаяла закрытая; не гнаўся за намі сабачы брэх, і нідзе не паказаўся нічый твар. Аўтобус, не збаўляючы хуткасьці, мінуў вёску, цягнучы за сабой шэры сьцяг вапняковага пылу, шэры, як сьцяг роспачы.

---

**Зыгфрыд Ленц (нар. у 1926)**

нямецкі пісьменьнік, навэліст, драматург. Аўтар раманаў «Каршакі ў небе», «Хлеба і відовішчаў», «Урок нямецкага», «Жывы прыклад». У НН таксама друкаваліся пераклады апавяданьняў «Гісторыя пра каханьне» (пер. Ул. Струмілы) і «Ноч у гатэлі» (пер. А.Пяткевіча).

Гарэк зноўку завіхаўся ў вузкім праходзе, раздаў сэндвічы, ветліва падбадзёрыў нас і паабяцаў, што да мэты засталося зусім мала. Пачаліся іржава-чырвоныя ўзгоркі; глебу засьцілалі вялікія камяні, паміж якіх расьлі малыя бясколерныя кусты. Дарога зьніжалася, мы ехалі тунэлепадобнай выгбай. Жорсткая сьпёка пякла аўтобуснае нутро. Пасьля дарога зноў вывела на прастору, і мы ўбачылі перарэзаную ракой даліну і вёску каля ракі.

Гарэк падаў нам знак, паведамленьне й запрашэньне, мы накінулі пінжакі, а аўтобус запаволіўся і спыніўся на закарэлай глiністай пляцоўцы перад чыста пабеленай хаткай. Вапна сьляпіла так, што нам аж балелі вочы. Мы сталі ў халадку, пстрычкамі павыкідвалі недакуркі, з-пад прымружаных павекаў паглядалі на хатку і чакалі Гарэка, які зьнік у ёй.

Мінула некалькі хвілінаў, пакуль ён вярнуўся і прывёў з сабой мужчыну, якога ніхто з нас раней ня бачыў.

«Гэта Бэла Бонца, — сказаў Гарэк, паказваючы на мужчыну. — Спадар Бонца займаўся якраз хатнімі справамі, але ён гатовы адказаць вам на ўсе пытаньні».

Мы паглядзелі на Бонца, які вытрываў нашыя пагляды, зьлёгку апусьціўшы твар. У яго было старое, пыльна-шэрае аблічча, рэзкія чарнаватыя зморшчыны беглі па карку; верхняя губа была апухлая. Бонца, якога нечакана засьпелі за нейкай хатняй працай, быў гладка прычасаны, а запёклая кроў на старой, худой шыі сьведчыла пра ўпартае, старраннае галеньне. На ім была сьвежая баваўняная кашуля, баваўняныя нагавіцы, закароткія, што ледзь даставалі яму да лытак; на нагах у яго былі новыя боты з жаўтаватай нявычыненай скуры, такія, якія носяць навабранцы ў вучэбках.

Мы павіталі Бэлу Бонца, кожны з нас паціснуў яму руку, тады ён кіўнуў і правёў нас да хаты. Ён прапусьціў нас наперадзе, мы ўвайшлі ў прахалодныя сенцы. Там нас чакала старая жанчына; ейнага твару было не пазнаць, толькі хустка на галаве зьзяла ў змрочным сьвятле. Старая пачаставала нас незнаёмай, з кулак, садавінай; сакавітая мякаць зіхацела чырванаватым бляскам так, што мне спачатку здалося, быццам я ўгрызаюся ў сьвежую рану.

Мы зноўку выйшлі на гліністую пляцоўку. Побач з аўтобусам цяпер стаялі босыя дзеці; яны невыносна пільна ўзіраліся ў Бонца і пры гэтым не варушыліся, не размаўлялі адно з адным. Ні разу яны не зірнулі ні на каго з нас. Бонца загадкава-здаволена ўсьміхнуўся.

«У вас няма дзяцей?» — спытаўся Потгісэр.

Гэта было першае пытаньне, і Бонца, ухмыляючыся, адказаў: «Не, не, у мяне быў сын. Мы якраз спрабуем забыцца на яго. Ён паўстаў супраць ураду. Гультай быў, няздара, не, каб стацца хоць кімсь, то падаўся да гэтых сабатажнікаў, якія ўсюды народ бунтуюць. Змагаюцца проці ўраду, бо думаюць, што могуць нешта палепшыць». Бонца прамовіў гэта рашуча, зь ціхай настойлівасьцю; калі ён гаварыў, я заўважыў, што ў яго роце бракавала разцоў.

«Можа, яны б і палепшылі нешта», — сказаў Потгісэр. Гарэк задаволена ўсьміхнуўся, калі пачуў гэтае пытаньне, а Бонца сказаў: «Усе ўрады аднолькавыя, усіх іх трэба цярпець, якіясь лягчэй, іншыя цяжэй. Гэты ўрад мы ведаем, а тыя другія толькі абяцаюць».

Дзеці абмяняліся доўгім паглядам.

«Але ж найвялікшы іхны абяцанак — незалежнасьць», — сказаў Бляйгут.

«Незалежнасьцю сыты ня будзеш, — сказаў Бонца, ухмыляючыся. —Што нам з тае незалежнасьці, калі краіна галее. А гэты ўрад прадае нашы тавары за мяжу. Ён паклапаціўся аб пракладцы дарог, пабудове шпіталяў і школаў. Ён акультурваў глебы і акультурыць яшчэ больш. Ён яшчэ й выбарчае права нам даў».

Дзеці скалануліся, схапілі адно аднаго за рукі й міжволі зрабілі крок наперад. Бонца апусьціў твар, ухмыльнуўся ўсё з тым жа загадкавым задавальненьнем, а калі зноўку ўзьняў твар, пашукаў вачыма Гарэка, які сьціпла стаяў за намі.

«Зрэшты, — сказаў Бонца, хоць у яго й не пыталіся, — для незалежнасьці патрэбная й пэўная сьпеласьць. Мусіць, мы ня ведалі б, што рабіць зь незалежнасьцяй. Для народаў таксама ёсьць такі ўзрост, калі яны стаюцца паўналетнімі. Мы яшчэ не дасягнулі гэтага ўзросту. І я прыхільнік гэтага ўраду, бо ён не пакідае нас, непаўналетніх, на волю лёсу. Я ўдзячны яму за гэта, знаеце».

Гарэк пайшоў да аўтобуса, Бонца ўважліва сачыў за ім, пачакаў, пакуль цяжкія дзьверы аўтобуса зачыніліся, і мы засталіся адны на сухой, глiністай пляцоўцы. Чужых нібыта не засталося, і Фінке з радыё хуценька спытаўся ў Бонца: «Ну, а папраўдзе? Пакуль мы адны...» Бонца зглынуў, паглядзеў на Фінке зьдзіўлена і адчужана і ясна выгаварыў: «Я не зразумеў вашага пытаньня».

«Зараз можна гаварыць адкрыта», — пасьпешліва сказаў Фінке.



«Гаварыць адкрыта», — паўтарыў Бонца задуменна й шырака ўхмыльнуўся, так, што стала відаць праваліны ў шэрагу зубоў.

«Хіба што я няясна сказаў: мы за гэты ўрад, мая жонка ды я; бо ўсяго, чым мы ёсьць і чаго мы дасягнулі, мы дасягнулі зь ягонай дапамогай. За гэта мы ўдзячныя яму. Вы ведаеце, як рэдка бывае, каб чалавек быў удзячным ураду — а мы ўдзячныя. І мой сусед удзячны, і тыя дзеці таксама, і кожны ў вёсцы. Пастукайце ў любыя дзьверы, вам паўсюль скажуць, якія мы ўдзячныя ўраду».

Раптам Гум, малады бледы журналіст, падыйшоў да Бонца й шапянуў: «Я знаю напэўна, што вашага сына арыштавалі й катавалі ў турме сталіцы. Што вы на гэта скажаце?»

Бонца заплюшчыў вочы, ягоныя павекі былі прыцярушаныя парахном вапны; ён скрывіў вусны і адказаў: «У мяне няма сына, і таму немагчыма, каб яго катавалі. Мы за гэты ўрад, чуеце! Я — за гэты ўрад».

Ён запаліў самаробную крывую цыгарку, моцна зацягнуўся й зірнуў на дзьверы аўтобуса, ужо адкрытыя. Гарэк вярнуўся й даведаўся пра ход размовы. Бонца вагаўся, перакочваючыся з абцасаў на мыскі. Выглядала на тое, што ён сапраўды адчуў палёгку, калі Гарэк зноў падышоў да нас, і на далейшыя пытаньні ён адказваў дасьціпна й падрабязна, раз-пораз са сьвістам прапускаючы паветра праз праваліны ў зубах.

Калі паўз нас ішоў нейкі мужчына з касой, Бонца паклікаў яго; мужчына падышоў цяжкім крокам, зьняў касу з пляча і выслухаў з Бонцавых вуснаў пытаньні, якія мы папярэдне задавалі самому Бонцу. Мужчына з абурэньнем пак-

руціў галавой: ён быў гарачым прыхільнікам ураду, і Бонца сустракаў кожнае ягонае прызнаньне зь ціхім трыюмфам. Урэшце мужчыны паціснулі адзін аднаму рукі, быццам каб змацаваць у нашай прысутнасьці сваю супольную адданасьць ураду.

Мы таксама пачалі разьвітвацца, кожны з нас падаваў Бонцу руку — я быў апошнім; але сьціскаючы ягоную грубую, з патрэсканаю скурай, руку, я адчуў папяровы шарык паміж нашымі далонямі. Павольна, сагнутымі пальцамі, я забраў яго, адышоўся й запхнуў шарык у кішэнь. Бэла Бонца стаяў і курыў хуткімі, кароткімі зацяжкамі; ён гукнуў жонку, і яна разам з Бонцам і мужчынам з касой сачыла ад’езд аўтобуса, а тым часам дзеці караскаліся на засланы каменьнем і тымі нізкімі бясколернымі кустамі ўзгорак.

Мы вярталіся ня тым самым шляхам, а праз гарачую раўніну, пакуль не напаткалі чыгуначны насып, уздоўж якога бегла гравейка. Увесь гэты час я трымаў адну руку ў кішэні, а ў руцэ маленькі папяровы шарык з такім цьвёрдым ядром, што пазногці ў яго не ўціскаліся, як моцна я ні пружыўся. Я не адважваўся выцягнуць шарык, бо час ад часу зь люстэрка задняга віду нас дасягаў мэлянхалічны пагляд Гарэка. Па-над намі й далей па мёртвай зямлі імкліва праляцеў вусьцішны цень; толькі пасьля мы пачулі гул прапэлераў і ўбачылі самалёт, які ляцеў у кірунку сталіцы нізка па-над чыгункай; на даляглядзе ён павярнуўся, зноўку гульліва праімчаў над намі і пасьля ўжо не пакідаў нас у спакоі.

Я думаў пра Бэлу Бонца, трымаў у руцэ папяровы шарык зь цьвёрдым ядром і адчуваў, як пацее далонь. У канцы чыгуначнага насыпу паказалася нешта, наблізілася да нас, і мы пазналі дрызіну з маладымі жаўнерамі. Яны прыветна памахалі нам аўтаматамі. Я асьцярожна выцягнуў папяровы шарык, але не глядзеў на яго, а хутка запхнуў яго ў маленькую кішэню, адзіную кішэню, якую я мог зашпіліць. І зноў думаў пра Бэлу Бонца, прыхільніка ўраду: я зноў бачыў ягоныя жаўтаватыя боты з сырой скуры, летуценную задаволенасьць ягонага твару і чорныя праваліны, калі ён пачынаў гаварыць. Ніхто з нас не сумняваўся, што ў ягонай асобе мы спаткалі шчырага прыхільніка ўраду.

Мы вярталіся ў сталіцу ўздоўж мора; вецер даносіў да нас працяжны, падобны да цмоканьня пацалункаў шум вады, якая білася ў падмытыя скалы. Каля опэры мы выйшлі, Гарэк ветліва разьвітаўся з намі. Я вярнуўся ў гатэль, адзін, на ліфце падняўся да свайго пакою і ў прыбіральні разгарнуў папяровы шарык, які мне ўпотайкі даверыў прыхільнік ураду: там нічога не было напісана, ніводнай літары, ніводнага слова. У паперу быў загорнуты пярэдні зуб, пакрыты карычневатымі сьлядамі нікатыны. Гэта быў чалавечы нашчэплены зуб, і я ведаў, чый.

*Пераклад з нямецкай Алеся Пяткевіча*
*надрукаваны ў НН № 8 у 1999 годзе*

*Раймон Карвэр*

## Бамбіза

Я сяджу ў сваёй сяброўкі — у Рыты, п’ю каву, куру і расказваю. А расказваю во што.

Была серада — такая, ты ведаеш, марудная серада — і было ўжо парадкам часу, калі Герб пасадзіў за адзін з маіх сталоў бамбізу.

Таўсьцейшага таўсьцюка я ў жыцьці ня бачыла, хоць і выглядаў ён ахайна, і апрануты быў непаскудна. Усё ў ім здаравізнае. А найбольш кінуліся ў вочы пальцы. Я забірала талеркі ў старых за столікам, наступным за ягоным, і мой позірк упаў на ягоныя пальцы. Ну, утрая большыя, чым у нармальнага чалавека: даўжэзныя, тоўстыя, тлустыя.

Я аглядаю астатнія свае столікі: за адным вячэраюць чацьвёра бізнэсоўцаў — такія патрабавальныя! — за другім чатыры чалавекі, тры мужыкі і кабета, ды нейкая старая пара. Ліндэр наліў бамбізу вады, і я добра пачакала, пакуль падысьці.

Добры вечар, кажу. Што будзеце есьці, кажу.

Рыта, але ён быў такі кабан!

Добры вечар, кажа. Здарова. А я ўжо ўсё выбраў, кажа.

І гаворыць так дзіўна, усё носам пасопвае.

---

**Рэйманд Карвэр (1938—88)**

амэрыканскі празаік, паэт, сцэнарыст. Адзін з самых папулярных аўтараў апошніх дзесяцігодзьдзяў



Мабыць, пачнём з царскае салаты, кажа. Таксама супу, толькі ж да супу не шкадуйце хлеба і масла, калі ласка. Напэўна, адбіўныя катлеты з маладое бараніны. Ну, і запечанай у сьмятане бульбы. А там пабачым, што на дэсэрт. Вялікі дзякуй, ён кажа, і аддае мне мэню.

Божа, Рыта, ну ў яго і пальцы былі.

Я ляту ў кухню, аддаю Рудзі замову, а ён яе бярэ з такім тварам, ну, ты ж ведаеш Рудзі. Ён заўсёды на працы такі.

Толькі я выйшла, а Марго — я табе апавядала пра Марго, тую, што да Рудзі клеіцца? — а Марго ўжо мне шэпча: гэты жыртрэст што, твой сябрук? Ну ён і кабан.

Цяпер я думаю, усё гэта было часткаю нечага большага. Не, праўда, — частка большага.

Я ў яго за столікам перамешваю царскую салату, а ён за кожным маім рухам назірае, а сам сабе маслам лусты хлеба шмаруе і ўбок адкладае. А носам усё сабе соп-соп. Дык вось, ці то я такая знэрваваная, ці то што, але ў мяне з рук вады шклянка, што для яго несла, на падлогу як бабахне!

Даруйце, калі ласка, кажу. Гэтак заўсёды, калі сьпяшаешся. Прабачце, кажу. Вас не запляскала? Зараз, кажу, прыбяром.

Нічога, кажа, усё ў парадку, кажа ён і носам чмыша. Не хвалюйцеся, на нас не папала, кажа.

Усьміхаецца, рукой махнуў, а я іду клікаць Ліндэра, каб прыбраў. Я падыходжу, каб накласьці яму ў талерку салаты, гляджу — а хлеб і масла ўжо як падмяло.

Я прынесла яму яшчэ хлеба, а салаты ўжо няма. Не, ты ўяўляеш, царскую салату за хвілю як ветрам зьдзьмула.

Ай, дзякуй вам за хлеб, кажа. А хлеб у вас добры, кажа.

Дзякуй на добрым слове, кажу.

Да таго смакуе, кажа. Ну, праўда. Ня кожны дзень такога смачнага хлеба паясі.

А вы скуль, пытаюся. Нешта я вас раней ня бачыла, кажу.

Але! Такога дзядзечку забудзеш, устаўляе свае тры грошыкі Рыта.

З Дэнвэру, кажа.

Я пра гэта далей маўчу, хоць мяне і заінтрыгавала.

Ваш суп, спадару, за хвіліну прынясуць, кажу я і йду, бо трэба тых чатырох патрабавальных бізнэсоўцаў абслужыць.

Калі я падаю суп, бачу, хлеба ўжо зноў няма, апошні кавалак пайшоў у рот.

Далібог, мала калі такога смачнага хлебца паспытаеш. І ўсё сапе. Вы ўжо мне прабачце, кажа.

Што вы, што вы, кажу, ежце на здароўе. Добра, калі чалавек есьць і яму гэта ў смак.

Мо й так, кажа. Мо й праўда, калі вы так лічыце. І сапе. Папраўляе сурвэтку, потым бярэцца за лыжку.

Ну і ўспушыла пацана, кажа Ліндэр.

Што ён табе, вінаваты, што такі тоўсты, кажу. Закрый ляпу.

Прыношу яму яшчэ кошычак хлеба і масла. Ну, як вам супчык, пытаюся.

Дзякуй. Добры, кажа, вельмі добры, абцірае вусны й прыціскае сурвэтку да потнага падбародзьдзя. Гэта тутака так горача ці гэта мне толькі горача? — пытаецца ён.

Не, гэта так у залі душна.

Тады мы здымем паліто, мусіць.



Калі ласка, кажу, здымайце. Чалавек павінен быць у камфорце.

Праўда, кажа ён. Гэта вы вельмі-вельмі слушна кажаце. Але пасьля я гляджу, а ён як сядзеў, так і сядзіць у паліто.

Тыя кампаніі і старыя ўжо разышліся. Рэстаран пусьцеў. Калі я падавала таўстуну катлеты, і бульбу, і яшчэ хлеба і масла, ён ужо заставаўся адзін на ўсю залю. Я лінула на бульбу сьмятаны ад душы, пасыпала шынкай, цыбуляй і прынесла во гэтулькі хлеба і масла.

Мо яшчэ што, пытаюся.

Не, дзякуй, кажа ён і сапе. Выдатна, дзякуй, кажа і зноў сапе.

Смачна есьці, кажу. Падымаю накрыўку цукарнічкі і зазіраю туды. А ён утаропіўся ў мяне і ўсё ківае, пакуль я не пайшла.

Цяпер я ведаю, мне нешта было трэба. Але тады я ня ведала што.

Твой жыртрэст, кажа мне Гарыета, табе кішкі выесьць. Ну, ты ж ведаеш Гарыету.

Наш фірмовы дэсэрт, кажу, называецца «Зялёны ліхтарык», гэта пудынг з соўсам, ёсьць яшчэ пірог з сырам, марозіва з ваніляй і ананасавы шарбэт.

А мы вас не затрымліваем? Ён пытаецца ў мяне і ўсё сапе заклапочана.

Ані, кажу. Вядома, не. Я, кажу, яшчэ кавы прынясу вам, а вы пакуль думайце.

Мы будзем шчырымі з вамі, кажа ён і гайдаецца. Мы жадаем і фірмовага пудынгу, і марозіва місачку. І на марозіва наверх крапніце капачку шакаляднага сыропу, калі ласка. Мы ж гаварылі, што прагаладаліся, кажа.

Я выходжу на кухню, хачу сама прасачыць, каб яму дэсэрту не пашкадавалі, а Рудзі мне: Га-

рыета сказала, што ў цябе там туша нейкая вячэрае, хоць ты яго ў цырку паказвай замест клоўна. Што, праўда?

Рудзі фартух зьняў і каўпак зьняў, ну, ты ж разумееш.

Рудзі, кажу, ён тоўсты, але ж ня ў тым справа.

Рудзі сьмяецца. А табе, здаецца, падабаюцца такія сланы.

Ты, Рудзі, ня сьпі ў шапку, пакеплівае Джаана. Яна якраз увайшла й глядзіць.

Я пачынаю раўнаваць, кажа Джаане Рудзі.

Я паставіла перад бамбізам пудынг, а вялікую вазу марозіва з шакалядным сыропам — трохі збоку.

Ну, дзякуй, кажа ён.

На здароўе, кажу, і мяне ахінае нейкае пачуцьцё.

Верыце вы мне ці не, кажа, але мы не заўсёды так ямо.

А я ўсё ем і ем, кажу, але не магу вагі набраць, як ні пнуся.

Не, кажа. Каб наша воля, ніколі б. Але ж гэта ня ў нашай волі.

Потым за лыжку, і есьць.

А далей што, пытаецца Рыта, зацягваючыся цыгарэтай з майго пачка і падсоўваючыся бліжэй да стала. Дзела пайшло весялей, кажа Рыта.

А ўсё. Больш нічога. Ён зьеў дэсэрт і пайшоў. І мы з Рудзі таксама пацёпалі дахаты.

Жыртрэст нейкі, кажа Рудзі і разьмінае плечы. Ён гэтак заўжды пацягваецца, калі стомлены. Пасьля ён сьмяецца і зноў ідзе глядзець тэлек.

Я стаўлю ваду на чай і прымаю душ. Кладу сабе далонь між нагамі і дзівуюся, што было б, каб у мяне былі дзеці і адно зь іх выглядала так, як гэты бамбіза.



Заліваю ваду ў імбрычак, выстаўляю кубкі, цукарніцу і выношу на падносе для Рудзі.

Рудзі, нібы разважаючы сам сабе, кажа: ведаў я неяк, калі я быў дзіцем, двух бамбізаў, такіх двух слонікаў. Маленькія, а тлустыя, Божа мой. Ня памятаю, як іх было зваць. Тлушч — так аднаго пацана і гукалі. Тлушч — клікалі мы яго. Ён жыў побач са мной. А другі хлопец прыехаў у наш раён пасьля. У яго мянушка была — Карова. Усе клікалі яго «Карова», толькі настаўнікі па імені. Тлушч і Карова.

Во каб у мяне іхныя фоткі засталіся, кажа.

А мне да галавы нічога не прыходзіць, проста гарбату п’ём. Я неўзабаве ўстаю і іду класьціся. Рудзі таксама ўстае, выключае тэлевізар, засоўвае ўваходныя дзьверы і пачынае расшпіляцца.

Я кладуся ў ложак, пералажу на край і ляжу там на жываце. Рудзі кладзецца ў ложак і пачынае, як толькі выключылі сьвятло. Я пераварочваюся на сьпіну і крыху расслабляюся, хоць ён мяне крыху змусіў. Ды во што дзіўна: калі ён залазіць на мяне, я раптам адчуваю сябе поўнай, я адчуваю сябе жахліва поўнай, такой поўнай, што Рудзі — нібы ён маляўка якая — амаль зьнікае.

Гэта прыкол, кажа Рыта, але бачу, што ты ня ведаеш, як яго растлумачыць.

Я адчуваю прыгнечанасьць. Але гэтага я ёй расказваць ня буду. Я й так ужо зашмат ёй распавяла.

Яна сядзіць і чакае, пакручваючы валасы сваімі мініятурнымі пальчыкамі. Чакае нечага? Каб жа знацьцё. Цяпер жнівень.

Маё жыцьцё зьменіцца. Я гэта адчуваю.

*Пераклад з ангельскай пад псэўданімам А.Д.*
*быў надрукаваны ў НН № 48 за 2002 год*

*Хасэ Пабла Фэйн*

## Краіна дурняў

Перадусім трэба прызнаць, што ў лексыцы моладзі слова «дурань» замяніла тыповы мадызм аргентынцаў «чэ». Сёньня юнакі і дзяўчаты ня кажуць: «досыць, чэ», «куды ж там, чэ», «ніяк ня ўцяміш, чэ». Цяперака гавораць: «досыць, дурань», «куды ж там, дурань», «ніяк ня ўцяміш, дурань». Здаецца, што слова «дурань» сьвядома прызнае стан рэчаў і фактаў, хоць і перастала адчувацца ў ім крыўдная лаянка.

Аднак, ня будзем забягаць наперад. Пакуль мы мусім фіксаваць рашучы лінгвістычны зрух: традыцыйнае «чэ» ператварылася ў «дурань» за выняткам агрэсіўнага кантэксту, і новае слова адшліфавана моўнай практыкай да ўзроўню нармальнага звароту. Так, зь цеплынёй у голасе кажуць: «слухай, дурань» альбо «лепш едзь аўтобусам, чымся на мэтро, дурань».

Нельга ігнараваць, што добры жарт амаль заўжды адлюстроўвае сацыяльнае ці палітычнае становішча ў краіне. Жарты, якія ўзьніклі ад мэнэмізму, — незьлічоныя, і ўсе дадаюць новыя рысы да адбітку рэальнага становішча, якое іх нарадзіла. Напрыклад, восьадзін з жартаў, які падаецца мне яскравым і характэрным.

---

**Хасэ Пабла Фэйг (нар. 1943)**

аргентынскі пісьменьнік



— Ці ведаеш новую мянушку Мэнэма?
— Не.
— Кароль дурняў.
— Чаму ж?
— Бо ён кароль, а мы — дурні.

Соль жарту ў тым, што напачатку быццам бы Мэнэма называюць традыцыйна зьневажальна: «кароль дурняў», гэта значыць, найвялікшы дурань, бязглузьнік, ідыёт. Аднак, як заўсёды, за інтрыгаю жарту хаваецца нечаканая разьвязка, і выраз «кароль дурняў» акцэнтуе мяноўна караля, манарха, які мае абсалютную ўладу ў руках, а любы манарх, вядома, мае сваіх васалаў.

Гэтыя васалы атрымалі мянушку, якую спачатку мы надавалі каралю. Але ж не, мянушка не караля, а васалаў, бо дурні — васалы караля. Такім чынам, кароль дурняў — гэта манарх, які ўладарыць над васаламі, гэтак званымі дурнямі. Дакладней, намі. Жарт, напачатку агрэсіўны ў адносінах да Мэнэма, завяршаецца прызнаньнем: дурні мы, а ён кароль, манарх, які робіць з нас дурняў, кіруючы намі. Бо калі мы ў чымсьці дурні, дык у тым, што Мэнэм — наш кароль. І, да таго ж, мы яго абралі.

Людцы слухаюць гэты жарт і сьмяюцца, ніколі ж не абураюцца. Ніхто не казаў: «Я ня дурань ды Мэнэм ня мой кароль». Не, добрыя ды шматпакутныя аргентынцы рагочуць ды кажуць: «Выдатная паказка, дурань». Яны прымаюць слоўца «дурань» і, вядома ж, перастаюць зьвяртацца адзін да аднаго на «чэ». Гэта ж так. Напрыклад, сябрук разьвітваецца, выходзіць з кавярні, і раптам адзін з нас прыгадвае, што не даказаў яму чагосьці. Тады кліча яго зноўку. Раней гукалі: «Чэ!», а цяперака: «Дурань!»

Я зачапіў тэму не бяз дай прычыны. Гэта прыйшло, як шмат чаго іншага, калі я піў філіжанку кавы ў кавярні ў сябе каля хаты. Я сядзеў зь сябрам, а сябра гартаў газэту з падзеямі ў Рамальё. Паліцыя Буэнас-Айрэса застрэліла і нейкіх тэрарыстаў, і іхных закладнікаў. Вось мой сябра пра гэта і чытаў.

Раптам ён прачытаў уголас, што камісар, які кіраваў гэтай адказнай апэрацыяй, абвясьціў, нібыта паліцэйскія цалялі ў колы, у шыны аўто, у якім уцякалі тэрарысты з закладнікамі. Быцьцам выстралілі ці то восемдзесят, ці то сто семдзесят куляў. І ні адна з куляў ня трапіла ў гумовыя шыны. Мой сябрук глядзіць на мяне і пытаецца: «Яны што, нас зусім дурнямі лічаць?» Так, адказваю я, безумоўна, яны трымаюць нас за дурняў. Здаўна, ды так, што аргентынцы ўжо ня чэ, а проста дурні.

Калі Альсагарай казаў, што «трэба пражыць зіму дый годзе», гэтак ён думаў. І пазьней Ангація і Ланусэ, ды часьцяком стары Пэрон трымалі нас за дурняў. І калі Відэла сьцьвярджаў, што «тыя, хто нібыта зьнік, жывуць спакойна за мяжой», таксама. І калі загаманілі пра «антыаргентынскую кампанію» — гэта мы засталіся ў дурнях. І калі сьвяткавалі перамогу на чэмпіянаце сьвету па футболе як нацыянальнае сьвята шчасьця ды перамаглі пэруанцаў ажно 6:0, таксама. І прэзыдэнт Альфансын, які дадумаўся да таго, што нашыя бедныя хлопцы — героі Мальвінаў, а ў нашым агульным доме — поўны парадак, трымаў нас за дурняў.

Таму ж Мэнэму абрыдла лічыць нас дурнямі. Дзесяць гадкоў запар. І Мэнэм, і Ёма, і Альсагарай, і тыя, хто забіў Кабэсаса, і тыя, хто інсцэнаваў самагубства Ёбрана. Усе глядзяць на нас як на дурняў. А цяперака паліцэйскія забойцы ў Рамальё, і тыя, хто зьдзекаваўся з магілак у Таблада, яны ўпэўненыя, што мы дурні. І тыя, хто дае забойцам прытулак і волю, хто мусіў бы знайсьці і пакараць іх турмою, штодзень паўтараюць самі сабе, што мы дурні. Зрэшты, мы зьведалі гэта, бо мы і ёсьць краіна дурняў. Сёньня Гевару ня звалі б Эрнэста Чэ. Казалі б Эрнэста Дурань. І не па ягонай вінаватасьці нават, а па нашай суцэльнай дурноце.

Мой сябрук, там, у кавярні ў мяне каля хаты, маркотна склаў газэту і кінуў яе на столік. Паклікаў афіцыянта. Папрасіў яшчэ адну філіжаначку кавы. У ягоных вачох я заўважыў водблескі злосьці. Абурэньня. Мабыць, непакоры. Ён зірнуў на мяне ды ўздыхнуў: «Гэтак больш нельга». Яму прынесьлі каву. Ён пасёрбваў, каб не абпячыся. Зноўку падняў вочы і казаў: «Трэба штосьці рабіць, дурань».

Гэта — пачатак.

*Пераклад з гішпанскай Карласа Шэрмана*
*надрукаваны ў НН № 5 у 2000 годзе*

*Рэй Брэдбэры*

# Нічога новага, альбо Што забіла сабаку?

Гэта быў дзень бойняў, катаклізмаў, тарнада, землятрусаў, зацьменьняў, масавых забойстваў, вывяржэньняў вульканаў, разнастайных загубаў, у пік якіх сонца глытала зямлю і зьнікалі зоркі.

Калі падаць гэта ўсё проста — найпаважаны чалец сям'і Бэнтліяў узяў дый памёр.

Дог было ягонае імя, і быў ён догам.

У нядзелю Бэнтліі прачнуліся позна і на кухні знайшлі распластанага на падлозе Дога. Галава ягоная была павернутая да Мэкі, лапы акуратна складзеныя, хвасток не віхляўся, а быў нерухомы ўпершыню за дваццаць гадоў.

Дваццаць гадоў! Божа мой, думаў кожны, ці магло насамрэч гэта быць так доўга? І цяпер, без усялякага дазволу, Дог быў халодны — ён пакінуў сьвет.

Сузан, малодшая дачка, пабудзіла ўсіх рэзкім крыкам:

— Нешта ня тое з Догам. Хутчэй!

Не парупіўшыся надзець халата, у ніжняй бялізьне, Роджэр Бэнтлі кінуўся паглядзець на нерухомага зьвера, які ляжаў на кухні. Усьлед за мужам пайшла Рут, а за ёю — іхны дванаццацігадовы сын Скіп. Родні й Сал, якія жылі ўжо сваімі сем'ямі, павінны былі прыбыць пазьней. І кожны па чарзе мусіў сказаць адно й тое ж: «Не! Дог — назаўсёды».

Дог нічога не казаў, ляжаў, як Другая сусьветная вайна, кагадзе завершаная, ляжаў, як спусташэньне.

Сьлёзы залівалі шчочкі Сузан, пасьля, салідарныя із сьлязьмі гаспадара, сьлёзы намачылі шчокі Рут Бэнтлі, і, нарэшце, калі ўсе патанулі, сьлёзы зьявіліся ў Скіпа.

Яны інстынктыўна рабілі кругі вакол Дога, станавіліся на каленкі на падлогу, каб дакрануцца да яго, быццам гэта магло яго ажывіць — а раптам сабака сядзе, усьміхнецца, забрэша ці папросіцца за дзьверы. Іхныя дотыкі нічога не зьмянілі, хіба што павялічылі аб'ём сьлёзаў.

Урэшце сямейнікі падняліся, моцна абнялі адно аднаго і, агаломшаныя, прыняліся за сьняданак, у часе якога прыбітая Рут Бэнтлі сказала: «Мы ня можам проста пакінуць яго тут».

Роджэр Бэнтлі акуратна падняў сабаку й перанес яго ў дварок —у цянёк каля сажалкі.

— Што робім далей?

— Я ня ведаю, — сказаў Роджэр Бэнтлі. — Гэта першая сьмерць у сям'і за ўвесь час.

Ён спыніўся і, цяжка дыхаючы, паматляў галавой:

— Я маю на ўвазе...

— Ты меў на ўвазе дакладна тое, што сказаў, — выціснула Рут Бэнтлі. — Калі Дог — не сям'я, значыць, ён — нішто. Божа мой, я люблю яго.

Выбухнулі новыя сьлёзы, і ў гэты момант Роджэр Бэнтлі ўзяў коўдру, каб накрыць Дога, аднак Сузан спыніла яго.

---

**Рэй Брэдбэры (нар. у 1920)**

амэрыканскі пісьменьнік-фантаст. Аўтар рамана «451 па Фарэнгейту», зборнікаў апавяданьняў

— Не, не. Я хачу бачыць яго. У мяне ня будзе магчымасьці бачыць яго зноў. Ён такі прыгожы. Ён такі — стары.

Яны перанесьлі свае сьняданкі ў дварок, чамусь адчуваючы, што ня могуць ня бачыць сабакі пад час яды.

Роджэр Бэнтлі патэлефанаваў старэйшым жанатым дзецям. Калі яны прыехалі — найперш Родні, якому дваццаць адзін, а пасьля старэйшая дачка Сал, ёй дваццаць чатыры, — усіх ахапіла новая хваля роспачы. Яны ціха сядзелі й глядзелі на адбітак Дога ў люстэрку.

— Якія вашыя пляны? — нарэшце папытаўся Родні.

— Я разумею, гэта дурнота, — сказаў Роджэр Бэнтлі пасьля паўзы. — Але ён усяго толькі сабака...

— Толькі!? — Адразу ж зарыдалі ўсе.

Роджэр змушаны быў адступіцца.

— Паглядзеце, ён варты Тадж Махала. І ён атрымае Могілкі Хатніх Улюбёнцаў у Бэрбанку.

— Могілкі Ўлюбёнцаў, — сказаў Родні, — што за глупства!

— Што ж тут неразумнага? — Твар Скіпа пачырванеў, а вусны задрыжэлі: — Дог, ну, Дог быў пэрлінай... надзвычай каштоўнай.

— Та-а-к, — дадала Сузан.

— Добра, даруйце мне. — Роджэр Бэнтлі павярнуўся, каб абвесьці позіркам сажалку, кустоўе й неба. — Я думаю, што можна выклікаць трупяроў.

— Трупяроў? — ускрыкнула Рут Бэнтлі.

— Трупы? — сказала Сузан. — Дог ня ёсьць трупам.

— Што ж ён тады? — спытаўся Скіп.

Усе ўтаропіліся ў сабаку.



— Ён, — выпаліла ўраз Сузан, — ён... ён — мая любоў.

Перад тым, як плач мусіў распачацца зноўку, Роджэр Бэнтлі ўзяў слухаўку, патэлефанаваў на Могілкі Ўлюбёнцаў.

— Дзьвесьце даляраў, — аб’явіў ён прысутным. —Някепска.

— Для Дога? — сказаў Скіп. — Мала!

— Вы сур’ёзна гэта ўсё? — спыталася Рут Бэнтлі.

— Але, — сказаў Роджэр. — Я сьмяяўся з падобных месцаў усё сваё жыцьцё. Аднак цяпер...

Ён на момант вытрымаў паўзу:

— Яны прыйдуць і забяруць Дога апоўдні. Цырымонія заўтра.

— Цырымонія! — фыркнуў Родні і, размахваючы рукамі, скіраваўся да сажалкі. — Вы ня змусіце мяне прысутнічаць!

Сямейства пагрозьліва зірнула на яго. Урэшце Родні павярнуўся й дазволіў сваім плячам распружыцца.

— А бадай мяне ліха, я буду!

— Дог бы ніколі табе не дараваў, калі б цябе не было, —уздыхнула Сузан і выцерла нос.

Роджэр Бэнтлі паўглядаўся ў сабаку, пасьля ў сямейнікаў і неба, заплюшчыў вочы і выразна прашаптаў:

— Божа мой! Ці разумееце вы, што гэта самае першае жахлівае здарэньне ў нашай сям’і? Ці ж былі мы калі хворыя, ці хадзілі ў шпіталь? Траплялі ў аўтамабільныя катастрофы?

Ён чакаў.

— Не, — сказалі ўсе.

— Гары яно гарам, — выдаў Скіп.

— Ні халеры вы ня бачыце — ні здарэньняў, ні хваробаў, ні шпіталёў!

— Можа, — насьмелілася Сузан і змушаная была спыніцца ды чакаць, бо ейны голас зламаўся. — Можа, Дог і памёр, толькі каб дамамагчы нам зразумець, якія шчасьлівыя мы людзі.

— Шчасьлівыя?! — Роджэр Бэнтлі расплюшчыў вочы і павярнуўся. — Так! Ты ведаеш, што мы...

— Генэрацыя навуковай фантастыкі, — прапанаваў Родні, неахайна запальваючы цыгарэту.

— Што?

— Ты захапляесься гэтым. Пад час тваіх школьных лекцыяў ці пад час абеду. Кансэрвавыя нажы? Навуковая фантастыка. Аўтамабілі. Радыё, тэлевізія, кіно. Усё! Навуковая фантастыка!

— Так, каб на мяне трасца, так ёсьць! — плакаў Роджэр Бэнтлі — Ня так даўна не было аўтамабіляў, кансэрвавых нажоў, тэлевізіі. Нехта павінен быў прыдумаць іх. Пачатак лекцыі. Нехта павінен быў пабудаваць гэта ўсё. Сярэдзіна лекцыі. Мроі навуковай фанстатыкі сталі навуковым фактам. Лекцыя скончаная!

— Сумняюся! — сказаў Родні.

Роджэр Бэнтлі мог толькі нахінуцца пад цяжарам сынавай іроніі, каб пагладзіць дарагога мёртвага зьвера.

— Выбачаюся. Дог пакусваў мяне. Не магу справіцца з сабой. Тысячы гадоў мы толькі й робім, што паміраем. Цяпер час мінуўся. Падсумаваньне: навуковая фантастыка.

— Хлусьня. — Сьмяяўся Родні. — Спыні гэтае вярзеньне, татуся.

— Вярзеньне? — Роджэр дакрануўся да сабакавай пысы. —Дакладна. А што наконт Лістэра, Пасто, Салка? Яны ненавідзелі сьмерць. Рабілі ўсё, каб зьвесьці яе. Уся навуковая фантастыка толькі вакол гэтага й была. Ненавідзець рэчы, якімі яны ёсьць, прагнуць зрабіць рэчы іншымі. Вярзеньне?!

— Старая гісторыя, тата.

— Старая? — Роджэр Бэнтлі затрымаў сына жахлівым паглядам. — Божа. Я нарадзіўся ў 1920 годзе, і, калі ў той час ты хацеў наведаць сваю сям'ю ў нядзелю, ты...

— Ішоў на могілкі? — сказаў Родні.

— Дакладна. Мой брат і мая сястра памерлі, калі мне было сем гадоў. Палова сям'і сышла! Скажэце мне, дарагія дзеці, як шмат вашых сяброў памерла, пакуль вы гадаваліся? У пачатковай школе? У вышэйшай?

Ён залучыў сям'ю ў свой пільны пагляд і чакаў.

— Ніхто, — нарэшце вымавіў Родні.

— Ніхто! Вы чуеце гэта? Ніхто! Бог мой. Шасьцёра маіх найлепшых сяброў памерлі, калі мне было дзесяць. Чакайце! Я толькі што згадаў!

Роджэр Бэнтлі паляцеў шукаць нешта ў сьпіжарні й дастаў на сьвет стары запіс 78-гадовае даўніны, зьдзімаючы зь яго пыл. Ён углядаўся ў надпіс.

— Нічога новага, альбо Што забіла сабаку?

Усе падышлі паглядзець на старую плітку.

— Слухай, колькі гэтаму гадоў?

— Я пушчаў гэта сто разоў, калі быў дваццацігадовым юнаком, — сказаў Роджэр.

— Нічога новага, альбо Што забіла сабаку? — Сал паглядзела бацьку ў твар.

— Гэта будзе гучаць на пахаваньні Дога, — сказаў ён.

— Ты гэта несур'ёзна? — паспадзявалася Рут Бэнтлі.

Зазьвінеў званок у дзьвярох.

— Відаць, гэта людзі з Могілак Хатніх Улюбёнцаў прыйшлі забраць Дога?

— Не! — загаласіла Сузан. — Ня так хутка!

Несьвядома сям'я сфармавала сьцяну паміж сабакам і гукам званка, што клікаў на той сьвет.

Пасьля яны плакалі. Яшчэ раз.

Дзіўным і цудоўным здарэньнем на хаўтурах стала тое, як шмат прыйшло людзей.

— Я ня ведала, што Дог меў так шмат сяброў, — гучна залівалася Сузан.

— Ён валацужыў па ўсім горадзе, — сказаў Родні.

— Гавары прыязна пра памерлага.

— Добра, але ж так было, халера. Інакш, чаму Біл Джонсан тут, і Герт Скал, і Джым, які жыве праз дарогу?

— Дог, — сказаў Роджэр Бэнтлі, — я так хачу, каб ты мог бачыць усё гэта!

— Ён жыве. — Вочы Сузан перапаўняліся сьлязьмі. — Ён паўсюль.

— Добрая дарослая Сузан, — шаптаў Родні, — якая плача над тэлефоннымі даведнікамі...

— Заткніся! — крычэла Сузан.

— Цішэй. Абое.

І Роджэр Бэнтлі скрануўся, вочы долу, наперадзе маленькай труны, у якой ляжаў Дог. Галава на лапах, у скрыні не задарагой і не затаннай, акурат.

Роджэр Бэнтлі апусьціў сталёвую голку на чорную кружэлку, устаўленую ў размаляваны ў луску партатыўны фанограф. Голка скрыпнула й засычэла. Усе ўдзельнікі нахінуліся наперад.

— Ніякіх пахавальных сьпічаў, — сказаў хутка Роджэр. — Толькі гэта...



Як і дзень назад, голас расказваў гісторыю пра чалавека, які вярнуўся з вакацыяў, каб спытацца ў сябра пра здарэньні ў часе ягонай адсутнасьці.

Выглядала на тое, што нічога асаблівага не здарылася.

А, толькі адна рэч. Усім было цікава, што забіла сабаку.

Сабаку? — спытаўся адпускнік. — Мой сабака памёр?

Так, і, магчыма, гэта была гарэлая каніна.

Гарэлая каніна? — плакаў чалавек.

Так, сказаў ягоны інфармант, калі гарэла стайня, стайню ахапіла вогнішча, сабака паеў абпаленай каніны і здох.

Стайня? — плакаў уладальнік сабакі. — Як туды патрапіў агонь?

Іскры ад дому разьляцеліся паўсюль, агонь перакінуўся на стайню, коні згарэлі, сабака паеў каніны й здох.

Іскры ад дому? — крычэў адпускнік. — Як?

У доме загарэліся фіранкі.

Фіранкі? Загарэліся?

Ад сьвечак, што былі ля труны.

Труны?

Пахавальнай труны вашай цёці, фіранкі загарэліся ад сьвечак, запалаў дом, іскры перакінуліся паўсюль, згарэла стайня, сабака паеў гарэлай каніны...

Вынік: нічога новага, альбо што забіла сабаку!

Кружэлка дашыпела й спынілася.

У цішыні здарыўся быў маленькі бясшумны рагаток, нягледзячы нат на тое, што гісторыя была пра памерлых людзей ды сабак.

— Цяпер, ці атрымалі вы ўрок цяпер? — сказаў Родні.

— Не, павучэньне.

Роджэр Бэнтлі паклаў свае рукі на катэдру:

— Ня ведаю, мы тут для Дога ці для саміх сябе. Я думаю, усё разам. Мы — людзі, у якіх нічоганіколі-не здаралася. Сёньня ўпершыню. Гэта ня значыць, што я хачу раптоўнай загубы ці хваробы. Барані Бог. Сьмерць, прыходзь павольна, калі ласка.

Ён круціў кружэлку ў сваіх рукох і стараўся чытаць словы.

— Нічога новага. Апроч таго, што цётчыны пахавальныя сьвечкі запальваюць фіранкі, іскры разьлятаюцца, сабака памірае. У нашых жыцьцях з дакладнасьцю наадварот. Нічога новага гадамі. Добрыя жыцьці, здаровыя сэрцы, удала праведзены час. У чым рэч?

Роджэр Бэнтлі кінуў пагляд на Родні, бо той зірнуў на гадзіньнік.

— Калі-небудзь мы павінны памерці, таксама, — Роджэр Бэнтлі сьпяшаўся, — цяжка паверыць. Мы разбэшчаныя. Але Сузан мела рацыю. Дог памёр, каб сказаць нам гэта, асьцярожна, і мы павінны верыць. І ў той жа самы час сьвяткаваць. Што?

Той факт, што мы былі пачаткам фантастычнай, ашаламляльнай гісторыі выжываньня. Мінаюць стагодзьдзі, і будзе толькі лепш. Вы можаце запярэчыць, што наступная вайна забярэ нас усіх. Магчыма.

Магу сказаць толькі, што я думаю: вы пастарэеце, будзеце вельмі старымі людзьмі. Празь дзевяноста гадоў бальшыня людзей будзе мець вылекаваныя сэрцы, дасьледаваную анкалёгію й больш працяглае жыцьцё. Шмат маркотаў зьнікне із сьвету, дзякуй Богу. Гэта будзе лёгка зрабіць? Не. Ці здолеем мы? Так. Не ва ўсіх краінах адразу. Але, урэшце, у бальшыні.

Як я сказаў учора, пяцьдзясят гадоў назад, калі ты хацеў наведаць сваіх цётак, дзядзькоў, бабулек і дзядулек, братоў ды сёстраў, ты йшоў на могілкі. Была адна тэма — сьмерць. Пара завяршаць, Родні?

Родні засьведчыў, што ёсьць яшчэ хвіліна.

Роджэр Бэнтлі скарыстаў яе:

— Зразумела, усё шчэ паміраюць дзеткі. Але ж не мільёны. Старыя? Уладзіць іх у Сонечным Горадзе замест мармуровага Садавінавага саду.

Бацька акінуў вокам сваю сям'ю ў храме, сям'ю з запаленымі вачыма.

— Божа, паглядзеце на сябе! Цяпер азірнецеся. Тысячагодзьдзі поўнага страху, абсалютнай трывогі. Як бацькам было заставацца ва ўласным розуме, выхоўваючы дзяцей, палова зь якіх памерла, халера мяне бяры. Нягледзячы на разьбітыя сэрцы, яны жылі. У той час, як мільёны паміралі ад грыпу ці чумы.

Мы жывем у іншым часе, дзе ўсё для нас спакойна. Але наўкола нас катастрофа: мы не заўважаем яе, бо мы перад ёй абароненыя.

Зараз я змоўкну, толькі адно слова Догу. Таму што мы любілі яго, мы зрабілі гэтую амаль дурную штуку, гэтую службу, але нам ані не шкада, што мы купілі яму дзялянку зямлі на могілках, і нам ня сорамна за тое, што мы казалі. Магчыма, мы ніколі ня прыйдзем адведаць яго, хто ведае? Аднак ён мае сваё месца. Сабака, стары хлопчык, дабраслаўляю цябе. Цяпер, усе, падзьмеце яму ў носік.

Кожны падзьмуў у носік мёртвага сабакі.

— Тата, — сказаў Родні раптам, — ці можна нам паслухаць запіс яшчэ раз?

— Але, — адрэагаваў Роджэр Бэнтлі, — гэта якраз тое, што я хацеў прапанаваць.

Ён апусьціў голку на кружэлку. Тая заграла.

Недзе тады, калі іскры з дому разьляцеліся, каб спаліць стайню, ахапіць агнём каніну і забіць сабаку, пачуўся гук пры ўваходзе.

Усе павярнуліся.

Незнаёмы чалавек стаяў у дзьвярох, трымаючы маленькі плецены кошык, зь якога вырываўся добра знаёмы лёгкі брэх сабакі.

Нават калі полымя ад сьвечак вакол труны кранулася фіранак, і апошнія іскры панёс вецер...

Уся сям’я, патопленая ў сонечным сьвятле, сабралася вакол незнаёмца з плеценым кошыкам, чакаючы Бацькі, каб той падышоў і адкінуў покрыва так, каб усе яны маглі апусьціць туды свае рукі.

Гэты момант, як пазьней сказала Сузан, быў падобны да яшчэ аднаго чытаньня тэлефоннага даведніка.

*Пераклад з ангельскай Вольгі Караткевіч*
*надрукаваны ў НН № 16 у 1998 годзе*



*Гайнрых Бёль*

# Як у кепскіх раманах

На вечар мы запрасілі Цумпэнаў, мілых людзей, знаёмства зь якімі я заўдзячваю цесьцю; ад нашага вясельля ён намагаецца знаёміць мяне зь людзьмі, якія могуць быць мне карысныя ў дзелавым сэнсе, а Цумпэн можа быць мне карысным: ён начальнік камісіі, якая разьмяркоўвае падрады на будаўнічыя работы ў вялікіх паселішчах, а я праз шлюб апынуўся ў прадпрыемстве, якое выконвае экскавацыйныя работы.

Я нэрваваўся перад вечарам, але мая жонка, Бэрта, супакоіла мяне. «Тое, што ён увогуле прыйдзе, — сказала яна, — ужо нешта значыць. Проста паспрабуй асьцярожна завесьці размову пра падрад. Ты ведаеш, што заўтра будуць абвяшчаць вынікі».

Я стаяў пры дзьвярах у дом, за фіранкай, і чакаў Цумпэнаў. Я дапаліў цыгарэту, раздушыў недапалак чаравікам і засунуў яго пад дыванок. Трохі пазьней я заняў пазыцыю пры акне ваннага пакою й разважаў пра тое, чаму Цумпэн так ахвотна прыняў запрашэньне; наўрад ці яго шмат цікавіла вячэра з намі, а той факт, што выдача вялікага падраду павінна была адбыцца заўтра,

---

**Гайнрых Бёль(1917-85)**

нямецкі пісьменьнік, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі. Аўтар раманаў «Більярд а палове на сёмую», «Вачыма блазна».

мусіў рабіць для яго гэтую сустрэчу гэтаксама няёмкай, якой яна была для мяне.

Я таксама думаў пра падрад: гэта быў вялікі падрад, я мог зарабіць 20 000 марак, і я вельмі хацеў зарабіць гэтыя грошы.

Бэрта выбрала мне строй: цёмны пінжак, трохі сьвятлейшыя нагавіцы і натуральнага колеру гальштук. Такіх рэчаў яна навучылася дома і ў школе ў манашак. Яны навучылі таксама сустракаць гасьцёў: калі падаваць каньяк, калі вэрмут, як аздабляць стол для вячэры. Вельмі карысна мець жонку, якая дакладна ведае такія рэчы.

Але Бэрта таксама нэрвавалася: калі яна паклала рукі мне на плечы, я шыяй адчуў, што вялікія пальцы яе рук вільготныя і халодныя.

«Усё будзе добра, — сказала яна, — ты атрымаеш гэты падрад».

«Божа мой, — сказаў я, — ход тут пра 20 000 марак, ты ж ведаеш, як дарэчы яны нам будуць».

«Ніколі, — ціха сказала яна, — нельга згадваць імя Бога ў зьвязку з грашыма!»

Цёмная машына спынілася ў нас перад домам, мадэль, якая была мне невядомая, але выглядала на італійскую. «Не сьпяшайся, — прашапятала Бэрта, — пачакай, пакуль яны пазвоняць, хай пастаяць дзьве ці тры сэкунды, тады павольна падыдзі да дзьвярэй і адамкні».

Я бачыў, як Цумпэны ўзьнімаюцца па лесьвіцы: ён — стрункі й высокі, сівізна на скронях, таго гатунку, які трыццаць гадоў таму называлі «сэрцаедамі»; фраў Цумпэн — з тых худых цёмных кабетаў, ад выгляду якіх мне заўсёды прыгадваецца цытрына. У Цумпэна было напісана на твары, што пэрспэктыва вячэры з намі страшэнна яго нудзіць.



Потым зазьвінеў званок, я счакаў сэкунду, дзьве, павольна падышоў да дзьвярэй і адамкнуў.

«Ах, — сказаў я, — як міла, што Вы да нас завіталі!»

З келіхамі каньяку ў руках мы абышлі нашае жытло: Цумпэны вельмі хацелі яго агледзець. Бэрта засталася ў кухні, каб выціснуць на бутэрброды з закускай маянэзу зь цюбіка; файныя ў яе выходзяць карункі, у выглядзе сэрцаў, мэандраў, малых хатак. Цумпэнам спадабалася нашае жытло; яны ўсьміхнуліся адзін аднаму, калі ўбачылі вялікі пісьмовы стол у маім кабінэце, у той момант ён і мне падаўся трохі завялікім.

Цумпэн пахваліў маленькі шкап у стылі ракако, які я атрымаў на вясельле ад бабулі, і мадонну ў стылі барока ў нашай спальні.

Калі мы вярнуліся ў сталоўку, Бэрта зьбірала на стол, і гэта яна таксама рабіла вельмі міла, так прыгожа і заразом натуральна, і за вячэраю было вельмі ўтульна. Мы гутарылі пра фільмы і кнігі, пра апошнія выбары, і Цумпэн хваліў розныя гатункі сыру, а фраў Цумпэн хваліла каву і пірожныя. Потым мы паказалі Цумпэнам фатаграфіі з нашага вясельнага падарожжа і здымкі брэтонскага ўзьбярэжжа, гішпанскіх аслоў і вулак Касабланкі.

Тады мы зноў выпілі каньяку, а калі я хацеў узьняцца і прынесьці кардонку з фатаграфіямі тае пары, калі мы былі заручаныя, Бэрта зрабіла мне знак, і я не пайшоў па кардонку. Дзьве хвіліны панавала цішыня, бо мы ня мелі больш матар'ялу да размовы, і мы ўсе думалі пра падрад; я думаў пра 20 000 марак, і мне прыйшло ў голаў, што пляшку каньяку я мог бы упісаць у падатковай дэклярацыі ў «вытворчыя выдаткі». Цумпэн зір-

нуў на гадзіньнік, сказаў: «Шкада, ужо дзесяць, мы мусім сыходзіць. Дзякуй за гэткі прыемны вечар!» А фраў Цумпэн сказала: «Усё было чароўна, і я спадзяюся пабачыць вас у нашай хаце».

«Мы будзем радыя наведаць вас», — падзякавала Бэрта, і мы яшчэ паўхвіліны пастаялі, усе зноў думалі пра падрад, і я адчуваў, што Цумпэн чакаў, што я адвяду яго ўбок і пагавару зь ім. Але я гэтага не зрабіў. Цумпэн пацалаваў Бэрце руку, а я пайшоў паперадзе, адчыніў дзьверы і прытрымаў іх зьнізу для фраў Цумпэн.

«Чаму, — мякка сказала Бэрта, — ты не пагаварыў зь ім пра падрад? Ты ж ведаеш, што заўтра яны абвесьцяць вынікі».

«Божа мой, — сказаў я, — я ня ведаў, як пачаць размову на гэтую тэму».

«Ну, ты мусіў прыдумаць якую-небудзь нагоду, — мякка сказала яна, — запрасіць яго да сябе ў кабінэт і там пагутарыць. Ты ж заўважыў, як ён цікавіцца мастацтвам. Ты павінен быў сказаць: у мяне там ёсьць яшчэ крыж XVIII стагодзьдзя, можа вам цікава паглядзець на яго, а тады ...»

Я маўчаў, і яна ўздыхнула і павязала сабе фартух. Я пайшоў за ёй у кухню; мы прыбралі засталыя бутэрброды ў лядоўню, і я мусіў паўзком шукаць на падлозе вечка ад цюбіка маянэзу. Я прыбраў рэшту каньяку, пералічыў цыгары: Цумпэн выпаліў толькі адну. Я выбіў папяльнічкі, стойма зьеў яшчэ адно пірожнае і паглядзеў, ці засталася кава. Калі я вярнуўся на кухню, Бэрта стаяла там з ключом да машыны.

«Што здарылася?» — спытаўся я.

«Натуральна, трэба ехаць», — сказала яна.

«Куды?»

«Да Цумпэнаў. А што ты сабе думаеш?»



«Хутка ўжо палова на адзінаццатую».

«А хай бы нават была поўнач, — сказала Бэрта, — наколькі я ведаю, ідзецца пра 20 000 марак. Ня думай, што яны такія далікатныя».

Яна пайшла ў ванную, каб прывесьці сябе ў парадак, а я стаяў ззаду і глядзеў, як яна выцірае вусны, крэсьліць новыя лініі, і ўпершыню заціміў, які шырокі й прымітыўны гэты рот. Калі яна зацягвала вузел на маім гальштуку, я мог пацалаваць яе, як заўжды раней, калі яна завязвала мне гальштук, але я не пацалаваў яе.

У кавярнях і рэстарацыях у горадзе ярка гарэла сьвятло. Людзі сядзелі знадворку на тэрасах, і ў срэбных вазачках для марозіва і вядзерцах для лёду блукала сьвятло ліхтароў. Бэрта падбадзёрвала мяне вачыма, але засталася ў машыне, калі мы спыніліся перад домам Цумпэнаў, а я адразу націснуў на званок і быў зьдзіўлены тым, як хутка мне адмыкнулі. Фраў Цумпэн, здавалася, не зьдзівілася, убачыўшы мяне; на ёй быў чорны хатні строй з шырокімі, вельмі свабоднымі калашынамі, расшытымі ў жоўтыя кветкі, і больш чым калі раней яна нагадвала мне пра цытрыны.

«Перапрашаю, — сказаў я, — я хацеў бы пагаварыць з вашым мужам».

«Ён выйшаў, — сказала яна, — ён вернецца праз паўгадзіны».

У калідоры я ўбачыў шмат мадоннаў, гатычных і барока, нават ракако, калі такія ўвогуле ёсьць.

«Добра, — сказаў я, — калі дазволіце, я вярнуся праз паўгадзіны».

Бэрта купіла сабе вечаровую газэту: яна чытала ў машыне, паліла, і, калі я сеў побач, яна

сказала: «Мяркую, ты мог бы пагаварыць пра гэта і зь ёй».

«А скуль ты ведаеш, што яго не было дома?»

«Бо я ведаю, што ён сядзіць у клюбе «Гафэль» і гуляе ў шахматы, як кожную сераду вечарам а гэтай гадзіне».

«Магла б сказаць мне раней».

«Ты мусіш зразумець мяне, — сказала Бэрта і склала газэту. — Я ж хачу табе дапамагчы, хачу, каб ты сам навучыўся ўлагоджваць такія рэчы. Мы мусілі адно патэлефанаваць майму бацьку, і ён за адзін званок уладзіў бы ўсё за цябе, але ж я хачу, каб ты атрымаў падрад сам».

«Добра, — сказаў я, — дык што мы зробім цяпер: пачакаем паўгадзіны ці паднімемся й пагутарым зь ёй зараз?»

«Найлепш падняцца зараз», — сказала Бэрта.

Мы вылезьлі з машыны і разам паехалі ў ліфце ўгару.

«Жыцьцё, — сказала Бэрта, — складаецца з таго, што людзі заключаюць кампрамісы і робяць саступкі».

Фраў Цумпэн была зьдзіўленая гэтаксама мала, як і колькі хвілін таму, калі я быў зайшоў адзін. Яна павітала нас, і мы прайшлі за ёй у кабінэт мужа. Фраў Цумпэн прынесла пляшку каньяку, наліла і, яшчэ перш чым я пасьпеў сказаць нешта пра падрад, прасунула да мяне хуткасшывальнік: «Паселішча Яловая Ідылія» — прачытаў я і напуджана паглядзеў на фраў Цумпэн, на Бэрту, але яны абедзьве ўсьміхаліся, і фраў Цумпэн сказала: «Адкрыйце тэчку» — і я адкрыў яе; усярэдзіне ляжаў другі, ружовы, хуткасшывальнік, і на ім я прачытаў: «Паселішча Яловая Ідылія. Экскавацыйныя работы». Я адкрыў і гэтую тэчку, убачыў, што мой каштарыс ляжыць першы; уверсе на палёх нехта напісаў чырвоным алоўкам: «Самая танная прапанова!»

Я адчуваў, што пачырванеў з радасьці, адчуваў, як білася маё сэрца, і думаў пра 20 000 марак.

«Божа мой», — ціха сказаў я і захлопнуў тэчку, і гэтым разам Бэрта забылася зрабіць мне заўвагу.

«Прост, — сказала фраў Цумпэн з усьмешкай, — давайце вып’ем».

Мы выпілі, я ўзьняўся і сказаў: «Магчыма, гэта некультурна, але вы, пэўна, разумееце, што цяпер я хачу дадому».

«Я добра разумею вас, — сказала фраў Цумпэн, — трэба толькі ўладзіць яшчэ адну драбніцу». Яна ўзяла тэчку, пагартала старонкі і сказала: «Вашая цана за кубічны мэтар на трыццаць пфэнігаў меншая за цану найбліжэйшага канкурэнта. Я прапаную вам падняць цану яшчэ на пятнаццаць пфэнігаў — тады вы ўсё адно застанецеся самым танным, але атрымаеце на чатыры тысячы пяцьсот марак болей. Зрабіце ж гэта зараз!». Бэрта выцягнула з сумачкі асадку і працягнула мне, але я быў занадта ўсхваляваны, каб пісаць; я аддаў тэчку Бэрце і назіраў, як яна спакойнаю рукою зьмяняла цану за мэтар, нанова напісала канчатковую суму і вярнула тэчку фраў Цумпэн.

«А цяпер, — сказала фраў Цумпэн, — яшчэ адна драбніца. Вазьміце вашу чэкавую кніжку і выпішыце чэк на тры тысячы марак, гэта павінен быць чэк для аплаты наяўнымі, які будзе дыскантаваны вамі».

Яна сказала гэта мне, але нашую чэкавую кніжку са сваёй сумачкі выцягнула Бэрта і выпісала чэк.

«У нас няма чым пакрыць яго», — ціха сказаў я.

«Калі падрад выдадуць, вы атрымаеце аванс, і тады пакрыецца», — сказала фраў Цумпэн.

Магчыма, тады я нават не разумеў, што адбывалася. Калі мы ехалі ў ліфце ўніз, Бэрта сказала, што яна шчасьлівая, але я маўчаў.

Бэрта выбрала іншы шлях, мы ехалі ціхімі кварталамі, я бачыў сьвятло ў адчыненых вокнах, людзей, што сядзелі на бальконах і пілі віно; стаяла сьветлая і ціхая ноч.

«Чэк быў для Цумпэна?» — толькі раз ціха спытаўся я, і Бэрта гэтаксама ціха адказала: «Вядома».

Я зірнуў на Бэрціны маленькія смуглявыя ручкі, якія ўпэўнена і спакойна трымалі стырно. Рукі, якія падпісваюць чэкі і выціскаюць маянэз зь цюбікаў. Я зірнуў на яе рот, і цяпер мне таксама не хацелася цалаваць яго.

Гэтым вечарам я не дапамог Бэрце паставіць машыну ў гараж і не дапамог змываць начыньне. Я ўзяў вялікі келіх каньяку, падняўся ў свой кабінэт і сеў пры пісьмовым стале, завялікім для мяне. Я думаў аб чымсьці, узьняўся, пайшоў у спальню і паглядзеў на мадонну ў стылі барока, але і там тая рэч, пра якую я думаў, не прыходзіла мне ў галаву.

Званок тэлефону перабіў мае роздумы; я ўзяў слухаўку і не зьдзівіўся, калі пачуў Цумпэнаў голас.

«Вашая жонка, — сказаў ён, — трохі памылілася. Яна падвысіла кошт за кубічны мэтар не на пятнаццаць, а на дваццаць пяць пфэнігаў».

Я трохі падумаў і адказаў: «Гэта не памылка, гэта адбылося з маёй згоды».

Ён спачатку памаўчаў, а тады сказаў, сьмеючыся: «Дык вы, значыць, папярэдне абмеркавалі розныя магчымасьці?»



«Так», — сказаў я.

«Добра, тады выпішыце яшчэ адзін чэк, на тысячу».

«Пяцьсот», — сказаў я, і падумаў: як у кепскіх раманах, гандаль.

«Васямсот», — сказаў ён, і я засьмяяўся: «Шасьцьсот». Хоць і ня меў досьведу, я ведаў, што зараз ён скажа: «Сямсот пяцьдзясят». Калі ён насамрэч адказаў: «Сямсот пяцьдзясят» я такнуў і павесіў слухаўку.

Яшчэ не было дванаццатай, калі я выйшаў аддаць Цумпэну чэк. Ён прыехаў адзін і засьмяяўся, калі я сунуў яму праз вакно складзены чэк. Дадому я вяртаўся паволі. Бэрты яшчэ не было відаць, яна не прыйшла, калі я вярнуўся ў кабінэт; яна не прыйшла, калі я схадзіў выпіць халоднага малака, і я ведаў, пра што яна думала: ён павінен прайсьці праз гэта, і я мушу даць яму пабыць на самоце, ён павінен зразумець гэта.

Але я так і не зразумеў гэтага, і гэта сапраўды незразумела.

*Пераклад з нямецкай Алеся Пяткевіча*
*надрукаваны ў НН № 20 у 2001 годзе*

*Эфраім Кішон*

# А ключы ў Рудога

На гэтым тыдні, як высьветлілася, ізноў здарылася маленечкая аварыя з экспэрымэнтальнай мадэльлю мясцовага супэрсамалёта «Вярба». За колькі дзён да вылету ў Паруд на авіясалён з мэтай прывабіць там масавага кліента села «Вярба» на левае кола ды засталася ляжаць на фюзэляжы, не раўнуючы паранены верабей. Але, як паведамілі ў адміністрацыі, праблемай ужо заняліся адпаведныя кампэтэнтныя арганізацыі, і мы яшчэ пасьпеем на салён зь невялічкім спазьненьнем, да таго ж там на адкрыцьці такое нудоцьце!.. Кажуць, што нічога сур'ёзнага, выпадковы зьбег акалічнасьцяў — бывае, ня трэба заўчасна хвалявацца, усё пад асабістым кантролем, спакуха.

Дазнаньне працягваецца. Мы шчыра прагнем даць сьледчай камісіі наша важкае сьведчаньне, нягледзячы на тое, што фізычна не прысутнічалі падчас той левай пасадкі. Мы сьцьвярджаем, што ведаем, зыходзячы з вопыту і робячы свае высновы на падмурку тутэйшых міжземнаморскіх выкладак, што стала сапраўднай прычынай аварыі. Дык вось, , ключы знаходзіліся ў Рудога. Ды не магло быць іншай прычыны.

Дзеля большай дакладнасьці адновім усе факты. Пасьля апошняга палёту лётчык-выпрабавальнік сказаў Шлёму, што нешта не падабаецца яму гэты гуд у левым коле, але Шлёма мусіў улагодзіць якіясь свае справы ў муніцыпалітэце ды папрасіў вахцёра патэлефанаваць у майстэрню Цымерману — хай праверыць зьнізу ці дзе там, — але Цымерман выйшаў, таму што ў панядзелак ён заўсёды ідзе дадому ў дзьве трыццаць; а замест вахцёра сядзеў нейкі новы хлопец, бо сам дзед пайшоў праверыцца да ўроляга; а хлопец ня ведаў, дзе жыве Цымерман, наогул хто такі гэты Цымерман; і камутатар маўчыць, бо Зыва паехала ў Хайфу на базу, а адзіны сьпіс з адрасам Цымермана і іншых тэхнікаў знаходзіцца ў шуфлядцы Зывы; але Руды забраў ключ ад шуфлядкі ды спусьціўся ў вэстыбюль, яго шукалі ў буфэце, але ён сышоў адтуль літаральна дзесяць хвілін таму — відаць, на футбол паехаў; а хатняга тэлефону ён ня мае, а ключ у яго, а што ты тут зробіш; тым жа часам узьлятае «Вярба» з божай ласкі ды прызямляецца на свой найлепшы бок; але на ўзьлётнай паласе ўжо прыбралі большасьць ейных дэталяў, усё пад кантролем; а што тут такога — на футбол пайшоў, «Макабі» (Тэль-Авіў) — «Бнэй-Егуда», 1:0 (ці там 1:2), пасьля роўнай гульні ў першай палове гол на свой акгыў запісаў Махмуд Рубінштэйн.

Такім чынам, няма патрэбы ў далейшым расьсьледаваньні, усё проста павінна было адбыцца менавіта так. Ды інакш і быць ня можа. У нашай роднай блізкаўсходняй старонцы кожная акцыя агульнанацыянальнага маштабу захрасае ў пяс-

---

**Эфраім Кішон** (1924—2005).

нарадзіўся ў Вугоршчыне. Быў вязьнем нацысцкага канцлягеру Самбору Польшчы. У 1949 уцёк ад камуністычнага рэжыму з тэрыторыі Чэхаславаччыны. Апошнія гады жыў у Швайцарыі.

ку праз гэта, таму што ключ знаходзіцца ў Рудога. Штораз, калі нам выпадае апынуцца ля гіганцкага заводу, старой фабрыкі або новага гандлёвага цэнтру, будынку МЗС, кінастудыі ці аўтавакзалу, мы бачым адну і тую ж карціну: усе пагалоўна стаяць на вушах, пэрсанал лётае што дурны ды патрабуе, каб Зыва іх злучыла, усе грукаюцца ў замкнёныя дзьверы складу, і пасярод гэтага вэрхалу ў канцы калідору абавязкова павінен зьявіцца вельмі пульхны мужчына з чырвоным, як бурак, тварам ды пачаць лямантаваць:

— Дзе ключ?

— У Рудога, — адказвае Авігдор, прыціснуты да сьценкі.

— АдзеРуды?!

Чуваць таксама, як з гучнагаварыцеля рэхам нясецца па ўсім прадпрыемстве:

— Руды, цябе шукае Экутыель! Неадкладна вярні яму ключы! Гэй, Руды, ты чуеш?

Рудога няма. Гэта і зьяўляецца цудоўнай адметнасьцю Рудога, што яго няма. Ён сышоў. З ключамі. Пятнаццаць хвілін таму яго яшчэ бачылі ля прыбіральні, але, відаць, ён пайшоў ці што. Ён жыве ў НэсЦыёне, ды ў яго няма хатняга тэлефону, Цымерман ведае яго новы адрас, але Цымерман выйшаў. Такая сытуацыя склалася на большасьці прадпрыемстваў краіны, дзе ёсьць ключы і Цымерман.

У выпадку, калі Зыва ня ў Хайфе або ня выйшла зьбіраць складкі на падарунак для сына Амэра да вясельля, можна засьпець яе на камутатары і выдыхнуць у слухаўку: «Дзе Руды?»

— Ня ведаю, — адказвае Зыва, — мне ён нічога не сказаў.

— Калі ён вернецца?



— Ня ведаю.

— Ну Зыва!

— Хто гэта там?

— Гаворыць такі і такі. А заўтра раніцой ён калі прыйдзе?

— Ня ведаю, — гаворыць у адказ Зыва. — У яго раз на раз не прыпадае.

— Дык як яго знайсьці? У яго жключ.

— Ня ведаю. Спытайце ў Цымермана...

Цымерман не прыйшоў сёньня на працу. Дакладней, ён прыйшоў у адзінаццаць пятнаццаць, пашукаў Экутыеля ў экспэдыцыйным аддзеле, але потым яго ня бачылі. А ключы ў Рудога.

Дзеля найхутчэйшага высьвятленьня прапануем увазе сьледчай камісіі дакладнае апісаньне Рудога. Дык вось, перш за ўсё ён руды. Каржакаваты, носіць кашулю з расшпіленымі верхнімі гузікамі, штаны — пакамечаныя. здаровы як бык, мае валасатыя грудзі, сінія вочы, двух сыноў і дачку, да таго ж яму не стае аднаго зуба сямтам у розных месцах. Зрэдку, мо раз у год — як на думку большасьці, у верасьні, — ільга засьпець Рудога, калі ён уласнай пэрсонай падымаецца па сходах з ключом, тады Экутыеля ажно разрывае ад неўтаймоўнай разьюшанасьці.

— Гэй, Руды, — раве бамбіза Экутыель, чырвоны як рак, — дзе ты лазіш?

— На складзе, — адказвае Руды. — Дзе ж мне быць?

— Дык сказалі, што ты пайшоў!

— Што яны там дураць галаву!..

Тут жа на месцы Рудому загадваюць сёньня ж зрабіць дублікат ды аддаць яго Шлёму, але Руды нічога ня робіць ні сёньня, ні яіпчэ калі, дый Шлёма сам у канфлікце з Экутыелем дзеля прэ-

міяльнай пуцёўкі ў санаторый. якую не зацьвердзіла камісія перад сьвятамі. Існуюць тэорыі, што на ўсю краіну ёсьць адзін-адзінюткі Руды, які зь нізкай ключоў гойсае паміж вытворчымі аб'яднаньнямі, — вось чаму яго нельга нідзе знайсьці. Ён належыць да нашага дзіўнага міжземнаморскага краявіду гэтаксама, як Сан-Марына і сантэхнік, ды цяжка сабе ўявіць, як бы мы жылі безь яго. Кажуць. што аднойчы на нейкім вялікім заводзе абароннай прамысловасьці Рудога прыкулі кайданкамі да батарэі і на працягу дзьвюх гадзін ён быў, меўся ў наяўнасьці, даражэнькі. Але потым неяк выкруціўся з кайданкоў ды сышоў — стуль прыпыніла сваю працу ўся абаронка і ў дзяржаве ня стала зброі, а зямля была нябачная і пустая, і цемра над безданьню, і Дух Рудога лунаў над безданьню, ды толькі Цымерман ведае яго новы адрас, а ён выйшаў, хваласыіеў Рудому, у якога ключы.

*Пераклад з габрэйскай Пайла Касьцюкевіча*
*надрукаваны ў НН № 10 у 2005 годзе*



*Мікола Рабчук*

# Да Чаплі на дзень нараджэньня

Міхась нідзе не працаваў і таму вельмі стамляўся за дзень. Сёньня ён стаміўся асабліва, бо зьбіраўся да Чаплі на дзень раджджэньня. Чапля папраўдзе звалася Аксанай, а за «Чаплю» гатовая была задушыць. Час ад часу Міхаська яе кахаў. Чапля працавала на вакзале — прадавала квіткі інтурыстам, а таксама патрэбным людзям. З такімі квіткамі можна было заехаць вельмі далёка.

Міхась зьбіраўся ўвесь дзень, але ўрэшце пайшоў у будзённай вопратцы, бо, вяртаючыся назад уначы, можна паваліцца ў гразь, дый госьці на такіх сьвятах, як вядома, бываюць розныя: некаторыя проста фізычна не пераносяць чыстых кашуляў і гальштукаў. У двары Міхась спаткаў Доктара.

Доктар быў чалавек ціхі: хадзіў з брунатным «дыпляматам». Ён скончыў стаматалягічны факультэт мэдыцынскага інстытуту і працаваў цяпер грузчыкам на заводзе аўтапагрузчыкаў. У

---

**Мікола Рабчук** (нар. У 1953)

украінскі філёзаф, публіцыст, пісьменьнік. Аўтар працаў па культуралёгіі, праблемах нацыянальнай ідэнтычнасьці, станаўленьня грамадзянскай супольнасьці. У Нашай Ніве друкаваліся ягоныя творы «Наша ўэстсайдзкая гісторыя» і «Вучэньне Фукідыда ў Каліфорніі».

вольны час Доктар займаўся ёгай: сьцьвярджаў, што ня есьць і ня п'е, хоць насамрэч і еў, і піў.

Піў Доктар усё, што гарыць.

Тыдзень таму ён атрымаў зарплату і цяпер ледзь не штоночы бачыў Канфуцыя. Міхаська пайшоў зь ім на піва, бо й сам быў ня супраць бліжэйшага знаёмства з Канфуцыем, нягледзячы на яго кітайскае паходжаньне.

У брудненькім, зь невынішчальным пахам ванітаў павільёне Доктар распавёў яму пра пераўвасабленьні Буды і пра несьмяротнасьць душы.

Міхаську гэта спадабалася, але ён зусім не жадаў, каб ягоная душа пасьля сьмерці перасялілася ў нейкую карову, якую гаспадыня штодня будзе цягаць за цыцкі і штогод вадзіць да бугая. Думка, што ня ўсё тое, што добра для паўфэадальнай Індыі, прыймальнае для нас, узьнікла і замацавалася ў ім.

— Час ісьці — выдыхнуў Міхась і даканаў сваё вінішча, якое Доктар купіў замест піва, дзеля вышэйшай калярытнасьці.

— Куды? — зьдзівіўся Доктар, але Міхась зьдзівіўся яшчэ больш.

— Як гэта «куды»? — сказаў ён. — На дзень нараджэньня да Чаплі!

— А я яе знаю? — спытаўся Доктар.

Міхасёк паварушыў мазгой і выдаў:

— Мабыць, што не.

— Нядобра хадзіць на дзень нараджэньня да незнаёмых людзей, — сказаў Доктар і замовіў яшчэ дзьве шклянкі віна.

— Яна вельмі добрая дзяўчына, — сказаў Міхась. — Ты ня думай, што яна Чапля і зусім непрыгожая. Яна цудоўная дзяўчына, лепшая за нас з табою.



Ён сказаў шчырую праўду, якую, аднак, імгненна аспрэчыў Канфуцый:

— Ня квапся, — вымавіў ён Доктаравым голасам і ўзьняў дагары запэцканы гарчыцай палец, — і ня дбай пра дробныя выгоды. Хто квапіцца, той не заходзіць далёка. Хто дбае пра дробныя выгоды, той не ўздымаецца да велічных зьдзяйсьненьняў. Шляхетная асоба мае вялікія мэты, нікчэмнасьць — да дробных імкнецца.

Міхась расчуліўся і голас ягоны затрымцеў:

— Яна добрая. Яна сказала, што мы можам ня браць шлюб, покуль я сам гэтага не захачу. А ўзімку я згубіў рукавіцы, дык яна купіла мне новыя.

— Як гэта ўсё нікчэмна, — уздыхнуў Доктар. — Нельга так нікчэмна жыць. Ты чытаў калінебудзь Лі Бо?

Міхась не чытаў.

Доктар ведаў вершы Лі Бо на памяць і пачаў іх дэклямаваць. Чырвананосая буфэтчыца, якая нічога ня цяміла ў паэзіі, выштурхала іх разам зь Міхаськом надвор. На дварэ яны сустрэлі Капітона.

— Здароў, Капітон! — радасна зароў Міхась і палез цалавацца. Капітон быў цьвярозы і абрадаваўся нашмат меней.

— Адвалі, казёл! — сказаў ён. — Я табе ніякі не Капітон.

Насамрэч ён быў усё-ткі Капітонам і прозьвішча ягонае было Капітонаў, але зь дзяцінства хлапчына чамусьці ўбіў сабе ў галаў, што ўсе павінны клікаць яго Капітонам. Мянушка Капітон утварылася як кампраміс паміж ружовай марай і цёмна-брунатнай рэальнасьцю. На яго рэальнасьць кідаў цень кожны першы-лепшы. Найбольшыя намаганьні ў гэтай справе прыкладаў галоўны ма-

стак тэатру лялек, дзе Капітон працаваў дэкаратарам. Капітон вырабляў, трэба сказаць, лялькі, аднак усе пэрсанажы, у тым ліку і самыя пазытыўныя, выходзілі з-пад яго разца падобнымі да балотнай пачвары Бабы Ягі. Зараз у дадатак да службовых непрыемнасьцяў, нейкая малая сікуха навешала яму лапшы, паабяцаўшы прыйсьці ў майстэрню — падзівіцца на яго творы. Сікуха не прыйшла, і Капітон хадзіў, абвешаны лапшой, злы на лялечны тэатар і, увогуле, на лялечны сьвет.

— Хадзем з намі на дзень раджджэньня, — прапанаваў яму Міхась.

— А кір там будзе? — недаверліва перапытаў Капітон.

— Там будзе мора кіру і купа баб'я, — паабяцаў Міхась.

— Трэба купіць падарунак, — падказаў Доктар.

— Я падарую карціну, — пагадзіўся Капітон. Ён, праўда, ня ўмеў маляваць, аднак менавіта таму ўпарта лічыў сябе мастаком-прымітывістам з ухілам да мадэрну.

— Я думаю, варта было б кветак, — сказаў Доктар.

— Дужа ты мудры, — запярэчыў Міхась. Доктар і насамрэч быў дужа мудры, аж брыдка. — Яна глядзець ня можа на кветкі, — растлумачыў Міхась. — Яна іх люта ненавідзіць!

— А што ж яна любіць? — пацікавіўся Доктар.

— Яна... яна... (Міхась аблізаў перасьмяглыя вусны, перш чым асьмеліцца на шчырасьць) — яна любіць віно!

— Сапраўды, — падтакнуў Капітон, — я сам ведаю прыстойных дзяўчат, якія больш за ўсё на сьвеце любяць віно. Іх можна абразіць кветкамі або іншымі якімі бразготкамі.



Аксана была добрая дзяўчына і ніхто не захацеў яе абразіць.

У гастраноме яны набылі пяць пляшак пладова-ягаднага віна «Лучистое» агульнай ёмістасьцю каля чатырох літраў, прычым на апошнюю бутэльку ім нястала дваццаць капеек. Гэтыя капейкі знайшліся ў экс-авіятара Лёшы, які незалежна шпацыраваў у арэале дасягальнасьці гастраному, шукаючы нязьведаных прыгод і рамантычных сустрэч. Пляшкі былі акуратна разьмеркаваныя ў доктаравым дыплямаце, а экс-авіятар Лёша — акі ісьцінны сябар — пайшоў з грамадой да Чаплі на дзень нараджэньня.

Дзесьці на ўскраіне Левяндзіўкі Міхасёк забыўся на Чаплін адрас. Будынак, у якім яна жыла, мусіў быць адна- або двухпавярховы, з балконам ці без, з гародам ці з садам, уваход збоку або ззаду. Так выглядалі ці ня ўсе будынкі, таму неўзабаве хлопцы забрылі ў лес, дзе й выпілі адператомленасьці дзьве пляшкі віна. Экс-авіятар Лёша сказаў, што служыў у авіяцыі і з прыемнасьцю можа ўсіх пакатаць на самалёце ў Кіеў і назад. Але спачатку трэба было ўсё-ткі павіншаваць Чаплю з днём народзінаў.

Хлопцы абышлі яшчэ некалькі вуліц і абстукалі ўсе весьніцы. Чаплі ніхто ня ведаў, а сапраўднае яе імя вылецела зь Міхаськовай галавы разам зь вялікай колькасьцю іншай інфармацыі.

Ужо зусім сьцямнела, і сябры вярнуліся ў лес, дзе напяклі ў прыску бульбы з чужога гароду. Давялося выпіць яшчэ дзьве пляшкі, пасьля чаго Міхасёк сказаў, што ў Кіеў не паляціць, бо баіцца. Капітону таксама было страшна, і ён сказаў, што не паляціць ня толькі ў Кіеў, але і наагул нікуды. Сказаў, што нават зь месца ня зрушыцца, бо

мае ўсіх у ... словам, у адным месцы. Доктар тым часам залез на дрэва.

— Я прыказываю ўсем устаць! — скамандаваў экс-авіятар Лёша, адчуўшы, што надыходзіць час дзейнічаць вельмі рашуча. Ён тут жа растлумачыў цюхцяям, што загад ёсьць загад і хто яму не падпарадкоўваецца, таго трэба расстрэльваць.

— А пацалуй ты мяне ведаеш куды? — адказаў яму Капітон, за што атрымаў некалькі высьпяткаў, а калі паспрабаваў бараніцца, дык скрывавіў сабе выпадкова вусны. Пасьля гэтага Міхасёк узьняўся сам, а Доктар зваліўся з дрэва.

Начальнік Лёша пастроіў іх у шыхт і зь песьняй павёў па левандоўскіх вуліцах. На першым скрыжаваньні яны сутыкнуліся зь мясцовымі лайдакамі і зьведалі адчувальныя страты па ўсім целе. А найгорш, што апошняя бутэлька пладова-ягаднага віна разьбілася аб варожую галаву. Залізваючы раны, яны прыцягнуліся на нейкае падвор'е і сустрэлі там Чаплю. Ніхто яе не пазнаў, затое яна пазнала Міхаська па голасе.

Акрамя голасу ад Міхаська амаль што нічога не засталося.

У хаце было ласкавае сьвятло, музыка, танцы і прыгожыя дзяўчыны. Гэта быў маленькі рай, і Доктар, узьбіўшыся з нагамі на мяккі фатэль, удзячна маліўся вялікаму Будзе. Міхасёк глядзеў адзіным — незапухлым — вокам на імяніньніцу і плакаў ад шчасьця. Капітон здымаў са сьцяны ўсе упрыгожаньні, каб было дзе навесіць уласныя карціны, якія ён зьбіраўся на наступны дзень прынесьці. Экс-авіятар Лёша тым часам прагнуў каханьня.

Урэшце Чапля запытала ў Міхася, каго ён прывёў. Міхась захацеў растлумачыць, якія гэта цудоўныя людзі, захацеў распавесьці ёй пра перасяленьне душаў і пра тое, што ў наступным існаваньні ўсе — усе прысутныя ў гэтым пакоі — зробяцца кветкамі на адным вялікім сонечным лузе, зробяцца рознакаляровымі матылямі па-над сабой — аднак якраз у гэты момант яго прыкра знудзіла, і ён званітаваў праз вакно. Усе зямныя няшчасьці, усе сілы пякельныя сабраліся ў адным пакоі, каб сапсаваць гасьцям нетрывалае шчасьце. Капітон скінуў з шафы крышталёвую вазу і, калі лавіў яе, разьбіў акварыюм. Залатыя рыбкі затрапяталіся на кіліме, а вада паплыла сабе да суседзяў. Хтосьці зь дзяўчат заверашчаў — салдат Лёша прагнуў каханьня. Лёс, відавочна, не хацеў каханьня. Лёс сам ня ведаў, чаго хоча.

Міхасёк зь сябрамі вылецеў з Парадызу і райская брама замкнулася за імі на два замкі, засаўку і ланцужок.

На падвор'і быў столік, і героі вырашылі адпачыць. Разьвітваючыся, авіятар Лёша прыхапіў пару-тройку адкаркаваных пляшак, а мастак Капітон высыпаў у дыплямат тры талеркі — з каўбасой, капустай і заліўной рыбай. Піць авіятар Лёша ўжо ня мог, таму што ціха споўз пад стол і задрамаў. Мастак Капітон, паклаўшы сабе галаву на калені, выў манатонную й нікому ў сьвеце невядомую песьню. Доктар стаяў пад парканам на галаве і працягваў перарваную мэдытацыю.

Чыстае неба палала зоркамі. Міхась піў проста з пляшкі, закінуўшы высока галаву і цешыўся з прыгажосьці Сусьвету. Паветра пахла кветкамі, зоры зьмяняліся й міргалі. Сьвет быў цудоўны й неабдымны, а чарніла — брыдкае й нікчэмнае. Міхасёк гэпнуў недапітую пляшку аб мур будынку і яна, глуха боўкнуўшы, разьляце-

лася на дробныя драбніцы. Тады ён схапіў другую, але на імгненьне завагаўся. Быццам разьвітваючыся, паднёс яе шыйку да роту і раптам згледзеў у небе самалёт. Самалёт ляцеў зусім нізка, закрываючы зоркі, і ўсярэдзіне сядзеў Буда. На ім быў шлем лётчыка і вялізныя акуляры. Буда заўважыў Міхася і сказаў:

— Мэдытуеш, Міхасёк?

— Так, о гуру, — адказаў Міхась.

— Кантэмплюеш, Міхась?

— Так, о гуру, — адказаў Міхась.

— Ах, мудак ты, мудак! — сказаў Буда і перш, чым Міхасёк пасьпеў адказаць, — пра штосьці спытацца, на штосьці пажаліцца, за штосьці папрасіць прабачэньня, — самалёт пагайдаў крыламі, набіраючы вышыню, і зьнік у кірунку Кіева.

*Пераклад з украінскай Андрэя Скурко*
*надрукаваны ў НН № 10 у 1999 годзе*



*Павал Гюле*

# Міна

Яна даўно здавалася мне асобай неўраўнаважанай, але раптоўны выбух хваробы, яе рэзкі наступ зусім мяне напалохаў.

Міна прыходзіла ўсё часьцей і, выкурваючы цыгарэту за цыгарэтай, магла гаварыць дзьве-тры гадзіны безь перапынку. Тэмы яе маналогаў кружлялі вакол дзяцінства, незаўважна пераходзілі на рэлігійнае жыцьцё, каб урэшце рэшт няўхільна заблукаць у змрочных калідорах Эроса. Міна баялася расправы. Бог, які толькі й чакаў, пакуль яна зробіць памылковы крок, спатыкнецца і ўпадзе, быў Богам лютым і помсьлівым. Ён мог караць, але не выбачаў. Судзіў, але любіць ня мог. Ён быў Творцам, але нёс зьнішчэньне й сьмерць. Міна баялася гэткага Бога, і ў яе боязі я адчуваў страх пяцігадовае дзяўчынкі, якая прачынаецца сярод ночы й бачыць свайго п’янага бацьку, што абкладае маці тумакамі й праклёнамі.

Ані пераконваць яе, ані нешта высьвятляць я ня мог. Дзяцінства Міны, той даўні час, у якім нярэдка запыняўся яе маналог, быццам дзеля таго, каб перавесьці дыханьне, было для мяне да-

---

**Павал Гюле** (нар.ў 1957)

польскі паэт, літаратурны крытык. Аўтара рамана «*Weiser Dawidek*», які стаў адкрыцьцём польскай прозы васьмідзесятых гадоў.

лёкай ды невядомай краінай, хоць Міна нарадзілася й правяла першыя дваццаць гадоў жыцьця ў той самай краіне, што й я. Сілезійскае мястэчка пры самай нямецкай мяжы паўставала зь яе аповеду экзатычнаю выспай. Мужчыны там паміралі хутка, як правіла, не дажываючы да пяцідзесяці, жанчыны ў перапынках паміж працай у тры зьмены й гатаваньнем ежы нараджалі дзяцей, а маладыя хлопцы зьяжджалі як толькі выпадала нагода; калі ж яе не было, пілі гарэлку ды йшлі ў шахту, бо гэтак тут павялося здавён.

Міна апавядала пра свайго бацьку, які яе не любіў, пра маці, што памерла дзесяць гадоў таму, і пра братоў, якія не цікавіліся лёсам сястры. Апавядала таксама пра расейцаў, якіх у мястэчку было некалькі тысячаў, і пра закрыты раён, дзе жылі савецкія жаўнеры зь сем'ямі.

Яе атачаў холад. Міна адчувала гэта ўсім целам, ад самага пачатку, і гэта было вусьцішнае адчуваньне.

— Я быццам спускалася ў студню, — тлумачыла яна цярпліва, — нібыта падала ўсё глыбей туды, дзе замярзае вада і дзе ўжо не хапае паветра.

Бывала, што ў гэткім стане яна жыла месяцамі, і хоць за вакном яе пакою распускалася лісьце альбо падаў цёплы чэрвеньскі дождж, Міна адчувала, як яе цела пакрываецца ўсё таўсьцейшым налётам сьнегу, рукі ператвараюцца ў ледзяшы, а ў жываце, грудзях і ва ўлоньні гуляе халодны вецер.

— Калі б да мяне дакрануўся прамень сьвятла, альбо калі б я пачула хоць слова, — тлумачыла Міна, — я была б уратаваная.

Але ТОЙ, КАГО ЯНА ЧАКАЛА, не хацеў паглядзець на яе і тым больш не зьбіраўся ўдзяліць



ёй свае слова. Тады яна аддавалася выпадкова сустрэтым мужчынам, і полымя пажады, якое яна стрымлівала як магла, выбухала з вулканічнай сілай. Аднак яна хутка заўважыла, што калі цела дасягае зэніту раскошы, душа яе напаўняецца журбою й страхам. Спачатку яна не магла растлумачыць, чаму ўсё дзеецца менавіта гэтак, але з часам прычына той дзіўнай дваістасьці адкрылася ёй. Князь Цямрэчаў зьмяняў свой выгляд (ён мог быць смуглявым брунэтам, зь якім яна пазнаёмілася ў гатэлі, альбо бляндынам з гандлёвага аддзелу), але ў хвіліну найбольшага ўзьнясеньня яна заўсёды распазнавала ягоныя рысы, у якіх найдзіўнейшым чынам спалучалася хараство й брыдота. І тады паветра разьдзіраў яе крык; яна біла шкло, калі нешта падобнае было пад рукой, альбо выбягала на лесьвіцу, каб папярэдзіць людзей. Наступаў пэрыяд холаду, і Міна занурвалася ў ім усё глыбей, да наступнага разу. ТОЙ, КАГО ЯНА ЧАКАЛА, не прыходзіў, а Князь Цямрэчаў, збольшага заспакоіўшы пажаду, чакаў наступнага зручнага моманту.

Я глядзеў на яе сьлёзы. Міна была бездапаможна, але мая бездапаможнасьць у дачыненьні да яе пакутаў здавалася яшчэ большаю. Хіба нам трэба было размаўляць пра Бога, таго, які так напалохаў яе й нагадваў ёй бацьку? Яна ўцякла ад яго зь мястэчка пры нямецкай мяжы ажно сюды, дзе скончыла ўнівэрсітэт, дзе, цэлымі гадзінамі схіліўшыся над бібліятэчнай паліцай, зарабляла жабрацкія грошы на жыцьцё, і дзе ягоны позірк, як нябачная сіла, даганяў яе зноў.

Нічога не далі ле хітрыкі, магічныя захады; ад позірку немагчыма было ўхіліцца, бо ў ім былі моц і ўлада. Міна пераканалася ў гэтым некалькі

месяцаў таму, укленчыўшы ў спавядальні й намагаючыся растлумачыць мужчыну ў чорнай сукні сутнасьць свайго болю. Яна апавядала яму пра полымя, якое неспадзявана выбухае пад купалам лёду й мерзлаты, казала яму пра агонь пажады, які загараецца ў ей і якога нішто ня можа патушыць, і пра Князя Цямрэчаў, якому яна мусіць паддацца. Мужчына ў чорнай сукні выбег з спавядальні, выкрыкваў Міне нейкія незразумелыя словы, але праз хвіліну ўсё высьветлілася. Гэта быў ён, помсьлівы й зайздросны Егова ва ўласнай асобе! Ён бег за ёй праз увесь касьцёл, размахваючы рукамі, і, як бацька, пагражаў расправай. Міна ўцякла на пляж, і да вечара ляжала на сухім пяску, слухаючы, як гудзе вецер.

— А хапіла б толькі промня сьвятла, — паўтарала яна, — аднаго толькі слова, і я была б уратаваная!

Я стараўся нешта сказаць. Я тлумачыў, што гэты прамень альбо голас, якога яна так чакае, можа быць вельмі блізка, і штс ня варта адчайвацца. У гэткія моманты Міна выбухала гневам. Калі на гары Армон дзьвесьце анёлаў запалалі пажадай да дачок зямлі, гэтыя незямныя йстоты спапялялі дзяўчатаў сваімі позіркамі. Безьцялесныя анёлы, чыстая інтэлігенцыя, злучаліся з прахам зямлі, бо што такое жаночае цела, як ня гэткі прах. І злучаліся анёлы на гары Армон з прахам зямлі, так пачыналася гісторыя іх падзеньня.

Але Міна ня думала пра такі позірк, пра такое сьвятло, што спапяляе й нішчыць. Міна чакала промня, які дакранецца да яе цела далікатна, прасякне душу, і пад гукі музыкі (хоць, магчыма, гэта будзе толькі шум нябачнага дыханьня) зробіць яе блаславёнай. ТОЙ, КАГО ЯНА ЧАКАЕ, мае



менавіта такі позірк. Як я магу не разумець гэтага? Як л магу ня ведаць, што позіркі бываюць такія розныя?

Але я ня ведаў значна болей. Шыбы старае шахты, нерухомыя колы пад'ёмнікаў альбо пасёлак расейскіх жаўнераў, адкуль часам даносіліся згукі стрэлаў альбо гармошкі й харавога сьпеву, былі для мяне гэткія ж далёкія, лк расповед пра гару Армон і грэшных анёлаў. Сярод усяго гэтага, як быццам гара Армон была насыпаная ў мястэчку Міны, кружляў прывід яе бацькі. Гэты чалавек з калматымі бровамі й далонямі як лапаты ненавідзеў Міну ад самага пачатку, ад самага яе нараджэньня ў іх цагляным доме на прадмесьці.

— Спачатку, — тлумачыла яна, — мне хацелі даць імя Алена, але бацька выбухнуў сьмехам і крычаў на маці, маўляў, гэткае брыдкае дзіця так называць нельга. І даў мне імя Міна.

Чалавек з калматымі бровамі й далонямі як лапаты тужыў па дасканаласьці. Але сьвет, таксама як і Міна, і мястэчка, і тысячы іншых людзей, ня быў дасканалы, і таму бацька праклаў усё, бо паўсюль знаходзіў пыл, бруд і шчыліны. Гэткія ж, як на сьцяне іх дому, чаму яны й пераехалі ў новы шматпавярховік. Міна запомніла бульдозер, які разбураў цагляную сьцяну й чырвоны дах, запомніла таксама дрэва, вырванае з каранямі, якое доўга гайдалася на фоне яснага неба, схопленае ў жалезныя пашчэнкі.

Нібыта наперакор бацьку Міна вырасла найпрыгажэйшай дзяўчынай у мястэчку. Яе грудзі й хада захаплялі мужчынаў, а расейскія афіцэры з залацістымі пагонамі, якія часам выходзілі з свайго раёну, жаўнеры, што пахлі адэкалонам ды

натлушчанай скурай ботаў і рамянёў, глядзелі на яе позіркам, поўным мэланхоліі.

— У кожным зь іх мог схавацца Князь Цямрэчаў, — тлумачыла Міна, — але тады я яшчэ ня ведала пра гэта. Я ведала толькі, што бацька чакае майго падзеньня.

Я глядзеў на яе змучаны твар і пажоўклыя ад танных цыгарэтаў пальцы. Аповед працягваўся, адвольна пераскокваў празь месяцы й гады, а яго ўнутраная логіка нагадвала лябірынт з замураваным выйсьцем. Міна добра ведала пра гэта, і можа таму яе вочы затойвалі вусьціш. Яна адчувала, як захоплівае яе шаленства, і хоць адной нагой стаяла яшчэ тут, дзе многае можна было вытлумачыць, пры чым не абавязкова з дапамогай грэшных анёлаў, другой пагразала ўжо там, з другога боку.

— Гэта вір, які мяне ўсмоктвае, — крычала яна, ня гледзячы ў мой бок, — праз два альбо тры дні падчаплю першага лепшага кадра, схаплю яго за рукаво пінжака й скажу: «Ты што, ня можаш мяне трахнуць? Халера, пра што ты ўвогуле думаеш?» Альбо стану ў вакне, так, стану ў вакне й буду выкідаць бялізну, пакуль ня зьлвіцца хтонебудзь, хто захоча мне яе прынесьці.

Яна гучна плакала, хаваючы твар у далонях. Нашае знаёмства было па сутнасьці мімалётнае: часам яна падавала мне кнігі ў бібліятэцы, часам я бачыў ле ў даўгіх калідорах унівэрсітэту, мы перакідаліся двума-трыма сказамі пра надвор'е альбо абеды ў сталоўцы. Я зразумеў, што яна жыве адна і, магчыма, ня мае нікога, з кім магла б паразмаўляць. Ей ніхто ня піша лістоў, ніхто не прыходзіць на гарбату ў пусты пакой. Урэшце, памаўчаўшы, Міна падала мне каргку з нумарам тэлефону.



— Пазвані, — шапнула яна, — я сама не магу. Толькі скажы, каб лапы трымалі пры сабе, бо загрызу як шалёная сука, разумееш? Так ім і скажы!

Я зразумеў, што яна не ўпершыню зьбіраецца ў шпіталь.

Калі мужчыны ў белых халатах зьявіліся ў дзьвярох, Міна спакойна ўстала з фатэля й пайшла зь імі ў машыну. Праз момант адзін зь іх вярнуўся й хацеў штосьці даведацца пра пацыентку. Ці былі ў яе прыступы фурыі? Ці дэпрэсія, у якой яна знаходзіцца, не магла быць вынікам сямейных канфліктаў? Ці гэта першы выпадак у сям'і? Я маўчаў. А калі машына ад'ехала ад дому, я глыбока ўздыхнуў, быццам пазбавіўся ад велізарнага цяжару.

Праз два дні яна пазваніла з шпіталя. Нагрузіла мяне кучай незавершаных спраў. Я мусіў заплаціць за кватэру, пагаварыць з кіраўніком бібліятэкі, узяць зь яе кватэры кніжкі, зубную шчотку, ручнік, пантофлі й завезьці ўсё гэта ёй. На гэта пайшло прынамсі паўдня. Потым, калі яна прапанавала мне пакінуць ключ і паліваць кветкі, я рашуча адмовіўся. Узамен я абяцаў, што раз на тыдзень буду прыходзіць у шпіталь, а калі Міна раптам нешта прыгадае, то яна патэлефануе мне, не чакаючы пятніцы.

Яна выглядала соннаю, скардзілася на галаўны боль і уколы, якімі фаршавалі яе дактары. Яе рухі былі павольныя, сьпіна й шыя не згіналіся да канца, бо лекі блякавалі працу цягліцаў. Па залі з тэлевізарам, дзе мы размаўлялі, блукалі іншыя постаці ў піжамах. Ад іх позіркаў — празрыстых і адсутных — мне рабілася няёмка, бо здавалася, што яны кружляюць менавіта вакол нас і ловяць нашыя словы, нібыта мы нешта ўтойвалі.

Я маўчаў, а Міна, гледзячы ў вакно, надалей апавядала пра ТАГО, КАГО ЯНА ЧАКАЕ. Чаму ён не прыходзіць? Можа таму, што яна, Міна, ня вартая такога візіту? А можа таму, што гідзіцца ейнага цела? Тады ён павінен ведаць, што апроч цела Міна мае яшчэ душу, о, якую вялікую душу!, як моцна яна яе адчувае, сваю чыстую, беззаганную душу, у якую ён мог бы ўвайсьці як у крышталёвае начыньне. А можа ён знойдзе яе тут, у шпіталі, сярод ложкаў і белых халатаў пэрсаналу, ва ўсім гармідары й смуродзе? І напоўніць яе, як алей напаўняе пусты збан. — Ён, які кладзе далонь у гняздо зьмеяў і адчыняе ўсе дзьверы й замкі.

Аднекуль з глыбіні аддзяленьня даносіўся страшны лямант, чуваць было беганіну й крыкі, а Міна, падыходзячы да вакна, усё цішэй шаптала словы свае малітвы, засяроджаная й абсалютна адсутная.

Адзін з пацыентаў, у халаце, накінутым на швэдар, грабляваў пад мурам шырокую паласу зямлі. Міна, здавалася, не заўважала гэтае працы. Яна далей гаварыла шэптам, а я назіраў за дакладнымі рухамі мужчыны, якія адсюль, з вышыні другога паверху, выглядалі дзіўным рытуалам. Мужчына штохвіліны перапыняў працу, прыглядаўся да сьвежых сьлядоў на ўзаранай зямлі. Ён чагосьці шукаў вачыма, пасьля чаго зь недаверамківаў галавой, і зноў пачынаў працу. Калі зьявіліся сёстры й павялі Міну па калідоры да дзьвярэй, мужчына з граблямі нерухома стаяў пад мурам, углядаючыся ў неба. Срэбныя аблокі марудна цягнуліся над паркам, у лісьці дрэваў мільгацела лянівае сонца, а за лесам, з боку лётнішча, вуркатаў рухавікамі пасажырскі самалёт.



Праз тыдзень яе апухлы твар прывітаў мяне як прадвесьнік благіх навінаў. Міна мела мяшкі пад вачыма й скалечаныя вусны, усьмешка якіх рабіла яе падобнай да ведзьмы ў дзіцячых кніжках.

Торба з папяроўкамі ўпала на падлогу. Коўзаючыся па сьлізкім лінолеуме, я зьбіраў яблыкі, а яна, быццам яе апанаваў злы дух, лаялася хрыпатым нізкім голасам, вывяргаючы патокі брыдкасьцяў. Ва ўсім быў вінаваты я, і цэлая плынь бруду з гневам вылілася на мяне. Гэта я сачыў за ёй на калідорах унівэрсітэту, выказваў шматзначныя прапановы, вяртаючы бібліятэчныя кнігі, хадзіў за ей па вуліцах з надзеяй, што яна ўрэшце паддасца нячыстым памкненьням, а за тое, што яна не паддалася, я паслаў яе у шпіталь, дзе яна цяпер пакутуе, церпіць ад уколаў, электрашокаў і «іншага паскудзтва, ад якога робіцца пагана».

Яна не давала мне сказаць, а торбу зь яблыкамі зноў кінула на падлогу. Яна махала рукамі, як заведная, сьмяялася зь мяне, ужываючы генітальныя параўнаньні. Я быў Князем Цямрэчаў, правадыром пажадлівых Божых сыноў з гары Армон, расейскім жаўнерам, які згвалціў яе ў парку адразу пасьля зьмярканьня, калі яна вярталася дамоў зь першага спатканьня; я быў і доктарам, які зрабіў ёй аборт; урэшце, гэта з-за мяне бацька біў яе па твары, называў сукай і выкінуў з дому.

Я хацеў уцячы, але Міна йшла за мной і, гаворачы ўсё хутчэй, хапала мяне за плячо. Струменьчыкі сьліны ў ражках яе вуснаў распырскваліся ва ўсе бакі, а я чакаў, калі прыбягуць санітары й спыняць гэтую сцэну, у якой я стаўся абвінавачаным.

Неўзабаве гэтак і адбылося, але Міна, зь сілаю, якой я ў ёй і не падазраваў, змагалася з трыма асілкамі яшчэ некаторы час.

— Гэта ён! Гэта ён! — крычала яна сваім катавальнікам, паказваючы на мяне. — Ён трахаў непаўналетнюю Міну! Зачыніце дзьверы! Ня дайце яму выйсьці! Дзе ягоны мундзір? Дзе ён схаваў залатыя эпалеты?

Немагчыма апісаць, што я тады адчуваў. Пацыенты й наведнікі глядзелі на мяне крадком, прызвычаеныя да гэткіх сцэнаў, і ўсё ж у іх клейкіх позірках я прачытваў нямое пытаньне. Рассыпаныя яблыкі ляжалі на падлозе нерухома, як більярдныя кулі. Зьбіраць іх не было сэнсу, а ў наступны момант, калі я скіраваўся да выхаду, мяне затрымаў доктар, прафэсар Б., слава мясцовых псіхіятараў і шэф клінікі ў адной асобе. Ён хацеў запрасіць мяне ў кабінэт, распытаць пра Міну, але я ўжо бег па сходах наніз, быццам звычайны санітар, і не зьвяртаў увагі на ягоныя словы. Аднак ён працягваў ісьці за мной, крысьсё белага халата пырхала на ветры, а нашая размова нагадвала абмен дыпламатычнымі нотамі, фармальна стрыманымі і поўнымі прыхаванай інфармацыі. Урэшце, калі мы спыніліся каля зарослага гліцыніяй муру, калі я растлумачыў яму характар нашага зь Мінай знаёмства, а ён паведаміў мне пра цыклы шызафрэніі, яе звычайныя прыкметы й нечаканыя выключэньні, я ўбачыў мужчыну з граблямі. Ён глядзеў ці то на ліловыя кветкі гліцыніі, ці то на сьвежаўзараны пас зямлі, які ён парадкаваў гэтак жа, як і тады, калі я назіраў за ім з вакна.

— Такі стан, — казаў далей прафэсар, — можа цягнуцца некалькі месяцаў, потым крызіс мінае



альбо не, часам гэта працягваецца гадамі, — ён паказаў на мужчыну, схіленага над градкай, — як вось у гэтым выпадку. Ведаеце, як даўно ён тут? Больш за трыццаць гадоў!

Я йшоў уніз праз прысады старога парку, між павільёнаў. З закратаваных вокнаў вызіралі твары пацыентаў. Толькі нямногія зь іх, як той, з граблямі, вольна хадзілі па садзе ў вылінялых халатах, праштампаваных бардовымі трохкутнікамі.

Прафэсар Б. затрымаўся перад аддзяленьнем адкрытае псіхіятрыі й падаў мне руку.

— Малады чалавек, — сказаў ён, — гэта вельмі добра з вашага боку... гэта можна толькі пахваліць, што... тым больш, што наша пацыентка ня мае бадай нікога...

А калі на разьвітаньне я назваў яму сваё прозьвішча, ён, задумаўшыся, успомніў майго бацьку.

— У яхт-клубе мы плавалі на старой нямецкай лайбе, — ён шырока ўсьміхнуўся. — У сорак шостым годзе. Так, так, а ведаеце, як тады выглядала Гдыня? — Адыходзячы, я пачуў яшчэ, што павінен яго наведаць, калі зноў прыйду да Міны. — Не адчайвайцеся, — крыкнуў ён мне наўздагон, — у будучыні яна павінна быць спакайнейшая!

На працягу наступных дзён я стараўся ня думаць пра Міну, яе хваробу й шпіталь.

Аднак аднойчы Міна вярнулася да мяне ў сьне. Яна стаяла на вяршыні цаглянае вежы. Я бег да яе праз зялёныя хвалі травянога мора. Міна трымала ў руцэ запаленую паходню, і хаця, здаецца, быў дзень, яе сьвятло асьляпляла мне вочы.

— Я ня Міна, — крычала яна, калі я быў ужо наверсе. — Я Алена!

Я прачнуўся у мокрай ад поту пасьцелі.

З таго часу сон пачаў паўтарацца, а я адчуваў у сабе ўсё большы неспакой. Я пажадаў яе цела, але не таго, што бачыў у бібліятэцы, на даўгіх калідорах унівэрсітэту, і не таго, што мог уявіць сабе ў мястэчку пры нямецкай мяжы. Я прагнуў яе цела — на вяршыні цаглянай вежы. Яно было прыгожае й абсалютна дасканалае.

Між тым з сапраўдным яе целам рабілася нешта пагрозьлівае. З кожным тыднем Міна таўсьцела, яе апухлы й наліты твар нагадваў выявы Босха, а поўная апатыя й нерухомасьць яшчэ больш паглыблялі ўражаньне адсутнасьці й выклікалі гідлівасьць, чаго я, як ні стараўся, ня мог у сабе перамагчы.

Яна бадай разумела мае словы, але сама адказвала неахвотна, абрыўкамі сказаў. Мне хацелася пра многае ў яе запытацца. Чым займаюцца яе браты? Ці жывы яшчэ бацька? І як было з тым расейскім жаўнерам, тады, у яе мястэчку, калі яна ўвечары вярталася праз пусты парк, акрыленая спатканьнем, на якім, магчыма, абмянялася першым пацалункам з старэйшым на год хлопцам з выпускнога класа.

Аднак усё гэта мусіла застацца ў здагадках. Погляд Міны адштурхоўваў, і ніводнага пытаньня я нават не прамовіў.

Я ня мог зразумець, навошта я туды хаджу. Ніякіх абавязкаў у дачыненьні да Міны я ня меў, а яе стан, блізкі да кататоніі, усё больш паглыбляўся, выключаючы паразуменьне.

Мае візіты былі ўсё карацейшыя, я стараўся пазьбягаць сустрэчы з прафэсарам Б., і толькі мужчына з граблямі, якога я кожны раз бачыў у месцы каля муру, інтрыгаваў мяне ўсё мацней. Ён заўжды грабляваў тую самую паласу зямлі, а потым уважліва ўзіраўся ў сьляды прылады. У вузкіх барознах ён відавочна шукаў нейкі сьлед, але нічога падобнага не знаходзіў і тады зноў грабляваў, схіліўшыся над градкай. Я шмат разоў назіраў за ягонымі рухамі, на доўгія хвіліны затрымліваўся каля муру, але ён, заняты сваёй справай, не зьвяртаў на мяне ўвагі.

Пад канец лета я ўсьвядоміў, што хаджу туды не для Міны, і не з-за свайго сну пра яе, а менавіта дзеля гэтага мужчыны ў халаце з трохкутнай пячаткай «P», што азначае шпіталь для псіхічна хворых. Яго твар не выказваў ніякіх пачуцьцяў. Яго не кранала ані ўсьмешка, ані грымаса сумлеву, і толькі калі мужчына схіляўся над зямлёю, я заўважаў, як ён моршчыць бровы, шчыра зьдзіўлены, што не знаходзіць там таго, што хацеў убачыць. Ён не адказваў на мае нясьмелыя пытаньні, якія я задаваў яму не адзін раз: «Што вы шукаеце? Ці магу я дапамагчы? Вы згубілі нейкі каштоўны прадмет?» Часам, чуючы словы, ён азіраўся ў мой бок, і тады я бачыў ягоныя вочы. Яны былі такія ж блакітныя, як вочы Міны, але іх позірк, здавалася, выражаў нейкае іншае шаленства. Так, яго аскетычная фігура й алімпійскі спакой былі свайго роду выклікам. Сьвет за сьцяной, той, зь якога я прыходзіў, здаваўся мне тады хаатычным і выпадковым. У пастаяннай зьменнасьці, у плыні адгалоскаў і кшталтаў, ён нагадваў раку, якая бяжыць у невядомым кірунку. Тады як мужчына з граблямі, заняты сваёй містэрыяй, як бы не падпарадкоўваўся гэтай сіле. Ягоная вечнасьць на некалькіх мэтрах ўзаранай зямлі, маўклівая й недаступная, была ў іншым месцы.

Аднойчы, здаецца, у апошнюю пятніцу верасьня, Міну не прывялі ў залю наведнікаў. Яна

нерухома сядзела на ложку, і калі я праз шыбу ізалятара ўбачыў яе твар, я зразумеў, што нябачная сіла, напэўна тая самая, што так упарта яе мучыла, парвала апошнюю нітку, якая лучыла Міну зь сьветам.

Голас прафэсара за маёю сьпінай гаварыў пра саматычныя й гарманальныя зьмены, пра тканку, хімію й таямнічыя субстанцыі мозгу, назвы якіх я не запомніў, і што праз стагодзьдзе альбо два, калі біяхімія справіцца з гэтай загадкай, тое, што сёньня невылечнае, стане вылечным.

Я маўчаў.

Голас прафэсара гучаў упэўнена й спакойна, быццам ён чытаў рэфэрат у залі, запоўненай людзьмі ягонай прафэсіі. З гэтага боку калідорнае шыбы прастору запаўнялі «структура бялка», «мутацыі генаў» і «мазгавыя зьвіліны», а з таго боку была Міна: тоўстая, брыдкая, засьліненая, здурнелая дарэшты. Яе трэба было карміць, мыць, апранаць як дзіця; трэба было ачышчаць яе ад ейных уласных нечыстотаў, на што яна паддавалася абыякава, без супраціву.

Няўжо ТОЙ, КАГО ЯНА ЧАКАЛА, не прыйшоў? Няўжо багі цямрэчы, тыя самыя, якімі кіраваў анёл з гары Армон, забралі яе душу, кладучы на целе сваю нікчэмную пячаць?

Ці быў нейкі іншы адказ? Мне было дваццаць чатыры гады, і тэалогія ніколі не належала да маіх зацікаўленьняў. Маё каталіцкае выхаваньне зусім не спрыяла падобным разважаньням, а Міна дамагалася адказу. Асабліва там, з другога боку шыбы, дзе яна была бездапаможная й зусім пакінутая.

А прафэсар гаварыў далей, і толькі праз некаторы час я зразумеў, што ён апавядае пра чалавека з граблямі. Той чалавек быў памежнікам у часы, калі кожны вечар па пляжы езьдзіў трактар з бараною. Кожную раніцу памежнік патруляваў свой кавалак мяжы і кожную раніцу, як ён сьцьвярджаў пазьней, падчас шматгадзінавых допытаў, знаходзіў сьляды босых стопаў, якія вялі зь пясчаных выдмаў да мора. Ён не дакладваў пра гэта начальству. Калі б сьляды вялі ў адваротным кірунку, ён бы мог дапусьціць, згодна з інструкцыяй, што з падводнай лодкі выйшаў шпіён. Але чаму босы? І заўсёды ў тым самым месцы? На гэтыя пытаньні ён ня мог адказаць, таксама, як ня мог зразумець, чаму сьляды, якія ён знаходзіў кожную раніцу, вядуць да месца, дзе іх размываюць хвалі. Шмат начэй ён правёў у схованцы, спадзеючыся высьветліць загадку. Аднак нікога ня ўбачыў, а сьляды зьяўляліся заўсёды, быццам нехта хацеў пакпіць з усіх памежнікаў разам узятых. Гэты сьлед не даваў яму спакою, стаўся ягонай навязьлівай ідэяй і праклацьцем, бо што б ён ні рабіў пасьля службы, ня мог пазбавіцца ад думкі, што наступнай раніцай, калі ён будзе праходзіць уздоўж шырокай паласы заараннага пляжу, з карабінам цераз плячо, у тым жа месцы, што й заўсёды, натыкнецца на адбіткі босых стопаў. Ён хадзіў за імі ажно на выдмы, але сьляды абрываліся, быццам нехта зьяўляўся ў гэтым месцы проста з паветра, і толькі дзеля таго, каб прайсьці празь пясчаныя ўзгоркі, перасякнуць заараны пас і потым зьнікнуць у моры.

Я задумваўся, чаму прафэсар апавядае мне гэтую гісторыю, і зразумеў гэта, седзячы ў ягоным кабінэце й піючы каву з парцалянавых кубкаў.

— Гэтыя сьляды, — казаў ён, папраўлючы рагавыя акуляры, — ніколі не існавалі. Ужо тады па-

межнік меў пэўныя парушэньні, якія, калі б своечасова былі выкрытыя, не давялі б да трагедыі.

Гэта адбылося ў пяцьдзясят першым годзе, раніцай, калі разыходзіўся туман і над морам заблішчалі першыя промні сонца. Памежнік, затаіўшыся, як гэта было на працягу шмат начэй, задрамаў, і калі раптоўнае сьвятло абудзіла яго, ён адчуў дрыжыкі ў сэрцы. З боку выдмаў набліжалася нейкая фігура. Яна лёгка йшла праз заараны пляж, ледзьве кранаючыся зямлі, а памежнік, які ня мог адарваць ад яе вачэй, шмат разоў паўтараў пасьля, што зь яе плячэй выраставлі два вялікія крылы. «Стой, страляць буду!» — крыкнуў ён, але постаць (здалёк ён ня бачыў, мужчына гэта ці жанчына) не зьвяртала на яго ўвагі, ідучы далей ад берагу. Тады ён націснуў спуск, раз і другі, цаляючы паміж крыламі, крыху вышэй лапатак.

Калі ён падбег да берагу, убачыў маладую дзяўчыну. Ёй магло быць дзевятнаццаць ці дваццаць гадоў. Яе нерухомыя вочы глядзелі ў неба. Хваля абмывала яе босыя стопы, а кроў хутка сьцякала ў пясок, пакідаючы на ім цёмныя плямы. Яна была мёртвая, а ён нідзе ня ўгледжваў крылаў. Менавіта гэтак знайшлі іх праз гадзіну. Яна ляжала нагамі ў вадзе, а ён стаяў над ёй на каленях і плакаў, гладзячы яе доўгія валасы й дакранаўся далонямі да яе шчокаў.

У рэшце рэшт, — працягваў прафэсар, — асобу дзяўчыны так і не ўдалося ўстанавіць, і, каб неяк завяршыць справу, сьцьвердзілі спробу нелегальнага перасячэньня мяжы. Памежніка перавялі ў казармы, каб болей не хадзіў па пляжы, але празь некалькі месяцаў выявілася, што ён папросту вар'ят. «Я забіў анёла, — пісаў ён начальству ў сваіх чарговых рапартах, — і Бог пашле пакараньне для мяне й для ўсёй гэтай праклятай краіны, дзе магчымыя такія злачынствы». Менавіта тады яго накіравалі сюды, — прафэсар закурыў, — і я ўдзельнічаў у яго абсьледаваньні, будучы яшчэ асістэнтам. Ен ня мог вытлумачыць, чаму ніхто іншы ня бачыў раней гэтых сьлядоў на пяску. А пра крылы ён сьцьвярджаў, што яны мусілі самі паляцець на неба, бо Бог не дазволіў, каб яны трапілі ў рукі сьмяротных.

Неўзабаве пасьля гэтага ён папрасіў граблі й пачаў штодзённа парадкаваць той самы кавалак зямлі над мурам.

— Трыццаць гадоў, — задумліва прамовіў прафэсар. — Дакладна столькі мінула з таго часу, калі ён папрасіў граблі. Ягонай гісторыяй цікавіўся нейкі журналіст, — працягваў ён, — самі ведаеце... каб дакапацца да тых справаў, да тае эпохі. Як ён ні стараўся, не знайшоў ані магілы дзяўчыны, якая мелася быць анёлам, ані пратаколаў гэтае справы. А ён, — прафэсар паказаў рукой на вакно, — ён нічога ня скажа. Калі пачаў грабляваць зямлю, зусім перастаў гаварыць, таму рэпартажу ня будзе, бо які нармальны чалавек паверыў бы ў гэтую гісторыю? — Прафэсар засьмяяўся коратка, суха, іранічна.

Калі мы йшлі праз парк да шпітальнае брамы, калі ён гаварыў, што стан Міны можа працягвацца гэтак жа доўга, як стан памежніка з граблямі альбо яшчэ даўжэй, калі ён тлумачыў мне, якія складаныя працэсы адбываюцца ў мазгах і ўсёй нэрвовай сістэме, працэсы, сутнасьці якіх мы нават акрэсьліць ня ў стане, ня тое што кіраваць імі, я думаў пра тронкі ад грабляў. Адшліфаваныя, яны зьзялі як драўніна касьцельных лавак, да якіх дакранаюцца заўсёды ў тых самых месцах.

— Часам, — закончыў прафэсар, — дастагкова невялічкае зьмены ў хімічным складзе тканкі альбо вадкасьці. І тады мы пачынаем бачыць анёлаў і д'яблаў, пачынаем чуць галасы і ніколі не вядома, чым гэта ўсё скончыцца. Так, так... — казаў ён. — А вы пазваніце калі-небудзь, бо прыходзіць пакуль няма чаго.

Сапраўды, не было чаго. Міна не папраўлялася. Не адбылося ніякага цуду, які б вярнуў ёй здароўе і ранейшы выгляд. Ніхто не прыдумаў біяхімічнае субстанцыі, якая магла б яе вылечыць.

З таго часу мінула ўжо восем гадоў, і я ведаю, што Міна, зачыненая ў спэцыяльным аддзяленьні, пару разоў на год мае прыступ шаленства, пасьля якога надыходзіць пэрыяд поўнае апатыі й пасіўнасьці.

Я часта думаў пра яе, прыгадваючы візіт у шпіталь, калі я бачыў Міну апошні раз. Гэга было праз два месяцы пасьля размовы з гірафэсарам. Дрэвы ў парку ўжо ня мелі лісьця, а на зямлі што ні крок трашчалі пад чаравікам тонка замерзлыя калюгі. Санітар, які вёў Міну, паправіў ёй плашч, накінуты на халат, а яна затрымалася пад мурам. Нехта з вакна паклікаў санітара. Ен завагаўся, але ўбачыўшы, што я побач, пакінуў Міну й пабег у будынак. І тады адбылося нешга незвычайнае: мужчына з граблямі (на ім былі старая авечая камізэлька й ваўняная шапка) пакінуў сваю прыладу, укленчыў, і, склаўшы рукі, шэптам маліўся на Міну. Яна стаяла на сьвежаўзаранай градцы, вецер зьдзімаў з муру сухое лісьце, а першыя сьняжынкі, віруючы ў паветры, ападалі на яе валасы, ствараючы срэбную сетку. Яны глядзелі адно аднаму ў вочы. Ён маліўся на яе, а яна прыймала ягоныя словы ў маўчаньні; калі ж прыйшоў санітар, і, узяўшы Міну за руку, завёў у будынак, я падумаў, што абое яны чакалі гэтай сустрэчы пад мурам вельмі доўга. І абое ў той момант былі вельмі шчасьлівыя, калі пад шчасьцем разумець хвілінную палёгку ў пакутах, той час, калі мы не адчуваем, як даймае боль.

*Пераклад з польскай Аляксандра Айны надрукаваны ў НН № 4 у 1995 годзе.*

*Роса Бэльтран*

# Графіці

Яна можа ўжо быць у пэўным веку, можа насіць акуляры і, калі слухаецца мужа, дык можа быць і трохі дурнаватай, хоць і надзвычай прадпрымальнай жанчынкай. Уявім сабе, што яна вучыцца ва ўнівэрсытэце і спрабуе атрымаць гуманітарную адукацыю, скажам, на аддзяленьні клясычнай філялёгіі, і з тае прычыны са скуры вылузвацца, каб, сабраўшы ўсю сваю сьмеласьць, разпораз уздымаць руку на занятках, так, як робяць усе добрыя студэнткі. Уздымаць руку, каб паразважаць аб нечым — няважна аб чым — з адпаведнай урачыстасьцю. Яна сядзіць ня справа, побач з абранымі, як яны самі сябе зазвычай называюць, а туліцца зь іншага боку, там, дзе сядзіць «народ» або, як кажуць, il popolo, і таму ёй не пагражаюць выступы з разумнымі прамовамі, але ў гэтым яна не самотная, бо ж ня ёй адной часам бывае цяжка зразумець сэнс трактатаў Тацыта, Публія Авідыя Насона і асабліва пытаньняў прафэсара Пэлегры.

І вось яна ўздымаецца са свайго месца і выходзіць з аўдыторыі, кіруючыся ў прыбіральню. Крыху чакае, хвілінаў зь дзесяць, ня болей, і займае кабінку. Тут яна зьбіраецца зрабіць тое, што звычайна робяць у падобных сытуацыях. Кажу звычайна, бо можа так надарыцца, што наведніца возьме ды гляне перад сабой на засуненыя дзьверы, сутыкнецца менавіта з гэтым і зьдзівіцца. Яна пачне азірацца наўкола, хоць больш нікога і няма (часам ёй здаецца, што за ёю сочаць) або адчуе затоены позірк чыіхсьці вачэй, якія сваім холадам лашчаць ейнае цела, прымушаючы ўдаваць спакой. На шчасьце, яна ведае, што гэтае адчуваньне няўтульнасьці за імгненьне зьнікне, і таму яна можа асьцярожна пасунуцца і зблізку разгледзець унушальных памераў чэлес, а ўнутры яго надпіс чырвоным «Пяшчотна мяне пацалуй», і яна зноў адчувае, што чырванее і задыхаецца кожны раз, як шэпча сабе гэта ў цішыні, і што ня можа стрымаць усьмешкі і пэўнага ўзрушаньня ад тае думкі, што астатнія цяпер, відаць, вядуць дыскусію наконт Гамэра ці Ксэнафонта, ня кажучы ўжо пра тых, хто сядзіць наперадзе: тыя ўжо, відавочна, палемізуюць, сачыняюць, выпраўляюць адзін у аднаго памылкі. Навука досьведу сьвядомасьці.

Раптам, побач зь вялізным чэлесам, ёй кідаецца ў вочы большы надпіс: «Нам усім гэта ў кайф, бо ўсе мы блядзёхі!» Яна адчувае, як раптоўна зьмяняецца ў твары, бо мусіць задаць сабе сакрамэнтальнае пытаньне: ці насамрэч яна ёсьць тою, кім, як сьцьвярджаецца, яна ёсьць. Тут яна з палёгкай выдыхае і нясьпешна ківае «так», пасьміхаючыся сама свайму тымчасоваму сумневу, бо ведае, што яна, на шчасьце, з тых асобаў, якія прысьвячаюць жыцьцё іншым рэчам, што яна не належыць да aurea mediocritas, як гэта называюць, і, хоць яе надзвычай моцна ўражвае чалавечая

**Роса Бэльтран** (нар. 1960, Мэхіка).

Мэксыканскі празаік і перакладчыца, літаратуразнаўцакампаратывіст.

тупасьць, яна разумее, што нічога зь яе інтэлігентнасьцю ня здарыцца, калі яна трохі наблізіцца, каб разгледзець чырвоную лінію ў форме чэлеса, які залягае ў чыімсьці роце, і заўвагу побач «Асьцярожна: струк таўсьцее!» за подпісам аўтаркі. Ёш тваю качалку- мачалку! Яна працягвае разглядаць самыя гідкія надпісы, найбрыдчэйшыя малюнкі, і ў яе пачынае галава тачыцца ад гэтых каляровых і вельмі прыгожых літарак, выведзеных зь любоўю ейнымі каляжанкамі. Апрача таго, яна ўпэўненая, што й мужчыны, мусіць, пішуць у прыбіральнях свае споведзі, зусім не падобныя на споведзі сярэднявечных сьвятых; толькі падумаўшы пра гэта, яна зноў чырванее.

Яна пачынае падазраваць, што тая, што чакае пад дзьвярыма свае чаргі, ужо, мабыць, памірае, але ў той самы момант са зьдзіўленьнем заўважае малюсенечкі надпіс, нашкрабаны алоўкам, які нібыта хоча схавацца сярод іншых; яна быццам чуе голас дрыготкіх літараў: «Дапамажыце зрабіць аборт!» — і яе як прыгаломшвае; яна рэзка адхінаецца, спуджаная, бо ў гэты час нехта грукае ў дзьверы — два сухія патрабавальныя ўдары — і дадае «давай хутчэй». Перш чым адчыніць, яна, падпарадкоўваючыся нейкаму дзіўнаму імпульсу, шукае ў сумачцы, сярод квіткоў і чэкаў, асадку і піша ледзь большымі за сам надпіс значкамі: «Аборт — гэта злачынства!» Адкідаецца назад, аглядае свой твор і пасьміхаецца. Яна адчувае штосьці блізкае да шкадаваньня, да якога далучаецца пах тлушчу і смажаніны з кухні на першым паверсе, дзе сярод сабачага брэху, сьмецьця і ежы можна пачуць урыўкі з «Карміны Бураны», якія выводзяць студыёзусы на занятках па лаціне; яна дадае да свайго надпісу «Памажы табе Бог», безвынікова торгае ланцужок змыву і, задаволеная, выходзіць з прыбіральні.

Звонку пара жанок з васковымі тварамі чакаюць свае чаргі, іншыя займаюцца макіяжам і падмалоджваюцца; ёй думаецца, што яны, відаць, маюць на гэта свае прычыны, бо й за дзьвярыма памяшканьня, у якое няма доступу хлопцам і на дзьвярох якога напісана «Ж», людзі думаюць ня толькі пра Сэнэку, Віргілія ці Цыцэрона. Яна ня дужа дасьведчаная ў іншых матэрыях, бо паступіла сюды, калі мела ўжо сорак гадоў і мінімум ведаў пра тое, як трэба вучыцца ва ўнівэрсытэце, але яна можа сабе ўявіць, што, акрамя імёнаў, мала што мяняецца ў сумежных лекцыйных залях.

Хоць, падумалася ёй зьнянацку, і ад думкі гэтай яна пачувае сябе прыемна ўсхваляванай — тыя ж фразы прафэсара Пэлегры пра Катула маглі б сапраўды ўзбуджаць, калі б мужчына, які іх прамаўляе, адначасова, прыкладам, разглядаў ейныя ногі. Праз вокны калідору прабіваецца сьвятло, і яна ўжо амаль наважваецца зайсьці пасядзець на тым, што застаецца ад занятку (бо ж яна сама прыдумала вучыцца, каб узьняцца ў мужавых вачах), але раптам яна адчувае нестрымнае жаданьне вярнуцца ў тую невялічкую кабінку жаночае прыбіральні.

Павесіць траха не скураную сумачку, насамрэч зробленую з плястыку кававага колеру (такая танная, хоць і харошая), прысесьці і ўперыцца вачыма ў дзьверы — усё гэта яна і робіць; у кабінцы ж яна адразу ніякавее і сьмяецца. Астатнія могуць падумаць, што яна крыху «таго», але як жа не засьмяяцца, калі нехта так апэратыўна адказаў на ейнае пасланьне. Яна чытае і адразу чырванее: «Які гінэколяг з твайго Бога?»

Яна адчувае віну, але віна не пасьпявае авалодаць ёю цалкам, бо ў той самы момант ёй трапляе на вочы маленечкая плямка чарнілаў: тэлефон. Яна корпаецца ў сумцы, выцягвае квіток з хімчысткі, бярэ ў рукі тую самую асадку, якой пісала ў мінулы раз, і, сама ня ведаючы чаму, занатоўвае нумар.

Яшчэ да таго, як у дзьверы нехта роспачна грукоча, яна складае і хавае шматок паперы з пазначаным тэлефонам.

Пасьля зноў безвынікова торгае за ланцужок і амаль ляціць з прыбіральні, адчуваючы на душы вялікую палёгку.

*Пераклад з гішпанскай Анатоля Прасаловіча*
*надрукаваны ў НН № 26 у 1999 годзе*



*Вольга Такарчук*

# Прафэсар Эндрус у Варшаве ...

Прафэсар Эндрус належаў да аднае з псыхалягічных школаў, вельмі паважанай, вельмі глыбокай школы, якая мела будучыню.

Яна паўстала на псыхааналізе, але выраклася каранёў, выпрацавала ўласную мэтодыку, уласную тэорыю, уласную гісторыю, уласны стыль жыцьця, сьненьняў і выхаваньня дзяцей. Прафэсар Э. ляцеў у Польшчу — з торбай кніжак, з валізкаю цёплых рэчаў (яму сказалі, што сьнежань у Польшчы дужа марозны й непрыемны).

Усё было вельмі натуральна: самалёты стартавалі, людзі гаварылі рознымі мовамі, цяжкія сьнежаньскія хмары віселі над зямлёю, гатовыя выправіць на зямлю мільёны белых сьняжынак, кожную — у адно-адзінае падарожжа.

За гадзіну да таго прафэсар аглядаў сябе ў люстэрках аэрапорту «Гітроў», і яму здавалася, што ён падобны да тых комівояжораў, якія — ён памятаў зь дзяцінства — хадзілі ад хаты да хаты й прадавалі Біблію. Але псыхалягічная школа, якую ён прэзэнтаваў, была вартая такой выправы. Польшча — краіна інтэлігентных людзей. Трэ бы-

---

**Вольга Такарчук** (нар. 1962)

польская пісьменьніца. Адкрыцьцё ў польскай літаратуры апошняга дзесяцігодзьдзя. Тройчы ляўрэатка польскай літаратурнай прэміі «Ніка».

ло засеяць зерне й вярнуцца дамоў праз тыдзень. Пакінуць ім кнігі — яны ж чытаюць па-ангельску, дый як жа ім не схіліцца перад аўтарытэтам Заснавальніка.

Прафэсар, пацягваючы зроблены сьцюардэсай трунак з славутай польскай гарэлкі, згадаў прыемны сон, які бачыў у ноч перад выездам, — а сны ў яго псыхалягічнай школе былі лякмусавай паперкай рэчаіснасьці. Яму сьнілася варона, ён забаўляўся ў тым сьне зь вялікаю чорнаю птушкай. Можна сказаць, наважыўся прызнацца сабе прафэсар, ён лашчыў варону, як малога шчанюка. Варона ў сыстэме анірычных значэньняў яго школы пазначала зьмену, нешта новае, добрае — і ён папрасіў яшчэ адну порцыю напою.

Аэрапорт у Варшаве быў надзіва малы й поўны скразьнякоў. Прафэсар пахваліў сябе за тое, што здагадаўся прыхапіць у гэтае падарожжа шапку-аблавушку — успамін пра вандроўку па Азіі. Ён адразу заўважыў сваю Бэатрычэ — яна стаяла ля ўваходу, трымаючы перад сабою картку зь яго імем і прозьвішчам. Была яна невялічкая й ладная. Пасадзіла прафэсара ў расхістаны аўтамабіль і, нэрвова ведучы машыну праз шэрую расьцягнутую прастору горада, пазнаёміла яго з плянам на бліжэйшы тыдзень. Сёньня субота — непрацоўны дзень. Яны разам павячэраюць, а потым ён адпачне. Заўтра, у нядзелю, — спатканьне са студэнтамі ва ўнівэрсытэце. Так, сказала яна раптам, у нас тут крыху напружана. Ён паглядзеў у акно, але не заўважыў нічога асаблівага. Пасьля — інтэрвію для псыхалягічнага часопісау, пасьля — вячэра. У панядзелак ён можа агледзець горад, калі пажадае. У аўторак — спатканьне з псыхіятрамі ў нейкім інстытуце, ён ня здолеў запомніць гэтую шыпучую польскую назву. У сераду яны едуць у Кракаў ва ўнівэрсытэт. Псыхалягічная школа прафэсара Эндруса там вельмі шануецца. У чацьвер — Асьвенцым, ён сам прасіў пра гэта. Быць у Польшчы і не пабачыць Асьвенцыма... Вечарам — вяртаньне ў Варшаву. У пятніцу й суботу — сэмінарскія заняткі на цэлы дзень для псыхолягаў-практыкаў. У нядзелю — вылет дадому.

Толькі цяпер ён заўважыў, што зь ім няма торбы з кніжкамі й бялізнаю. Яны сьпехам вярнуліся ў аэрапорт, але багаж зьнік. Дзяўчына, якую звалі, як яму падалося, Гоша, пайшла некуды, і яе не было паўгадзіны. Вярнулася з пустымі рукамі. Можа, рэчы паляцелі назад у Лёндан. Яна сказала, што гэта нічога, што яна прыедзе па торбу заўтра і, напэўна, усё знойдзецца. Гледзячы праз акно машыны, прафэсар ня слухаў усхваляванай балбатні, а згадваў, што яшчэ было ў торбе — кнігі, фатакопіі артыкулаў.

Яны з прыемнасьцю павячэралі ў таварыстве яе нарачонага. Ягоны твар хаваўся ў густой барадзе й акулярах. Нарачоны не гаварыў па-ангельску і таму здаваўся нейкім панурым. Прафэсар Эндрус еў чырвоны бурачны суп з маленькімі калдунцамі й разумеў, што гэта той самы слынны «боршч», пра які казаў яму дзед. Дзед яго нарадзіўся ў Лодзі. Дзяўчына са сьмехам выпраўляла, паўтараючы яму, як малому: «боршч», «Лодзь». Яго язык быў ня ў змозе адолець гэтыя словы.

Прафэсар адчуваў сябе моцна п’яным, калі яны ўрэшце дабраліся да нейкага спальнага раёну, поўнага высокіх панэльных будынкаў. Падняліся ліфтам на апошні паверх, і Гоша паказала, дзе ён будзе жыць. Гэта была аднапакаёўка з ма-

ленькаю кухняй, уціснутай між пакоем і ваннаю. Калідор быў настолькі малы, што яны не маглі зьмясьціцца там утраіх. Голасна гамонячы, дамовіліся на заўтра, Гоша абяцала прынесьці яго валізку. Нарачоны размаўляў з кімсьці па тэлефоне таямнічым пошаптам, але нарэшце яны сышлі. Прафэсар, зьнясілены баршчом і алькаголем, кінуўся на ложак і заснуў. Ён спаў неспакойна, яму хацелася піць, але не ставала сілы падняцца. Ён чуў на лесьвічнай клетцы нейкі шум, грукат дзьвярэй, людзкія крокі. Можа, гэта яму здавалася.

Ён прачнуўся і з жахам адзначыў, што ўжо адзінаццаць. З агідаю агледзеў сваё пакамячанае адзеньне. Прыняў душ у маленькай непрыгляднай лазенцы і, на жаль, мусіў надзець нясьвежую бялізну. Пасьля ён шукаў у шафках якой-небудзь кавы, рэшткі якой знайшоў у слоіку з-пад джэму. Кававаркі не было, і ён запарыў проста ў кубку. Яна ўжо выветрылася й нагадвала напой з кары. Тэлефон маўчаў, Гоша, мабыць, забірала яго торбу. З кубкам кавы ён перагледзеў кніжкі на паліцах — усе па-польску, у непрыемных воку нязграбных вокладках.

Гоша не тэлефанавала, час паволі плыў у густым перагрэтым сонным паветры. Прафэсар падышоў да акна і агледзеў прастору, пазначаную роўнымі грамадзінамі будынкаў. Усё яны былі аднаго колеру — шэрага, разьбеленага неба. Нават сьнег здаваўся шэрым. Сонца сьвяціла неяк непераканаўча.

На вуліцы стаяў танк. Прафэсар Эндрус нават адчыніў акно, настолькі дзіўнае было гэтае відовішча. У твар ударыла халоднае паветра. Побач з танкам круціліся маленькія сылюэты, пэўна ж, салдаты. Раптам яго агарнуў неспакой — можа, кава была замоцная. Ён намацаў у кішені картку з тэлефонам Гошы й пачаў складаць у думках ветлівыя, але настойлівыя пытаньні: чаму яна дагэтуль не азвалася й што там зь яго торбаю. У слухаўцы не было сыгналу. Прафэсар накруціў нумар яшчэ колькі разоў. Пасьля накруціў ангельскі нумар — той самы вынік. Ён спрабаваў усе нумары, якія прыходзілі ў галаву. Тэлефон маўчаў, але ж прафэсар памятаў, што барадаты жаніх учора карыстаўся ім. Яго ахапіў шал. Ён хутка апрануўся і спусьціўся долу. Пасьля гадзіны блуканьня між панэльнымі будынкамі (што здаваліся аднолькавымі) ён урэшце знайшоў тэлефон, але схамянуўся, што ня мае польскіх манэтаў. Было толькі дзьве банкноты і ён нават ня ведаў, многа гэта ці мала. Рушыў, шукаючы, дзе б іх памяняць, але ў адзінай маленькай крамцы, якую ён знайшоў, давялося пацалаваць замок. Зрэшты ж, была нядзеля. Ён з жахам падумаў, што зрабіў неразумна, выходзячы з дому, — Гоша, мабыць, ужо спрабавала яго знайсьці, мо ўжо чакала яго. Прафэсар вырашыў вярнуцца, ды зразумеў, што заблудзіўся. Ён ня ведаў, які з блёчных дамоў — ягоны. Ён ня помніў адрасу. Што за легкадумнасьць. Што за краіна. Ён убачыў нейкую пару старых, што ішлі пад руку, і рушыў да іх. Але пра што ён запытаецца і якою мовай? І яны прайшлі паўз яго, гледзячы ў іншы бок.

У роспачы прафэсар блукаў між дамоў, усё больш калеючы. Не заўважыў нават, калі сьцямнела. Нейкім цудам ён натрапіў на танк, ля якога цяпер палаў агонь у мэталёвай жароўні. Салдаты са зброяй на плячах грэлі рукі. Ён адчуў нейкі атавістычны пераляк і хутка адступіў у цёмны парк, але, дзякуючы гэтаму танку, здолеў знайсьці

свой будынак — ён памятаў выгляд з акна. З палёгкаю Э. знайшоў сваё-чужое жытло і замкнуў за сабою дзьверы на ключ. Была шостая: шчыра кажучы, пачалася ягоная лекцыя. Безь яго. А можа, акурат зь ім, можа, гэта сон, можа, гэта нейкі дзіўны стан сьвядомасьці, справакаваны стомаю, пералётам, надвор'ем ці чым там яшчэ? Яго псыхалягічная школа тлумачыла такія рэчы.

Ён зірнуў у лядоўню й знайшоў там кавалак жоўтага ссохлага сыру, бляшанку паштэту, масла й два яйкі. Як толькі прафэсар Эндрус убачыў ежу, яго страўнік захапіў уладу над нэрвоваю сыстэмай. Праз хвіліну на патэльні ўжо весела сквірчэў амлет. Найбольшым прэзэнтам, які прафэсар атрымаў у гэты дзіўны дзень ад жыцьця, была пляшка «Джоні Ўокера», якую ён купіў яшчэ ў «Гітроў». Ён наліў сабе адразу паўшклянкі й выпіў адным глыкам .

Наступнага дня Э. прачнуўся рана, ледзь шарэла. Ён ляжаў голы ў ложку: вырашыў берагчы сваю адзежу й ня спаць у бялізьне — хто ведае, колькі шчэ яна яму паслужыць. Дачакаўся сёмай і далікатна ўзяў тэлефонную слухаўку. Нічога. Тэлефон не працаваў, дарма прафэсар так падзіцячы спадзяваўся. Часам з рэчаіснасьцю, якая, зрэшты, ёсьць адно праекцыяй псыхічнага стану (як сьцьвярджае яго псыхалягічная школа), здараюцца дзіўныя рэчы. Прафэсар наліў ванну і, лежачы ў прыемнай гарачыні, абдумаў плян дзеяньняў. Ён набудзе мапу горада, знойдзе амбасаду. Пасьля ўжо ўсё будзе проста. І пакупкі, ён жа павінен зьесьці нешта людзкае. Прафэсар бадзёра апрануўся і зьехаў долу. Ён рушыў у бок танка, што стаяў пры нейкай — напэўна, галоўнай — вуліцы. Танка не было. Затое вуліцай ехалі бронемашыны, адна за адной, са злавесным рыкам. Мінакі глядзелі на іх зь нейкім дзіўным выразам твараў. Прафэсар спыніў быў аднаго зь іх — мужчыну свайго веку, што нёс напханую сетку. Зь першага погляду было відаць, што той яго не разумее. Аднак прафэсар скончыў сваё пытаньне. Той бязрадна прыўзьняў і апусьціў плечы. Э. ветліва перапрасіўся й рушыў далей. Ён выйшаў на дзьвюхпалосную дарогу. Па ёй зрэдчасу праяжджалі машыны й чырвоныя аўтобусы. Ён ня ведаў, дзе яны спыняюцца, куды едуць і дзе цяпер ён сам — у цэнтры альбо на ўскраіне.

Прафэсар вырашыў слухацца інстынкту. Гэта было адно з найгалоўнейшых правілаў ягонае псыхалягічнае школы — слухацца інстынкту, інтуіцыі, прадчуваньня. Ён ішоў па ходніку, усё больш замярзаючы, пакуль ня трапіў на пляц, ад якога, нібы промні, разыходзіліся вуліцы. Панавала падазронае бязьлюдзьдзе, як у выходны, але ж быў панядзелак ці аўторак. Ён з радасьцю заўважыў сярод рэдкіх шыльдаў знаёмае слова — БАР. Адчыніў дзьверы, зайшоў і на хвіліну нібы сасьлеп, бо ягоныя акуляры патанулі ў малочнай пары. Ён працёр іх хустачкай і ўбачыў панурае памяшканьне зь непрыглднымі столікамі. За адным сядзела старая беззубая жанчына. Яна нічога ня ела. Проста сядзела й глядзела ў акно. За прылаўкам стаяла станістая дзяўчына ў шэрым фартуху. Нідзе не было відаць ежы, і прафэсар падумаў, што, можа, па-польску слова БАР азначае нешта іншае. Ён няўпэўнена кашлянуў. Дзяўчына нешта яму сказала. Прафэсар запытаў, ці мог бы ён што-небудзь зьесьці. Яна глядзела на яго зьдзіўлена. Не разумела. Праз хвіліну нявеtлага маўчаньня ён зьбянтэжана паказаў пальцам

на свае вусны: «Eat, eat, food». Дзяўчына хвіліну думала, а пасьля зьнікла ў адчыненых дзьвярах. Яна вярнулася з другой, старэйшай. Зьбянтэжаны, ён паўтарыў яшчэ раз гэты просты жэст. Жанчыны пачалі хутка размаўляць міжсобку. Паказалі яму столік і праз хвіліну паставілі на яго: адна — суп, другая — талерку зь нейкімі дзіўнымі клёцкамі.

Пастаялі над ім хвіліну, пакуль ня ўпэўніліся, што ежа зьнікае ў яго роце. Яна была нядобрая, бяз смаку, нават голаду ня стала. Ён пагрэбаў відэльцам клёцкі і выцер вусны папяровай сурвэткаю. Падышоў да прылаўка й падаў дзяўчыне банкноту. Тая дала яму многа рэшты, прынамсі, так прафэсару здалося, — жмут банкнотаў і горку манэтаў. Ён выйшаў на вуліцу й паспрабаваў запомніць гэты БАР. Ён пачуваўся абсьмяяным, вартым жалю. Прафэсару хацелася зноў апынуцца ў доме на адзінаццатым паверсе — тэлефон, напэўна, ужо працуе. Ён убачыў аўтобус, што пад'ехаў з процілеглага боку й спыніўся за колькі мэтраў ад яго. Людзі, піхаючыся, уваходзілі й выходзілі. Прафэсар, паддаўшыся раптоўнаму парываньню, скочыў у сярэдзіну. Рушылі. І раптам яму зрабілася горача, бо аўтобус не паехаў туды, куды, як яму здавалася, павінен быў ехаць. Аўтобус хуценька разьвярнуўся на пляцы і скіраваўся ў караценькі тунэль, а пасьля раптам апынуўся на мосьце, і прафэсар Эндрус убачыў унізе раку, па якой ляніва плыла крыга. Здавалася, людзі глядзяць на яго варожа, але ён паспрабаваў супакоіцца, не паказваць, што нечаканы віраж транспарту напалохаў яго. Акрамя таго, ён не прабіў білета. Калі на вуліцах стаяць салдаты, за такое можна трапіць у вязьніцу. Так, казалі, у



турмах Азіі людзі зьнікалі назаўсёды. Прафэсар з палёгкаю саскочыў на прыпынку й адразу пайшоў назад. Страшна дзьмула. Ён завязаў пад барадой сваю аблавушку. Нос у яго амаль адмерз. Прафэсар дабраўся да знаёмага пляца й знайшоў дарогу дадому. Ад холаду ён ня чуў пальцаў, рухаўся подбегам. На вуліцы заўважыў нейкую больш-менш добра асьветленую вітрыну. Падышоў да яе хутчэй ад суму па сьвятле й колерах, чым зь цікавасьці. Гэта была крама, нармалёвая крама, дзе на паліцах стаяла шмат рознакаляровых тавараў. Ён бачыў праз закратаваную шыбу алькаголь са знаёмымі этыкеткамі, слоікі, печыва, адзежу, цацкі. Нягледзячы на працоўны час, крама была замкнёная. Ён паспрабаваў прачытаць шыльдачку з раскладам. Зразумеў, што крама павінна працаваць. Прафэсар расчаравана глядзеў праз шыбу. Калі ён так стаяў, міма прайшоў нейкі чалавек зь елачкай. Ён сказаў нешта й засьмяяўся. Прафэсар адказаў усьмешкаю, але мужчыны ўжо не было побач.

Чалавек нясе дрэўца. Гэта нейкае перадвесьце — прафэсар ня ведаў якое, бо раптам выявілася, што яго розум адвык ад сымбалічнага, псыхалягічнага, яснага мысьленьня. Цяпер яго розум апанавалі рваныя эмоцыі. Вось хоць бы гнеў, які адразу ж перайшоў у зьмяняўся дзіцячую роспач. А пасьля раптам ахапіў унутраны сьмех. Ціхі. Дэманічны. Прафэсар Эндрус быў майстр назіраць за сваімі эмоцыямі, ён доўга гэтаму вучыўся. Тут, аднак, яго майстэрства выглядала абсалютна непатрэбным. Яшчэ ён зразумеў, што цягам двух дзён ён не сказаў аніводнага асэнсаванага сказу, апроч таго, зь якім зьвярнуўся да мінака, ды жаласнага «Eat, eat, food».

На другі дзень, упэўніўшыся, што тэлефон усё яшчэ маўчыць, ён знайшоў у сваім раёне маленькую адчыненую краму. Там былі толькі пляшкі з празрыстай вадкасьцю, магчыма гарэлкай, і слоічкі з гарчыцай. На паліцах таксама стаялі вялікія слоікі з бурачным салатам. Ён зразумеў, што трэба набыць тое, што ёсьць. Калі ён выходзіў, якраз прывезьлі хлеб, і крама за некалькі хвілін напоўнілася. Прафэсар стаў у хвост чаргі, і прадавачка без пытаньняў падала яму бохан; ён заплаціў і адышоў. Але яго цягнула да людзей, да цёплага натоўпу, які тоўкся ў доўгіх вужаках-чэргах, бо яму не хацелася адразу вяртацца ў цесную й пустую аднапакаёўку. Ён спыніўся ля бляшаных сталоў, што стаялі проста на ходніку, — перад імі людзі слухмяна ставалі ў чаргу. Ён глядзеў на іхныя твары, шукаў сярод іх Гошу — можа, яна была недзе тут. Людзі варожа маўчалі. Былі сур'ёзныя, сонныя, нібыта ня выспаліся.

Прытупвалі. Самы пануры народ сьвету. Але, нягледзячы на гэта, прафэсар стаяў ля іх. Не, не таму, што яны былі яму патрэбныя, проста ад іх ішло звычайнае чалавечае цяпло. Марознае паветра калыхалася ад іхнага подыху. Ён глядзеў на захутаных прадавачак, якія вылоўлівалі зь вялікіх бочак мажных шэрых карпаў. Кідалі іх проста на шалі. Рыбы трапяталіся на марозе. Прадавачкі зьвярталіся да кожнага пакупніка з адным пытаньнем, якое гучала як рэфрэн, як мантра. Вуха прафэсара Эндруса ўлавіла мэлёдыю гэтай калядкі, і ў ягонай галаве сьпявала: «Жывую ці на месцы?» Прафэсар мог толькі дадумваць сэнс. Калі пакупнік ківаў згодліва, прадавачка біла рыбе гіраю па галаве. І рыбы адыходзілі на вечны спачын у ніцяныя торбы.



Прафэсара скаланула. Зьявілася ўражаньне, што ён бярэ ўдзел у нейкім рэлігійным рытуале. Забіваньне рыбы. «Жывую ці на месцы?» — гэтыя словы гіпнатызавалі яго. Раптам ён адчуў жаданьне ўліцца ў гэты жорсткі цыкл. І адысьці зь мёртвай рыбаю ў сетцы, як усе. Ён машынальна стаў у чаргу, але, убачыўшы невялікую, з чатырох чалавек, групку салдатаў з сабакам, адцьверазеў. Нават сумеўся. Людзі маўкліва адводзілі вочы ад салдатаў. Глядзелі на свае чобаты ці кудысьці ў прастору. Прафэсар у роспачы падумаў пра свой лёнданскі кабінэт, пра кніжкі й цяпло электрычнага каміна.

Пад яго домам на паркінгу прадавалі калядныя елачкі. Па іх стаяла чарга, але нашмат меншая за рыбную. Прафэсар купіў елачку. Цяпер ён ішоў зь ёю дадому й выглядаў як усе. Гэта прынесла яму раптоўную радасьць. Ён пасьвістваў. Даехаў да сваёй-чужой кватэры, сеў у паліто не й вушанцы за стол і адкаркаваў пляшку з празрыстай вадкасьцю. Гэта быў воцат. «Божа мой, — падумаў ён, — не... так ня бывае... у мяне псыхатычны эпізод. Нешта са мною нядобрае». Ён намагаўся знайсьці той пункт у часе, калі гэта магло пачацца, але яго розум адмаўляўся думаць. Усё, што ён згадваў, — апэтытныя сэндвічы ў самалёце.

Прафэсар дзівіўся, што так шмат думаў пра ежу; яго розум бездапаможна прымаў тыя думкі — ён даўно прызвычаіўся, што ў ім расьселіся, як на зручных канапах, сфармуляваныя ідэі, абстрактныя паняткі. А цяпер усю памяць прафэсара заняў вобраз крамы за кратамі, крамы з паліцамі, поўнымі тавараў. «Гэта сьмешна, гэта немагчыма», — неяк весела падумаў прафэсар і ад-

разу потым — з сапраўдным жахам. Ён паставіў елачку ля сьцяны ў пакоі й аглядаў яе тонкія далікатныя галінкі. Зь неахвотаю зразумеў, што павінен нешта зрабіць, пачаць дзейнічаць.

Прафэсар апрануўся, патушыў сьвятло, акінуў яшчэ раз вокам вітальню й замкнуў дзьверы. Зьехаў ліфтам уніз і кінуў ключ ад кватэры ў паштовую скрыню. Ён быў гатовы на ўсё. Ён павінен знайсьці амбасаду. Іншага выйсьця няма. Каля дома ён сутыкнуўся з мажным чырванатварым мужчынам, які, нягледзячы на холад, адкідаў шуфлем сьнег. Мужчына кіўнуў і прамовіў нешта — напэўна, вітаньне. Прафэсар Эндрус адчуў неспадзяваны прыток энэргіі і, ня дбаючы ні пра што, сам сабе дзівячыся, апавёў яму пра свае апошнія два дні. Што жыве на апошнім паверсе, бо прыехаў зь Лёндану на выклад, што яго праваднічка мусіла патэлефанаваць, але апарат быў сапсаваны, што танк — на вуліцы, што крама — зачыненая, што аўтобус, елачка, воцат у пляшцы... Той чалавек стаяў і ўважліва глядзеў на вусны прафэсара. Па ягоным твары нічога нельга было зразумець.

Пасьля прафэсар неяк апынуўся ў малым, застаўленым прадметамі памяшканьні. Перасоўвацца там можна было зь цяжкасьцю. Ён сядзеў за нізкім столікам, піў гарбату са шклянкі з плястыкаваю ручкай і раз-пораз падымаў пасьпешліва напоўнены кілішак. У гарэлкі быў дзіўны фруктовы смак. І была яна такая моцная, што пасьля кожнага глытку ў прафэсара болесна сьціскалася ў грудзях. Раптам ён пачуў, як распавядае мужчыну і ягонай жонцы (вось яна, дзябёлая й ружовая, зьявілася з гарачаю кілбасой, апэтытна раскладзенай на талерцы) пра сваю псыхалягічную школу, Заснавальніка, прадчуваньні, пра тое, якім чынам функцыянуе чалавечы індывід. А пасьля яго агарнуў раптоўны неспакой, яму згадалася амбасада, і ён неразборліва пачаў паўтараць адзінае: «Embassy, British embassy». — «War», — адказаў яму на гэта мужчына й абедзьвюма рукамі абхапіў паветра так, быццам у яго руках матэрыялізаваўся аўтамат. Мужчына прысеў, прымружыў вочы й выдаў гук, які нагадваў страляніну. Ён расстраляў сьцены з разьвешанымі на іх папаратнікамі ў вазончыках і паўтарыў: «War». Прафэсар, хістаючыся, рушыў у прыбіральню й апынуўся ў дзьвярах кухні. На стале стаяла складаная хімічная апаратура з мноствам трубачак і кранікаў. Ад вострага паху яму зрабілася млосна. Далікатны дотык гаспадара накіраваў яго ў лазенку. Прафэсар зачыніў за сабою дзьверы, а калі павярнуўся, убачыў, што ў ваньне плавае вялікая рыба. Яна была жывая. Прафэсар ня верыў сваім вачам. Ён трымаўся за гузік штаноў і глядзеў проста ў яе плоскае падводнае вока. Яе позірк гіпнатызаваў яго. Рыба ляніва варушыла хвастом. Над ваннай сушылася бялізна. Ён стаяў так хвілін мо зь пятнаццаць, ня могучы варухнуцца, аж пакуль занепакоены гаспадар не пачаў калаціць у дзьверы. «Ш-ш-ш...», — сьцішаў яго прафэсар. Яны з рыбаю глядзелі адно аднаму ў вочы. Гэты стан быў дзіўны й прыемны адначасова, поўны сэнсу й разам з тым абсурдны. Ён баяўся й нейкім дзіўным чынам пачуваўся шчасьлівым. Рыба была жывая, варушылася, нешта нячутна казала тоўстымі губамі... Прафэсар Эндрус прытуліўся да сьцяны й заплюшчыў вочы. Ах, застацца б у гэтай маленькай лазенцы, у чэраве гэтага панэльнага будынку, у сярэдзіне вя-

лікага халоднага горада, маўчаць, як тая рыбіна, не разумець і быць незразуметым. Глядзець у самую сярэдзіну плоскага, дзіўна акруглага рыбінага вока. Не сыходзіць адсюль.

Дзьверы з трэскам адчыніліся, і прафэсар упаў на цёплыя, моцныя рукі гаспадара. Прытуліўся да яго, як дзіця. Усхліпваў.

Праз хвіліну яны ехалі ў таксоўцы па залітым халодным сонечным бляскам горадзе. Пасьля, калі прафэсар Эндрус разьвітваўся з мажным мужчынам пад брамаю амбасады, той пацалаваў яго ў абедзьве — два дні няголеныя — шчокі. Што прафэсар мог сказаць яму на разьвітаньне? Хвіліну ён таймаваўсвой неслухмяны п'яны язык, а пасьля няўпэўнена прашаптаў: «Жывую ці на месцы?» Паляк зьдзіўлена паглядзеў на яго й адказаў: «Жывую».

*Пераклад з польскай Марыны Шоды*
*надрукаваны ў НН №48 у 2002 годзе*



*Узі Вайль*

# Гэта не «Хамас», гэта Сьмерць, каб яна здохла

Колькі хвілін пасьля таго, як дзіця, нарэшце, заснула, Мэір Коэн зьняможана паваліўся на канапу ў гасьцёўні.

— Сьпіць? — запытала Раніт.

— Сьпіць, — адказаў ён. Вочы міжволі зьліпаліся, і тут у дзьверы пазванілі.

Раніт пайшла адчыняць. На парозе стаяў невысокі чалавек у акулярах, які трымаў у руках вялікую тэчку.

— Мэйл і Аніт Каноэ? — спытаў ён.

Яна няўцямна паглядзела на чалавека. Ён паўтарыў пытаньне.

— Мэір і Раніт Коэн, — няўпэўнена паправіла яна.

— Аа! — выгукнуў чалавек і паглядзеў у свае паперы. — От, кампутары! Хіба ж можна ім верыць?! Я з сацыяльнага страхаваньня, — ён прасунуў руку для поціску. — Я дэмограф.

— Вельмі прыемна, — павіталася зь ім за руку Раніт. — Вы... хто?

— Дэмограф. Я раблю статыстычныя апытаньні насельніцтва для сацыяльнага страхаваньня.

Вы дазволіце пару-тройку пытаньняў?

— Мы якраз...

---

**Узі Вайль** (нар. у 1964)

ізраільскі празаік, журналіст, перакладчык.

— Малеенечкіх такіх пытаньняў, — папрасіў дэмограф.

Яна зірнула на мужа, той пацiснуў плячыма.

— Выдатна! — сказаў дэмограф і зайшоў у кватэру.

Праз паўгадзіны ён усё яшчэ сядзеў у іхняй гасьцёўні, гартаў паперы, чытаючы пытаньні манатонным голасам: «А зараз пяройдзем да дзяцей».

Ён шчьфа ўсьміхнуўся і зірнуў па баках.

— Дзеці ёсьць?

— Адно. Адна дачка, — адказаў Мэір.

— Колькі год?

— Паўгодзіку, — вымавіў Мэір. — Яшчэ доўга?

— Не, зусім не, яшчэ трошкі і ўсё. «Шэсьць месяцаў», — занатаваў у сябе дэмограф.

— Гм, яна, відаць, ужо гаворыць? Бацькі глянулі на яго са зьдзіўленьнем.

— Не гаворыць?

— Не гаворыць, — адказала Раніт. — А вы што, ведаеце многа шасьцімесячных дзетак, якія гавораць?

— Я...

Ён зьбянтэжыўся.

— Я... У мяне няма дзетак... Я яшчэ малады. Я проста выглядаю старэйшым. Гэта таму, што я ў акулярах. І таму, што я працую ў сацыяльным страхаваньні.

Мэір зірнуў у столь. Раніт — на свае пантофлі.

— І як яе завуць?

— Яэль,— адказала Раніт.

— Прыгожае імя. Ён запісаў.

— Вы так назвалі яе ў гонар кагосьці зь сям'і?

— У гонар Іцхака Рабіна, — адказаў Мэір. — Яшчэ многа пытаньняў?



— Не, зусім не, — запэўніў акулярык і занатаваў: «У гонар Рабіна».

Мэір і Раніт пераглянуліся.

— Гэта жарт, — сказала Раніт. Маладзён запытальна паглядзеў на жанчыну.

— Мой муж жартуе.

— Аа, пачуцьцё гумару. Вельмі важная рэч, — кемліва хітнуў галавой дэмограф. Але ж напісанага ня сьцёр.

— Прафэсія? — зьвярнуўся ён да Мэіра.

Мэір уважліва паглядзеў на дэмографа. Празь некалькі сэкундаў гаспадар кватэры казаў:

— Раблю паветра. Спэцыяліст па вытворчасьці паветра, вось мая прафэсія.

Дэмограф занатаваў і тут жа запытаўся:

— І колькі, калі не сакрэт, колькі вы зарабляеце ў месяц? Усё канфідэнцыйна. Ад тысячы да дзьвюх, ад дзьвюх да чатырох ці больш за чатыры тысячы?

— Я б жадаў зірнуць на ваша пасьведчаньне, — прамовіў Мэір.

Дэмограф пакрыўдзіўся, але ж дакумэнт дастаў. Гэта было афіцыйнае пасьведчаньне супрацоўніка сацыяльнага страхаваньня, на якім стаяў фатаздымак маладзёна і была пазначана яго пасада — «дэмаграфічны дасьледчык».

— Такім чынам? — вярнуўся да свайго пытаньня маладзён.

— Такім чынам, больш за чатыры тысячы, — адказаў Мэір. — Значна больш. Мо нават восем.

Мэір зь цікаўнасьцю паглядзеў на дэмографа: «Ці занатуе гэта ёлуп?»

Ёлуп занатаваў.

— Больш за восем тысяч, прыстойныя грошы! — ён выглядаў заклапочаным. Мусіць, паду-

маў на хвіліну аб уласнай перакваліфікацыі на спэцыялісты па паветры.

— Ага, — пагадзіўся Мэір. — Але ўлетку няма працы.

— Сапраўды? Чаму?

— Ну, вы ж ведаеце, што такое лета. Няма чым дыхаць — паветра зусім няма.

— Аа, — вымавіў дэмограф і занатаваў.

Потым зьвярнуўся да Раніт:

— А ваша прафэсія?

— А я дзяўчына па выкліку, — адказала жанчына.

І, трохі падумаўшы, дадала:

— Бюджэтная арганізацыя. Абслугоўваем афіцыйных асоб з-за мяжы.

Дэмограф пачырванеў.

— Гэта я тады заразіла СНІДам Рока Гадсана, — казала яна з гонарам.

Ён схіліўся над сваімі паперамі. пішучы безупынку. Мэір і Раніт усё гадалі — што ён там піша? Скончыўшы, ён спытаў:

— Вашы этнічныя карані?

— Мы прышэльцы, — адказала Раніт.

— Гэта хто?

— Прышэльцы зь іншай плянэты, — растлумачыў Мэір.

Гэтым разам малады дэмограф нарэшце падняў свае вялікія акуляры і ўтаропіўся ў гаспадароў.

І тут прачнулася іх маленькая дачка ды заплакала.

—Дзіцятка засьпявала,—сказала Раніт ды паднялася. — Прабачце.

Дэмограф паглядзеў ёй усьлед і сказаў:

— Яна корміць малаком?



— Яна сікае на яе, — адказаў Мэір, — кожныя пяць гадзін. Так вядзецца ў нас на плянэце.

Дэмограф зноўку пачырванеў. Раптам Мэір адчуў сябе няёмка.

— Прабачце, — казаў Мэір, — я таксама мушу пайсьці да дачкі.

Калі ён зайшоў у спальню, то ўбачыў Раніт, якая схілілася над дзіцем. Яе разьдзірала ад сьмеху.

— Ціха, ціха, — засыкаў Мэір, — мы перайшлі край. Нават няёмка.

— Ён вар’ят, — прашаптала Раніт, — ён жа вар’ят!

— Ён не вар’ят. Хлопец трохі тормаз, ці што... Добры дурань. Але ж ён скеміў.

— Ты праверыў, пасьведчаньне сапраўднае?

— Напісана «Сацыяльнае страхаваньне», а хто там яго ведае...

Ён узяў дачку на рукі. І тут у дзьверы пазванілі.

— Так позна? — зьдзівіўся Мэір. Яна пацiснула плячыма.

Ён пайшоў адчыняць. На парозе стаяла Сьмерць. Яна не была апранута ў чорнае. Яна ня мела касы ў руцэ. У яе адсутнічалі крылы за сьпінаю. І голас яна мела ня вельмі каб нізкі. Але тое стаяла Сьмерць. У гэтым не было ні найменшага сумневу.

Найбольш уражвалі ейныя вочы. Праз гады, калі малады дэмограф паспрабуе прыгадаць, як яна выглядала, адзінае, што яму ўдасца ўспомніць, — ейныя вочы. Не халодныя і не жахлівыя, хутчэй наадварот: Сьмерць мела добрыя, пяшчотныя вочы. Аднак рашучыя.

Мэір аслупянеў. Дачка на руках. Раніт выйшла са спальні, таксама ўстала як укапаная.

Сьмерць паглядзела Мэіру проста ў вочы.

— Я? — прашаптаў ён.
— Ты.
Ён зьнерухомеў.
— Я?!
— Ты.
— Як... як?
— Пара, — адказала Сьмерць.
— Але я малады. У мяне дачка, паўгодзіку толькі!
— Што, маладыя не паміраюць? — пацікавілася Сьмерць. — Хадзем. У цябе аўтамабільная катастрофа праз паўгадзіны.
І тут уперад порстка выскачыла Раніт ды ўхапілася за мужа:
— Не! Ты ня можаш так проста ўварвацца пасярод... пасярод усяго!
Сьмерць са зьдзіўленьнем паглядзела на Раніт:
— Чаму?
— Але... але за што? — прамармытала Раніт. — Што ён зрабіў?
Сьмерць тужліва ўсьміхнулася.
— Не! — крыкнула Раніт. — Я хачу ведаць за што! Ты ня можаш так проста ўзяць і забраць яго. Скажы хоць за што!
— Цяпер ты хочаш ведаць чаму, потым захочаш даведацца куды. Годзе! Мы не выдаём сваіх сакрэтаў.
Мэір адкрыў рот і тут жа яго закрыў. Пасьля гэтага ён павярнуўся да Раніт і працягнуў ёй дзіця.
Паглядзеў на жонку. І на сваю маленькую дачку. Потым павярнуўся і пайшоў у кірунку неасьветленай лесьвічнай пляцоўкі. Раніт чула, як пакрысе аціхае гук ягоных крокаў па сходах.
Першым выйшаў з аслупяненьня малады дэмограф. Ён зачыніў дзьверы і далікатна павёў Раніт у гасьцёўню.



— Сядай, — прамовіў ён, — першнаперш трэба сесьці.
Атарапелая, яна зрабіла, як ён казаў.
— Тое, што здарылася з табою, — гэта бяда, — сказаў маладзён, — страшная бяда. Хочаш, я згатую гарбаты? Мо яшчэ чаго, алькаголю якога?
— У Мэіра ёсьць віскі, — прамовіла Раніт.
І заплакала.
Дэмофаф агледзеў пакой, знайшоў сьцянны бар і наліў трохі віскі ў вялікую шклянку. З адсутным позіркам Раніт глынула пітво і закашлялася. Потым няголасна аддыхалася. Паглядзела на дзіця і прамовіла: «Што ж я маю рабіць? Як я пракармлю яе? Як я адна дам рады?»
Малады дэмограф ня ведаў, што сказаць.
— Як я... — сьлёзы душылі яе, — як я скажу ёй, што ў яе болып нямататы?..
Раніт плакала моцным, але ціхім плачам, доўгадоўга, пакуль у яе ня скончыліся сьлёзы. Потым яна паглядзела на дзяўчынку і сказала ёй:
— Цяпер мы адны, дочачка. Толькі я і ты.
І тут у дзьверы зноўку пазванілі. Ніхто не скрануўся зь месца. Пасьля трэцяга званка дзьверы расчыніліся самі.
Гэта зноўку была Сьмерць.
Яна зайшла ў пакой.
Зьнямелыя, яны глядзелі на яе. Сьмерць паказала на жанчыну. Ня верачы сваім вачам, Раніт шырока разявіла рот.
— Я ведаю, — з тугою ў голасе сказала Сьмерць. — Час ад часу такое здараецца.
— Але што....
— Тэракт. На вуліцы Ібн Гвіроль выбухнула набітая ўзрыўчаткай машына.
Дэмограф ускочыў.

— Хвілiначку! — запратэставаў ён. —Пачакайце, спадарыня! Гэта напэўна памылка. Толькі хвіліну таму вы забралі ейнага мужа.

Сьмерць стомлена паціснула плячыма.

— Дык што? — казала яна. — Як яны там пішуць аб гэтым у «Едыёт ахранот»*: «Маленькая Яэль страціла маму ў тэракце празь лічаныя гадзіны пасьля таго, як бацька загінуў у аўтамабільнай катастрофе». Так вось у жыцьці. Вы што, учора нарадзіліся?!

— Але я... калі ласка! — Раніт паглядзела Сьмерці ў вочы. — Я не магу пакінуць яе адну! Ёй толькі шэсьць месяцаў.

Стурбаваная, Сьмерць завагалася.

— Я магу ўзяць яе разам з намі, — прапанавала яна без асаблівага імшту.

Раніт нічога не адказала.

— Добра, — прамовіла Сьмерць.

— Табе пара разьвітацца з дачкою. Яна паклала дзіця на канапу. Яна пацалавала дачку.

Яна захутала яе ў ружовую шарсьцяную коўдру, якая ляжала на канапе. Захутала як сьлед, два разы. І павярнулася да выхаду. Сьмерць адчыніла ёй дзьверы.

— От гэтыя тэракты, — казала сябе пад нос Сьмерць, калі, мінуўшы дэмофафа, стала спускацца па сходах, — быццам цэлы месяц працавала.

Пасьля таго як дзьверы зачыніліся, малады дэмограф застаўся самнасам зь дзяўчынкай. Па немалым часе ўпершыню зварухнуўся. Глыбока ўздыхнуў. Сеў побач зь ёй на канапе. Дзяўчынка прачнулася і заплакала.

Дэмофаф узяў яе на рукі і засьпяваў:

Як нараджасцца песенька? Як дзіцятка — сьпярша... Потым, потым... траляляляля... Ня памятаю...



Ён перастаў сьпяваць.

— Што мне з табою рабіць, малюпацька? — зьвярнуўся ён да дзяўчынкі. — Ня ведаю, як гэта сказаць, але з табою здарылася нешта кепскае.

Дзяўчынка перастала плакаць, глянула на дэмофафа і ўсьміхнулася.

— Слухай, — сказаў ён і пачаў цацкацца зь яе маленькімі ручкамі, — гэта... паслухай, табе прыйдзецца гадавацца бяз мамы і таты.

Дробны сьмяшок зьляцеў зь ейных вуснаў.

— І каб гэта не сапсавала табе ўсё жыцьцё. Ты ня думай, што жыцьцё — гэта кепска. Бо жыцьцё — гэта цудоўна. Сапраўды цудоўна. Але сядытады здараюцца рэчы, якія нельга... якія цяжка... я маю на ўвазе...

Ён уздыхнуў. Дзяўчынка паглядзела на яго шырока расплюшчанымі вачыма.

— Але гэта ня значыць, што жыцьцё не цудоўнае, — працягнуў ён.

У куточку яе вуснаў зьявіўся маленькі цурочак сьліны. Дзяўчынка ўсьміхнулася.

«Я думаю, што яны вадзілі мяне за нос, — сказаў ён сабе. — Усё нахлусілі. Пра імя таксама. Дзяўчынку, мусіць, завуць зусім не Яэль».

І, як гэта ня раз здаралася раней, дзяўчынка заплакала.

— Ціха, ціха, ня плач, — пачаў ён. — Я тутака. Слухай, я ня вельмі цямлю ў дзетках. У мяне іх ніколі не было. Але я буду старацца. Я цябе не пакіну.

Ён пачаў гушкаць яе і пяшчотна засьпяваў:

Люлілюлілюлі, Прыляцелі гулі...

І ў дзьверы зноўку пазванілі. Сьмерць зайшла ў кватэру няўпэўненым крокам.

— Быў яшчэ адзін тэракт, — выбачлівым тонам паведаміла яна.

Яна хітнула ў бок дзяўчынкі. Дэмограф ускочыў.

— Каб ты здохла! — закрычаў ён. —Шкыньдзёхай, падла!

Сьмерць пастаялапамулялася. Потым узьняла вочы ўгору.

— Ну добра, — сказала, — хай сабе.

Разьвярнулася і сышла.

Ня верачы сабе, малады дэмограф паклаў дзяўчынку на канапу, пахітаў галавою і сказаў:

— Ах ты, поскудзь паганая!

*Пераклад з габрэйскай Паўла Касьцюкевіча быў надрукаваны ў НН №48 у 2005 годзе*



Этгар Керэт

## «Адыдасы»

У Дзень памяці ахвяраў галакосту мы паехалі з нашай настаўніцай Сарай на аўтобусе №57 у музэй «Валынскі дом», дык я адчуў сябе страшэнна важным. Усе дзеці ў клясе былі зь сем'яў выхадцаў з Іраку апрача мяне, майго стрыечнага брата і яшчэ аднаго хлопчыка, Друкмана, і яшчэ я быў адзіны ў клясе, чый дзядуля загінуў падчас галакосту. Музэй быў вельмі прыгожы і раскошны, увесь зроблены з чорнага граніту на грошы мільянэраў. Там вісела многа тужлівых чорна-белых фатаграфіяў ды сьпісы людзей, краін і памерлых. Мы хадзілі парамі паміж тых здымкаў, ды настаўніца сказала не кранаць нічога рукамі. Але я дакрануўся да адной кардоннай фатаграфіі, на якой быў зьняты худы чалавек з бледным тварам. Ён плакаў і трымаў у руцэ бутэрброд. Ягоныя сьлёзы скочваліся па шчоках, як палоскі, якія малююць на шашы, а дзяўчынка, зь якой я ішоў у пары, Орыт Салем, гаварыла, што яна ўсё раска-

---

**Этгар Керэт** (нар. у 1967 г.)

празаік, зорка маладой ізраільскай літаратуры, выкладчык кінаінстытуту ў Тэль-Авіве. Ягоныя бацькі прыехалі ў Ізраіль з Польшчы. Стаў вядомым па напісаньні (пасьля забойства прэм'ера Іцхака Рабіна) апавяданьня «Рабін памёр», якое распавядала пра ката па мянушцы Рабін, якога пераехаў матацыкл.

жа настаўніцы, што я дакрануўся. А я гаварыў ёй, што як да мяне, дык няхай расказвае каму жадае, нават дырэктару школы — мне ўсё роўна. На здымку — мой дзядуля, і я буду дакранацца да ўсяго, да чаго мне заманецца.

Пасьля фатаграфій нас павялі ў вялікую залю ды паказалі кінастужку пра маленькіх дзетак, якіх садзяць у грузавікі і потым усіх труцяць газам. Пасьля фільму на сцэну падняўся адзін хударлявы стары, які расказаў, якія фашысты былі г*а*ды і забойцы ды як ён ім помсьціў і нават задушыў да сьмерці аднаго нямецкага жаўнера.

Джэрэбі, які сядзеў поруч са мною, казаў, што дзед маніць, паколькі, мяркучы па тым, як ён выглядае, на сьвеце няма нават аднаго жаўнера, якога гэты стары мог бы аддубасіць. Але я паглядзеў старому ў вочы і паверыў. Там было столькі злосьці, што ўсе выбрыкі шпаны, якая ў запале выстаўляе каратэшны блёк, падаліся побач зь ім сьмеху вартай драбязой.

Нарэшце, скончыўшы апавядаць аб тым, што ён рабіў у час галакосту, стары сказаў, што ўсё пачутае намі тут вельмі важна ня толькі для мінулага, але і для таго, што адбываецца цяпер. Бо ўсё яшчэ засталіся немцы, і ў іх ёсьць дзяржава. Стары казаў, што ён ніколі ім не даруе ды спадзяецца, што і мы не даруем і што барані нас божа ехаць наведваць іхнюю краіну. Бо, калі пяцьдзясят год таму ён разам з бацькамі паехаў у Нямеччыну, усё выглядала цудоўна ды скончылася пеклам.

— Часта ў людзей кароткая памяць, — казаў ён, — асабліва на дрэнныя рэчы. Людзі лічаць за лепшае забыць. Але ж вы не забывайце. Штораз, калі вы ўбачыце немца, прыгадайце, што я вам расказаў. Ды кожны раз, як убачыце тавары зь Нямеччыны — няважна, ці то тэлевізар (а большасьць фірмаў па вытворчасьці тэлевізараў — нямецкія), ці нешта іншае, — заўсёды памятайце, што пад элегантнай упакоўкаю хаваюцца часткі целаў ды тэлефонныя слухаўкі, зробленыя з костак, скуры і плоці памерлых габрэяў.

Па дарозе на вуліцу Джэрэбі казаў яшчэ, што калі дзед прыдушыў агурок, тады ён, Джэрэбі, — папа рымскі, а я падумаў, што гэта, у прынцыпе, добра, што ў нас дома «Амкор»*. Каму патрэбны праблемы?

Праз два тыдні пасьля гэтага мае бацькі вярнуліся зь іншай краіны ды прывезьлі мне футбольныя буцы. Мой старэйшы брат казаў маме, што я мару пра буцы, і яна купіла самыя клясныя. Мама ўсьміхалася, калі ўручала мне падарунак, і была ўпэўнена, што я яшчэ ня ведаю, што там у сярэдзіне. Але ж я адразу здагадаўся па адыдасаўскім значку на пакеце. Я дастаў кардонную каробку з пакета ды сказаў «дзякуй». Каробка была ў форме прастакутніка, накшталт труны. І ў сярэдзіне ляжала пара белых буцаў, кожная з трыма сінімі палоскамі абапал ды надпісам «Адыдас — Ром». Каб даведаецца пра гэта, мне ня трэба было нават адчыняць каробку.

— Давай іх надзенем, — сказала мама і дастала з буцаў паперу, — паглядзім, як яны сядзяць на назе.

Яна ўвесь час ўсьміхалася, не разумеючы, што гэта за буцы.

— Ведаеш, яны зь Нямеччыны, — сказаў я і моцна-моцна абхапіў яе руку.

---

* Бог сьвяты яго ведае (ідыш).

— Канечне, ведаю, — усьміхнулася мама. — Гэта ж «Адыдас» — найлепшая фірма ў сьвеце.

— Дзядуля таксама быў зь Нямеччыны, — паспрабаваў намякнуць я.

— Дзядуля быў з Польшчы, — паправіла мяне маці ды зрабілася на імгненьне сумная, але тут жа сум гэты мінуў, яна надзела мне адну буцу і пачала завязваць матузкі.

Я маўчаў. Я ўжо зразумеў, што нічога не парадзіш. Мая мама нічагуткі ня кеміць. Яна ніколі не была ў «Валынскім доме». Ёй ніколі нічога не тлумачылі. І для яе гэта былі проста буцы, а Нямеччына была наагул Польшчаю. Тады я даўся іх адзець і замаўчаў. Не было сэнсу расказваць ёй ды засмучаць яе яшчэ больш.

Пасьля таго як я сказаў другі раз «дзякуй», я даў маме буську ды паведаміў, што іду на вуліцу гуляць.

— Толькі асьцярожна, ага? — крыкнуў тата з фатэля ў гасьцёўні. — Не разьдзяўбі іх адным махам.

Я зноўку паглядзеў на змрочныя буцы са скуры ў мяне на нагах. Паглядзеў і ўспомніў усё тое, пра што стары душыцель немцаў сказаў, што трэба запомніць. Я дакрануўся яшчэ раз да адыдасаўскіх палосак і ўспомніў свайго кардоннага дзядулю з бутэрбродам.

— Ня муляе? — спытала мама.

— Вядома ж, ня муляе, — адказаў за мяне брат. — Гэта табе ня нашы айчынныя рызманы, гэта такія самыя буцы, як у Кроіфа.

Я асьцярожна, на дыбачках, прайшоўся ў бок дзьвярэй, стараючыся як мага менш на іх націскаць. Гэтак я дайшоў да Малпінага парку. Там на пляцоўцы хлопчыкі са школы «Борахаў» падзяліліся на тры каманды: Галяндыю, Аргентыну і Бразылію. І якраз у зборнай Галяндыі ім не ставала аднаго гульца, дык яны пагадзіліся ўзяць мяне, нягледзячы на тое, што яны ніколі не бяруць хлопчыкаў, якія ня з «Борахава».

На пачатку гульні я яшчэ памятаў, што трэба высьцерагацца ды ня біць мыском, каб не зрабіць балюча дзядулю, але, калі мінула трохі часу, я забыўся гэтаксама, як казаў стары, што забываюць, і нават забіў вырашальны гол «нажніцамі» ў скачку. І толькі калі скончылася гульня, я зноўку ўспомніў і паглядзеў на іх. Раптам буцы падаліся такімі зручнымі, больш пругкімі, наагул выглядалі значна лепш, чым калі ляжалі ў пушцы.

— Ты бачыў гэтыя «нажніцы»?! — нагадаў я дзядулю па дарозе дадому. — Іхні брамнік стаяў як слуп, калі яму загналі файны гол.

Дзядуля нічога не адказаў, але па вясёлай спружыністай хадзе я адчуў, што ён таксама ўсьцешаны.

*Пераклад з габрэйскай Паўла Касьцюкевіча быў надрукаваны ў НН № 24 у 2006 годзе*

*Арношт Голдфлам*

# Тата і хворы пан прэзідэнт

Добры вечар, мілыя дзеткі.

Былі калісьці такія дзіўныя часы. То было сьпякотна й усё навокал павысыхала, то зноў пачаліся дажджы й усё навокал пазалівала вадою, пасьля зноўку нейкія злодзеі пракапалі тунэль ды па йім сьцягнулі з усіх банкаў усе грошы, якія толькі там былі. Так, цяжка тады было ў нашай рэспубліцы, не маглі мы напрыклад набыць трамваі, таму муселі шмат хадзіць пешкі, часам і даволі далёка. Ці, напрыклад, нехапала нам грошаў на новыя дамы, каб было людзям дзе жыць, ды на школы, каб было дзецям дзе вучыцца, ды на рознае йіншае. Што тычыцца школаў, дык некаторыя дзеткі былі нават радыя, што ня трэба было хадзіць вучыцца. Яны маглі гойсаць па вуліцах ды свавольнічаць, але праз хвілінку другую таксама пачыналі нудзіцца ды жадаць новую школу, але нічога ні йшло зрабіць - грошыкі ўжо былі фу-у-уць. А пакуль зьбярэм новыя, то пройдзе час!

Ты ўжо шчасьлівы, цябе такое не напаткае, зараз такія рэчы не адбываюцца, але тады ты яшчэ не была а ты яшчэ ня быў на сьвеце. Можаце спытаць старэйшых і яны скажць, што так тады тут і было.

---

**Арношт Голдфлам** (нар. у 1946)

чэскі рэжысэр, актор і драматург.



А зараз яшчэ да ўсяго гэтага ўяві, што вечарам у навінах па тэлевізіі сказалі, што пан прэзідэнт захварэў, яшчэ гэтага не хапала! А гэта менавіта тады, калі трэба было падпісваць розныя важныя паперы, бо гэта ніхто акрамя яго зрабіць ня мог. А пасьля яшчэ дадалі, што прыедуць нейкія знакамітыя лекары з-за мяжы ды яго вылекуюць.

Так, сапраўды прыехалі прафэсар Той ды дохтар Вуньтой, у ваднаго былі агромністыя тоўстыя акуляры, розныя пілы, нажы, іголкі ды йіншыя прыборы, а другі прывёз з сабою розныя парашкі — чырвоныя, зялёныя, жоўтыя, блакітныя ды безьліч белых. Два насільшчыкі не маглі гэта аднесьці! Прыйшлі яны да пана прэзідэнта, агледзелі яго, матнулі галовамі, той першы накалоў у яго іголак і пачаў пампаваць кроў, а той другі пачаў да вуснаў сыпаць усе свае парашкі, пачынаючы блакітнымі а далей іншымі ды прымушаў запіваць рознымі ліманадамі, пакуль прэзідэнт ня быў поўнасьцю паколаты ды наліты, як балён. Але лепей яму ня сталася, наадварот, станавілася ўсё блазей і блазей! Ляжаў ён як Лазар і толькі прычытаў: «Охушкі-вохушкі, чаму мне так кепска, чаго такога я з'еў?» А да таго па праўдзе ўласна анічагусенькі ня еў, толькі тыя лекі ды ін'екцыі. А яшчэ там-сям з горам на палову падпісаў нейкую паперыну.

Дык тых лекараў выгналі й зноў паклікалі йіншых — гэтыя прыляцелі самалётам! Ды адразу з самалёту раскруцілі нейкія шлянгі з трубкамі аж на прэзідэнцкі Град. Адну трубку яны далі пану прэзідэнту да вуснаў, другую да вуха, трэцюю да другога вуха а чацьвёртую ўвогуле немаведама куды - ды пачалі вакол прэзідэнта ска-

каць, напускаць нейкі дым да яго й сьпяваць розныя закляцьці. Напрыклад такое:

Выйдзі, выйдзі зь цела прэч,
з чалавека хворага,
мы хваробу ту паб’ем,
усімі сваймі сродкамі,
ну дык выйдзі ты, хвароба,
зкаранела ўлезлая,
замаўляю чарай тайнай,
здраве прэзідэнтава!

Але нічога не сталася, нічога не дапамагло. Дык лекары тыя шлянгі скруцілі, улезлі ў самалёт ды адляцелі зь нічым. А пасьля яшчэ на нас нагаворвалі. Ну дык і што?!

А пан прэзідэнт так і ляжаў, паперы зьбіраліся ў стосы, ён іх амаль не падпісваў, усё ішло да калапсу! Паўсюль грала сумная музыка, ужо й восень прышла, стаяў імжак і ўсё было такім нявартым. У тэлевізіі паказвалі кадры з часоў, калі пан прэзідэнт быў яшчэ здаровым і вясёлым. Тата глядзеў на гэта ўсё і кажа матулі: «Небарака!», а матуля адказвае: «Мы ж таксама небаракі, але нас ніхто не пашкадуе!» Яна мела троху рацыю й тата зь ёй амаль пагадзіўся: «Так, твая праўда, але мы хаця б здаровыя ды радыя адзін адному!» А зараз рацыя была татава й матуля то адразу падцьвердзіла: «Праўда твая!» сказала яна тату ды йшла да яго й пачала цалаваць яго ў вуха, шыю, толькі да твару ніяк не магла дакрануцца, бо тата яе трошку адпіхваў, чаго ніколі раньней не рабіў. А пры тым яшчэ казаў: «Пачакай?! Пачакай?!» Ды махаў рукою.

Матуля не зразумела, што адбываецца ды зьдзіўлена паглядала на тату, але той упёрта глядзеў на тэлевізію, дзе паказвалі як пан прэзідэнт падпісвае розныя паперы. Ён заўсёды возьме аркуш, асадку-пяро з атрамантам прыкладзе да вуснаў, хвілінку пакусае яго, пры гэтым чытае што на аркушы, падпіша, возьме наступны аркуш. А так зноў пяро да вуснаў, чытае. Падпіша й адкладзе. І так далей, цэлыя гадзіны. А час ад часу возьме й нейкую каляровую асадку, задумаецца, пакусае й у вуснах пакруціць, аднясе ад вуснаў ды напіша на акраі аркуша нейкую заўвагу. Тата падскочыў з крэсла ды як крыкне: «Ведаю!»

Пасьля ў тэлевізіі аб’явіўся кадр, як пан прэзідэнт ляжыць увесь бледны, вочы заплюшчаны, а ў куточку, у такім маленькім вакенцы, дыктар кажа: «Ужо тут, на Градзе, адкуль вядзем наўпроставую трансляцыю, ніхто ня можа даць рады. Ідзе паседжаньне наймудрэйшых галоў нашае рэспублікі.» У кадры з’яўляецца заля, дзе тыя мудрыя галовы сядзяць, усе сумныя, тымі галовамі круцяць, быццам нічога не прыдумалі, а дыктар працягвае: «Але ніхто пакуль нічога не прыдумаў. Зьвяртаемся таму да Вас, паважаныя грамадзяне, калі нешта прыдумаеце, то затэлефануйце калі ласка на нумар...» і гэтак далей.

Тата ўзяў слухаўку ды тэлефануе, кажа: «Нешта я тут ужо прыдумаў,» пасьля прадставіўся ды назваў нашу адрэсу, а яны яму ў момант: «Пасылаем за вамі аўта, не лепш гэлікоптэр, каб было што хутчэй! Апранайцеся й чакайце нас перад домам!»

Матуля троху абавалася ды кажа тату: «Толькі б цябе там не пакаралі, каб не вярнуўся дому на галаву карацейшы!» Тата толькі паскокваў на адной назе, пакуль другую даваў да нагавіц, ды адказваў: «Нічога не баісь, усё будзе добра!», па-

цалаваў матулю ды пабёг перад дом. Там яго ўжо чакаў той гэлікоптэр, можа нават гэта быў той маланкавы, зьнішчальны гэлікоптэр замежнае выробы, тата хуценька сеў у яго і ў момант ужо ляцеў. На Градзе прыйшоў тата да тых мудрых галоў, а яны ўсе зь цкавасьцю й пытаюцца: «Ну дык што?» А тата йім на то кажа: «А ці глядзелі вы тэлевізію?» А яны кажуць, што не, што думалі як ды што. А тата зноў: «Вось дзе хіба! Уключыце яе!» Так уключылі, там на Градзе тэлевізія вялікая, на ўсю сьценку, а там і былі тыя кадры, як пан прэзідэнт пакусвае асадку ды розныя алоўкі. Тата з гонарам падыйшоў да мікрафону ды пачаў: «Паважаныя пасланцы, сэнатары, міністры, панове дацэнты й увогуле! Бачыце, як пан прэзідэнт увесь час пакусвае й смокча тыя асадкі з атрамантам ды тыя алоўкі, калі чытае паперы?» А яны на тое: «Бачым!» А тата працягвае: «Гэта менавіта тое, чаго ён ня мусіць рабіць, гэта вельмі шкодна для здароў'я а таму пан прэзідэнт зараз такі хворы, бо поўны атраманту ды пакусаных алоўкаў. Таму ад гэтага моманту ён мусіць тыдзень есьці толькі сухія рагалікі ды піць пусты чай, а пасьля зноў можа харчавацца як нармальна. Толькі ўжо нічога не смактаць і не пакусваць! Прыстаўце да яго некага, хто будзе глядзець за гэтым, а як толькі зноў пачне, так каб з урадавымі паўнамоцтвамі мог пляснуць залатою плацалкай па руцэ, а я зноў прыйду. Так, да пабачэньня.»

Тата вяртаўся пешкі, не адвезьлі яго. З панам прэзідэнтам зрабілі так, як тата казаў - а за тыдзень быў ужо як рыбка, зноўку вясёлы ды здаровы. У тэлевізіі паказвалі, як ля яго сядзіць той чалавек з залатою пляцалкаю ды глядзіць, але пан



прэзідэнт быў таксама ўважлівы й нічога ўжо да вуснаў не даваў. А яшчэ ён напісаў тату прыгожы допіс, што вельмі тату ўдзячны, ды яшчэ даслаў прыгожы падарунак. Было гэта ўласнае фота, якое сам падпісаў несмактаным пяром а пасьля даў да рамкі. Толькі пры пераезду яно страцілася, таму ніхто ня ведае дзе яно цяпер. Шкада. Але калі пана прэзідэнта паказваюць у тэлевізіі, так заўсёды ён глядзіць на тату ды троху быццам падмігне. Заўваж! А цяперака ўжо дзеткі бегам спаць, каб заўтра былі такія шляхетныя ды моцныя, як ваш тата! Добрай ночы!

*Пераклад з чэскай Ільлі Глыбоўскага*
*надрукаваны ў НН №6 у 2005 годзе*